# ЗАПІСЫ

БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

ZAPISY 18

NEW YORK 1985

# ЗАПІСЫ

## БЕЛАРУСКІ ІНСТЫТУТ НАВУКІ Й МАСТАЦТВА

## BYELORUSSIAN INSTITUTE OF ARTS AND SCIENCES

## ZAPISY 18

NEW YORK 1988

Друкуецца пры фінансавай дапамозе Фундацыі
імя Пётры Крэчэўскага

Published with the financial support of the Kreceuski Foundation, Inc.

---



---



---

ADDRESS: ZAPISY, 230 Springfield Avenue, Rutherford,N. J. 07070, U.S.A.

---

Price per copy — **$ 20.00** **Цана — 20 даляраў**

---

УВАГА: Першыя 6 кніжак ЗАПІСАЎ былі выдадзеныя ў гадох 1952-1954 у Нью Ёрку; пяць далейшых у гадох 1962-1970 друкаваліся ў Мюнхэне, Нямеччына. Ад кнігі 12-е 1974 г. ЗАПІСЫ друкуюцца ізноў у Нью Ёрку.

NOTE: This volume is a continuation of the ZAPISY series which began its publication in 1952. Volume 1-6 were published in 1952-54 in New York; the following 5 volumes [1-5] were printed 1962-1970 in Munich, Germany. Beginning with vol. 12[1974] the ZAPISY are being published in New York, U. S.

---

PRINTED BY:
K. AKULA and MORAVIA PRESS Ltd., 2098 Dundas St. West
TORONTO, ONTARIO, CANADA, M6R 1W9

# ДОКТАР Ф. СКАРЫНА Й КАРОЛЬ ФЭРДЫНАНД

**Сымон Брага**

Вывучэньне жыцьцяпісу доктара Францішка Скарыны на аснове дакумэнтаваных вестак стала магчымым толькі ад палавіны мінулага стагодзьдзя, калі сталі ведамыя першыя пра яго архіўныя ды летапісныя знахадкі. Дзякуючы ім, біяграфія Ф. Скарыны сяньня шмат багацейшая канкрэтнымі датамі й фактамі. Цяпер гэта ўжо не апавяданьні, абапертыя галоўна на здогадах ды дапушчэньнях, а цірaз і фантазіі, хоць і гэтага ня выракаюцца часта некаторыя аўтары папулярных нарысаў пра жыцьцё й дзейнасьць доктара Ф. Скарыны.

Справа выяўленьня месцаў жыцьцёвае дзейнасьці выдатнага дзеяча пары Рэнэсансу ішла цірaз вельмі паволі. Асабліва марудным быў працэс зьвязаны з знаходам, публікацыяй ды належнага асэнсаваньня архіўных ды летапісных матар'ялаў зьвязаных зь фінальным этапам жыцьця доктара Скарыны, калі ён у гадох 1535-1540 быў ізноў у Празе, цяпер ужо ў характары каралеўскага садоўніка-батаніка.

Агляду раскрытых ужо біяграфічных вестак з гэтага пэрыяду жыцьця доктара Ф. Скарыны прысьвечаны гэты нарыс.

## Грамата караля Фэрдынанда

Мінула гадоў больш ста, як чэскі гісторык Францішак Дворскі ў вадным з архіваў Чэхіі натрапіў на копію пісанае пачэску цікавае граматы 1552 году. Ейны тэкст апублікаваў ён у праскім "Славянскім зборніку".(1) Грамата была пісаная на Праскім Замку ды ад імя нямецкага караля "рымскага", адначаснага караля Чэхіі й Вугоршчыны, Фэрдынанда, і, як пазьней выявілася, згадваўся ў ёй доктар Францішак Скарына, як колішні, але ў часе, калі грамата пісалася, ужо даволі даўно памерлы праскі каралеўскі садаўнік.

Прозьвішча Скарыны ды месца ягонага паходжаньня, Полацак, у надрукаваным тэксьце граматы былі аднак гэтак здэфармаваныя ў напісаньні, што, як нікому няведамыя, яны нікога й не зацікавілі. У выніку, публікацыя граматы Ф. Дворскім, заміж раскрыць важны эпізод Скарынавага жыцьця, — ягоную працу каралеўскім садаўніком у Празе на Градчанах, — факт гэты ад гісторыкаў ды біяграфаў на колькідзесят гадоў прыхавала.

Фраза граматы, у якой названы доктар Скарына, у Дворскага была надрукаваная гэтак:doktor František Rus z Horynpoločka [sic!], zahradnik naš vtomto kralovstvi Českém, jsa cizozemec.

Дададзенае Дворскім 'sic!' гарантавала пры гэтым чытачу, што назва месца паходжаньня каралеўскага садаўніка і расчытанае, і надрукаванае правільна.

Калі ў 1930-х гадох А. В. Флароўскі дасьледуючы чэска-ўсходнеславянскія дачыненьні, натрапіў на публікацыю Дворскага гэтае граматы ды ўдумаўся ў яе зьмест, у яго зарадзілася падазрэньне, што ў прыведзенай тут фразе ход пра доктара Франьцішка Скарыну з Полацку, прозьвішча й месца паходжаньня якога ці Дворскім пры адчытваньні або публікацыі граматы, ці пісарамі каралеўскае канцылярыі пры яе пісаньні або капіяваньні, як ня чэскія і ім няпрывычныя, былі здэфармаваныя. Пра сваё дапушчэньне Флароўскі даў паведамленьне ў верасьні 1934 г. на 2-м Зьезьдзе славянскіх філялёгаў у Варшаве (2).

Ф.Дворскі, публікуючы тэкст граматы, не падаў месца, дзе яна перахоўваецца, і А.В.Флароўскаму заняло цімала часу, пакуль грамату ён знайшоў у Архіве чэскага Міністэрства нутраных справаў у Празе. Супаставіўшы апублікаваны Дворскім тэкст з арыгінальным тэкстам рукапісным, Флароўскі пераканаўся, што прыведзеныя вышэй словы ў архіўнай копіі ў запраўднасьці напісаныя гэтак:Doktor ffrantissek Russ skorynspoloczko zahradnik nass, wtomto Kralowstwij Czeskiem, yss Czyzozemecz [3]. Цяпер А.В.Флароўскі не сумляваўся, што skorynspoloczko гэта "Скарына з Полацку".

Гэтак, дзякуючы дасьледніцкай пільнасьці гісторыка, каралеўская грамата — гадоў пяцьдзесят пасьля яе першае няўдалае публікацыі — была ўведзеная ў навуковы ўжытак як важны дакумэнт для біяграфіі Ф. Скарыны. Раскрывала яна факт другое бытнасьці Скарыны ў Празе ды яшчэ адну галіну ягонае дзейнасьці — як каралеўскага батаніка-садаўніка.

Тэкст граматы А.В.Флароўскі падаў у праскім Časopis Národniho Musea [4]. Дзеля важнасьці граматы для Скарынавае біяграфіі, тут даецца перадрук яе чэскага тэксту ды беларускі пераклад граматы.

'Wierzyczy List' — "Даверачная грамата" была выдадзеная Скарынаваму сыну "Сымону Русу" ад імя караля Фэрдынанда ў Празе. Грамата пацьвярджала права "Сымона Руса" шукаць ды спаганяць ува ўсім Чэскім Каралеўстве грашовыя належнасьці, маемасьць, кнігі ягонага памерлага ўжо бацькі, доктара Франьцішка Скарыны з Полацку.

Копія граматы знаходзіцца цяпер у Празе, у — Archiv ministerstva vnitra [Kopiare, sv. 51, fol. 27b]. Тэкст граматы ў перакладзе на беларускую мову:

**Мы, Фэрдынанд, і г. д.** Падаём гэтай граматай да ведама ўсім, што Доктар Франьцішак Рус Скарына з Полацку, у Чэскім Каралеўстве чужаземец, наш калісьці садаўнік, калі з гэтага сьвету зыйшоў, па сабе ён сына Сымона Руса й некаторую маемасьць, лісты, даўгі ды свае іншыя належнасьці пакінуў. І прасіў нас вышэй названы Сымон адкрытае граматы ды загаду, каб калі якоеколечы маемасьці вышэй згаданага бацькі ён дапытаўся, яна яму была аддадзеная, і каб у гэтым яму дапамаглі.

На гэткую ягоную справядлівую й пакорную просьбу, усім нашым намесьнікам, бурмістрам і райцам на местах, ды й усім іншым нашым падданым у Чэскім Каралеўстве гэтаю граматаю загадваем: калі-б згаданы Сымон Рус якоеколечы маемасьці, даўгавых лістоў, кнігаў ды іншых рэчаў, якія належалі калісьці таму доктару Францу, ягонаму бацьку, дапытаўся ды іх даходзіў ці спаганяў, каб яму, як спадкаемцу й сыну, іх аддалі й сплацілі ды справядлівасьць без аніякае адвалокі ўчынілі, і накш не рабілі.

Дадзена на нашым Замку Праскім у чацьвер па сьвятых Фабіяне й Сэбасьціяне (21 студзеня — С.Б.) (5), году ад нараджэньня Сына Божага тысяча пяцьсот пяцьдзесят другога, а ад нашага караляваньня рымскага — дваццаць другога, а іншых — дваццаць шостага (6).

Дык, як з граматы даведваемся, доктар Скарына перад сваей сьмерцяй жыў у Чэхіі й быў там садаўніком караля Фэрдынанда. У студзені 1552 году ягоны сын Сымон пачынаў пошукі маемасьці, грашовых належнасьцяў, кнігаў свайго памерлага бацькі. Грамата не падае часу, калі доктар Скарына быў каралеўскім садаўніком, ані году ягонае сьмерці. Выясьніць гэта А.В.Флароўскі мог толькі тады, калі яму паручыла знайсьці больш ведамак пра паўторнае прабываньне доктара Скарыны ў Чэхіі.

Пераглядаючы чэскія хронікі, Флароўскі зьвярнуў увагу на вестку пададзеную Вацлавам Гаекам з Лібачан у ягоным вопісе вялікага пажару Прагі 2 чырвеня 1541 г. Пажар зьнішчыў тады колькі кварталаў чэскае сталіцы ды перакінуўся й на Праскі Замак. Ужо тры тыдні па гэтым Гаек выдаў друкам свой вопіс пажару, у якім пералічыў зьнішчэньні, якіх дазнала места ды падаў і прозьвішчы шмат каго з тых пражанаў, якія загінулі ў вагні. У вопісе Гаека Флароўскі натрапіў на гэткія радкі:

*На Праскім Замку гэтыя вось асобы ў вагні загінулі: ... у доме сьвятара Яна з Пухава, казаньніка, кухарка Магдалена, а таксама хлопчык Франьцішак, сын колішняга доктара Руса, і яшчэ іншы хлопчык...*(7).

У грамаце Фэрдынанда "доктарам Русам" названы якраз доктар Франьцішак Скарына. "Русам" у грамаце называецца й ягоны сын

Сымон. З гэтага Флароўскі зрабіў выснову, што згаданы Гаекам "хлопчык Франьцішак", сын "доктара Руса", гэта другі сын Скарыны. Зь весткі Гаека вынікае таксама, што доктара "Руса" ў часе пажару Прагі ў 1541 г. у ліку жывых ня было, ды й ад даўжэйшага ўжо часу, на што паказваюць словы Гаека 'syn nekdy Doktora Rusa' — "сын колішняга доктара Руса".

Заўважаная А.В.Флароўскім ведамка Гаека, калі яе супаставіць з фактамі, якія дае грамата 1552 году, ставіла й пытаньне: калі доктар Скарына памёр перад пажарам Прагі 1541 г., чаму ягоных кнігаў ды іншае маемасьці сын Сымон пачынаў шукаць толькі шмат гадоў пасьля, у студзені 1552 г.? На гэта А.В.Флароўскі даў пераконлівае выясьненьне: даходзіць ды пераймаць бацькаву маемасьць адразу па сьмерці доктара Скарыны ягоны сын відавочна ня мог, бо быў тады яшчэ непаўналетнім. Каб спаганяць бацькаву маемасьць юрыдычна правааздольным ён стаў толькі пасьля таго, як яму скончыўся 21 год. Вось дзеля гэтага толькі з пачаткам 1552 году Сымон Рус зьвярнуўся з просьбай выстаўленьня яму адмысловае "Даверачнае граматы".

Выясьненьне А.В.Фларoўскага мае на сваё падмацаваньне й ведамыя факты Скарынавага жыцьцяпісу. Як зь віленскага судовага запісу 1529 г. (8) ведама, ажаніўся доктар Скарына з Маргарэтай Адзьвернік перад гэтым годам, дык каля 1530 г. у іх мог нарадзіцца сын, якому ў 1551 годзе скончыўся 21 год і ён стаў паўналетнім.

Заўважаная А.В.Флароўскім ведамка Гаека важная й гэтым, што яна дае некаторае паказаньне на час сьмерці доктара Скарыны: перад чырвенем 1541 году. Гэта-ж значыць, што толькі перад гэтым часам ён мог быць і садаўнікoм караля Фэрдынанда. Ведамыя цяпер дакумэнты з тае пары, датычныя справаў зьвязаных з засноўваньнем на загад караля саду ў Празе, запраўды згадваюць, як садаўніка, "майстру Франціско", выяўна доктара Франьцішка з Полацку, які "нашым садаўніком" названы й у грамаце 1552 году.

## Чэскі тэкст каралеўскае граматы.

## Wierziczy List Symeona Rusa.

My Ferdynand, etc. Oznamuyem tymto listem wssem. Jakoz yest niekdy Doktor ffrantissek Russ s Korynpoloczko zahrnijk nass, wtomto Kralowstwij Czieskem ysa Czyzozemec z tohoto swieta sessel, a po sobie syna Symeona Rusa, a niekderey statek, listy, dluhy, a yine swe sprawedliwosti zanechal. Y prosil yest nas dotczieny Symeon zalist odewrzeny a rozkaz wubecz, kdezby se tak jakeho statku dotczieneho niekdy otcze sweho doptal, aby mu wydan byl a dopomozienij se stalo.

Na takowau slussnau a ponizienau prosbu yeho, wssem Rychtarzuom nassym purgmistruom a konsseluom wmiestech y yinym wssem poddanym nassym w Kralowstwi czieskem, timto listem porauczieti raczime, kdezby ymenowany Symeon Rus yakeho koli statku, listu dluhuow, knieh, y yinych wieczy, temuz niekdy doktoru ffranczowi otczy yeho naleziczych doptal, aztoho napominal neb winil, abysste yemu yakozto diediczy a synu to wydali, a zaplatili, y skutecznie ksprawedliwosti yeho bez dalssich odkladuow dopomohli, yinaczie neczinicze.

Dan na hradie nassem Prazskem, wecztwrtek po Swatych ffabianu a ssebestianu. Lletha od narozenij Syna Bozijho, tijsyczeho pietisteho padesateho Druheho, a kralowstwij nassych, Rzimskeho dwamezczytmeho, a yinych Ssestmezczytmeho.

# Wierzicy list Symeona Rusa



My Ferdynand :: Oznamugem tymto listem wssem, Jakož gest nekdy Doktor Ffrantissek Ruß z korunu polczke zahrnudnyt nasse, w tomto Kralowstwij Cžieskem, gsa Cyzozemecz z tohoto swieta ssel, a po sobie syna Symeona Rusa, a nekdery statek, listy, dluhy a gine swe sprawedlnosti zane chal. Vprosyl gest nas dotczieny Symeon za list wierzeny a rozkaz nebez, kdežby se tak yakeho statku dotczieneho nekdy otcze sweho doptal, aby mu wy dan byl a dopomozeny se stalo. Na kterauž slussnau a porzadnau proz bu geho, wssem Rychtarzuom nassym, purgmistruom a konsseluom w miestech y ginym wssem poddanym nassym w Kralowstwi Cžieskem, tymto listem po rauczieti racžime, kdežby gmenowany Symeon Rus yakeho koli statku, listu dluhuow, knich, y ginych wieczy, kterež nekdy doktoru Ffranczowi otczy geho nalezitych doptal, a zloho nazominal neb winil, abysste gemu yako to die digy a synu to wydali, a zaplatili, y skutecznie k sprawedlnosti geho bez dalssich odkladuow dopomohli, gynacžie neczynnce. Dan na hradie nassem Prazskem, we cztwrtek po Swatych Ffabianu a Ssebestianu, Letha od naro zeny Syna Bozyho, tysyczeho pietisteho padesateho Druheho, a kralow stwy nassych, Rzymskeho dwanaczteho, a ginych Ssesteczteho.

*Архіўная копія граматы Фэрдынанда*

## Кароль Фэрдынанд

Фэрдынанд (1503 — 1564), сын гішпанскага караля Піліпа й Ганны Шалёнай, узгадоўваўся спачатку ў Гішпаніі, пасьля-ж у Нідэрляндах. Ад свайго брата, нямецкага імпэратара Карла V, у 1521 годзе Фэрдынанд дастаў у валаданьне землі Аўстрыі. Тады ён і ажаніўся з Ганнай, дачкой караля чэскага й вугорскага Ўладыслава II, сына вялікага князя літоўскага й караля польскага Казімера Ягайлавіча.

У 1526 годзе, у біцьве з Туркамі каля Магача ў Вугоршчыне, гіне 21-гадовы брат каралевы Ганны, кароль Чэхіі й Вугоршчыны, Людвік II. Гістарычныя кансэквэнцыі бітвы для краёў цэнтральнае Эўропы, як аказалася, былі вялізарныя. Правы на карону чэскую й вугорскую пасьля сьмерці Людвіка II перайшлі на ягоную сястру Ганну. Ейны-ж муж, Фэрдынанд, падбаў пра тое, каб на два асірочаныя каралеўствы каралём быў прызнаны й ён, як ейны муж. Гэтак у межах валаданьняў Фэрдынанда, апрача Аўстрыі, знайшліся й Чэхія ды Вугоршчына. Гэта дало пачатак будучае Аўстра-Вугорскае імпэрыі, якая праіснавала блізу чатыры стагодзьдзі, а Фэрдынанд і Ганна сталі засноўнікамі тае дынастыі аўстрыйскіх Габсбургаў, панаваньне якое пратрывала да 1918 году.

Каралеву Ганну ў Чэхіі паважалі й любілі. Яна ціраз заступалася за пакрыўджаных. Была яна рэлігійнай, асьвечанай, шмат чытала ды й сама мела літаратурныя здольнасьці. Друкам палацінску была выдадзеная ейная кніжыца ‘Clypeus pietatis’. Калі ў 1530-х гадох доктар Скарына накіраваўся йзноў у Чэхію, абумоўлена гэта было, відавочна, у нейкай ступені й тым, што родам чэская каралева была з князёў Вялікага Княства Літоўскага. Была яна праўнучкай караля Ягайлы ды ягонай апошняй жонкі Сонькі Гальшанскай, — з роду беларускіх князёў Гальшанскіх, што яшчэ на пачатку 15 ст. ”княжылі” ў недалёкіх ад Вільні Гальшанах.

Каб абняць ды ўтрымаць чэскі каралеўскі пасад, Фэрдынанд ня меў вялікіх клопатаў. Горш было з Вугоршчынай, дзе частка вугорскае шляхты прызнаць яго сваім каралём не захацела ды каралём абрала магната Яна Заполя, які, каб на каралеўстве ўтрымацца, паддаўся пад апеку турэцкага султана Сулеймана Пышнага. Гэта стала прычынаю нясупынных войнаў Фэрдынанда з Турцыяй. Ужо ў 1529 г. Сулейман прыходзіў да Фэрдынанда ”ў адведкі” — вялізнае войска султана аступала Вену.

Войны з Турцыяй за Вугоршчыну былі найбольшым клопатам Фэрдынанда як валадара. Яны вязалі яму свабоду ягоных палітычных і дыпляматычных хадоў, яны параліжавалі ягоную навагу змагацца зь нялюбым яму пратэстантызмам, яны, урэшце, пустошылі каралеўскі скарб, а гэта, ізноў-жа, вельмі некарысным было справе належнага выкананьня тае амбітнае задумы, рэалізаваць якую давялося доктару Скарыну — заснаваць у Празе каралеўскі сад, які сваім багацьцем і хараством перавышаў-бы сады іншых валадароў Эўропы.

У агульнанямецкіх справах каралю Фэрдынанду часта даводзілася заступаць свайго брата, імпэратара Карлу V. У сувязі з гэтым нямецкія князі й каралі ў 1531 г. прызналі Фэрдынанду тытул "рымскага" караля. Гэта было афіцыйным прызнаньнем яго як заступніка ды найбольш праўдападобнага й наступніка імпэратара Карлы. Ад 1553 г., калі дзеля веку й здароўя Карла ад абавязкаў імпэратара адыйшоў, пераняў іх "кароль рымскі" Фэрдынанд. А ў 1558 г., пасьля афіцыйнае абдыкацыі Карлы, імпэратарам быў абраны Фэрдынанд.

Хоць Фэрдынанд рэфармацыйнай прапагандзе не паддаваўся й застаўся верным Каталіцкай Царкве ды дапамагаў брату Карлу ў ягоным змаганьні з пратэстанцкімі валадарамі Нямеччыны, але ў рэлігійных пытаньнях у яго ўсё-ж адчуваўся ўплыў гуманістычных талеранцыйных паглядаў Эразма Ротэрдамскага й адначасна палітычны прагматызм, спрычынены сьведамасьцяй нясупыннае мілітарнае турэцкае загрозы з усходу.

У 1555 годзе, пры пасярэдніцтве галоўна Фэрдынанда, між каталіцкімі й пратэстанцкімі валадарамі Нямеччыны даходзіць да рэлігійнае ўгоды ў Аўґсбурґу на прынцыпе cuius regio eius religio — "чыё панаваньне, таго й вера". Прынцып гэты гарантаваў нямецкім каралём і князём свабоду іхнае веры ды адначасна адбіраў гэтую свабоду іхным падданым. Аўгсбурґская ўгода спыніла на гадоў пяцьдзесят рэлігійныя змаганьні, замацавала стан некаторае палітычнае раўнавагі між пратэстантамі й каталікамі ў Нямеччыне ды стабілізавала рэлігійныя дачыненьні на стагодзьдзі.

## Каралеўскі сад у Празе

Сад у Празе кароль Фэрдынанд засноўваў для ўцехі каралевы Ганны, дзякуючы якой ён здабыў дзьве каралеўскія кароны й два каралеўствы. Прага была местам, дзе яна гадавалася, расла.

Увосень 1534 году ад жаночага манастыра Сьвятога Юрага ў Празе, на загад караля было купленае ўзвышша на Градчанах, якое знаходзілася насупроць Праскага Замку, за гэтак званым Аленім Равом — Jeleni Prikop. 13 лістапада 1534 г., лістом зь Вены, кароль загадваў праскаму гараднічаму Юраму Ґерсдорфу пабудаваць праз Алені Роў дзеравяны крыты мост, каб можна было пераходзіць з замку на купленую зямлю ды звозіць туды патрэбныя будаўнічыя матар'ялы (9).

Фэрдынанд загадваў таксама, каб месца пад сад за час зімы было ачышчанае, зраўнанае, а вінаградныя лозы, якія там расьлі, павырываныя, за выняткам лозаў вінаграду "мушкатовага, рыволі ды віна пахучага". Зімой трэ было панавозіць каменьне, вапну ды іншыя матар'ялы, патрэбныя вясной для будовы муру навокал будучага саду ды для закладзінаў фундамэнту пад летні палац, які меў стаць у садзе на месцы высокім, з адкрытым відам на Прагу ды на ваколіцы места.

Кароль пісаў таксама, каб для будаўляных працаў не наймалі мясцовых майстроў, бо ён у Вене ўжо дамовіўся зь італьянцамі-мулярамі й камачосамі. Вясной яны прыедуць з архітэктарам (10).

1-га красавіка 1535 году архітэктар Ян дэ Спацыё й 31 майстра выехалі зь Вены. Пасьля іхнага прыезду ў Празе пачалася праца над будоваю муру ды закладаньнем фундамэнтаў пад летні палац — "летоградэк".

Фэрдынанд думаў ужо й пра тое, якія дрэвы, кусты, кветкі павінны расьці ў ягоным праскім садзе й як толькі была нагода, дастаўляў ды слаў да Прагі іх насеньне. Было гэта пераважна насеньне дрэваў ды расьлінаў цёплых краёў. Гараднічы Прагі Ґерсдорф, калі пачаў іх даставаць, пісаў каралю, што садзіць прысланае насеньне ён ня можа, бо ў Празе няма нікога, хто-бы знаў калі ды як іх садзіць, а пасьля — і як даглядаць. Кароль прырок пашукаць ды прыслаць дазнанага садоўніка.

З каралеўскага ліста, тэкст якога ў 1978 годзе падала Ф. Сокалава, ведама, што 22 травеня 1535 г. кароль выслаў садаўніка зь Вены. У панямецку напісаным лісьце, які садаўнік прывёз да Прагі, Фэрдынанд пісаў, што на ўтрыманьне яму дадзена 20 флёрэнаў. Пра далейшую плату садаўніку павінен рупіцца ўжо сакратар Чэскае Каралеўскае Каморы Флёрыян Ґрысбэк (11).

Ні імя, ні прозьвішча садаўніка, якога кароль слаў з сваім лістом, у лісьце не пададзеныя. Аднак з пазьнейшага ліставаньня Фэрдынанда з Чэскай Каморай ведама, што называлі яго панямецку maister Francisco. З граматы-ж караля Фэрдынанда 1552 г., выстаўленае "Сымону Русу", ведаем, што быў гэта доктар Францішак Скарына з Полацку.

Сваё імя як "Франциско" — з "о" на канцы ў назоўным склоне — доктар Скарына ўжываў. Гэтак яго ён пісаў у сваей праскай Бібліі — у прадмове да Першае Кнігі Царстваў. Гэтак яно напісанае й пад партрэтам Скарыны ў Бібліі (12). У сваіх выданьнях ужываў Скарына й напісаньне "Францишек".

Зь ліставаньня ў справе каралеўскага саду ў Празе ведама, што едучы зь Вены да Прагі садаўнік меў яшчэ й палацінску пісаны "службовы ліст", у якім вызначаліся ягоныя абавязкі ды, хіба-ж, і плата(13). Ліст гэты тымчасам ня знойдзены. Дзякуючы вышэй згаданай публікацыі Ф. Сокалавай ведаем аднак цяпер час паўторнага прыезду да Прагі доктара Скарыны, прыезду ўжо не як выдаўца беларускае Бібліі, а як каралеўскага садаўніка. Калі, як з каралеўскага ліста вынікае, зь Вены доктар Скарына выяжджаў 22 травеня 1535 году, дык у канцы гэтага месяца ён хіба быў ужо ў Празе, а з пачаткам чырвеня мог там пачынаць сваю працу над заснаваньнем каралеўскага саду на Градчанах.

Жаданьне Фэрдынанда было, каб прыгаством ды багацьцем рэдкіх дрэваў і расьлінаў ягоны праскі сад не саступаў і найбольшым, найпрыгажэйшым садом іншых валадароў Эўропы, і да канца свайго жыцьця пра праскі сад ён не забываўся. Кароль і ў

Вене думаў пра тое, дзе, што ды як у Празе трэба садзіць. У сваіх лістох ён прыпамінаў, каб дрэвы цёплых краёў былі добра дагледжаныя на зіму ды забясьпечаныя ад марозаў, пааб кручваныя.

Калі ў 1538 годзе сьцены летняга палацу былі ўзьведзеныя пад дах і Фэрдынанд слаў зь Вены італьянскіх разьбяроў на чале з скульптарам Якубам дэ ля Стэляй, свайму праскаму садаўніку пасылаў ён і насеньне рэдкіх расьлінаў, якое ў Ґенуі купілі яму ягоныя пасланцы (14). Насеньне рэдкіх кветак, дрэваў, кустоў Фэрдынанд даставаў навет і з варожае Турцыі, зь Істамбулу, праз сваіх частых паслоў да турэцкага султана.

Ніякіх вестак пра тое, як ішла праца садаўніка над засноўваньнем праскага саду ў гадох 1535-1537 ня маем. Улетку 1538 г. Чэская Камора, якая аплачвала ўсе выдаткі, зьвязаныя з садам і будоваю ў ім "летоградку", уважала, што праца пабудовы летняга палацу, бяручы на ўвагу вялікія кошты, ідзе вельмі марудна. Лістом з 27 чырвеня, сакратар Каморы Ґрысбэк скардзіўся каралю на гультайства італьянскіх майстроў. Пры гэтай нагодзе Ґрысбэк наракаў і на садаўніка, пра якога каралю пісаў, што ён мала дбае пра сад, і дзеля гэтага:

> Ня шмат чаго прыгожага можна пабачыць у садзе. Апрача італійскіх пладоў — лімонаў, памаранчаў, цытрынаў ды іншых, — больш няма пра што паведамляць. Няма яшчэ і якіх колечы пладоў, якія можна было-б паслаць Вашай Каралеўскай Міласьці (15).

На скаргі сакратара Каморы, лістом з 4 ліпеня 1538 г., Фэрдынанд загадваў, каб майстры пільней ды шпарчэй працавалі пры пабудове летняга палацу, а пра справы саду кароль пісаў:

> Што-ж да майстры Франціско, нашага садаўніка ў Празе... наш загад, каб за працы, якія мы яму ў садзе даручылі, ён рупней і паважней як было дагэтуль браўся, асабліва, каб усякае зеліва садовае садзіў, даглядаў, сад упрыгожваў ды ўскладзеныя на яго абавязкі пільней выконваў (16).

Ліставаньне Чэскае Каморы з Фэрдынандам раскрывае й галоўную прычыну павольнага поступу працаў у садзе. Дзеля хранічнае нястачы грошай, Праская Камора месяцамі не плаціла майстром і работнікам належнае ім платы за працу ў садзе й пры будове палацу. Дзеля гэтага ня было магчымасьці й наймаць патрэбны лік работнікаў, ды й нанятыя пагражалі, што працу кінуць.

Фэрдынанд на гэта ўсё малую, аднак, зьвяртаў увагу й каб паскорыць будову палацу, слаў зь Вены больш італьянскіх майстроў. Гэта ставіла Праскую Камору ў усё цяжэйшае фінансавае палажэньне. Калі ўвосень 1538 году пры працах на Градчанах сабралася аж 44 італьянскіх майстроў, 9 кастрычніка Ґрысбэк выслаў каралю роспачны ліст, у якім пісаў:

> На нашай шыі цяпер адным часам вялікі лік італьянскіх камачосаў ды муляроў, якія не даюць ні хвіліны супакою, усё крычаць грошай (17).

Побач грашовых недастаткаў, здараліся й іншыя перашкоды. У студзені 1539 году ў будынак, у якім зімой перахоўваліся прылады майстроў-будаўнікоў, уламаліся зладзеі ды пакралі гэтыя прылады. Злачынцы, аднак, хутка былі выкрытыя, іх зпавілі ды судзілі. Для выясьненьня, ці былі зробленыя нейкія шкоды і ў садзе, быў пакліканы, як сьветка, і садаўнік, які сказаў, што ніякіх шкодаў ня было (18). Чатырох злачынцаў, якіх пражане добра ўжо зналі з розных папярэдніх кражаў, суд прызнаў вінаватымі ды засудзіў на кару сьмерці. Градчанскі кат павесіў іх на публічным месцы.

Не зважаючы на недахоп грошаў, Фэрдынанд думаў і пра тое, каб сад у Празе яшчэ й павялічыць. Вясной 1539 году кароль выслаў да Прагі слаўнага тады ў Эўропе галяндзкага батаніка доктара Гугона дэ Вэлюса. Як зь ліставаньня ў справах саду відаць, доктар дэ Вэлюс атрымаў канкрэтнае заданьне: засадзіць кустамі й дрэвамі паўночны схон Аленяга Рову, той, што межаваў з садам на Градчанах, садаўніком у якім быў "майстар Франціско".

Калі ў Празе доктар дэ Вэлюс разгледзіўся, якія былі магчымасьці выканаць дадзенае яму каралём заданьне, ён заявіў, што дзеля вялікае стромасьці паўночнага схону Аленяга Рову з засаджваньнем яго нічога ня выйдзе, бо дажджавая вада будзе змываць і насеньне, і кусты ды дрэвы (19). Дзеля гэтага ўвосені 1539 г. кароль загадаў Чэскай Каморы выплаціць доктару дэ Вэлюсу належную яму плату ды адаслаць яго ў Галяндыю.

У лісьце з 4 красавіка 1539 г., у якім паведамлялася каралю пра задоўжанасьць Каморы доктару Вэлюсу, Ф. Ґрысбэк пытаўся таксама скуль узяць грошы, каб сплаціць доўг і садаўніку "майстру Франціско", ды суму даволі вялікую — каля 200 гульдэнаў (20). З гэтага можна бачыць, што сад у Празе доктар Скарына засноўваў, ня маючы на гэта дастатковых сродкаў. Месяцамі яму ня выплачвалася дамоўленая плата.

У 1978 г. Ф. Сокалава апублікавала выпіску зь ліста караля Фэрдынанда з 21. 7. 1539 г. да Ф. Ґрысбэка, у якім кароль прыймае да ведама тое, што Камора, згодна зь ягоным загадам, ужо сплаціла "майстру Франціско" ўсю задоўжанасьць. З свайго боку кароль паведаміў, што садаўнік быў нядаўна на ягоным Двары, пасьля-ж нейкі час затрымаўся ў Новым Месьце Вены. Гэта апошні ведамы ліст, у якім праскі каралеўскі садаўнік названы па імені ды пра яго згадваецца, як яшчэ пра жывога (21).

Год сьмерці доктара Скарыны ў скарынаведнай літаратуры падаваўся — ды падаецца й дагэтуль — вельмі розна, у часе між гадамі 1535 — 1552 (22). Супаставіўшы даступныя нам цяпер ведамкі пра праскага садаўніка "Франціско" зь весткаю Гаека зь Лібочан пра сьмерць у пажары Прагі хлопчыка, сына "колішняга доктара

Руса", маем цяпер магчымасьць устанавіць калі ня дату, дык зь вялікай праўдападобнасьцяй год сьмерці доктара Франьцішка Скарыны.

Калі, апісваючы пажар Прагі 2 чырвеня 1541 г. Гаек кажа, што "доктара Руса" — выяўна доктара Скарыны — ня было тады ў жывых, ды даволі даўно, а зь ліста караля Фэрдынанда да Ф. Ґрысбэка з 27.7.1539 г. ведама, што садаўнік "Францiско" тады яшчэ жыў, прыяжджаў да Вены, з гэтага вынікае, што памёр доктар Скарына ў часе між гэтымі двумя датамі.

З словаў Гаека, што "доктар Рус" памёр ня перад самым пажарам Прагі, а даволі даўно — nekdy — можна зрабіць выснову, што Франьцішак Скарына памёр найбольш праўдападобна ў годзе 1540. Гэта быццам пацьвярджае ведамка ў архіўных матар'ялах пра тое, што ў 1540 годзе ў садзе на Градчанах працаваў садаўніком нейкі Георг Міттль (23).

Дык праскім садаўніком караля Фэрдынанда доктар Скарыны прабыў каля пяці гадоў — у гадох 1535-1540, — ды памёр ён у веку даволі маладым. У часе сьмерці магло яму быць 55 гадоў.

## Весткі чэскіх хронікаў.

Кароткая згадка Вацлава Гаека зь Лібачан пра трагічную сьмерць Скарынавага сына Франьцішка ў пажары Прагі 2 чырвеня 1541 году важная для біяграфіі доктара Скарыны й тым, што яна кідае сьвятло й на некаторыя іншыя бакі фінальнае пары Скарынавага жыцьця.

Перш-наперш, калі Скарынаў сын Франьцішак па сьмерці бацькі жыў у доме праскага сьвятара Яна з Пухава пад апекай кухаркі Магдалены, з гэтага вынікае, што ў часе пажару Прагі ня жыла ўжо маці хлопчыка Франьцішка, жонка доктара Скарыны Маргарэта. Дзеля гэтага асірочанага Скарынавага сына па сьмерці й ягонага бацькі прыхінуў сьвятар Ян з Пухава.

Ян з Пухава быў сьвятаром катэдры сьв. Віта на Праскім Замку ды канонікам Вышэградзкім, а пазьней, у гадох 1543-1544 і адміністратарам праскага архіяпіскапа. З доктарам Скарынам, як каралеўскім садаўніком, яму напэўна даводзілася часта сустракацца. Калі па сьмерці доктара Скарыны, ягонага асірочанага сына прыхінуў ён ды аддаў пад апеку кухаркі Магдалены, гэта сьветчыць, што дачыненьні між ім і доктарам Скарынам былі ня толькі блізкія, але й прыязныя.

Ян з Пухава ведамы ў гісторыі Чэхіі ня толькі як сьвятар, але й як культурна-асьветны дзеяч. З сваім брацеьнікам, Зыгмантам з Пухава, ён на даручэньне караля Фэрдынанда падрыхтаваў чэскі пераклад папулярнае тады ў Эўропе "Касмаграфіі" Сэбастыяна Мюнстэра, выдатнага вучонага-геаграфа ды пратэстанцкага тэалёга. У прадмове да чэскага выданьня "Касмаграфіі" Ян з Пухава вельмі пахвальна адазваўся пра багацьце й красу каралеўскага саду на Градчанах, цібо саду заснаванага бацькам

”хлопчыка Франьцішка”, доктарам Скарынам.

У зацемцы Гаека важна зьвярнуць увагу на словы”доктар Рус”. У ліставаньні караля Фэрдынанда з Чэскай Каморай Скарына называецца толькі садаўнікoм ды толькі па імі — ”Францiско”, ды з тытуляцыяй панямецку ”майстэр”, у значэньні ”маестро”, што паказвае на аўтарытэт садаўніка ў караля, як чалавека вельмі вучонага. Лекарская прафэсія ў лістох не ўспамінаецца, бо каралеўскім лекарам Скарына ня быў. Вена, а ня Прага была галоўнай рэзыдэнцыяй караля Фэрдынанда й там былі ягоныя дактары-лекары. Толькі па сьмерці Скарыны, у выдадзенай ”Сымону Русу” каралеўскай ”даверачнай” грамаце бацька Сымона, Франьцішак Скарына, названы з тытулам ”доктар” і ня толькі па імі, але й па прозьвішчы.

Калі апісваючы зьнішчэньні пажарам места Прагі храністы Гаек Скарыну назваў ляканічна ”доктар Рус” — гэтыя словы таксама маюць сваю спэцыфічную на той час вымову. Мянушка ”Рус” паказвае, як доктара пражане тады знали й звалі. Слова-ж ”доктар” хронікі падчыркiвае Скарынавую найважнейшую для жыхароў Прагі прафэсію ды ягоны найшырэй ведамы занятак — прафэсію лекара.

З гэтага вынікае, што каралеўскі садаўнік у Празе займаўся й лекарскай практыкай. Пры хранічным нявыплачваньні яму месяцамі платы за ягоную працу садаўнікам, лекарскай практыкай заняцца ён і мусіў хаця-б для таго, каб утрымаць сябе й сваю сям’ю.

Важным вынікам скарыназнаўчых пошукаў А.В.Флароўскага было й тое, што ў чэскіх хроніках пазнаходзіў ён і дадатковыя весткі пра другога Скарынавага сына — пра таго, якому ў 1552 годзе была выдадзеная ”даверачная” грамата, пра Сымона. Ці знайшоў, ці даходзіў і ці спагнаў Сымон Рус нешта з бацькавае маемасьці — няма ведама. Але пад 1577 годам у чэскай хроніцы Вацлава Бжэзана А.В.Фларoўскі натрапіў на гэткую зацемку:

> 22 травеня сьвятар Ежык Чэтль, дзекан Бэхінскага краю ды Крумлёўскі пробашч, сваё жыцьцё ў Крумлёве даканаў. Лячыўся ён у нейкага лекара паляка Сымона, па прозьвішчы Руса, з Полацку (24).

З запісу Бжэзана вынікае, што Сымон Рус ”з Полацку” — выяўна Сымон Скарына — за прыкладам бацькі стаў таксама лекарам ды практыкаваў на паўдні Чэхіі, у Крумлёве. Магчыма прафэсіі лекара ў свайго бацькі ён і вучыўся. У запісе зьвяртае ўвагу й прозьвішча: прозьвішча па бацьку — Скарына — у яго няма, як не падаецца яно й у яго ”даверачнай грамаце” караля Фэрдынанда. Відавочна гэтак не называлі яго ў Крумлёве ягоныя пацыенты, дык не адцеміў гэтага ў сваім запісе й мясцовы летапісец. Затое ў хроніцы, як і ў каралеўскай грамаце, падаецца мянушка ”Рус”, тая, зь якой у 1541 г. Гаек падаў і доктара Скарыну.

Трэба не забывацца, што ў тыя часы прозьвішча яшчэ ня было ў гэткім шырокім ды абавязковым для ідэнтыфікацыі асобы ўжытку, як цяпер. Ня ўсе яго тады й мелі. Часта абыходзіліся й бяз прозьвішча, называлі чалавека толькі па бацьку, па месцы ягонага паходжаньня, ці па ўсім ведамай ягонай мянушцы.

Ды побач мянушкі "Рус" гэтым разам у Сымона Скарыны зьявілася й абазначэньне "Паляк". Выпадкі, калі жыхароў Вялікага Княства Літоўскага ў краёх Захаду Эўропы гэнымі часамі называлі палякамі, здараліся тады часта. Паколькі вялікі князь літоўскі быў тады адначасна й каралём польскім, дык ягоных падданых ня толькі з Польшчы, але й зь Вялікага Княства тады часта называлі "палякамі". Што гэтак было й гэтым разам, паказваюць дадатковыя інфармацыі аб тым, што "паляк" Сымон паходзіў з Полацка, ды што называлі яго "Русам".

А.В.Флароўскі зьвярнуў увагу й на сем гадоў пазьнейшую вестку, якая выяўна датычыла таго самага Сымона Руса. Франтышэк Тэплы, у сваей гісторыі чэскага места Інджыкова Градцэ, напісанай апіраючыся на старыя архіўныя матар'ялы, падае, што:

> Старога садаўніка Руса з Полацку, Сымона Руса, як чалавека ўжо зьнядужэлага, у 1584 годзе пан паслаў, каб ехаў лячыцца ў Добрыя Воды ў Капліцах (25).

І імя "Сымон", і мянушка "Рус", і месца паходжаньня — Полацак — ідэнтычныя, як у Сымона Руса запісу храністы Бжэзана. Гэта паказвае, што маем тут дачыненьне з тым самым чалавекам. Па прафэсіі гэтым разам ён названы, аднак, ня лекарам, але "садаўніком". Ды гэта, ізноў-жа, адна з прафэсіяў доктара Скарыны ў часе ягонага другога прабываньня ў Празе. Выглядае, што ад бацькі Сымон Рус пераняў і гэту прафэсію.

## Сад на Градчанах пасьля Скарыны

У часе пажару Прагі 2.6. 1541 г. згарэў збудаваны падчас засноўваньня саду на Градчанах крыты дзеравяны мост праз Алені Роў. Мастом агонь перакінуўся на Градчаны ды на пабудовы ў садзе, але там яго хутка патушылі й паважнейшых шкодаў у садзе ня было. Дзеля вялікіх зьнішчэньняў у месьце пажарам на гадоў колькі была, аднак, спыненая праца над выкончваньнем летняга палацу. Майстроў, матар'ялы, грошы трэ было кіраваць на адбудову зьнішчанае агнём чэскае сталіцы, на каралеўскі сад мала цяпер зьвярталася ўвагі.

У завірухах буйных падзеяў справы саду на Градчанах ціраз і пасьля адкладаліся да лепшае пары Ды,як толькі сьціхалі войны, турэцкая загроза, бунты супроць Фэрдынанда, тухлі пажары, а ў скарбе заводзіліся грошы, кароль наважана варочаўся да рэалізацыі свае задумы — стварыць у сталіцы Чэхіі рэпрэзэнтацыйны

каралеўскі сад. Засаджаныя яшчэ "майстрам Францiско" краскі, кусты, дрэвы тымчасам расьлі, зелянелі, красавалі.

Дзеля вялікіх перапынкаў з пабудовай летняга палацу, не дачакалася свайго "летоградку" каралева Ганна. На вялікі жаль чэхаў, якія Фэрдынанда баяліся, а яе паважалі й любілі, ды толькі яе прызнавалі за запраўды чэскую каралеву, 27 студзеня 1547 году, на 44-м годзе жыцьця, вымучаная частымі родамі, (мела 15 дзяцей) — каралева Ганна памерла. Пахавалі каралеву, праўнучку Сонькі Гальшанскай, на Праскім замку. У гэтым самым годзе супроць Фэрдынанда пражане ўзьнялі бунт, які кароль жорстка здушыў.

Ішлі гады й сад на Градчанах, як сьветчаць яго гісторыкі, пышна разрастаўся. Парасьлі ў ім лаўравыя, гранатавыя, фігавыя, аранжавыя, цытрынавыя дрэвы. Ад чужаземнага зеліва й красак разыходзіўся моцны водар, зялёнымі кронамі высока ўзьнімаліся дрэвы, у іх засені былі разьмешчаныя зацішныя альтанкі. Багацьце зелені й кветак перапляталася з хараством твораў рэнэсансавага мастацтва — гранітных абэліскаў, мрамарных вазаў, скульптураў. З фантанаў струменіла высока ды з шумам ападала вада.

Прыяцель доктара Скарыны, той, што па ягонай сьмерці прыхінуў ягонага асірочанага сына Франьцішка, — сьвятар катэдры сьвятога Віта на Праскім замку, Ян з Пухава, у прадмове да "Чэскае касмаграфіі" 1554 г. пра сад на Градчанах пісаў:

> Пры каралеўскім палацы ёсьць вялікі раскошны сад, у якім можна бачыць у вялікім ладзе пасаджаныя розныя шчэпленыя пладовыя дрэвы ды шляхотнае зеліва — і сваё мясцовае, і з далёкіх краёў (26).

У 1558 г. каралю Фэрдынанду была асабліва важная прычына, каб наведаць чэскую сталіцу. Яго ў гэтым годзе абралі й каранавалі на нямецкага імпэратара. Для сустрэчы караля-імпэратара ў Празе была наладжаная вялікая ўрачыстасьць з штучнымі агнямі, музыкай, маскарадамі, спартовымі змаганьнямі, драматычнымі паказамі (27). Гэтая ўрачыстасьць ладзілася ў садзе на Градчанах і кароль меў добрую нагоду бачыць, як пышна разросься той сад, пра які ён усё сваё жыцьцё гэтак дбаў.

З саду, за чатыры з палавінай вякоў пасьля яго заснаваньня, захавалася да сяньня ня шмат. Як у 1936 годзе падаваў А.В.Флароўскі, вялікая частка былога каралеўскага саду была тады ў межах праскіх "Хоткавых" садоў (28).З Скарынавых часоў стаіць аднак, і цяпер для каралевы Ганны будаваны рэнэсансавы летні каралеўскі палац. Цяпер у ім музэй места Прагі.

.................................................................

1. František Dvorský, Přispěvky k dějinám slovanským Slovanský Sborník, Roc. IV, Praha, 1885- s. 212]

2. Ant. Vas. Florovskij. Nové zprávy o pobytu Františka Skoryny v Praze. [Časopis Národniho Musea. Oddil Duchovědny. Roč. CX. Praha, 1936, s. 12].

3. Фотарэпрадукцыя архіўнае копіі граматы караля Фэрдынанда першы раз апублікаваная ў: "Запісы", кніга 5. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн, 1970, б.31.

4. Ant. Vas. Florovskij, тамсама, б. 11-19.

5. Дворскі й Флароўскі падалі памылковыя даты выстаўленьня граматы: першы — 28 студзеня, другі — 29 студзеня. Дзень сьвятых Фабіяна й Сэбасьціяна — гэта 20 студзень. "Чацьвер пасьля" гэтага дня ў 1552 г. прыпадаў на 21 студзеня.

6. Каралём "рымскім" Фэрдынанд быў каранаваны ў Кёльне ў 1531 г., каралём-жа чэскім ды вугорскім у 1526 г. Дзеля гэтага ў выдадзенай у 1552 г. грамаце й напісана: "году нашых караляваньняў рымскага двацаць другога, а іншых — двацаць шостага".

7. Wacslaw Hayek. O nesstiasne přihodie, kteraž jse stala skřze ohen w Menssim Mieste Pražskěm, a na Hradie Swatěho Wacslawa y na Hradčanech, etc. Praha, 1541. Перадрук: Jan Beckovský, Poselkyně starých přibehův českých. Dil Druhý. Praha, 1879, s. 100.

8. Тэкст судовага актавага запісу перадрукаваны ў: П.В.Владимиров. Доктор Франциск Скорина. Об-во Любителей Древней Письменности, т. ХС. СПб, 1888, с. 321-322.

9. Karl Köpl. Urkunden, Acten, Regesten und Inventare aus dem K.K.Statthalterei Archiv in Prag [Jahrbuch der Kunsthistorischen Sammlungen des Allerhöchsten Kaiserhauses. 10, Band. Wien, 1889, S. LXX- Nr. 5959].

10. Тамсама.

11. Františka Sokolová. Nad některými problémy života a dila Francyska Skoryny [Slavia, Praha, seš. 3, 1978, s. 317].

12. Імя доктара Скарыны (Запісы, кн. 5, Мюнхэн, 1970, б. 133-136).

13. K.Köpl, тамсама, S. LXXVIII-LXXX, Nr. 6004,

14. Тамсама, S.LXXVIII. Nr. 6000,

15. Тамсама, S. LXXVIII-LXXX. Nr. 6004.

16. Тамсама, S.LXXX, Nr. 6005.

17. Тамсама, S.LXXXV, Nr. 6014.

18. Тамсама, S. XCI, Nr. 6030.

19. Тамсама, S. XCII, Nr. 6035.

20. Тамсама.

21. F.Sokolová, тамсама, S. 319.

22. Прыкладам у "Большая советская энциклопедия", т. 39, 1956, с. 252, сказана, што Ф.Скарына "умер после 1535" (у новым выданьні 1976г. год сьмерці папраўлены на 1541). "Беларуская савецкая энцыклапедыя", т. 9, Мінск, 1973, б. 548, час сьмерці Ф.Скарыны падае: "каля 1551". Год 1551(?) сьмерці пададзены і ў польскай 'Wielka encyklopedia powszechna', t. 10, Warszawa, 1967, s. 562, таксама ў кнізе 'Drukarze dawnej Polski, zesz. 5, Wielkie Księstwo Litewskie. Wrocław-Kraków, 1959, s. 5, 224. Чэская энцыкляпэдыя

трымаецца 1535 году, як году сьмерці Ф.Скарыны: Přiručni slovnik naučny, IV. Dil. Praha, 1967, s. 103.

23. F.Sokolová, тамсама, s. 315.

24. Wácslaw Březan. Život Wiléma z Rosenberka. Staročeska Bibliotheka, c. II. Nákladem Českeho Museum. Praha, 1847, š. 227.

25. František Teply. Dějiny města Jindřichova Hradce. Díl II, č. 1, Jindřichova Hradce, 1929, s. 354.

26. Kozmograffia Cžeska. Praha, 1554, s. CCCCLXIIa.

27. Josef Svátek. Kralovska zahrada na Hradčanech [Ze Staré Prahy, Obrazy Děje- a mistopisné. Praha [1899], s. 137-138].

28. Ant. Vas. Florovskij. Nove zpravy..., s. 18.

# ЛЮБЛЯНСКАЯ СКАРЫНІЯНА

## Вітаўт Тумаш

Улік захаваных экзэмпляраў Скарынавых выданьняў яшчэ ня поўны. Асабліва апошнімі гадамі частыя былі ў друку весткі пра знаход раней няведамых экзэмпляраў Скарынавых кнігаў ці іхных фрагмэнтаў. У 15-ай кнізе "Запісаў" БІНіМ (1977 год, б. 23-53) дадзеная спроба ўліку тых Скарынавых выданьняў, якія ці захаваліся ў кнігазборах Захаду, ці ведама, што былі ў іх калісьці. Ёсьць там і табліца былых і цяперашніх месцаў знаходжаньня Скарынавых кнігаў, або іхных частак, у краёх заходняе й цэнтральнае Эўропы (б. 42-43). Ужо цяпер гэты сьпіс можна дапоўніць весткамі пра новыя знахадкі.

У 1977 годзе, у вокладках дзьвюх нямецкіх актавых кнігаў, што цяпер знаходзяцца ў дзяржаўнай Бібліятэцы Чэхаславакіі ў Празе, а якія былі апраўленыя ў 1541 годзе, выяўленыя, у ліку патройным, чатыры балонкі Скарынавага апошняга праскага выданьня — Кнігі Судзьдзяў 1519 году. Чатыры балонкі Скарынавае Кнігі Судзьдзяў мае і Унівэрсытэцкая Бібліятэка Прагі. Ёсьць весткі пра фрагмэнты Бібліі Скарынавага выданьня ў бібліятэцы Матыцы Славацкае ў Братыславе. У Вроцлаўскай Унівэрсытэцкай Бібліятэцы нядаўна выяўлена восем, сшытых у вадну кнігу, акафістаў Скарынавае 1522 г. "Падарожнае Кніжкі". Фрагмэнты "Другое Кнігі Царстваў" прыдбала нядаўна Публічная Бібліятэка Ню Ёрку. Гэта першы ведамы Скарынаў друк на кантынэнце Амэрыкі.

Ад колькіх ужо гадоў у скарынаведнай літаратуры трапляюцца й згадкі пра экзэмпляр Скарынавае Падарожнае Кніжкі, які перахоўваецца ў Унівэрсытэцкай Бібліятэцы Любляны (Славэнія). Дзякуючы атрыманым з гэтае бібліятэкі мікрафільмам, цяпер можна ўстанавіць дакладней лік ды часткова й стан захаваньня й камплетнасьці люблянскае "скарыніяны". Гэтаму й адведзены гэты кароткі нарыс.+

Перш-наперш высьняецца, што апрача Падарожнае Кніжкі, у Унівэрсытэцкай Бібліятэцы ёсьць дадаткова й асобны экзэмпляр "Акафісту Багародзіцы" Скарыны. Гэты акафіст уваходзіць у склад Падарожнае Кніжкі. Мае яго й люблянская "Падарожная". Але ў

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

+/ За дапамогу пры росшуку ў Унівэрсытэцкай бібліятэцы Любляны Скарынавых выданьняў і прыдбаньне для БІНіМ іх мікрафільмаў, падзяку для Доктар Theresa ALT складае Ўправа БІНіМ і аўтар гэтага артыкулу.

Унівэрсытэцкай Бібліятэцы ёсьць яшчэ й адзіночны экзэмпляр гэтага акафісту. Ён камплетны, мае ўсе 12 балонак (24 бачыны), і, мяркуючы па мікрафільме, у даволі добрым стане захаваньня.

На бачыне першай акафіст мае дрэварытную ілюстрацыю з напісам пад ёй: "Благовествуеть гавриіл пречыстой девици богородици марии". Унізе апошняй бачыны ёсьць Скарынава пасловуе: "Доконан ест акафіст пренасветейшей богородици, всегда девици, марии працею и пилностию доктора франциска скорины с полоцька града".

Нейкіх анатацыяў або ўладальніцкіх подпісаў ці запісаў мікрафільм кніжкі не паказвае, але на першай бачыне ёсьць водціск круглае пячаткі з каронай і напісам панямецку: K. K. LYCEAL BIBLIOTHEK zu LAIBACH — "Імпэратарска - Каралеўская Бібліятэка Ліцэю ў Ляйбаху" ("Ляйбах" — назва Любляны панямецку). Тая самая пячатка адціснутая й на пачатку Падарожнае Кніжкі бібліятэкі, на загаловачнай бачыне Псалтыра.

З заснаваньнем у 1919 годзе ў Любляне ўнівэрсытэту, старая багатая бібліятэка Люблянскага Ліцэю была ўзятая за аснову для новаарганізаванае ўнівэрсытэцкае бібліятэкі, і гэтак Скарынавыя кнігі апынуліся ў бібліятэцы ўнівэрсытэту.

Ніякіх паказаньняў на кніжцы акафісту пра ейных уладальнікаў няма. Але каля палавіны XIX ст. у бібліятэку Люблянскага Ліцэю быў перададзены архіў і кнігазбор выдатнага славенскага філялёга Баўтрамея Копітара (1780-1844). Пра Копітара-ж ведама, што ў сваей бібліятэцы ён меў і Скарынавыя віленскія выданьні. У 1835 годзе Копітар згадаў пра гэта ў лісьце да чэскага паэты-філялёга Вацлава Ганкі (гл. "Запісы", кн. 15, б. 38). Гэта наводзіць на думку, што й "Акафіст Багародзіцы", і Скарынава Падарожная Кніжка, якія цяпер у Любляне, паходзяць з былога кнігазбору Баўтрамея Копітара.

Люблянская Падарожная Кніжка, хоць і не камплетная, але, мяркуючы зь мікрафільмавае копіі, захавалася таксама ў добрым стане. На адваротным баку ўшытае перад пачаткам кнігі балонкі, панямецку апісаны зьмест кніжкі з паданьнем месца ейнага друку ды імя доктара Франьцішка Скарыны, як ейнага выдаўца.

Псалтыр, першая складовая частка Падарожнае Кніжкі, у люблянскім экзэмпляры кнігі камплетны, без дэфэктаў, без азнакаў нейкага зьнішчэньня ад ужытку. Разам з дадзенымі пры канцы тэксту дзесяцьма "Песьнямі рознымі", Псалтыр мае 140 балонак (280 бачынаў), панумараваных угары кірылічнымі літарнымі цыфрамі. Наколькі можна меркаваць зь мікрафільму, ніякіх уладальніцкіх запісаў ці подпісаў у Псалтыры, як і ўва ўсей Падарожнай Кніжцы, няма. Толькі на полі балонкі 13, на ейнай пярэдняй бачыне, напісанае слова "господу". На апошняй бачыне Псалтыра, унізе, упісаны нямецкі пераклад Скарынавага каляфону Псалтыра.

Пасьля Псалтыра ў Падарожнай Кніжцы ідзе "Часасловец".

Скарынаў Часасловец складаецца з трох частак, дзьве першыя зь якіх маюць фоліяцыю балонак — кажная сваю — частка-ж трэцяя безь яе. Частка першая, якую пачынае "Полунощница повседневна", а канчае "Обедница", займае 28 балонак (56 бачынаў).

У другой частцы Часаслоўца, якая таксама мае 28 балонак, нестае 9-ёх пачатковых, на якіх надрукаваныя "Канон покаяльный" і "Вечерница вседневна". З гэтых 9-х балонак чатыры, 5-8, ушытыя ў іншым месцы кніжкі — у акафісьніку пасьля канону "Гробу Господню". Чатырох-жа першых у кнізе няма зусім. Трэцяе часткі Часаслоўца, якую творыць надрукаваны на 4-х без нумарацыі балонках "Канон-молебен пресветей Богородици певлемы на повечерници", у люблянскім экзэмпляры Падарожнае Кніжкі няма.

Пасьля Часаслоўца ідуць у кніжцы "Акафісты й каноны", кажны зь іх з сваёй нумарацыяй балонак. Усе восем акафістаў, і гэтулькі-ж канонаў, кніжка мае, і ўсе яны бяз дэфэктаў, камплетныя. Аднак сшытыя яны ня ў той чароднасьці, якую падае Скарына ў зьмесьце кнігі — "Писаные речи в сей малой подорожной книжци". У Скарыны яны пералічаюцца пасьлядоўна па днёх тыдня, у якія іх пяюць, пачынаючы ад нядзелі й да суботы. У люблянскім экзэмпляры кніжкі чароднасьць акафістаў і канонаў паводле дзён тыдня не захаваная, сшытыя яны ўмітусь.

Скарына, таксама, кажны канон заўсёды ставіў пасьля тэматычна спалучанага зь ім акафісту. У люблянскім экзэмпляры кніжкі ў гэткай пасьлядоўнасьці толькі акафіст ды канон першы, "Гробу Господню". Усе-ж іншыя перастаўленыя ў парадку адваротным: перш дадзены канон, а адпаведны акафіст ідзе заўсёды па ім.

Як ужо згадвалася, пасьля канону "Гробу Господню" ўшытыя 5-8 балонкі другое часткі Часаслоўца. Адразу-ж за імі зьмешчаныя чатыры балонкі, 8-11, "Сьвятцаў" з "Последования" Падарожнае Кніжкі, Скарынавага календара. На іх надрукаваныя "сьвятцы" другое палавіны красавіка, месяцаў травеня, чырвеня, ліпеня ды першае палавіны жніўня.

За балонкамі "сьвятцаў" ідзе ў кніжцы канон "Архангелом" ды каноны й акафісты іншыя. Акафістам "Преславному имени Ісуса" люблянскі экзэмпляр Падарожнае Кніжкі й канчаецца. Ані "Шестодневца", які, паводле пададзенага Скарынам зьместу кніжкі павінен быць па акафістах, ані "Последования" з памесячным календаром, за выняткам вышэй згаданых 4 балонак "сьвятцау", ані "Паскаліі" ў люблянскім экзэмпляры кнігі няма. Няма й трох канцавых балонак кнігі — "Писаные речи" — на якіх Скарына пераказаў пачародна зьмест усей Падарожнай Кніжкі.

Як пры пераплёце люблянскае "Падарожнае" акафісты й каноны пераблытаныя, можна бачыць з пададзенае тут табліцы, на якой паказаная іхная чароднасьць — ад нумару 1 да 16 — паводле Скарыны, а побач — як яны сшытыя ў люблянскім экзэмпляры кнігі. У люблянскай Падарожнай Кніжцы акафісты й каноны сшытыя гэтак: нр 1, 2, 4, 3, 6, 5, 12, 11, 10, 9, 14, 13, 8, 7, 16, 15.

Уражае тое, што і ў экзэмпляры "Падарожнае" Каралеўскае бібліятэкі ў Капэнгагене чароднасьць акафістаў і канонаў пераблытаная ў падобны спосаб, бо за выняткам першага акафісту й канону, усе далейшыя сшытыя не па днёх тыдня, калі яны пяюцца, і заўсёды канон ставіцца перад акафістам. Чароднасьць акафістаў і канонаў у Падарожнай Кніжцы бібліятэкі ў Капэнгагене гэткая: 1, 2, 4, 3, 6, 5, 8, 7, 12, 11, 10, 9, 14, 13, 16, 15.

## ЧАРОДНАСЬЦЬ АКАФІСТАЎ І КАНОНАЎ ПАДАРОЖНАЙ"

| Паказаная Ф. Скарынам | Сшыта ў Люблянскай "Падарожнай" |
|---|---|
| **1. Акафіст »Гробу Господню».** | **1. Акафіст »Гробу Господню».** |
| **2. Канон »Гробу Господню».** | **2. Канон »Гробу Господню».** |
| **3. Акафіст архангелу Міхаілу.** | **4. Канон архангелам.** |
| **4. Канон архангелам.** | **3. Акафіст архангелу Міхаілу.** |
| **5. Акафіст Яану Прадцечы.** | **6. Канон Яану Прадцечы.** |
| **6. Канон Яану Прадцечы.** | **5. Акафіст Яану Прадцечы.** |
| **7. Акафіст Багародзіцы.** | **12. Канон сьвятому Міколе.** |
| **8. Канон Багародзіцы.** | **11. Акафіст сьвятому Міколе.** |
| **9. Акафіст Пятру й Паўлу.** | **10. Канон апосталам.** |
| **10. Канон апосталам.** | **9. Акафіст Пятру і Паўлу.** |
| **11. Акафіст сьвятому Міколе.** | **14. Канон »Кресту Господню».** |
| **12. Канон сьвятому Міколе.** | **13. Акафіст »Кресту Господню».** |
| **13. Акафіст »Кресту Господню».** | **8. Канон Багародзіцы.** |
| **14. Канон »Кресту Господню».** | **7. Акафіст Багародзіцы.** |
| **15. Акафіст іменю Ісусаву.** | **16. Канон іменю Ісусаву.** |
| **16. Канон іменю Ісусаву.** | **15. Акафіст іменю Ісусаву.** |

Не Скарынавая чароднасьць акафістаў і канонаў "Падарожнай" абедзьвюх вышэй згаданых бібліятэк сьветчыць пра тое, што складаў іх у кнігу не сам Скарына, а нехта, хто ня знаў мовы кніжкі, бо накш складальнік трымаўся-б іхнай чароднасьці па днёх тыдня, паказанай на пачатку кажнага акафісту й кажнага канону.

Як можна было на падставе мікрафільму ўстанавіць, стан камплетнасьці паасобных частак Люблянскай Падарожнай Кніжкі гэткі:

| | |
|---|---|
| Псалтыр | — 140 бл., камплетны. |
| Часасловец | — ёсьць 51 бл., нехапае 5 бл. |
| Канон-малебен Багародзіцы | — няма ўсіх 4 балонак. |
| Акафісты й каноны | — 168 бл., камплетныя. |
| "Шестодневец" | — няма ўсіх 44 бл. |
| "Последование" | — ёсьць 4 бл., няма 16 бл. |
| "Писаные речи" | — няма ўсіх 4 бл. |

Камплетны экзэмпляр Скарынавае Падарожнае Кніжкі павінен мець 436 балонак (872 бачыны). Экзэмпляр люблянскі з гэтага мае 363 балонкі (726 бачынаў). Дык у кніжцы нестае 73 балонак (146 бачын). Тое, што ў кніжцы захаваліся чатыры балонкі "сьвятцаў", Скарынавага календара, сьветчыць, што ў сваім складзе кніга спачатна мела ўвесь Скарынаў каляндар, з камплетнымі "Сьвятцамі" ды "Паскаліяй". У ейным складзе пачаткова быў хіба-ж і "Шестодневец" ды "Писаные речи" — зьмест.

Нейкіх сьлядоў зьнішчэньня кнігі дзеля карыстаньня зь яе, на мікрафільме кнігі не даецца заўважыць. Сьветчыць гэта аб тым, што кніжка ці ўжывалася вельмі рэдка, ці й зусім ня была ў практычным ужытку для вызначанае ёй рэдактарам-выдаўцом, доктарам Франьцішкам Скарынам, мэты: быць малітоўнікам і падручным каляндарным даведнікам праваслаўнаму падарожнаму, ды найперш падарожнаму купцу.

Пры пераглядзе разваротаў кнігі толькі на мікрафільме зьвяртае ўвагу багацьце графічных аздобаў, якіх доктар Скарына для свае "Падарожнае" не шкадаваў. У кнізе маса большых і меншых ініцыялаў ды шмат памастацку выкананых сымэтрычнае кампазыцыі расьліннага арнамэнту заставіцаў. У Падарожнай Кніжцы камплетнага складу ёсьць 262 водціскі 30-х рознага рысунку заставіцаў ды 580 ініцыялаў.

У "Акафістах і канонах" кніжкі зьмешчана й пяць сюжэтных дрэварытных ілюстрацыяў. Дзьве зь іх адціснутыя з арыгінальных дрэварытных дошчачак нюрнбэрскае 1493 году "Хронікі сьвету" Гартмана Шэдэля (гл. "Запісы", кн. 16, 1978, б. 3-43). Рысаваныя й рэзаныя гэтыя дрэварыты ў атэльле нюрнбэрскага мастака Міхала Вольгэмута, настаўніка Альбрэхта Дзюрэра.

Менш востры на мікрафільме адбітак радкоў, словаў, літараў кнігі, надрукаваных чырвонай хварбай, дае магчымасьць мець уяву й аб тым, як шчодра Скарына ўжыў у "Падарожнай" двухварбны друк. Асабліва шмат, на кажнай бачыне, двухварбнага друку ў Часаслоўцы, у якім чырвоным надрукаваныя ўгары кажнае бачыны калёнцыфры, усе радкі паясьняльных тэкстаў, блізу ўсе ініцыялы ды шмат вялікіх пачатковых літараў. На некаторых разваротах Часаслоўца чырвонага друку больш, як чорнага. Чорным у Часаслоўцы адціснутыя ўсе заставіцы ды некаторыя ініцыялы.

Тарнуецца двухварбны друк і ў Псалтыры "Падарожнай", ды ў

"Акафістах і канонах" кніжкі, хоць там яго й ня гэтак шмат, як у Часаслоўцы. І двухварбны друк, як і заставіцы ды ініцыялы, доктар Скарына выяўна ўжываў ня толькі, каб выдзяліць адпаведныя месцы тэксту, але бясспрэчна й з эстэтычных меркаваньняў. Прыгожа надрукаваную кнігу доктар Скарына, відаць сам любіў, гэткую кнігу намагаўся даць ён і чытачом.

Пры слаба яшчэ разьвітай тэхніцы друку, двухварбнае друкаваньне кнігі тады была справа вельмі марудная, вымагала шмат працы ды асаблівае пільнасьці. Скарынаў двухварбны друк роблены з аднае формы набору адразу, а не з асобных для кажнае хварбы дзьвюх формаў, ды не падвойным друкаваньнем, як пераважна гэта тады рабілася. Спачатку частка набору бачыны, якая мела друкавацца чырвонай хварбай, накрывалася й рэшта набору намазвалася хварбай чорнай. Тады зьнімалася прыкрыцьцё з набору для чырвонага друку ды тыя радкі, словы, ініцыялы, заставіцы асьцярожна намазваліся хварбай чырвонай. Пасьля гэтага рабіліся водціскі на паперы. Калі па колькіх водцісках хварба з набору зужывалася, увесь марудны працэс намазваньня адных радкоў хварбай чорнай, а іншых чырвонай трэ было ізноў паўтараць.

Дык была гэта праца асабліва карпатлівая, якая вымагала вялікае ўвагі ды шмат часу. Толькі матываваная ідэйна ахвярная адданасьць доктара Скарыны справе друку кнігі для народу давала яму патрэбныя сілы й вытрываласьць для выкананьня гэткае маруднае працаёмкае друкарскае справы. Затое разварот надрукаванае двумя хварбамі кнігі, пры вялікім ліку ініцыялаў і заставіцаў, атрымліваў выгляд радасны, раскошны, нагадваў красу народнае вышыўкі.

Раскрытая "Падарожная" чытача адразу ўводзіла ў малітоўна-сьвяточны настрой. Кніга друкавалася так, каб даваць ня толькі рэлігійную суцеху, але й эстэтычную насалоду. На красу і эстэтычны выгляд друкаванае кнігі чулы асабліва доктар Скарына, не шкадаваў часу, працы, коштаў на мастацкае афармленьне кнігі. Высокамастацкі выгляд маюць таму ягоныя выданьні праскія, дзеля гэтага паўсталі й ягоныя віленскія шэдэўры кірылічнага кнігадруку, "Падарожная кніжка" й "Апостал". І ня дзіва, што мастацтвазнаўцы й кнігалюбы XIX ст., якім віленскія выданьні доктара Скарыны даводзілася мець у руках ды іх гартаць, уражаныя іхнаю красой, называлі іх "славянскімі эльзэвірамі.

# СКАРЫНІЯНА Ў ЛІСТАВАНЬНІ

## Лісты 1965 — 1968 гг.

## АНТОНА В.ФЛАРОЎСКАГА й ВІТАЎТА ТУМАША

Ліставаньне, якое ў 1965 годзе завязалася між скарыністымі Антонам Васілевічам Фляроўскім, прафэсарам Карлавага Ўнівэрсытэту ў Празе, і др. Вітаўтам Тумашам (Ню Ёрк), трывала блізу тры гады, да пары, калі яго абарвала сьмерць прафэсара. Характэрная асаблівасьць гэтай перапіскі тая, што ўся ўвага ў ёй сьціраваная на тэму, якая ад гадоў моцна цікавіла абодвух аўтараў — раскрываньне новых фактаў з жыцьця й дзейнасьці выдатнага вучонага-гуманісты Беларусі XVI стагодзьдзя, доктара Франьціўка Скарыны з Полацка (1485?-1540).

Так паўстала публікаваная тут "Скарыніяна ў ліставаньні", яскравы адбітак у якой знайшлі вынікі тых карпатлівых архіўных пошукаў, што давялі да важных знахадак ды істотна папоўнілі жыцьцяпіс Ф. Скарыны й значна пасунулі наперад скарынаведныя дасьледваньні 1960-х і пазьнейшых гадоў.

Антон Васілевіч Фляроўскі нарадзіўся 14.12.1884 г. у Елізаветградзе, памёр 27.3.1965 г. у Празе. Біяграфічныя аб ім даныя можна знайсьці ў 'Scoriniana 1517-1967' (ЗАПІСЫ, кн. 5, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, 1970, б. 137-143).

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Найперш — выбачайце, што бязь ніякае папярэдняе знаёмасьці ані рэкамэндацыяў наважыўся пісаць да Вас і пісаць пабеларуску. Хоць парасейску добра разумею й свабодна чытаю, але ў расейскіх школах вучыцца мне не давялося й дзеля гэтага пісаць асьцерагаюся — зашмат будзе памылак. А тымчасам з Вашых каштоўных працаў пра доктара Скарыну мне ведама, што й беларуская мова Вам ня чужая й зразумелая.

Гэты мой ліст вынік таго, што ад нейкага часу вывучаю жыцьцяпіс доктара Франьцішка Скарыны. Пры гэтым, ясна, давялося пазнаёміцца й з Вашымі каштоўнымі публікацыямі аб Скарыну ў Часапісе Чэскага Народнага Музэю ды ў "Слявішэ Рундшаў", і мне добра ведамая тая задзіўляючая дасьледная інтуіцыя і ўнікліваcьць, зь якою Вы калісьці на дзённае сьвятло выявілі ліст караля Фэрдынанда І аб доктару Скарыну, а пасьлей — архіўныя весткі аб ягоным падарожжы да Масквы. Ведамая мне й Вашая большая праца "Чешская библия в истории русской культуры".

Вашыя працы аб доктару Скарыну цэняцца высака ня толькі на ўсходзе Эўропы, але і ў краёх Захаду. Апошнімі гадамі зьявіліся й публікацыі, якія, пастаўленыя першы раз калісьці Вамі пытаньні Скарынавае біяграфіі,далей разьвіваюць і паглыбляюць. Ёсьць і працы, у якіх нямала новага. Адну зь іх — "Доктар Скарына ў Маскве" С. Брагі — у асобным канвэрце сяньня высылаю. Спадзяюся, будзе Вам цікавая, паколькі яна абапертая ў вялікай меры на адкрыцьцях Вашых.

У выніку маіх пошукаў удалося ўжо таксама выявіць няведамыя раней архіўныя акты аб Скарыну, а ў іх знайсьці й новыя біяграфічныя інфармацыі. Найважнейшая зь іх, гэта вестка аб тым, што каля 1512 г., перад прыездам у Падую, доктар Скарына знаходзіўся на двары караля Даніі, Швэцыі й Нарвэгіі Ганса на становішчы каралеўскага сакратара, і што, праўдападобна ў Капэнгазе, ён студыяваў мэдыцыну. Першае кароткае паведамленьне пра гэта мае паказацца ў друку за пару месяцаў. Калі не адмовіце — адразу перашлю да ведама, як скромны довад майго шчырага прызнаньня для Вашых архіўных адкрыцьцяў да біяграфіі нашага выдатнага Палачаніна.

Ды, калі наважыўся сяньня пісаць з-за акіяну гэты ліст, дык ня толькі таму, каб паведаміць, што Вашыя адкрыцьці высака цэняцца й далей распрацоўваюцца на Захадзе. Маю й канкрэтную справу. Ходзе пра тое, што з часам у ваднэй з найбольшых бібліятэкаў Ню Ёрку й Амэрыкі мае быць наладжаная юбілейная выстаўка, прысьвечаная доктару Скарыну, яго кнігам, ягонай літаратурнай спадчыне. Хацелася-б вельмі даць на выстаўцы й партрэты тых трох "кітоў" скарынаведы, працы якіх ляглі асноўным фундамэнтам пад сучасную навуковую біяграфію доктара Скарыны. А гэтыя "тры", гэта Язэп Добровскі, Пётра Владзіміраў і — Антон Фляроўскі. Партрэты Добровскага. й Владзімірава ўжо знойдзеныя, але

няведама дзе, у якой публікацыі, можна знайсьці партрэт трэці? А калі ён нідзе не публікаваўся, дык ці ня можна было-б атрымаць яго беспасярэдня з Прагі?

Прашу яшчэ раз ласкавага прабачэньня за маю дакуку гэтым надаедлівым лістом пра справы й пытаньні, якія, магчыма, у Вас ужо даўно зьнятыя з Вашага навуковага варштату. Ліст, аднак-жа, пісаны ў добрай веры й шчырым прызнаньні Вашых важных дасягненьняў пры раскрываньні біяграфіі нашага выдатнага суродзіча — доктара Франьцішка Скарыны з Полацку.

Ню Ёрк, 14.4. 1965

У глыбокай пашане,
Ваш
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый Коллега,

большое спасибо за Ваше письмо от 14 апреля. Я очень рад узнать, что в далекой Америке имеются ученые, которые интересуются теми же проблемами, что и я, и я приветствую Ваше решение войти со мною в контакт, это так естественно и необходимо для успеха научной работы, которая не может идти изолированно, но требует живого сотрудничества. Я давно уже знаю,что Вы занимаетесь Скориною — где-то встретил указание на Вашу статью о портрете Скорины в Падуе, но издания этого не видел, и был бы очень Вам признателен, если бы у Вас нашелся для меня ее оттиск. Знал я давно и о том, что кто-то, и теперь я вижу, что это Вы, нашел в падуанском архиве Университета документ о том, что Скорина был 'secretarius regis Daciae'.

Еще в конце 1937 г. мне показал как-то в Праге римский профессор Этторе Ло Гатто рукопись статьи о Скорине с приведением текстов из падуанского архива, он хотел знать, новые ли это тексты. Я при беглом просмотре установил, что новым (сравнительно с публикацией Шляпкина) является лишь короткая заметка с приведенным титулом 'Secretarius', etc. Я все ждал, что эта статья будет опубликована. Но до сих пор это не случилось. Поэтому я не мог нигде сослаться на этот текст, считая, что прежде всего его должен издать тот, кто его нашел. Однако я тотчас же попытался разъяснить смысл этого документа. Дация — это имя тогда давалось и Дании и Дакии — Румынии. На мои запросы профессор Панаитеску в Букареште ответил, что в румынских документах нет ничего о Скорине, и что могла бы идти речь о князе Н. Бессарабе, хотя он никогда не называл себя'rex'. С другой стороны Гос. Архив в Копенгагене сообщил мне, что в датских актах 1507-1512 гг. нет никаких указаний о Скорине. Тем ценнее Ваше открытие, что Скорина был секретарем короля Ганса и что он учился в Копенгагене. С нетерпением жду издания этого текста, который так интересно расширяет наше сведения о Скорине.

Должен сказать, что я ведь не настаивал на том, что Скорина **сам лично** ездил в Москву. Это мне приписывает и новейший исследователь Немировский в своей замечательной книге "Возникновение книгопечатания в Москве", 1965. Я лишь полагал, что Скорина и Онков живо были заинтересованы в том, чтобы наладить возможность сбыта своих изданий в Москве. А ездил ли туда сам Скорина или же только Онков — это подробности, важные лишь в этой общей перспективе. С нетерпением жду на висланую Вами работу С. Браги. И вообще был бы весьма Вам признателен за сообщение мне всего, что у Вас за океаном по этим вопросам пишется и печатается, мы тут мало все-же знаем о работе белоруссов в Америке, а их издания сюда вообще не попадают. Последние годы я занимаюсь главным образом историей дипломатии Петра Великого (первая четверть XVIII в.).

Прилагаю при сем любительский снимок, иного у меня нет, я вообще очень редко снимаюсь.

Еще раз спасибо за то, что вспомнили о моих занятиях Скориной. И очень рад возможности живого контакта с Вами.

С найлучшими пожеланиями
искренне преданный
Ант. Флоровский

25.IV. 1965
Praha 6, Tr. Jugosl. Partyzánů 17
ČSSR

Ню Ёрк, 12.5. 1965 г.

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Удзячны моцна за Ваш ласкавы ліст, інфармацыю пра праф. Лё Гатто і, асабліва, — фатаграфію. Прафэсар менскага ўнівэрсытэту М. Піотуховіч калісьці ў юбілейным зборніку "Чатырохсотлецьце беларускага друку" свой артыкул аб Скарыну закончыў гэткай драматычнай пуантай: "...на асобе Францішка Скарыны ляжаць густыя цені сярэднявечча, але адначасна мрок гэтых ценяў праразаюць сьветлыя бліскі жыцьцярадаснага рэнэсансу". Піотуховіч, пэўне-ж, мыляецца, бо Скарына па сваей мэнтальнасьці й тэмпэраменце якраз тыповы, вельмі рухавы рэнэсансавы "гомо унівэрсаліс". Ды ходзе мне тут не пра гэта: Піотуховічава пуанта прыгадалася ў сувязі з Вашай фатаграфіяй, на якой гэтак шмат "сярэднявечных" ценяў, а так мала "рэнэсансавых бліскаў", хоць сам выгляд і "жыцьцярадасны", сьветчыць аб добрым здароўі й дае надзею на тое, што ад дасьветчанага прафэсарскага пяра яшчэ можна спадзявацца шмат каштоўнага ня толькі аб вялікім цару Пётры, але й аб скрамнейшым доктару Скарыну.

в Америке, в их [illegible] о Скорине не попадались.

последние годы я занимаюсь главным образом историей

дипломатии Петра Великого (первая четверть XVIII в.)

Пришлите, при [illegible]

ке, я Скорине [illegible].

Еще раз благодарю за то, что [illegible] за-

интересовались Скориной. И очень рад познакомиться [illegible] с

Вами.

С [illegible]

искренне преданный

25.IV.1965. Ант. Флоровский

Praha 6, ul. Jugoslávských partyzánů 17

ČSSR

*Аўтограф праф. А. В. Флароўскага*

Фатаграфія, пэўне-ж, мала падыходзіць да тае мэты, для якое яе прасіў. Ды маю надзею, што з часам у Празе знойдзецца партрэт, на якім менш "сярэднявечных" ценяў, і буду за яго вельмі, вельмі ўдзячны.

Інтрыгуе, зразумела, вестка пра тое, што праф. Лё Гатто ўжо ў 1937 г. меў тэкст архіўнага дакумэнту, у якім ёсьць фраза аб тым, што Скарына "сакратар караля Дацыі"; і што, магчыма, ён тэкст гэты друкаваў. Асабліва цікавіць мяне тое, ці гэта тэкст аднаго з тых архіўных запісаў, мікрафільмы якіх у мяне, у якіх гэтая фраза сустракаецца, ці, магчыма, яшчэ іншы, мне няведамы. Пераглядаю ўсё публікаванае праф. Лё Гатто, каб гэта выясьніць. Калі не знайду адказу, давядзецца хіба пісаць па інфармацыю да яго самога. Ён, выглядае, жыве, бо ў Рыме ў 1962 г. урачыста адзначалі юбілей ягонае навуковае дзейнасьці.

Неспадзеўка мне й тое, што й праз "зялезную заслону" ў Прагу пранікла нейкія весткі аб тым, што калісьці, 13 гадоў таму, пісаў аб партрэце доктара Скарыны ў Падуі. Пад рукой гэтага артыкулу цяпер ня маю, але сяньня высылаю на Ваш адрыс адзін нумар журналу 1963 г., у якім ёсьць артыкул "Партрэты Скарыны", а пры канцы яго — інфармацыя аб партрэце ў Падуі й фатаграфія гэтага партрэту (1). Хоць гэта й кароткая даведка, але больш удакладненая за даўнейшую. Трэба сказаць, што для дасьледнікаў біяграфіі доктара Скарыны падуанскі партрэт мала цікавы, пакольки ён не з Скарынавых часоў, а сучасны, з XX ст.

Кніга Няміроўскага, пра якую ўспамінаеце, мне добра ведамая. Зьвярнуў я ўвагу й на тое ў ей месца, дзе аўтар робіць дапушчэньне, што не Скарына, а Онкаў быў у Маскве. Пра кнігу й галоўна пра Скарыну ў ей — рэцэнзія ўжо ў друку. Паводле майго перакананьня, дадзеных на тое дастаткова, каб **настайваць** на тым, што Скарына **быў** у Маскве з сваімі кнігамі.

Згодна з Вашаю просьбаю, буду старацца даслаць усё важнейшае, што зьявілася ў друку на Захадзе аб Скарыну. Зь цікавейшых вынікаў маіх скарынінскіх росшукаў, апрача факту прабываньня доктара Скарыны ў Даніі, магу адцеміць яшчэ, што натрапіў на дадзеныя, якія паказваюць на канфіскату кнігаў Скарынавае Бібліі ў Вроцлаве (відаць у часе іх перавозу з Прагі ў Вільню), дый на вестку, якая гавора аб тым, што Скарына ў Вітэмбэргу ўсё-ж мог быць і мог бачыцца там з Марцінам Лютэрам, хоць не ў 1525 г., як калісьці думаў Копітар, а каля году 1533. Такую магчымасьць адкінуў калісьці Віктараў, а за імі Пічэта, перадчасна, без дакладнае праверкі адпаведнага матар'ялу. Сёе-тое важнае ўдалося выявіць і пра Скарыну на становішчы садаўніка ў караля Фэрдынанда. Гэта ўсё паволі рыхтуецца да друку.

Працую й над бібліяграфіяй "скарыніяны". Лік рэгістраваных пазыцыяў даходзіць ужо тысячы. Да яе патрэбны мне й поўны пералік Вашых працаў, артыкулаў, зацемак, у якіх гаворыцца аб Скарыну. Пакульшто маю такіх 9-ць Вашых пазыцыяў:

1. Праца 1936 г. у "Часопіс Чэского Музэа".
2. Артыкул у "Русский врач", 1937 г.
3. Праца ў "Бюлетэні" гісторыкаў, Варшава, 1939 г.
4. Артыкул у "Слявішэ Рундшаў", 1940 г.
5. Зацемка ў кнізе "Цо далы нашэ земе Эвропе..", 1940 г.
6. Праца "Чешская библия...", 1946 г.
7. "Чехи и восточные славяне", 1947 г. (кароткая заўвага)
8. "Ческо-руске... стыкі...", 1954 г. (заўвага аб Івану Скарыну).
9. Рэцэнзія на кнігу Прохазковэй, 1960 г., "Слявія".

З гэтых дзевяцёх пазыцыяў не ўдалося нідзе знайсьці важнае працы,, друкаванае ў 1939 г. у варшаўскім "Бюлетэні" гісторыкаў. Яе ня маюць бібліятэкі Нью Ёрку, ні Кангрэсавая Бібліятэка Вашынгтону, ні Брытыш Мюзэум Ляйбрары ў Лёндане. Калі ёсьць

нейкая магчымасьць зрабіць зь яе ў Празе фатастат — буду рады пакрыць усе зьвязаныя з гэтым кошты. Ня змог, пакульшто, знайсьці й "Русского врача". Усё іншае, вышэй пералічанае, ведамае мне "дэ візу", іх усе, і вельмі ўважна, прачытаў. Калі-б былі яшчэ нейкія ў Вас працы, ці зацемкі аб доктару Скарыну, прашу ласкава падаць калі й дзе яны друкаваліся. Важна мне гэта вельмі й для камплетнасьці бібліяграфіі "скарыніяны" і, галоўна, каб пазнаёміцца зь іх зьместам. Цікавіць мяне таксама ці былі і якія рэцэнзіі на Вашу грунтоўную працу "Чешская библия"..."? Мне ўдалося натрапіць толькі на адну — Горалека ў "Слявіі" 1948 г.

Шчыра адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега,

Я несколько раз запрашивал после войны и проф. Ло Гатто и проф. А. Крониа в Падуе, были-ли напечатаны в Италии те документы, которые Ло Гатто мне показывал, но я ответа не получил — сношения были долго затруднены. Думаю, что в печати этот материал не появился, вероятно Ло Гатто решил, что ради нескольких строк нового текста не стоит печатать присланую ему статью. К тому же в обзорах не было указаний на этакую работу, а в Revue des etudes Slaves ведь ведется весьма полная и основательная библиография всего по славистике. Но раз "датский" материал теперь у Вас в руках — так поскорее публикуйте его и пустите его в научный оборот — с надлежащими комментариями.

Чрезвычайно интересно мне знать Ваши соображения о встрече Скорины с Лютером. Во всяком случае трудно было бы поддерживать утверждение о **влиянии** Лютера на Скорину. Если их встреча состоялась, как Вы думаете, в 1533 г., то это могло быть уже **после** отхода Скорины от издательской деятельности. Конечно, близость Скорины с Альбрехтом Гогенцоллерном позволяет допускать, что Скорина в тридцатые годы мог быть в сфере собственно "лютеранских" отношений, хотя это лишь допущение, нужны же бесспорные факты. Очень рад, что мое указание на связи Скорины с "садоводством" в Праге находят новое подтверждение и с нетерпением жду выявления всех Ваших новых догадок и утверждений. Сохранились ли в Копенгагене списки студентов **медиков** начала XVIв. ? Там Скорина мог быть, очевидно, между 1506 (Краков) и 1512 гг. (Падуа).

Я только что послал Вам оттиск статьи в Bulletin и еще одну свою статью, где есть 2-3 страницы о Скорине. Оттисков из "Русского врача" я не получил. На мою книгу о "Чешской Библии" было еще несколько рецензий:

Prof. I. Vašica. Časopis pro moderni filologii, XXX/2, 1947, 131-141.

I. Vašica. Acta Academiae Velebradensis, XVIII, 1947, 158-159.

Ts. Ionescu (по румынски) – Romanoslavica, I, Praha, 1948, 156-158.

Prof. I. Macurek. Československi Časopis Historicky, XLII, 1946, 228-231.

Im [ I. Myslivec], журнал Vyšehrad, II 3, 1947, 44-45.

Возможно, что было и еще что-либо, но я не знаю больше.

Увы, у меня нет иного "портрета". Мне лично очень нравится посланный Вам — там я был как-то в тени лесной аллеи в окрестностях Мариенбада в яркий солнечный день.

Желаю Вам полнейшого успеха в Ваших розысканиях о Скорине и скорейшего обнародования всех Ваших выводов и соображений.

Искренне преданный
А. Флоровский

20 V. 1965
Прага Чешская

Ню Ёрк, 5.6.1965

Высокопаважаны Спадару Прафэсару!

Удзячны Вам моцна за ласкава высланыя адбіткі тых Вашых каштоўных працаў, якія гадамі й дарма шукаў па бібліятэках Эўропы й Амэрыкі. Іх яшчэ ня маю — яны нейдзе яшчэ ў дарозе. Дзякую вельмі й за даведку пра рэцэнзіі на "Чешская библия...". Бліжэйшымі днямі буду шукаць іх у бібліятэцы. Не пярэчу ані, што драматычнымі кантрастамі сьвятла й ценяў партрэт — аматарскі "шэдэўр". Мой "крытыцызм" не з мастацкіх, а з "прыземных", з утылітарных пазыцыяў. Партрэт ня зусім падыходзіць да тае мэты, для якое хацелася-б часам яго скарыстаць.

Да тэмы "Скарына а Лютар": — І мой пагляд гэткі, што ніякіх уплываў Лютара на выдавецкую дзейнасьць Скарыны ня было й быць не магло. 31 кастрычніка ("октябрь") 1517 году, калі доктар Лютар на дзьвярох царквы ў Вітэмбэргу гвазьдзіў свае 95 тэзаў, доктар Скарына ў Празе "ціснуў" чацьвертую ўжо біблійную кнігу — Кнігу Сыраха. А да свайго перакладу Бібліі Лютар прыступіў толькі ў 1521 годзе, закончыў-жа яго ў годзе 1534-м. З гэтых датаў ясна, што дакор князя Курбскага Скарыну ў тым, што кнігі ягоныя з "кніг Лютаравых", як і падобныя пазьнейшыя цьверджаньні Чыстовіча й некаторых іншых аўтараў у стагодзьдзі XIX, а Івана Франка навет у XX-м, памылковыя. Ніхто зь іх не парупіўся супаставіць датычныя да гэтага даты. Калі ў Скарынавай дзейнасьці ўсё-ж ёсьць і бясспрэчна рэфармацыйныя рысы (найперш

— Біблія для народу ў зразумелай яму мове, (для "люду паспалітага"), дык яны ня вынік уплываў Лютара, а толькі праявы тых самых ідэяў перадрэфармацыйнае Эўропы, у якіх духова расьлі й фармаваліся і Лютар, і Скарына.

Дый пра Вітэмбэрг, Вроцлаў, Данію, пра магчымыя іх дачыненьні да біяграфіі доктара Скарыны, матар'ялы ўжо хутка паявяцца ў друку. Сяньня ад Лютаравага Вітэмбэрга завярнуць хачу да Скарынавае - і Вашае — "залатое" Прагі, а канкрэтна — да справы Скарынавага там "садаводзтва". Да гэтага пытаньня ў мяне насьпелі даўно некаторыя свае меркаваньні і знайшліся навет важныя "ніткі", па якіх, на маю думку, можна будзе з часам шырэй раскрыць дзеі гэтага Скарынавага фінальнага жыцьцёвага этапу. Імі тут хачу падзяліцца з Вамі, паколькі нашая веда пра другі праскі Скарынавы эпізод — вынік Вашае толькі дасьледнае інтуіцыі й працы, і Скарына-садаўнік — Вашая найперш "домэна" ў багатым прыгодамі жыцьцяпісе доктара Скарыны.

Пры канцы Вашае, друкаванае ў 1936 годзе ў 'Časopis Narodniha Musea'(2), працы ёсьць вельмі цікавая інфармацыя пра дзейнасьць у каралеўскім парку на Градчанах у гадох 1530-х нейкага садаўніка "Франьцішка", які быў mistr, а ня доктар, і быў 'vlach' - "Франчэско", італьянец, і, значыцца, не Скарына.

Да гэтае інфармацыі, дадзенае Вамі на падставе нарысу Сватэка, хацелася-б дакінуць вось што: тытул mistr — лацінскі 'magister' — праз усё сярэднявечча й аж да Скарынавых часоў ужываўся як раўнаважны з навуковым тытулам "доктар". Кажны доктар быў тады гэтым самым ужо й магістрам, кажны-ж запраўдны магістар мусіў мець навуковую годнасьць доктара. Як паказваюць Скарынавыя падуанскія акты, Скарыну там экзаменавала калегія з 24-х "дактароў і магістраў". Перад прозьвішчам кажнага зь іх у пратаколе экзамену дадзена — D. M. Dominus Magister. З гэтага ясна, што дактароў тады называлі магістрамі, а "магістэр" мела адначасна значаньне й сучаснага "прафэсар". Дык "магістэр" у Скарынаву пару моцна розьніцца ад такога-ж тытулу ў сучаснай Эўропе, калі "магістэр" куды ніжэйшая ступень ад "доктар". У падуанскіх актах і Скарына тытулуецца "магістрам", паколькі, прыступаючы да экзамену ў Падуі, ён ужо меў адзін дактарат — дактарат "навук вызваленых". Разважаньні гэтыя вядуць да таго, што тытул праскага каралеўскага садаўніка "магістэр" — пачэску 'mistr' — зусім ня выключае таго, што mistr Francesko гэта й быў доктар Скарына.

Як далей пабачым, не пярэчыць гэтаму й тое, што чэскія аўтары XIX ст. гэтага "Францэска" называюць 'vlacham', бо-ж гэта іхная **толькі дагадка,** дагадка, не абгрунтаваная на дакумэнтных дадзеных. Хоць, каб Скарыну ўважаць за vlacha, у яго й былі некаторыя прыкметы: у Італіі Скарына быў, меў навет дыплём доктара італьянскага ўнівэрсытэту, а магчыма навет і гаварыў паітальянску. Што азначаньне "містра Франчэско" "влахам" усяго пазьнейшыя дагадкі, на гэта маю канкрэтныя довады. Колькі гадоў

таму ў "Гісторыі места Прагі" Вацлава Томэка я заўважыў гэткі сказ: 'K upraweni o wysazeni zahrady byl zjednan mistř František, jak se zdá též Wlach...'. Да гэтых словаў В. Томэк даў яшчэ зноску, у якой сказана: Krom jiných okolnosti da se to sauditi z toho, že služebni list jeho byl latinsky [Wacslaw Wladiwoj Tomek. Dejapis Prahy. Dil XI. Praha 1897, b. 105]. З вышэй прыведзенае цытаты ясна, што "влах" аб "містру Франчэско" — толькі дапушчэньне, толькі дагадка. Вось дзеля гэтага Томэк і кажа jak se zda, і мусіць прыводзіць такі непераконваючы "довад", як тое, што "служэбны ліст" садаўніка Франьцішка быў пісаны палацінску, а не пачэску, або панямецку.

Калі ў XIX ст. чэскія навукоўцы аглядаліся на Італію, як на магчымы край паходжаньня садаўніка Франьцішка, дык гэта можна зразумець, бо-ж і ўсе архітэкты ды будаўнічыя "Летоградку" каралевы Ганны Ягайлянкі былі "влахі". Яшчэ важней тое, што навукоўцы тады яшчэ нічога ня зналі пра існаваньне адкрытага ліста караля Фэрдынанда І, у якім сказана, што доктар Франьцішак Скарына — "наш колішні садаўнік". Зусім іншая справа цяпер, калі гэты ліст ведамы й калі ведама таксама, што няма ніякае пэўнасьці аб тым, што садаўнік Франьцішак запраўды быў "влахам". У такім выпадку лёгіка забавязвае як першую гіпатэзу ставіць цьверджаньне, што "містш Франьцішак" гэта й ёсьць доктар Франьцішак Скарына, бо інакш давядзецца рабіць дапушчэньне, што прыблізна адным і тым самым часам у каралеўскім парку на Градчанах працавалі два садаўнікі, два Франьцішкі — адзін "влах", а другі ня "влах", адзін доктар, другі не.

Калі пра гэтыя свае меркаваньні да Вас пішу сяньня, дык дзеля таго, што, на маю думку, існуе канкрэтная магчымасьць гэтую справу праверыць ды пытаньне канчаткова выясьніць. Калі Томэк піша, што "служэбны ліст" "містша Франьцішка" **лацінскі**, гэта значыць, што ён гэты ліст бачыў, а гэта ізноў значыць, што гэты ліст існуе, ляжыць нейдзе ў нейкім архіве. Нягодны Томэк, на жаль, не дае ніякага, навет найменшага намёку на тое, дзе ён гэты "ліст" бачыў і дзе трэба яго шукаць. Гэта заданьне крыху камплікуе, але, тымняменш, — "служэбны ліст" знайсьці трэба! А ў ім, побач розных важных інфармацыяў, найперш, колькі кароль Фэрдынанд плаціў свайму садаўніку — будзе напэўна й прозьвішча "містша Франьцішка". А гэта адразу разьвяжа й загадку — два былі Франьцішкі, ці адзін. І мая інтуіцыя падказвае, што толькі адзін — "Франьцішак, Скарынін сын, з слаўнага града Полацка".

Фінальная Скарынава жыцьцёвая прыгода — ягонае праскае "садаводзтва" — гэта, Высокапаважаны Прафэсару, Вашае адкрыцьцё. Дык што, каб гэты "памятнік нерукатворны", якога, праўда, зуб часу й так ужо не сатрэ, завяршыць яшчэ й укаранаваць выяўленьнем з архіўных сховаў і публікацыяй "служэбнага ліста" садаўніка Франьцішка? Знайсьці трэба, памойму, найперш тыя акты чэскае каралеўскае каморы, на якія ўвесь час паклікаецца Сватэк. Там нейдзе можа быць і "служэбны ліст". Магчыма й перапіска чэскае каморы, і навет служэбны ліст нейдзе ўжо й быў публікаваны

яшчэ ў мінулым стагодзьдзі, як друкаваўся-ж калісьці Дворскім і ліст караля Фэрдынанда. Калі-б выявілася, што "службны ліст" не ў архівах Прагі, а за межамі Чэхіі, прыкладам, у Вене, — справаю яго адшуканьня мог-бы заняцца ўжо я. Так і так, за год-два зьбіраюся туды пад'ехаць, бо мае скарынаведныя росшукі паказваюць на тое, што там ляжаць яшчэ гурбы няведамых нікому дакумэнтаў пра нашага доктара Скарыну (3).

Пры чытаньні рэляцыяў Сватэка й Томэка бярэ дзіва, як можна ўвесь час паклікацца на важныя архіўныя матар'ялы і, навет, прыводзіць зь іх цэлыя цытаты, і ні словам не заікнуцца, дзе гэтыя дакумэнты перахоўваюцца. І хіба-ж яны абодва — і Томэк, і Сватэк, — вышлі зь нямецкае навуковае школы, школы, якой звычайна ўськідаюць празьмерны навуковы пэдантызм.

На гэтым і закончу сяньня сваё доўгае "послание". Выбачайце, што займаю столькі Вашага дарагога часу. Чакаю на Вашыя думкі аб вышэй закранутым і на — "службны ліст містша Франьцішка"!

У глыбокай пашане,
шчыра адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега,

Большое спасибо за присылку номера журнала со статьей о портретах Скорины. Падуанский портрет действительно не представляет особого интереса, разве как показатель признания значения Скорины в истории мировой культуры. Интереснее находка третьего варианта гравюры Скорины в его пражском издании. В Праге имеется из изданий Скорины именно только книга Сирахова, да и та неполная, без начала и конца. А новый вариант вводит хотя бы несколько в технику пражских изданий. Несомненно Скорина имел право украшать свои пражские издания своим портретом, ибо дело он осуществил огромное. И тогда ведь было в обычае давать портреты авторов. Как-то в Венеции на выставке книг в библиотеке Марчиане я видел одно из венецианских изданий по медицине 1508 г. с портретом на обложке Petrus de Montagnana. Он стоит на кафедре в берете на голове в окружении открытых и закрытых книг, — подобно Скорине.

На днях я имел случай встретиться со Скориной с совершенно иной стороны — со стороны Минска. В Праге был один из научных сотрудников института Академии наук в Минске — Можейко. Он посетил меня в связи с планами Академии отметить 450-летие со дня выхода первой книги Скорины в Праге в 1517 г. Приглашают и меня принять участие в этом начинании. Я не знаю только еще плана этого сборника и не знаю, имеют ли они в Минске что-либо новое о Скорине. Думаю, что нет. Я рассказал Можейко и о падуанской записи о 'Secretario regis Daciae'. Он об этом ничего не знал. Не знаю,

в каких отношениях с минскими учеными Ваша белорусская ученая колония в Америке и в Европе вообще. Но, думаю, что на почве Скорины едва ли возможны какие-либо расхождения и несогласия помимо так нужной солидарности и сотрудничества. Я лично полагаю, что одной из главных задач теперешнего изучения Скорины было бы прежде всего **издание полного свода текстов,** исходящих от Скорины (предисловия, введения, заглавия и т. д., кроме, конечно, собственно библейских текстов). Одновременно нужно бы издать и свод всех документных данных о Скорине. Это не потребовало бы много места, но дало бы новый толчок для изучения Скорины. Ведь его книги доступны лишь единицам в Москве или Минске и Ленинграде-Петербурге, а нужно дать в руки каждому заинтересованному полное понятие об идеологии Скорины.

Рад был узнать, что Вы вполне со мною согласны в отрицании утверждения о влиянии Лютера на Скорину. Если бы даже Franciscus Polonus был действительно Скорина, то и это дела не меняет, после 1525 г., к которому относят этот визит Франциска у Лютера, Скорина уже не печатался, и круг его издательской деятельности был закончен. А притом, почему бы Скорина вдруг объявил бы себя поляком после того, как уже прославил свое имя как Литуанус и особенно Рутенус?!

Большое спасибо за осведомление меня о том, что делается у Вас за океаном в области изучения Скорины. Здесь этого вообще нельзя нигде получить. Я, правда, сейчас занят особенно эпохой Петра Великого и дипломатией его, но и Скорина все же живо меня занимает.

С найлучшими пожеланиями
Ваш
А. Флоровский

22.6.1965
Прага

Ню Ёрк, 23 ліпеня 1965 г.

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Дзякую вельмі за Ваш ласкавы ліст, у якім колькі важных новых пытаньняў да нашае старое тэмы — Скарыны. У вадказе хачу спачатку коратка даць свой погляд на адну кранутую цікавую справу — вітэмбэргскага "доктор Франціскус Полёнус". Вамі вельмі правільна адзначана, што Скарына паляком сябе ніколі не называў, і непраўдападобна, каб гэтак мог сябе назваць і ў Вітэмбэргу, калі там наагул ён быў. Тымняменш, азначэньне "полёнус" у нямецкага храністы зусім ня выключае таго, што мог быць гэта й Скарына. Кароль Польшчы быў тады адначасна й вялікім князем літоўскім, і таму на Захадзе падданых польскага караля часта называлі "полёнус", ня ўходзячы ў тое, ці быў ён

запраўды з Польшчы, ці зь Літвы. Дзеля гэтага, праўдападобна, і ў Сымона Скарыны з часам зьявілася »**Паляк** Сымон Рус з Полацка", як ён названы ў Бжэзана. На ўсходзе, у Маскоўшчыне, наадварот, часта ўпрашчалі сабе справу так, што называлі кажнага з Рэчыпаспалітае "ліцьвіном", ня ўходзячы ў тое, ці быў гэта ліцьвін запраўдны, ці паляк. Гэтак, у ведамай повесьці аб паходзе караля Сьцяпана Баторага на Пскоў, Баторы ўвесь час называецца "король литовский". А для маскоўскага пасольскага прыказу кароль Жыгімонт Ваза яшчэ і ў пачатку XVII ст. — "Жигимонт литовский". Дык, з аднаго боку, няма ніякіх дадзеных на тое, што "доктар Франціскус" у Вітэмбэргу й запраўды называў сябе "полёнус", а з другога, калі гэтак і называлі яго вітэмбэргцы, гэта яшчэ ня значыць, што ён і запраўды быў паляком, бо мог быць і ліцьвіном, і "рутэнусам". На маю думку, у дадзеным выпадку слова храністы "полёнус" трэба браць найменш на ўвагу, як на нейкі паважны довад пры спробе выясьненьня: быў Скарына ў Вітэмбэргу, ці не. А ўжо ў ніякім выпадку самую ягоную там бытнасьць (калі-б аказалася, што да гэтага дайшло) ня можна браць за довад ягоных пратэстанцкіх паглядаў. Ува ўсіх ведамых мне вэрсіях гэтага нямецкага летапіснага расказу падаецца, што прыбылага з усходу да Вітэмбэрга вучонага доктара, Лютэр западозрыў у злачынных намерах, і ён быў змушаны ўцякаць зь места. Цяжка спадзявацца, каб пасьля гэткае прыкрасьці "доктор Франціскус полёнус" меў нейкія сымпатыі да Лютэра й ягонае веры.

Што Акадэмія ў Менску пачынае думаць пра Скарынаў юбілей, пэўне-ж добра. Ні супрацоўніцтва, ні кантактаў між беларускімі навукоўцамі эміграцыі й БССР няма й ня думаю, што могуць яны завязацца пры нагодзе Скарынавых угодкаў. Гэта, аднак-жа, не перашкаджае таму, што ўсё карыснае, зробленае пры нагодзе юбілею для вывучэньня жыцьця й культурнае спадчыны выдатнага Палачаніна ў навуцы, само сабой "спаткаецца" й застанецца трывалкім здабыткам, незалежна ад таго, дзе яно паўстала — у Менску ці Празе, у Эўропе ці Амэрыцы. Хіба правільная Вашая думка і аб тым, што Менск пра Скарыну ня мае нічога "новага". Ад колькіх гадоў сачу ўважна ня толькі навуковую, але і ўсю публіцыстычную літаратуру аб Скарыну ў Менску й Маскве, і магу толькі пацьвердзіць, што "новага" нічога там ня відаць. У 1930-х сталінскіх гадох, у часе разгрому беларускіх навуковых кадраў Менску, арыштаваныя, сасланыя й пераважна зьнішчаныя былі ўсе, што Скарынам навукова цікавіліся. У выніку, ад выхаду зборніка "400-леьцце беларускага друку" ў 1926 годзе, за блізу сорак гадоў часу, у БССР і ўсім СССР не паказалася ніводнае паважнейшае, арыгінальнае працы аб доктару Скарыну, ня быў апублікаваны ніводзін дакумэнт, ня было выяўлена ніводнага ня толькі акту, але навет і факту да ягонага жыцьцяпісу. Калі скарынаведная дасьледная праца ўсё-ж тады не замерла, дык толькі таму, што вялася яна за межамі СССР, і, шчыра кажучы, дзякуючы толькі аднэй адзінай асобе — прафэсару Антону Васільевічу Флароўскаму ў Празе. Ніякага іншага навуковага імя ў галіне

”скарыніяны” ў гэтую пару я ня ведаю. Нашыя беларускія — праскія й віленскія — аўтары, што краналі тады гэтае пытаньне, выходзілі звычайна не ад тэкстаў, архіваў і жаролаў, а найперш ад сваіх патрыятычных пачуцьцяў.

У выніку навуковых спусташэньняў мінулых гадоў, ня думаю, што Менск можа даць нешта важнае й арыгінальнае, новае аб Скарыну й да юбілею 1967 г. Характэрным вынікам мінулых падзеяў, іх духовым ”прадуктам”, ёсьць тое напорыстае сучаснае ”перахрышчваньне” Скарыны з Франьцішка ды ў ”Георгія”. Ня знаю, ці Вам ведама, што адзін з маскоўскіх аўтараў, А. А. Сідараў, у сваім артыкуле 1964 г. выказаў сваё незадаваленьне з таго, што ”ученый А. Флоровский... выразил сомнение” у тым, што Скарына меў імя ”Георгий”. Калі ў часы царскага ”православия и самодержавия” некалі А. Гатцук у сваім маскоўскім ”Крестном календаре” 1873 г. намагаўся ”чарамі” давесьці, што ”праўдзівае” імя Скарыны толькі ”Георгі” — гэта можна яшчэ зразумець. Але калі блізу сто гадоў пасьлей, для Масквы ўжо атэістычнай і марксыцкай, стае неяк асабліва важным, каб Скарына ня быў ”Франьцішкам” — даводзіцца толькі дзівіцца. А. А. Сідараў займаецца дакорамі, а сам, відавочна, зусім не ўсьведамляе, што Скарына сам ”Георгіем” сябе ніколі ні разу не назваў, і што ад 1858 г., году першае й апошняе ведамкі пра ”Георгія” ў Скарыны, і аж да сяньня, ня знойдзена ніводнага іншага дакумэнту, дзе гэтае імя згадваецца, а гэтых дакумэнтаў у гэтым часе было выяўлена добрых пару дзесяткоў. Пры гэткай вымове фактаў, калі-б дапушчэньня Лаўмянскага 1925 г. аб праўдападобнай памылцы копісты з ”Георгіем” у Скарыны й ня было, навукоўцам пара была-б задумацца над тым, каб неяк выясьніць гэтага незразумелага аднаразовага ”Георгія”. У кажным выпадку няма абсалютна ніякіх падставаў на тое ”перахрышчваньне” беларускага культурнага дзеяча XVI ст., якое цяпер напорыста праводзіцца ў СССР. Відавочна й той скарынінскі зборнік, які цяпер пляную менская Акадэмія, будзе таксама зборнікам ГЕОРГІЯ Скарыны (4).

Калі няма паказаньняў на тое, каб у БССР цяпер маглі даць пра Скарыну нешта **новае,** (хоць рады буду памыліцца), дык Менск мог-бы напэўна даць важнае, патрэбнае й карыснае **старое,** найперш тое, што Вамі запрапанавана: сабраць і выдаць усё, напісанае Скарынам. І добра было-б, каб выдалі тэксты не наборным перадрукам, а фатадрукам, бо толькі гэтая простая тэхніка гарантуе навуковую дакладнасьць. Пры наборы, чаго добрага, паявяцца ня толькі памылкі, але яшчэ й купюры...

Ад колькіх гадоў канцэнтрацыя Скарынавых тэкстаў праводзіцца й на эміграцыі. Наш Інстытут сяньня ў сваіх зборах ”скарыніяны” мае на мікрафільмах звыш 2400 бачынаў Скарынавых друкаў з усіх ведамых каля 4000. У гэтым значная частка праскіх друкаў і ў камплеце друкі віленскія — ”Апостал” і ”Малая падарожная кніжка”. Калі-б дзеля нейкіх прычынаў Менск ня даў-бы рады выканаць Вашую прапанову на юбілейны год — крыху

пазьней можна будзе зрабіць гэта тут. Цяжэй, хіба, для Менску будзе перавыданьне дакумэнтаў і актаў. Але, калі передрукуюць акуратна хоць колькі — карысна будзе й гэта. За паваенныя гады на эміграцыі было передрукавана каля 10-х. Паводле тутэйшага ўліку, ведама сяньня звыш сарака актаў, дакумэнтаў, летапісных вестак, датычных да доктара Скарыны (5). Бальшыню іх маем "ін экстэнсо". Владзіміраў, калі пісаў сваю манаграфію, меў да сваей дыспазыцыі зь іх толькі сем.

Між іншым, строга геаграфічна бяручы, юбілей Скарыны 1967 г. скарэй юбілей Прагі, чым Менску, Вільні, або Полацка, бо-ж у Празе зьявіліся першыя Скарынавыя кнігі для "люду паспалітага". Паўстае дзеля гэтага пытаньне: ці й чым адзначыць **Прага** гэты, хай сабе й ня чэскі, але ўсё-ж прыносячы гонар і Чэхіі, культурны юбілей? Маю да гэтага й сваё скромнае пажаданьне (пажаданьні, хіба-ж, нікому шкоды ня зробяць!): знайсьці магілу нашага доктара Франьцішка! Яна хіба нейдзе там, дзе спачывае й ягоны знаёмы й прыяцель "казаньнік Ян з Пухова".

Прашу ласкавага выбачэньня, што мой ліст ізноў непамерна "выдаўжыўся". Адхіляю й Вашую ўвагу ад цяперашняе Вашае тэмы — Пётры Вялікага. А ў запраўднасьці, дык ад доктара Скарыны да цара Пётры ня гэтак і далёка, каб не знайшлося пытаньняў, якія зьвязвалі-б гэтыя дзьве, гістарычна, здавалася-б, адлеглыя ад сябе постаці. І думаю тут ня толькі пра таго царскага дыплямату й доктара Пётру Васільевіча Постнікава, які студыяваў мэдыцыну ў той самай, што й Скарына, Падуі, і партрэт якога красуецца цяпер побач партрэту доктара Скарыны на Падуанскім унівэрсытэце. Важнейшае тое, што, пры дапамозе беларуса Капіевіча, цар Пётра даканаў тую "вэстэрнізацыю", тое "азаходненьне" формаў кірылічных літараў, якую 200 гадоў перад гэтым першы й сьмела запачаткаваў доктар Франьцішак Скарына. 'Wäre man auf den Bahnen Skorina's weiter gewandelt... so wäre die Reform Peter d. Gr. gar nicht notwendig gewesen' — пісаў яшчэ пры канцы XIX ст. прафэсар М. Мурко. І гэта праўда: у галіне графічнае формы кірылічнага шрыфта ў лік "продолжателей дела Скорины" ёсьць падставы залічыць і цара Пётру Вялікага.

Выбачайце, што й да гэтай пары не магу выслаць абяцанае Вам працы, дзе гаворка пра Данію ды колькі іншых скарынінскіх праблемаў. Хоць карэкту зрабіў ужо колькі месяцаў перад гэтым, але праца ўсё яшчэ не гатовая, і падагнаць друкароў таксама няма як, бо друк праводзіцца за акіянам, у Эўропе. Пасылаю затое разам у лісьце адну рэцэнзію 1962 г. менскае кніжкі аб др. Скарыну М. Алексютовіча, якая можа быць Вам цікавая ня толькі таму, што там згадваюцца Вашыя каштоўныя працы, але й як прыклад эміграцыйнае ацэны сучаснае падсавецкае "скарынаведы".

У глыбокай пашане й
шчыра адданы Вам
Вітаўт Тумаш

17.8.1965
Францишковы Лазне

Глубокоуважаемый Коллего, примите мой привет из Францесбада, где мы проводим Август — вдали от шума городского, в тиши парка. Еще перед от'ездом из Праги получил Ваше письмо с приложением оттиска рецензии на книгу Алексютовича о Скорине, — большое спасибо и Вам и г. Браге, автору этой интересной статьи. Вижу, что в среде зарубежных белоруссов идет серьёзная работа над проблемами белорусской истории и истории белорусской культуры — и нужно всячески приветствовать это ученое движение и всех его участников. Я еще не имел случая деловым образом подумать над намеченным мною давно планом издания свода всех биографических документов о Скорине и всех текстов, от него лично исходящих. Но думаю, что эта мысль стоит серьёзного обдумывания с вниманием. Ваша мысль об издании текстов Скорины фотографически — мне конечно очень ценная, ибо, что-б дать их в руки исследователям, важна бесспорно, достоверность материала, далеко еще не изученного и не использованного в полной мере. Не знаю еще, как к этой мысли об подготовке издания относятся в Минске, и не имел еще случая обменяться мыслями с тамошними исследователями. И не знаю, какими возможностями издательства они располагают (6).

Не помню, писал ли я Вам, что известная исследовательница русских старопечатных изданий покойная А. С. Зернова перед смертью закончила исследование книг Скорины. Мне писали из Москвы, что работа эта будет непременно издана (7). Зернова была отличным знатоком восточно-славянского книгопечатания XVI в., и думаю, ее наблюдения могут представить значительный интерес, ведь ей в Москве были доступны все книги Скорины. Имеются ли они в какой-либо американской библиотеке, напр. Конгрессовой, в собрании Гарварда и др.?

Да, Вы правы — от Скорины идут какие-то нити к Петру Великому, и к Копиевскому в Амстердаме. Я не имел возможности видеть в натуре его издания, но нет ли какого-либо сходства его шрифтов со шрифтами пражской типографии Скорины? И куда делся весь этот свинцовый материал Скорины? Не попал ли он в конце как и в руки Тессинга и Копиевского? А от последних — в руки Карла XII ведь кое-что попало! Все это надо бы обследовать, — но, увы, в Праге это недоступно!

Так вот — и, сидя в тихом парке Францишковых Лазней, я не забываю ни о Скорине, ни о Петре I !

Еще раз спасибо за Ваши сообщения и письмо.

С наилучшими пожеланиями
Ваш А. Флоровский

Ню Ёрк, 22 верасьня, 1965 г.

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Дзякую за ласкавы ліст з слаўнага Францэнсбаду. Я пэўны, што добры летні адпачынак дадаў Вам шмат здароўя й сілаў, і што "Францішковы лазьні" выйдуць на карысьць і дабро нашаму добраму знаёмаму з XVI ст. доктару Франьцішку і, пэўне-ж, Пётру I. Дзякую й за адбіткі Вашых каштоўных працаў, якія прыйшлі летам, асабліва за адбітку з варшаўскага "Бюлетэня" 1939 году, працу, якую гадамі й дарма шукаў па Эўропе й Амэрыцы. У справе яе маю й адно малое пытаньне: калісьці ў віленскай беларускай прэсе была ведамка аб Вашым рэфэраце пра доктара Скарыну на міжнародным VIII Зьезьдзе гісторыкаў у Цюрыху ў канцы жніўня 1938 году. Дагадваюся, што друкаваная ў "Бюлетэні" праца — гэта й ёсьць рэфэрат, чытаны ў Цюрыху, — ці можа мыляюся? Між іншым, прафэсар Этторэ Лё Гатто паведаміў з Рыму, што тэксту падуанскага актавага запісу, у якім аб доктару Скарыну сказана secretarii regis datiae, ён нідзе не друкаваў. (8)

Ваша вестка пра перадсьмертную працу Зярновай, у якой апісаньне кнігаў Скарыны, з розных меркаваньняў мяне асабліва цікавіць. Зярнова бясспрэчна была вельмі ўніклівай і дазнанай спэцыялісткай у галіне ўсходнаславянскіх старадрукаў. Ды ў нэкралёгу аб ей, памешчаным у апошнім зборніку маскоўскае "Книги", пра гэтую працу чамусьці ня згадваецца ні словам. Баюся, каб дзеля нейкіх прычынаў ня здалі яе ў архіў. У сваім нарысе аб Пётры Мсьціслаўцы Зярнова наракала, што гэты нарыс гадамі ў друк ня пушчалі. З апісаньня Зярновай Скарынавых кнігаў-арыгіналаў "дэ візу" можна чакаць шмат цікавага хоць-бы дзеля таго, што кнігаў гэтых ніхто з спэцыялістых вычэрпуюча яшчэ не апісаў, хоць кароткіх, пабежных і павярхоўных вопісаў паасобных выданьняў ёсьць даволі шмат. Найважнейшае, чаго ад ейнага вопісу спадзяюся, гэта адказу на пытаньне: "Малая падарожная кніжыца" ці "Апостал" быў першым віленскім Скарынавым выданьнем. Зярнова была сьведамая гэтага пытаньня й раз навет выказалася аб тым, што, судзячы па стане заставіцаў аднае й другое кнігі, выглядае, што першаю зьявілася "Кніжыца". Ды ніякіх канкрэтных прыкладаў-довадаў тады не падала. Вось пра гэта, праўдападобна, Зярнова нешта піша ў сваей перадсьмертнай апошняй працы. Само такое дапушчэньне Зярнова выказала ня першая, бо калісьці, зь іншых праўда меркаваньняў, тое самае думаў і Добровскі. Калі-б гэтая думка цяпер спраўдзілася, гэта значыла-б, што пачатак віленскага Скарынавага друку трэба адсунуць назад найменш на год, перанесьці на год 1524-ты (9). Характэрна, што хоць скарынаведныя досьледы трываюць ужо блізу дзвесьце гадоў, ды й дагэтуль няма пэўнасьці ня толькі аб годзе пачатку віленскага Скарынавага друку, але існуе гіпатэза, што й ягоны друк праскі пачаўся ня ў годзе 1517, а ў 1516! Дык, не зважаючы на ўсю

шматлікую "скарыніяну", пачаткі выдавецка-друкарскае дзейнасьці доктара Скарыны і ў Празе, і ў Вільні й сяньня ня гэтак "муравана" пэўныя, і ня выключана, што гады іх пачаткаў з часам давядзецца яшчэ выпраўляць.

Да тэмы "Скарына й Капіеўскі". — Думаю, што дзеля вялікага адрэзку ў часе, што ляжыць між імі, ды дзеля немалой адлегласьці ў прасторы ад Прагі да Галяндыі, хутчэй непраўдападобна, каб Скарынаў праскі шрыфт знайшоў нейкую дарогу да Амстэрдама, да Капіеўскага. Маю паважнае падазрэньне, што праскі Скарынаў шрыфт "трагічна" зьгінуў пры канфіскаце Скарынавых кнігаў падчас перавозу іх з Прагі да Вільні, канфіскаце, на якую паказваюць некаторыя, выяўленыя ў Вроцлаве, факты. Ды, незалежна ад таго, існавала нейкая матар'яльная сувязь і сузалежнасьць між графічнымі формамі шрыфту Капіеўскага й Скарыны, ці не, гістарычна гэта зьвеньні таго самага эвалюцыйнага працэсу з тае самае геаграфічнае прасторы. Калі супаставіць бачыны з кнігаў Скарынавага друку, кнігаў маскоўскіх Івана Федарава ды пачатковага, яшчэ нерэфармаванага друку амстэрдамскага Ільлі Капіевічу-Капіеўскім ., прыкладам бачыну ягонае кніжыцы 1700 году "Басни Эссоповы", дык лёгка зацеміць, што формы шрыфту Капіеўскага генэтычна выводзяцца не ад шрыфту маскоўскага Івана Федарава, а гэта вынік творчага эвалюцыйнага разьвіцьця графічных традыцыяў Франьцішка Скарыны. Істота гэтае эвалюцыі — гэта далейшае азаходненьне, далейшая "вэстэрнізацыя" кірыліцы.

Беларускія землі здаўна былі месцам шырокага ў часе й прасторы сутыку, узаемаўзьдзеяньня й сынтэзы культурных элемэнтаў Усходу й Захаду. На тэрыторыі Беларусі XVI-XVII ст. кажны адукаваны чалавек чытаў і свабодна карыстаўся ў пісьме й кірыліцай, і лацініцай, бо, побач мовы беларускай і царкоўнаславянскай, знаў звычайна й мову польскую, а часта й лацінскую. Вось дзеля гэтага землі Беларусі — бацькаўшчына й Скарыны, і Капіеўскага, — былі натуральным і ідэальным месцам сынтэзы графічных формаў славянскае кірыліцы із заходняю лацініцай. Працэс гэтае сынтэзы ад Франьцішка Скарыны да Ільлі Капіевіча-Капіеўскага быў толькі натуральнаю й аб'ектыўна зразумелаю зьяваю гістарычна й культурнаабумоўленага genius loci беларускага краю й народу. Лягічным завяршэньнем яго пазьней і было стварэньне амстэрдамскае "гражданкі" Капіеўскага — "беларускае абэцэды", "беларускага шрыфту", як у Расеі XVIII ст. часта й слушна гражданку называлі. Да гэтага, зразумела, дайшло дзякуючы таму, што ў асобе энэргічнага й геніяльнага "вэстэрнізатара" Расеі, цара Пётры I, працэс такое-ж "вэстэрнізацыі" кірыліцы знайшоў когеніяльнага стымулятара, аўтарытэтнага пратэктара й прапагатара. У выніку "беларускі шрыфт", гражданка, — далёкі, але пэўны й легальны патомак шрыфту Скарынавага, — хутка запанаваў на прасторы ўсяе імпэрыі, а з часам і ўсяго ўсходняга славянства.

А пропо Капіеўскага: У расейскай гістарычнай літаратуры яго, яўна праваслаўнага Ільлю, часта й беспадстаўна называюць "паляком", і, ясна, толькі на той аснове, што паходзіў Капіеўскі зь "Літвы", складовае часткі "Рэчыпаспалітае", якую тады звычайна, хоць і няправільна, называлі "Польшчай". "Паляк" аб беларусе Ільлі Капіевічу–Капіеўскім выяўна таго самага канфузнага паходжаньня, што й "паляк" аб Сымону Русу, Скарынавым сыну, і, магчыма, "паляк" аб вітэмбэргскім "доктару Франьцішку".

У глыбокай да Вас пашане,
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Ню Ёрк, 25.1.1966 г.

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Толькі сяньня змог выслаць Вам, у асобным канвэрце, даўно абяцаную новую працу пра нашага Скарыну. Выбачайце за маё доўгае спазьненьне. Дзеля нейкіх тэхнічных перашкодаў з Эўропы, дзе яна друкавалася, маглі яе выслаць толькі цяпер. Гэта мая праца, друкаваная пад маім стала ўжываным псэўдонімам. У ёй, разам з храналягічным аглядам працэсу выяўленьня архіўнае дакумэнтацыі аб доктару Скарыну, дадзенае й кароткае паведамленьне аб новазнойдзеным запісе ў Падуі з фразаю "сакратар караля Дацыі", ды аб некаторых паказаньнях пра магчымую бытнасьць Скарыны ў Вроцлаве й Вітэмбэргу (разьдзелы 8, 11, 12). Тэкст новазнойдзенага падуанскага актавага запісу (які быў выяўлены яшчэ ў 1960 годзе падчас пошукаў "скарыніяны" ў Падуі, што былі праведзеныя на маю просьбу сп. Я. Садоўскім) з падрабязным разглядам тэксту й камэнтарамі прырыхтаваны таксама да друку, але друкавацца хіба будзе толькі ў 1967 годзе, да юбілею Скарынавага друку. У хуткім часе на Ваш адрыс накірую й колькі навейшых рэцэнзійных артыкулаў, што датычаць да Скарыны.

Калі йдзе аб мяне, дык паволі й далей працую ў галіне Скарынавае біяграфіі. Чародная праца высланая ўжо ў Эўропу для друку й, спадзяюся, выйдзе гэтым разам бязь ніякага спазьненьня, яшчэ сёлета. У сваей працы маю й адну нявыгаду: пад рукой у мяне няма кнігі "Чешская библия в истории русской культуры", кампактнасьць якой мяне задзіўляе кажны раз, калі яе адкрываю — ўсяго на 100 бачынах друку там безьліч фактаў, матар'ялу, літаратуры. Даводзіцца, і ці раз, пераканацца, як нешта, што выглядала на новае, нязнанае, даўно ўжо "адкрытая Амэрыка", бо адцемлена найменш ляканічнай фразай нейдзе пэтытам у зносцы ў "Чешская библия...". Вось гэтае цэннае працы ня маю ў сваей прыватнай бібліятэцы й дзеля гэтага, каб часам праверыць тое ці іншае, ды не адкрываць даўно адкрытае, даводзіцца наведваць Публічную Бібліятэку ў Ню Ёрку, дзе ёсьць кніга 12 "Тшыды"

Чэскае Акадэміі Навук. У сувязі з гэтым у мяне й зьяўляецца пытаньне й просьба: можа ёсьць магчымасьць знайсьці й купіць гэтую працу ў Празе? Можа яе запас мае на сваіх складох яшчэ Чэская Акадэмія, якая яе публікавала? Быў-бы вельмі ўдзячны за дапамогу ў гэтай маёй бядзе.

Спадзяюся, што плянаваная Вамі праца над укладам і выданьнем зборніка тэкстаў Скарынавае арыгінальнае творчасьці, ягоных прадмоваў і камэнтароў пасоўваецца наперад. Асьмеліваюся, на ўсякі выпадак, падаць да ведама, што калі-б паўсталі нейкія перашкоды зь яе выданьнем па Вашым боку акіяну, выдаць яе заўсёды можна па боку гэтым.

У глыбокай да Вас пашане
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

16.2.1966

Глубокоуважаемый коллега,

Ваше письмо от 25.1.1966 своевременно получил ■ с нетерпением и самым живым интересом жду оттиска Вашей статьи о Скорине. Но до сегодняшнего дня Ваша статья до меня не дошла!! Кстати, Вы в первом же письме ко мне писали, что Скорина изучал медицину (очевидно по Падуи) ■ **Дании.** В каком именно университете? Откуда Вы имеете эти сведения? И может быть можно было бы навести дополнительную справку ■ архиве в Копенгагене, возможно, что там сохранились списки студентов начала XVI века. Я сейчас весьма ограничен в возможностях активных розысков, так как 3.1. при неудачном падении ■ университете сломал себе **правую** руку (уже вторично), и она еще слабо справляется, хотя кисть руки и позволяет уже писать. Посему — увы, я привязан к дому и к своим книгам и бумагам, Из Минска никаких новостей о Скорине не получил.

Очень спасибо за внимание. Жду — с нетерпением — Ваших новинок.

С найлучшими пожеланиями
А. Флоровский

Глубокоуважаемый коллега,

большое спасибо за Вашу статью. С величайшим интересом следил за Вашими указаниями и соображениями и заключаю, что Ваша биография Скорины будет действительно содержательной и основательной. Надеюсь, что мне удастся в ближайшем же времени устроить для Вас экземпляр моей книги о "Чешской библии". Со своей стороны очень Вас просил бы — нельзя

ли получить и те публикации "С. Брагі", что касаются поездки Скорины в Москву и его сношений с герцогом Альбрехтом Пруским, а равно и те номера 'Žnič', где были опубликованы падуанские акты. Я уже послал ректору Университета в Копенгагене запрос, нет ли в списках тамошних студентов с 1506-1512 г. имени и нашего Скорины. Не уверен, что подобные списки там сохранились! Не выпускаю из головы мысли об издании свода текстов о Скорине, буду двигать это дело. К сожалению, — Вы понимаете, что для меня никак нельзя план этот осуществить за Атлантическим Океаном, надо это сделать где-либо в Европе или Евразии. Надо только заблаговременно подобрать нужный фотографический материал. Думаю, что в Ленинграде и Москве окажется комплет изданий Скорины.

Еще раз — большое спасибо.
С найлучшими пожеланиями
А. Флоровский

8.III.1966
Прага

Ню Ёрк, 17.3.1966 г.

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Вашыя два апошнія лісты шчасьліва дайшлі, і прашу ласкавага выбачэньня за крыху спозьнены на іх адказ. Найперш прыйміце маю шчырую спагаду дзеля няўдачы з рукой, і якраз той, што столькі напісала пра "у лекарскіх навуках доктара" Скарыну! Зычу хуткае й поўнае папраўкі. Калі-б былі патрэбныя нейкія лекі — можна прыслаць з Амэрыкі, хоць паломы косьці і ў Амэрыцы лечаць цяпер прыблізна таксама, як і за часоў Скарыны — зрастаюцца яны самі.

Добра, што адбітка "Лякалізацыя" ўрэшце дайшла. Нажаль, у ей колькі друкарскіх памылак у датах. Дасылаю тут картку з папраўкамі. Затое вялікая мне неспадзеўка Вашая просьба даслаць кніжыцу "Скарына ў Маскве". Выслаў яе Вам яшчэ летась летам, як тады аб гэтым і пісаў. Была яна на Вас ня толькі адрысаваная, але Вам і надпісаная, дык памыліцца пошта не магла ніяк. Сяньня высылаю другі раз і прашу ласкава паведаміць, ці дайшла. Калі й гэтым разам заблудзіць, куды ей ня трэба, вышлю тады пад пячацямі, заказнымі рэгістрацыямі і ўсімі падобнымі паштовымі "загаворамі", каб ужо ніякі хапун у дарозе не хапіў. Разам з адбіткай шлю й тры рэцэнзыйныя артыкулы, у якіх сёе-тое й пра Скарыну. Нумар "Зьніча" й артыкул пра герцага Альбрэхта й Скарыну пастараюся дастаць і выслаць, хоць патрывае пару тыдняў, пакуль іх раздабуду.

Скуль паказаньні на тое, што Скарына вучыўся мэдыцыны ў Даніі? — пакульшто толькі фраза "сакратар караля Дацыі" ў новазнойдзеным падуанскім актавым запісе. Гэта, памойму, лягічна зь яе вынікае. Ад бакаляўрату 1506 г. ў Кракаве, да экзаменаў на доктара мэдыцыны ў 1512 г. ў Падуі, Скарына меў да дыспазыцыі толькі мінімум часу, канечнага для завяршэньня "навук вызваленых", здабыцьця ў гэтай галіне дактарату й праслуханьня ўсяго курсу мэдыцынскага факультэту, — і ніводнага лішняга году больш. Калі, як падаецца ў акце, перад прыездам у Падую ён быў і "сакратаром караля Дацыі", з гэтага лягічна вынікае, што студыяваць мэдыцыну ён мусіў у тымсамым месцы й часе, калі сакратараваў для данскага караля Ганса.

Не дапускаю, каб Скарына, чужынец у Даніі, мог займаць нейкае вельмі высокае й адказнае становішча як каралеўскі сакратар. Найхутчэй толькі час-ад-часу і ў патрэбе яго запрашалі да некаторых сакратарскіх абавязкаў, як "спэцыяліста" ад моваў і ў справах славянскіх прыбалтыйскіх краёў, для адчытаньня, перакладу, парады ці напісаньня ў нейкай важнейшай справе, датычнае да краінаў славянскае Прыбалтыкі. Гэткія прынагодныя сакратарскія абавязкі, хоць і няшмат давалі даходу — у Падую на экзамены Скарына прыехаў бедным — але пазвалялі адбываць адначасна мэдыцынскія студыі й давалі права на карыстаньне ганаровым тытулам "сакратар караля Дацыі", што й знайшло свой адбітак у падуанскіх актах. Канцлерам караля Ганса гэтым часам быў архіяпіскап Энэй з Дронтгайму, і хіба пад ягоным гэта кіраўніцтвам даводзілася Скарыну, доктару навук вызваленых і адначасна студэнту мэдыцыны, даваць час-ад-часу сакратарскія паслугі каралеўскай канцылярыі. Толькі пры падобнай канцэпцыі магчыма сумясьціць Скарынавае сакратарства ў караля зь ягонымі мэдычнымі студыямі, якія ён мусіў гэтым часам адбыць, каб пасьля экстэрнам здабываць дактарат у Падуі.

Цікавіць мяне моцна, ці лацінская фраза пра "сакратара караля Дацыі" ў тэксьце таго дакумэнту, які ў Вас быў ад прафэсара Лё Гатто, даслоўна той самы, як і прыведзены ў "Лёкалізацыя"? Калі-б тэкст нечым розьніўся, гэта сьветчыла-б, што ў Вас тэкст іншага дакумэнту, як запіс у актавай кнізе падуанскае біскупскае курыі. У мяне ёсьць і яшчэ адна кароткая нататка з Падуі, дзе паўтораныя тры словы "сакратар караля Дацыі", з той толькі розьніцай, што гэтым разам "Дацыя" пісаная ўжо зь вялікай літары.

Вельмі добра, што накіравалі ліст да рэктара ўнівэрсытэту ў Капэнгазе ў справе "каралеўскага сакратара. Можа, на шчасьце, унівэрсытэцкія матрыкулы тае пары там захаваліся. Шукаў я іх у Ню Ёрку, з думкай, што можа яны апублікаваныя. Пакульшто знайшоў публікацыю матрыкулаў XVII ст. гэтага ўнівэрсытэту, але не XVI-га. Калі-б карэспандэнцыйна не ўдалося нічога знайсьці й выясьніць — яшчэ гэтым, магчыма, летам у Данію пад'едзе адзін наш малады навуковец зь Лёндану — сп. Я. Садоўскі, той самы, што пры пошуках актавых матар'ялаў пра Скарыну ў Падуі натрапіў на

запіс з фразаю "сакратар караля Дацыі". Пару гадоў таму сп. Садоўскі здабыў на рымскім унівэрсытэце дактарат у галіне літаратуры на аснове дысэртацыі "Франчэско Скарына". На ягоных экзаменах, між іншых, быў і Ваш добры знаёмы, прафэсар Этторэ Лё Гатто. Цяпер др. Садоўскі ў Лёндане, рыхтуецца да другога дактарату, ужо ў галіне мовы — піша працу аб мове "Кніга Царстваў" Скарыны. Ад Лёндану да Капэнгагі ня так і далёка, і, магчыма, у Данію др. Садоўскаму ў хуткім часе ўдасца й пад'ехаць, каб разглянуцца па данскіх архівах за сьлядамі "каралеўскага сакратара". Як практыка паказала, у др. Садоўскага на архіўныя знахадкі "шчасьлівая рука".

Калі ў Празе ніякіх зь Менску навінаў аб Скарыну, дык некаторыя магу перадаць, на падставе менскае прэсы, зь Ню Ёрку. З тамашніх газэтных вестак вынікае, што Вашая думка аб выданьні збору арыгінальнае Скарынавае пісьменьніцкае спадчыны ў Менску была падхопленая й рэалізуецца. Інстытут літаратуры Акадэміі навук БССР прыгатаваў ужо да друку кнігу "Спадчыны" Скарыны, што ў Менску зрабіць было й няцяжка, бо тамашняя Акадэмія ўжо гадоў дзесяць як мае на мікрафільмах усе Скарынавыя выданьні. Але ці гэтая "Спадчына" Скарыны зможа выйсьці друкам яшчэ ў юбілейным 1967 годзе, гэта вялікае пытаньне. Ад апошняга зьезду кампартыі СССР пяць гадоў таму, на якім было пастаноўлена прыступіць да "стирания национальных граней" народаў СССР, лік друкаваных беларускіх кнігаў у БССР рэгулярна й рэзка кажны год абразаецца, нешта там выдаць стае цяжэй і цяжэй. 22.II.1966 у менскім часапісе "Літаратура і мастацтва" паказаўся вялікі артыкул з нараканьнямі на тое, што вельмі мізэрныя прыдзелы паперы на беларускія навуковыя выданьні. Для прыкладу, Інстытуту літаратуры Акадэміі навук БССР дазволена ў 1967 годзе выдаць ня больш 100 друкаваных аркушоў. Паколькі ў тым самым годзе **мусіць** выйсьці зборнік "Да 50-годзьдзя савецкае ўлады" ды прыгатаваная ўжо даўно, гісторыя беларускай літаратуры, ды некаторыя навуковыя працы, што ўсё разам дае больш 200 аркушоў друку, аўтар артыкулу ставіць пытаньне: "А як-жа выдаць двутомны збор твораў М. Багдановіча і **спадчыну Ф. Скарыны** (1967 год — юбілейны для іх)?" З вышэй прыведзенага відаць, што практычная рэалізацыя Вашай ідэі ў Менску напаткае вялікія перашкоды, і публікацыя ў 1967 годзе Скарынавае "Спадчыны" там няпэўная, загрожаная (10).

Крок наперад пасунуліся мае пошукі "службовага ліста" праскага каралеўскага садаўніка. Удалося высьвятліць, што калі "дзеяпісец" Прагі Томэк калісьці пісаў аб тым, што "службовы ліст" Містра Францішко быў напісаны палацінску, дык пра гэта ён знаў толькі ад іншых, самога-ж "службовага ліста" Томэк ніколі ня бачыў. Аб лацінскай мове службовага кантракту Томэк даведаўся зь ліста сакратара праскае каралеўскае Каморы Флёрыяна Ґрысбэка да караля Фэрдынанда, дзе аб "лацінскай" мове ліста гаворыцца. Зь ліста Грысбэка таксама вынікае, што службовы ліст

быў пісаны ў канцылярыі самога караля Фэрдынанда, найхутчэй у Вене, дзе, хіба, арыгіналу й трэба шукаць. У Прагу-ж, выглядае, была перасланая толькі яго копія. Выяўленьне гэтых дэталяў змушае мяне падумаць аб тым, як вымяркаваць час на "арганаўцкае" мораплаваньне праз акіян для пошукаў у Аўстрыі арыгіналу "службовага ліста" Містра Франціско (11). Цікава таксама, што ў панямецку ведзенай перапісцы Фэрдынанда з сваей праскай Каморай, праскі каралеўскі садаўнік заўсёды называецца 'maister Francisco', значыцца "маестро", "містр", и ніколі "магістэр", і таксама ніколі "Франчэско". І ў віленскім, і ў полацкіх судовых актах імя Скарыны падаецца заўсёды як "Франциско». Таксама ў Скарынавай Бібліі, побач "Францишек", ёсьць у прадмове да Кнігі Царстваў і "я Франциско Скорина".

У глыбокай да Вас пашане,
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Прага, 2.V.1966

Глубокоуважаемый коллега, спасибо Вам большое за Ваши оттиски, особенно за статью о Скорине в Москве. Мои скромные соображения о возможности связать текст Фидлера со Скориною Вы дополнили рядом весьма интересных догадок и допущений и создали содержательный "московский эпизод" биографии Скорины. Вижу, что Ваша интенсивная и сосредоточенная разработка скудных материалов о Скорине закончится насыщенной его биографией. От души желаю Вам в этом полного успеха.

Увы, ректор Копенгагенского университета еще не ответил мне на мой запрос. Не знаю, существует ли печатный список студентов Копенгагенского Университета за старые времена или же этот материал еще не извлечен из архивной пыли. Сейчас у меня в Дании нет никого, после смерти года два назад проф. А. Стендер-Петерсена [Aartur].

Сегодня, наконец, получил сведения из Минска об издательских планах Белорусской Академии Наук к юбилею Скорины. Будет издан прежде всего большой (30 печ. л.) сборник 32 статей — при участии белор. и русских авторов (напр. А. А. Сидоров) и авторов из Падуи, Кракова и Вильно. (Почему — и не Пскова?) (12). И мои заметки о Скорине пойдут туда. А затем готовится (трудами кандидатов наук Коршунова и Прашковича) сборник всех предисловий, послесловий в изданиях Скорины, всех гравюр и заставок. В этот сборник войдут и три падуанских акта о Скорине, — очевидно — не все документы о нем. Этот план в общем повторяет мои предположения. Конечно, самое лучшее было бы — найти какие-либо новые материалы о Скорине и его книгах. Но где,

где? У меня все же в голове вертится, что надо бы подумать о возможности связей Скорины и еще с Молдавией и Валахией... Да и Прага пока дала обидно мало и должна была дать еще побольше... Мечты, мечты!!...

С пожеланием всяческих успехов
Ваш А. Флоровский

Ню Ёрк, май, 1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Добра, што адбітка "Скарына ў Маскве" ўрэшце дайшла. Сяньня высылаю нумар журналу, у якім кароткая зацемка "Альбрэхт і Скарына". Яна была пісаная як уводзіны да друкаваных перакладаў лістоў герцага Альбрэхта тады, калі за біяграфію Скарыны я яшчэ ня браўся ,і новага ў ей абсалютна нічога, а ёсьць навет і блытаныя інфармацыі. Тады выглядала, што архіўныя копіі Альбрэхтавых лістоў у Каралеўцы маглі быць зьнішчаныя ў часе вайны. Пасьля пераканаўся, што нямецкія навукоўцы іх рупліва ахоўвалі, з агня вайны вывезьлі й перахавалі, за што прызнаньне ім і пахвала. Надрукаваны таксама пераклад лістоў Альбрэхта, зроблены не з фатастатаў арыгіналаў, якія цяпер маю, а з тэкстаў, друкаваных Мілавідавам, і перадае ўсе ягоныя пропускі, недакладнасьці, памылкі.

Некаторыя клопаты ўсё яшчэ маю і з знаходам тых нумароў "Зьніча", дзе адбіткі падуанскіх актаў. Друкаваныя яны былі ў чатырох нумарох. Апошнія два зь іх ужо маю, два першыя яшчэ шукаю ў амэрыканскіх кальпартэраў гэтага часапісу. Новазнойдзены актавы запіс аб Скарыну, які, зразумела, найбольш Вас цікавіць, зьмешчаны якраз у самым першым нумары. Так ці інакш — гэты нумар раздабуду й дашлю, хоць гэта можа яшчэ й патрываць нейкі час.

Пра юбілейныя пляны Менску да атрыманьня Вашага ліста сёе-тое знаў з інтэрв'ю ў прэсе віцэстаршыні Акадэміі навук БССР К. Крапівы, фатастат якога тут далучаю. Як на Менск, у якім ня гэтак даўно Скарына быў натолькі "буржуазным", што было лепей пра яго й ня згадваць, — зьяўленьне выданьня, у якім аб ім і ягонай Біблії будуць пісаць хоць і не "70 талкоўнікаў", усё-ж аж 32 — гэта запраўды гістарычная падзея (13).Нязвычайна важнае выданьне прадмоваў ды гравюраў Скарыны, што рыхтуюць Прашковіч і Коршунаў. Асабліва першы зь іх навуковец вельмі здольны, з самастойнымі думкамі й канцэпцыямі. На жаль, апошнімі месяцамі ён трапіў пад агонь вострае атакі, і баюся, каб гэта не пашкодзіла і яму, і кнізе. Найперш, год таму ён збунтаваўся супроць перахрышчваньня Скарыны ў друку БССР з "Францішка" на "Георгія", заявіў, што гэта памылка, стаў пісаць толькі

"Франьцішак", за ім пайшлі іншыя беларускія пісьменьнікі БССР. Пазьней Прашковіч надрукаваў артыкул з гэткімі "страшнымі" думкамі, як тая, што палажэньне сялян у XVI і пачатку XVII ст.ст. у Маскоўскім Княстве было колькі разоў цяжэйшае, як у Вялікім Княстве Літоўскім. Разам напісаў і такую "ерась", што, каб лепш пазнаць пару рэлігійных змаганьняў на землях Беларусі XVII ст., трэ было-б перадрукаваць палемічныя творы ня толькі аўтараў тае пары праваслаўных, але й вуніяцкіх, як, прыкладам, мітрапалітаў Пацея й Косава.

На гэта ў "Советской Белоруссии" нядаўна зьявілася вельмі вострая атака з пагрозамі Прашковічу й рэдакцыі "Полымя", дзе ягоны артыкул быў надрукаваны. Царская акадэмія навук ды іншыя навуковыя ўстановы калісьці бязь ніякага страху перадрукоўвалі творы шмат якіх вунійных дзеячоў, і навет такога фанатыка, як Язафат Кунцэвіч. І тады неяк ніхто не ўважаў гэтага за нейкую здраду рускаму народу, ці праваслаўю. Бедны Прашковіч, відавочна, зусім не прадбачыў, што хоць такія перадрукі можна было рабіць за "самодержавно-православным" рэжымам, дык забароненыя яны пры ўладзе "народна-дэмакратычнай" і атэістычнай, для якое ўсе рэлігіі маюць аднолькавую цану. Справа для Прашковіча выглядае асабліва паважна дзеля таго, што атака паведзеная не ў беларускай "Звяздзе", а ў "Советской Белоруссии" — воргане расейскае адміністрацыі рэспублікі — фактычных гаспадароў Беларусі. Трэба спадзявацца, што пры лагодным клімаце цяперашняе "адлігі" хвароба Прашковіча будзе лячыцца на месцы, бяз высылкі ў "курорты", і што ўся справа ня прынясе паважнейшае шкоды яму, ягонай навуковай кар'еры й кнізе Скарыны.

Варочаючыся да менскага пляну юбілейных выданьняў, трэба прызнаць, што выглядае ён даволі паважна, хоць залежыць шмат і ад таго, як будзе выкананы. Год таму, у часе аднаго з рэфэратаў аб Скарыну ў Ню Ёрку, я выказаў пагляд, што, каб стварыць салідную базу для грунтоўнага вывучэньня Скарыны й ягонае культурна-духовае спадчыны, спачатку неабходна прыгатова й публікацыя гэткіх сямі фундамэнтальных для ўсяе "скарынаведы" выданьняў: 1. зборніка ўсіх ведамых аб ім актаў; 2. бібліяграфію ўсяе "скарыніяны" XVI - XX ст.ст.; 3. зборніка ўсяе арыгінальнае творчасьці Скарыны (прадмовы, паслоўі); 4. альбомаў усіх гравюраў, заставіцаў, ініцыялаў і шрыфтоў Скарынавых выданьняў; 5. тому мадэрнае біяграфіі Скарыны; 6. слоўніка мовы Скарыны і 7. акадэмічнае перавыданьне ўсіх Скарынавых кнігаў — 8 тамоў прыблізна па 500 бачынаў друку.

Калі год таму пра падобныя праекты можна было гаварыць толькі як пра справу нейкае далёкае будучыні, дык, неспадзявана, палавіна гэтага магчыма будзе зрэалізаваная ўжо ў будучым 1967 годзе: зборнік прадмоваў і гравюраў і некаторыя акты мае выдаць Менск, у Ню Ёрку-ж гатовая ўжо, а мо будзе й надрукаваная, бібліяграфія "скарыніяны" (каля 1000 пазыцыяў, да 1965 году

ўключна) (14). Да чароднага Скарынавага юбілею ў 1975 годзе — 450 гадоў ад выхаду віленскага "Апостала" — можна было-б і завяршыць увесь плян укамплектаваньнем і друкам зборніка актаў, выданьня біяграфіі, прыгатоваю й выданьнем слоўніка мовы Скарыны (яго калісьці апрацаваў ужо Владзіміраў і, хіба, ён нейдзе ляжыць у ягоных пасьмертных архівах), і — завяршыць і ўкаранаваць усё ў годзе 1975-м юбілейным васьмітомным перавыданьнем усяе Скарынавае друкаванае спадчыны. Выданьне такое сваімі памерамі й дыяпазонам навуковага значаньня запраўды годнае нацыянальна-навуковых заданьняў Беларускае Акадэміі Навук. Гэта аснова-асноваў для ўсебаковага вывучэньня спадчыны Скарыны, патрэбнае вельмі спэцыялістам мовы, літаратуры, мастацтва, тэалёгіі, кнігаведам, гісторыкам друку. Падобныя перавыданьні важнейшых старадрукаў на Захадзе цяпер робяцца часта, паколькі тэхніка фатадруку шмат танейшая й практычнейшая за набор, і фінансава гэта невялікая праблема. Вось, заклаўшы падобны салідны фундамэнт, можна будзе "пачынаць" запраўдныя скарынаведныя студыі. Цяпер усё йдзе прыпадкова, спарадычна, ахвярнаю працаю паасобных дасьледнікаў, і пераважна "ўпоцемках", бяз доступу да асноўнага жарала - арыгінальных тэкстаў.

З усяго выглядае, што Вашыя аўтарытэтныя рады палі ў Менску на добры грунт і могуць даць неблагі ўраджай. Было-б яшчэ добра, каб хто аўтарытэтна шапнуў на вуха рэдактаром зборніка Скарынавае спадчыны, каб побач падуанскіх актаў, якія разоў пару й так ужо перадрукоўваліся, былі надрукаваныя тыя дакумэнты, якіх яшчэ ніхто нідзе не друкаваў — акты пазнанскія. У іх могуць аказацца важныя новыя весткі аб Скарыну. Аб зьмесьце іх пакульшто ведама сёе-тое толькі дзякуючы кароткаму пераказу М. Вайцяхоўскай (15).

Што да магчымасьці зьвязаць Скарыну з Малдавіяй і Валахіяй — гадоў пяць таму думаў і я, ці ня шукаць сьлядоў Скарыны й на землях старое рымскае "Дацыі". Пасьля гэтую думку адкінуў дзеля колькіх меркаваньняў, а галоўна таму, што калі-б у "рымскай Дацыі" Скарына прабываў перад сваім прыездам у Падую ў 1512 годзе, дык немагчыма тады выясьніць, дзе, на якім унівэрсытэце студыяваў ён гэтым часам мэдыцыну, бо-ж унівэрсытэтаў ні ў Малдавіі, ні ў Валахіі, здаецца, ня было. Дзеля гэтага, мне здавалася, гэты кірунак пошукаў — сьляпы тор, хоць, пэўне-ж, у жыцьцяпісе такога кідкога, рухавага чалавека, як Скарына, могуць быць і рэчы на нашую думку й зусім "нелягічныя".

Іншая рэч — Прага. Там акты пра Скарыну павінны яшчэ быць. І шукаць іх трэба было-б найперш там, дзе ляжыць перапіска караля Фэрдынанда з сакратаром Чэскае Каморы Грысбэкам і каштэлянам праскага замку Герсдорфам у справах, зьвязаных з заснаваньнем каралеўскага саду на Градчанах. Частка гэтых актаў калісьці была ўжо апублікаваная, маю зь іх і выпіскі з анатацыяй архіўных нумароў некаторых актаў. Справа ў тым, каб нехта ме-

час і цярплівасьць пераглядзець гэтую часьць праскага архіву за гады 1534-1540, з спэцыяльнаю ўвагаю на магчымыя весткі [illegible] дакумэнты пра "Доктара Франьцішка Руса Скарыну з Полацка, колішняга нашага садаўніка". Ёсьць вялікая праўдападобнасьць, што там можна натрапіць і на нешта новае й важнае пра Скарынусадаўніка ў Празе. Калі-б думалі, што гэткія "юбілейныя" пошукі варта й можна пачынаць — рады перашлю тыя інфармацыі, што маю, разам з нумарамі адпаведных актаў, якія могуць служыць за арыентацыйныя ніткі, дзе пошукі пачынаць.

У глыбокай да Вас пашане
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Ню Ёрк, 25.5.1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Скамплектаваў урэшце і ў асобным канвэрце, як друк, высылаю чатыры нумары прошанага Вамі часапісу "Зьніч", нумары, у якіх рэпрадукаваныя падуанскія актавыя запісы аб Скарыну (нр. 56, 1960; нр. 61, 62-63, 1961; нр. 64-65, 1962). Спадзяюся, што шчасьліва дойдуць, аб чым прашу ласкава паведаміць.

Патрыятычны ўводны артыкул "Баранем нашых вучоных" у нр. 56 (б. 7), якім пачынаецца друк актаў, падпісаны літарай "Г", гэта артыкул рэдактара "Зьніча", айца доктара (цяпер пралата) Пётры Татарыновіча. Гэта яму ў 1959 годзе я паслаў інфармацыі Віндакевіча й Шляпкіна пра месца перахоўваньня ў Падуі актаў ды іхныя архіўныя нумары. У выніку мае просьбы сп. Я. Садоўскі й езьдзіў у Падую, каб зрабіць мікрафільмы ўнівэрсытэцкіх актаў, ды пры гэтай нагодзе знайшоў і запіс аб Скарыну ў архіве падуанскай біскупскай курыі.

Зварочваю ўвагу, што зьмешчаная ў нр. 56-м фатарэпрадукцыя новазнойдзенага запісу ў актавай кнізе падуанскага біскупскага палацу крыху некамплетная, не дае ўсяго тэксту запісу, бо два апошнія радкі там абрэзаныя, на клішу ня трапілі. Таксама кароткія (італьянскую й лацінскую) запіскі аб экзамінах Скарыны рэдактар памясьціў без інфармацыі калі, кім і пры якой нагодзе яны робленыя. Інфармацыя аб гэтым усім будзе дадзеная пры плянаванай публікацыі актаў у будучым юбілейным годзе.

У глыбокай пашане, адданы Вам
Вітаўт Тумаш

16.VI.1966, Прага

Глубокоуважаемый коллега, одновременно с этим письмом посылаю Вам экземпляр моей работы о "Чешской Библии", к сожалению без титульной обложки, пришлось прямо изъять из тома сборника. Очень благодарю Вас за присылку номера "Записы" со статейкой об Альбрехте и Скорине.

На днях я получил из Минска от М. Р. Судника, возглавляющего комиссию по чествованию Скорины, новые сведения о тамошних приготовлениях. Пока ясно, что готовится сборник статей о Скорине и белорусском книгопечатании. Готовится и переиздание предисловий (А. Ф. Коршунов), хотя и не уверены еще, что поспеет к юбилею, на ближайший 1967 г. много и иных издательских планов. О своде биографических материалов еще только думают — по моим указаниям, и теперь запрашивают меня, сколько бы это потребовало места. Думаю — немного, максимум 5 печатных листов. Ведь правда? Даже если включить туда и не выявленные еще познанские данные и даже переводы латинских и иных иноязычных текстов. К сожалению, все же мы мало знаем!

На днях я получил, наконец, от ректора копенгагенского университета любезный ответ, но увы — отрицательный! — Они провели там у себя широкое обследование и архивного материала и печатных материалов по истории и Университета и королевской канцелярии. Списка студентов до 1611 г. сгорели еще в 1728 г. Нигде нет никаких следов имени Скорины. Не нашли его ни в актах архивов, ни в датских публикациях G. Galstera i W. Christiansena. Нет ничего и в книге Христиансена 'Public Administration in the 15th Century', 1903. Письмо написано по английски, и это заглавие, вероятно, перевод с датского. Нет имени Скорины и в алфавите служащих канцелярии при короле Христиане II. Ректор кончает так: 'Here again the result was negative. We therefore regret that it is not possible to give you any positive help in this matter'.

Я не думаю, чтобы это как-нибудь поколебало позицию Скорины, как "секретаря короля" но Datiae — Дания ли? Почему я хорошо запомнил, что в показанном мне Ло Гатто тексте было Дации — Daciae. Ну, я не видал самой падуанской рукописи и не мог сделать и копии с документа, поскольку Ло Гатто мне показал это не для использования.

Во всяком случае с величайшим интересом и вниманием слежу за ходом Ваших розысков и исследований, за Вашим старанием — и умением — извлечь из огорчительно скудных сообщений максимум положительных данных. Жалею, что пока не имею возможности порыться снова в здешних архивах, авось что-нибудь да нашлось бы!

Дружески жму Вашу руку
А. Флоровский

Ню Ёрк, 24.6.1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Дзякую за Ваш ласкавы ліст зь весткамі з Капэнгагі пра "сакратара караля Дацыі", весткамі нэгатыўнымі. Вялікая няўдача, што сьпісы студэнтаў Скарынавае пары там згарэлі — гэта перасякае ўсякую магчымасьць пытаньне студыяў Скарыны ў Даніі праверыць. Калі пра Скарыну няма нічога ў кнізе Хрысьціянсэна аб адміністрацыі XV ст., а таксама і ў сьпісе служачых канцылярыі караля Хрысьціяна II, гэта зразумела: Скарына ў Даніі калі быў, дык быў ня ў XV ст., а ў XVI, і на службе не ў караля Хрысьціяна, а ў ягонага сына, караля Ганса. Пры тым тытул "каралеўскі сакратар" быў выяўна больш ганаровым, а абавязкі — хутчэй прынагодныя. Паказваюць на гэта два мамэнты: папершае, у тым самым часе Скарына мусіў студыяваць мэдыцыну, і на іншыя заняткі часу ў яго заставалася хіба-ж ня так шмат. Падругое — "каралеўскі сакратар" змушаны прасіць падуанскую Калегію, каб тая дапусьціла яго, дзеля незаможнасьці, да экзаменаў бясплатна. З гэтага відаць, што прыбыткаў з свайго сакратарства меў ён вельмі мала, ці, можа, і ніякіх, і што сакратарства было больш ганаровым тытулам, як даходнаю прафэсіяй. Таму цяжка й спадзявацца, каб прозьвішча Скарыны можна было знайсьці ў нейкіх сьпіскох каралеўскіх канцылярыстых. Іншая справа з унівэрсытэцкімі запісамі, але яны якраз не захаваліся.

Між іншым, чыню спробы справу Скарынавае "Дацыі" шырэй выясьніць і я, і, тымчасам, пасунуўся наперад на толькі, што знайшоў, дзе, у якім архіве знаходзяцца акты перапіскі Даніі з Рэчыпаспалітай з гадоў 1506-1512. У месяцы верасьні (сентябрь) у Капэнгазе мае быць найлепшы знаўца данскіх архівалія ў , датычных да Польшчы й Вялікага Княства Літоўскага, др. Л. Кочы, і ён абяцяў перагледзець уважна гэтыя акты, ці ня знойдуцца там нейкія сьляды "сакратара караля Дацыі". Пабачым, якія будуць вынікі "экспэдыцыі" гэтага выдатнага спэцыялісты справаў данскіх.

Што Данію ў Скарынавую пару палацінску называлі "Дацыяй" — у гэтым няма сумлеваў. Давялося бачыць рэпрадукцыі аж дзьвёх, з розных гадоў, маестатычных пячацяў караля Ганса, і на абедзьвюх ёсьць "Дацыя", раз пісаная праз "т", другі раз праз "ц". Здарылася пераглядаць тэксты колькіх лістоў дыпляматычнае перапіскі з тае самае пары, там таксама "Дацыя". З гэтага вынікае, што калі-б навет і ўсе пошукі за сьлядамі Скарыны ў Даніі засталіся нэгатыўнымі, Данія застанецца й далей Скарынавай Дацыяй да пары, пакуль нехта канкрэтна, на довадах, не пакажа, пра якую іншую "Дацыю" тут можа быць гутарка.

Як у вадным з папярэдніх сваіх лістоў ужо пісаў, наддунайскія землі старое рымскае Траянавае Дацыі, найперш Малдавія й Валахія, не даюць падставаў браць іх паважна на ўвагу ў біяграфіі Скарыны. І ўсё-ж, пад уражаньнем нэгатыўных, тымчасам,

вестак з Капэнгагі, ад колькіх дзён дасьпела ў мяне канцэпцыя, якую, думаю, трэба таксама спраўдзіць, і якою сяньня хачу з Вамі тут падзяліцца.

1512 год, калі ў Падуі дактарызаваўся "сакратар караля Дацыі". у Італіі — апагей Рэнэсансу з захапленьнем антычнаю культурай, гісторыяй, тэрміналёгіяй. Тады й папу рымскага часта называлі не "Намесьнікам Хрыста", а 'Pontifex Maximus'. Пры гэткай модзе на антычнасьць і Дацыя падуанскага актавага запісу, магчыма, звычайная рэнэсансавая мэтафара, пад якою можа быць скрыты кажны край, што ляжаў нейдзе прыблізна ў боку старое рымскае Дацыі, незалежна ад таго, ці ў запраўднасьці яго тады так афіцыйна называлі, ці не. У ліку іх магла быць і Вугрыя, а навет і Чэхія. Паколькі-ж каралём Вугрыі быў тады Ўладыслаў Ягайлавіч, можа гэта ён і названы "каралём Дацыі"? Гэта вяло-б нас да тае самае "Залатое Прагі", дзе Скарына быў двойчы й пазьней. Такая канцэпцыя ставіць магчымасьць трэцяга побыту Скарыны ў Празе й дазваляе аж тры адрэзкі Скарынавага жыцьцяпісу зьвесьці да аднаго "праскага назоўніка". Выглядае гэта геніяльна проста! Дзеля гэтага варта, на ўсякі выпадак, праверыць і тое, ці "Дацыя" падуанскага пісара не рэнэсансавая зашыфроўка Вугрыі, або Чэхіі, тымбольш, што Прага, не Малдавія ці Валахія — там унівэрсытэт быў. Праўда, некаторыя аўтары думаюць, што праскі мэдыцынскі факультэт на пачатку XVI ст. ня быў дзейным. Нешта падобнае піша й др. Дварчанін у сваім артыкуле, друкаваным у дасланым Вам нумары "Запісаў". Дварчанін там падае (б. 69) навет і нейкага Franciscus de Litania на праскім унівэрсытэце. Усе дадзеныя Дварчаніна, на жаль, мала да выясьненьня гэтага пытаньня памоцныя, бо ён не дае гадоў запісу паасобнага прозьвішча ў праскую Liber Decanorum. Кнігу гэтую давядзецца перагледзець нанава.

Канцэпцыя гэтая чыста гіпатэтычная, бязь ніякіх, тымчасам, довадаў. Пакульшто мне навет няведама, ці кароль Уладыслаў сябе сам, ці хто іншы яго калі-небудзь "каралём Дацыі" й запраўды называў. Праверыць, аднак-жа, і гэткую магчымасьць — "рища в тропу Трояню" паводле аўтара "Слова аб палку Ігаравым" — варта й трэба. Калі выявіцца, што яна нярэальная, тым з большаю падставай можна будзе гаварыць аб Даніі, як Скарынавай Дацыі.

У глыбокай да Вас пашане
Ваш Вітаўт Тумаш

Ню Ёрк, 31.8.1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Паведамляю, што "Чешская библия..." шчасьліва дайшла. Канвэрт рассыпаўся на кусочкі, але праца, перавязаная рупнаю рукою паштара шнурком, зьявілася. Удзячны за яе вельмі. Побач манаграфіі Владзімірава й "Чатырохсотлецьця беларускага друку", гэта фундамэнтальная публікацыя нашае "скарынаведы".

Спадзяюся, што й высланыя нумары "Зьніча" дайшлі ўжо па адрысу. Шкадую, што для большае пэўнасьці ня выслаў іх заказным. Не дзеля гэтага, каб канвэрт ня вытрымаў, але таму, што гэта часапіс рэлігійны, і на мяжы між Захадам і Ўсходам, чаго добрага, могуць падумаць, што ён высланы для царкоўнае прапаганды.

Чакаю весткі, што "Зьніч" на месцы й што ўся транзакцыя нашага "культурнага абмену" завершаная. У выпадку-ж, калі-б ён доўга не зьяўляўся, паведаміце — змабілізую новы камплект і накірую пад аховаю ўжо заказных пячацяў.

У глыбокай да Вас пашане
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега,

После значительного перерыва возвращаюсь опять к Скорине! Надо к концу года послать в Минск обзор "Скоринианы" за последних 30 лет, как продолжение 'Scorinian'ы В. И. Пичеты. Надо будет полностью учесть и все, что написано о Скорине вне СССР, т.е. и у Вас в Америке, и в Мюнхене и т. д. К сожалению — "Зьнич" до меня еще не дошел, а его-то отметить надо особо, раз в нем был впервые опубликован новый падуанский материал. Было ли о Скорине что-либо опубликовано вне СССР и помимо Ваших интереснейших статей? Особенно в период последней войны и за двадцать лет после нее? Советскую литературу я знаю, хотя м. б. кое-что местное, собственно белорусское — и прошло мимо меня.

Недавно мне передали, что в Минске имеют какие-то сведения о наличности в какой-то пражской церкви бюста Скорины! Думаю, что это праздный слух! Но — возможно, что Скорина был действительно похоронен где-либо в Праге, и м. б. было где-либо его надгробие с изображением. Но найти это невозможно! Таких надгробий в Праге много — и внутри церквей, и на внешних их стенах. Но многие из них так стерты, что никак нельзя разобрать, а надпись не поддается прочтению. Увы — мне иногда снится, что я нашел место, где была типография Скорины, — теперь в "Старом Месте" Пражском ведутся большие реставрационные работы, и можно очень бы допустить, что вдруг наткнутся на какой-нибудь

подвал, где действительно была типография Скорины! Однако — это все мечты, мечты! Будем надеяться, что кто-нибудь что-нибудь новое о Скорине да обнаружит!

М. б. было бы целесообразно ознакомить Вас с текстом моего обзора еще до его напечатания? У Вас наверно найдутся какие-либо поправки и уточнения. Это ведь дело общего научного интереса и надо действовать 'Viribus unitis'.

С найлучшими пожеланиями
Ваш А. Флоровский

16.IX.1966
Прага

Ню Ёрк, 28.9.1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Ваш ласкавы ліст з 16.IX.66 атрымаў. Бачу зь яго, што ўсё-ж высланы чатыры месяцы таму "Зьніч" падарозе нейкія "хапуны" хапілі. Віна тут і мая. Ад колькіх гадоў звычайнай поштай дастаю з Брытанскага Музэю і некаторых іншых бібліятэкаў Эўропы даволі шмат розных друкаў — фатастатаў, мікрафільмаў, — і заўсёды ўсё даходзіць. Дзеля гэтага, не падумаўшы, і "Зьніч" накіраваў перасылкай звычайнай, як друк. Бяда, аднак-жа, невялікая. Маю ўжо новы камплект патрэбных нумароў "Зьніча". За дзень-два накірую Вам ізноў ужо лётнай поштай і заказным — павінен за тыдзень, за два быць у Вас. Калі-б і гэтым разам нешта зь ім сталася — пішэце, вышлю раз трэці й спосабам яшчэ іншым.

Менскія чуткі пра бюст Скарыны ў Празе ўсё-ж цікавыя вельмі, калі навет і непраўдзівыя! Год таму, у вадным зь лістоў я выказаў маё "юбілейнае" пажаданьне: знайсьці ў Празе магілу Скарыны. Пэўне—ж, гэта было тады пажаданьне больш рытарычнае, як рэальна-практычнае. А тымчасам, чаго добрага, магілу нехта дасужы — і якраз да юбілею — знайшоў! Гроб Скарыны — калі ў гэтым усім ёсьць нейкае зерне праўды — павінен знаходзіцца нейдзе ў сьценах, падвалах ці катакомбах царквы Сьвятога Віта, дзе ў часы Скарыны сьвятаром быў выдатны канонік вышэградзкі — Ян з Пухова. З факту, што па сьмерці доктара Скарыны ён заапекаваўся ягонымі асірочанымі дзецьмі, трэба дапушчаць, што гэта ён хаваў і самога Скарыну, і, зусім магчыма, што пахаваў яго ў царкве сваей — Сьвятога Віта.

Што да "скарыніяны" за межамі СССР, дык мая картатэка рэгіструе яе звыш 300 за апошніх 40 гадоў. Але ў гэтым шмат рознае драбніцы, звычайнай хронікі, шмат публіцыстыкі. Адкінуўшы ўсё гэта, застанецца ня гэтак і шмат. Ня ведаючы, што Вашым аглядам ужо абнята, а што не, немагчыма сказаць і пра тое, што можна й варта яшчэ дадаць. Для гэтага трэба было-б, як правільна Вы й адцемілі, пазнаёміцца з самым тэкстам агляду. Сёе-тое, думаю, знойдзецца напэўна, што змагу дадаць "скарынаведзе" на карысьць

і дабро, а нашаму Доктару лекарскіх і вызваленых навук на славу!

У 1925/26 акадэмічным годзе на Карлавым праскім унівэрсытэце, пад апекаю прафэсароў Махаля й Францэва, дактарызаваўся Ігнат Дварчанін. Тэма дысэртацыі: Ignac Dvorčanin, František Skorina jako kulturni pracovnik a humanista na běloruské půde. Нумар дысэртацыі ў архіве ўнівэрсытэту: AUK, Nr. 1331. Цікава было-б з гэтай працай пазнаёміцца. Сам др. Дварчанін стаў тымчасам ужо "гісторыяй". Пасьля павароту з Чэхіі, быў ён выбраны паслом у польскі парлямэнт, трапіў з часам пад суд і ў вязьніцу, пасьля — у БССР, а гадоў колькі пазьней загінуў на Салаўках. Калі магчыма, прашу падаць дакладны адрыс архіву Праскага Карлавага Ўнівэрсытэту. Хачу спробаваць заказаць мікрафільм дысэртацыі, хоць ня шмат надзеі, што атрымаю. Можа ў Вас ёсьць добрая рада, як найпрасьцей і найлягчэй мікрафільм дысэртацыі з архіву дастаць?

У глыбокай пашане
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Прага. 19.10.1966

Глубокоуважаемый коллега, сердечное спасибо за номера Žnič а. Это очень ценная публикация, хотя снимки и не четки. Надо будет сравнивать их с изданием Шляпкина (16). Записка с упоминанием 'Secretarii regis Daciae' очень интересна. Я не решаюсь сейчас утверждать, прошло уже 30 лет, как я видел статейку ■ руках Lo Gatto, но мне почему-то помнится, что в имевшемся у него тексте слова 'Secretarii, etc.' были ■ середине текста, а не в начале, так что может быть, что у него был иной текст! Впрочем, не могу сказать наверно, да довольно и того, что сейчас мы располагаем записью с этим текстом. Надо только его еще до конца продумать и правильно истолковать.

Рукопись диссертации Дворчанина, оказывается, уже заинтересовала и Минск, и отсюда через здешнюю Славянскую Библиотеку выслан микрофильм этой работы! В ближайшее время я буду иметь случай ознакомиться с нею и — если Вы хотите — изготовлю указанный микрофильм и для Вас через фотоателье здешнего университета — отлично работает. Надо только подумать о способе покрытия расходов.

В ближайшее время сажусь за обработку 'Scoriniana' за 1925-1966 гг. Надеюсь за 2-3 недели овладеть это ■ тогда позволю себе выслать Вам для просмотра ■ уточнения свой элаборат. И не позднее этого Рождества.

С наилучшими пожеланиями,
Ваш А. Флоровский

(*Бумага ужасная!*)

Нью Ёрк, 25.10.1966

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Рады, што "Зьніч", хоць і за другім толькі наваротам, але ў канцы дайшоў. Дзякую за ласкавую абяцаную дапамогу пры раздабыцьці мікрафільму дакторскае дысэртацыі Дварчаніна. Суму, патрэбную на пакрыцьцё коштаў мікрафільму й перасылкі, магу выслаць адразу паштовым пераказам, як толькі атрымаю паведамленьне, колькі прыблізна будзе ўсё каштаваць. А калі-б гэта ня чыніла Вам вялікага клопату, можна было-б мікрафільм зрабіць адразу ўжо цяпер і выслаць на мой адрыс (заказным), а належнасьць накірую Вам адразу па атрыманьні паведамленьня вышыні коштаў.

У глыбокай пашане,
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега, в новом 1967 году желаю Вам всего найлучшего — здоровья, как и новых успехов во всех Ваших начинаниях! И конечно — в обзоре Скориноведения и прославления Др. Скорины. Обзор 'Scoriniana' за 1926-1966 г.г. уже отослан в Минск, обещают непременно включить в сборник, но по-белорусски! Не могу возражать! Только что получил из Минска новую изящную книжечку о »**Георгии** Скорине" С. К. Майхровича. Ничего нового нет, о Дании ничего еще не знает, мою 'Scorinianu' не цитирует и боюсь, что о моих, "чешского ученого", "находках" знает скорее всего только по Алексютовичу. Но — очень патетически юбилейно написано.

Кстати, не было ли в Америке что-либо издано о Скорине за последние 20-30 лет? Напр., нет ли чего о нем в книге Н. П. Вакара, или у кого иного, кто писал о Белоруссии? Еще насобираю разные справки для внесения в обзор, где, конечно, много о Ваших интересных работах. Надеюсь, что при переводе на белорусский, ничего из этого не исключат и не изменят.

Жму руку,
Ваш
А.Флоровский

27.XII. 1966

Ню Ёрк, 24.2.1967

Высокадастойны Спадару Прафэсару!

У канвэрце, разам зь лістом, карэктурны водціск рэцэнзіі на артыкул А. А. Сідарава, рэцэнзіі, зьмешчанае ў кн. 4 "Запісаў" (1966 г., б. 265-268). Памінаючы палемічную яе частку, зьвернутая там — хіба ў скарынінскай літаратуры першы раз — увага на факт, што заблудаўскае "Евангеліе учительное" 1569 г. зьявілася ня толькі пад уплывам выдавецкіх традыцыяў Скарыны, але навет і зь перадрукам цэлых абзацаў зь ягоных прадмоваў. Дык ня толькі кнігі Буднага, Цяпінскга, друкі віленскага Сьвятатраецкага Брацтва, але й выданьні заблудаўскія маюць на сабе таўро Скарынавага творчага пачыну. Дык уплыў Скарыны адчуваецца, і моцна, на друку Беларусі ўсяго XVI ст.

У той самай кнізе 4 "Запісаў" 1966 г. надрукавана іі праца: С. Брага, — "Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры" (б. 184-215). У ей разгляд справы "Францішак — Георгі" й этымалёгіі прозьвішча "Скарына", з высновам, што ўсе навейшыя архіўныя адкрыцьці пацьвярджаюць тэзу Г.Лаўмянскага: "Георгі" з "Эгрэгії". Як толькі дастану з Эўропы гэтую працу — што можа патрываць тыдні — адразу яе накірую для Вашае ласкавае ўвагі.

Разам у канвэрце й фатастат газэтнае справаздачы з майго рэфэрату яшчэ 1965 году пра "Скарыніяну" апошніх 40 гадоў, якая можа Вас цікавіць, як аўтара артыкулу на тую самую тэму, што мае зьявіцца ў менскім зборніку. Што да "амэрыканскае" Скарыніяны за гэты самы час, дык яе, паважнейшае, ня гэтак шмат, але яна ёсьць. Апрача маіх, друкаваных у ЗША, артыкулаў, якія Вам ведамыя, было й яшчэ каля дзесяцёх розных публікацыяў, дзе пра Скарыну ці то адмысловыя разьдзелы, ці, найменш, бачыны. Новага ў іх абсалютна нічога. Усё "перапевы" — прыкрашаныя часта грубымі памылкамі — з старых эўрапэйскіх публікацыяў. Найбольш "арыгінальнага", а навет "фантастычнага", як калісьці казаў Пічэта, якраз у Вакара. Гэты дасужы "амэрыканскі вучоны", побач безьлічы іншых недарэчнасьцяў у сваей кнізе, і пра Скарыну напісаў, што "Ягоны (Скарынаў — В. Т.) пераклад Бібліі на народную мову быў перадрукаваны ў Вільні братамі Мамонічамі, якія заснавалі там першую друкарню ў 1525 годзе"! 'His vernacular translation of the Bible was reprinted in Vilna by the brothers Mamonic, who set up the first printing press there in 1525'. [N. P. Vakar, Belorussia, The making of a Nation. Cambridge, Mass. 1956, p. 53]. Гэта кур'ёз, падобны да таго, калі-б нехта казаў, што кнігі Івана Фёдарава, за яго яшчэ жыцьця, у сваей друкарні перадрукаваў Капіевіч-Капіеўскі!

Праф. др. Л. Кочы (цяпер у Глязгове, Шкоцыя) пісаў, што ў Даніі зможа ён быць толькі пад канец году й тады перагляне тамашнія архівы ў пошуках сьлядоў прабываньня там нашага

доктара Франьцішка. Хоць і ад гэтага часу мінула ўжо колькі месяцаў, ніякіх тымчасам ад яго навінаў пра ”сакратара караля Дацыі”. Затое на XX-м Міжнародным кангрэсе гісторыкаў мэдыцыны ў Заходнім Бэрліне, увосені 1966 г., у рэфэраце пра слаўнага доктара Эўропы пары Рэнэсансу Парацэльза, была выказаная правільная думка, што Парацэльз у Вільні напэўна сустрэўся з доктарам Скарынам. Колькі тыдняў таму, таксама, прыйшоў пакет з фатаадбіткамі 14 пазнанскіх актавых запісаў пра доктара Скарыну й ягонага брата Івана. Гэтак удалося ўканцы скамплетаваць тэксты ўсіх актаў і дакумэнтаў пра Скарыну, якіх сабралася ўжо больш сарака. Палавіну гэтага маю ў фатаадбітках арыгінальных архіўных запісаў. У юбілейным годзе пра Скарыну нешта, зразумела, выйдзе й на ”капіталістычным захадзе”, хоць, дзеля фінансавых клопатаў, сяньня цяжка яшчэ дакладней сказаць, што й калі. У Ню Ёрку, між іншым, ідзе ўжо падрыхтова да тае скарынінскае выстаўкі, пра якую я згадваў гады два таму. Мае яна быць наладжаная ў найбольшай бібліятэцы Ню Ёрку і ў ваднэй з найбольшых бібліятэкаў сьвету — Нюёркскай Публічнай.

Гэта будуць, бадай, і ўсе на сяньня мае навіны з фронту сучаснае ”Скарыніяны”. Думаю, што, не зважаючы на цяперашнюю лібэралізацыю, менскія цэнзары ня вытрываюць, каб у скарынінскім зборніку АН БССР сёе-тое не ”зьмяніць”, а навет і проста ”исключить” у артыкуле выдатнага ”Чэскага вучонага”... (17)

Прывітаньні з ”Новага Сьвету”!
Адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега,

Давно уже собирался написать Вам, но все задерживался. Ваши заметки своевременно получил, большое спасибо. Я откладывал письмо — все ожидал, что смогу Вам сообщить что-либо интересное по вопросу о Франческо-Скорина. К сожалению — все мои старания пока остаются без результата. В пражских архивах не могут найти те документы, на основании которых В.Томек и И.Сватек написали страницы о деятельности Франческо в королевском саду в Праге!.. Эти авторы не дают ссылок на архивные фонды и это крайне затрудняет поиски. Я нашел лишь копии нескольких королевских предписаний об устройстве сада и Летоградка в нем в 1538-9 гг., но о Франческо там нет упоминаний. А связки документов о саде в архиве касаются только более поздних годов. Я не теряю надежды еще напасть на след нужных мне бумаг, ведь Томек ссылается, например, на латинский акт с рекомендацией Франческо! В нем можно было бы может быть найти что-либо; ведь ни Томек, ни Сватек и не думали о Скорине и могли просто

прозевать нужную нам справку, как это сделал позже и Дворский (18). Не скрою, что, в связи с этим, понемногу я как-то больше стал допускать, что Франческо — это Скорина. Но пока от прямого утверждения еще воздерживаюсь.

Только на днях рукопись диссертации И. Дварчанина вернулась в Архив Университета. Ее брали в Славянскую Библиотеку, где сделали с нее фотоснимки для минского комитета славистов. Там хотели было эту работу напечатать, но это не проходит. Подумывали об издании ее по-чешски, но тоже без результата. Работа эта — я ее прочитал — в основном уже устарела и в таком виде не представляется ни ценной, ни полезной. Дварчанин основывался все же на материале из вторых рук, т. е. прежде всего на материале Каратаева и Владимирова, но еще не мог воспользоваться сборником "Чатырохсотлецьце". Работа делится на две части — собственно биографическое исследование и изложение воззрений Скорины. Скорина — католик, но без схоластики и с элементами гуманизма, и затем список литературы и подбор о Скорине и нескольких отрывков из его введений и пр. В виду такого свойства работы, характерного для уже пройденного этапа изучения Скорины, я не заказал еще для Вас микрофильма, для второй части это было бы и вообще безполезно.

И еще одна "американская Скориниана"! В Канаде в Монтреале об'явился на медицинском факультете профессор по имени Скорина, который считает себя потомком Фр. Скорины и очень хочет принять участие в юбилейных торжествах. Сейчас из Праги в Канаду поехал сдешний врач др. Вольф, который будет видеться с этим своим знакомым Скориной и затем, возможно, попытается и в Нью Иорке повидаться с Вами. Какие доказательства родства со Фр. Скориной имеет этот канадский Скорина — не знаю. Может быть что-нибудь за этим и стоит — и помимо тождества фамилий, хотя "Скорина" ведь не исключительная принадлежность нашего доктора из Полоцка, но фамилия эта встречается и в иных местах. Вам может быть удастся что-либо любопытное выяснить по этому делу?

Из Минска я не имею пока никаких материалов, между тем пора бы уже и печатать что-либо, если надо поспеть к августу этого года. Боюсь, что дело затянется. Там собираются издать особый Скорининский альбом, в ближайшее время я отошлю им несколько снимков старой Праги XV-XVI вв. А тем временем и в Праге зашевелились. Поставлен вопрос об устройстве особой мемориальной доски в честь Скорины. Но где? Вопрос этот еще не решен, запрашивают и мое мнение. Я бы высказался или за исторический центр Старого Города или м. б. за Летоградек в королевском саду или же — поставить доску на стенах Каролина или нашего нового философского факультета. Во всяком случае надо выбрать почетное место, которое бы всегда бросалось в глаза туристам и было бы на виду, а не в закоулке Старого Места, как оно ни замечательно.

Не знаю еще, будет ли к концу года что-либо опубликовано о Скорине в здешних журналах. Надо бы. Не об'явилось ли что-либо в западной литературе или у Вас в Новом Свете? Обратили ли Вы внимание на то, что М. Прашкович в рецензии на книжку Майхровича (Літаратура і Мастацтва, 28.1.1967) высказывается против имени Георгий для Фр. Скорины? Это интересное отрезвление.

С найлучшими пожеланиями
Ант. Флоровский

8.V.1967
Прага

Нью Ёрк, 22.6.1967

Высокадастойны Спадару Прафэсару!

Удзячны вельмі за ласкавы ліст і навіны з фронту скарыніяны. Дасылаю разам адбітку працы "Пытаньне імя доктара Скарыны ў сьвятле актаў і літаратуры" (друкавалася ў "Запісы". кн. 4. Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва. Мюнхэн, 1966 г., б. 184-215). Да тае самае тэмы належаць і далучаныя тут фатастаты артыкулаў Анічэнкі, Жураўскага ды рэакцыя Інстытуту на пастанову "Бюра" АН БССР у справе імя Скарыны.

Нарыс пра імя пісаны больш з пачуцьця маральнага абавязку, як ахвоты. Яшчэ й сяньня, ды ў гэткім дробным, здавалася-б, пытаньні, свабодна выказвацца можна нейдзе за акіянам, а не на радзіме выдатнага Палачаніна. Таму й артыкул пісаны мо й западрабязна, зь некаторым "разжоўваньнем" дэталяў. Хацелася вычарпаць пытаньне "да дна" й раз-назаўсёды, і больш да яго не варочацца. Куды ахватней капаўся-б па архіўных фондах у пошуках новае няведамае скарыніяны. Усё "сьняцца сны" пра пару, калі будзе час і магчымасьць заняцца гэтым у зацішшы старасховаў Аўстрыі, дзе, як "знакі неба й зямлі" паказваюць, ляжаць гурбы некранутых нікім лістоў і актаў, датычных да нашага доктара Франьцішка, а між імі, магчыма, і "служэбны ліст" праскага садаўніка караля Фэрдынанда І.

Дзякую вельмі за цікавыя весткі пра дысэртацыю І. Дварчаніна. Каб былі ў ёй важныя, няведамыя нам сяньня, факты я й не спадзяваўся. Калі ўсё-ж калісьці прасіў мікрафільму, дык ня толькі таму, што канцэнтрую ўсю і ўсякую скарыніяну, але яшчэ й дзеля таго, што Дварчанін калісьці быў маім настаўнікам у гімназіі ў Вільні. Вось чаму быў-бы рады мікрафільм дысэртацыі, і абедзьвюх яе частак, усё-ж мецъ. Кошты магу пакрыць ці наперад, ці пасьля атрыманьня мікрафільму — як Вам будзе выгадней. Просьба гэтая аднак-жа актуальная толькі тады, калі справа здабыцьця й высылкі мікрафільму ня будзе спрычыняць Вам якога-небудзь

клопату ці няпрыемнасьцяў. Калі так — пакіньце справу ў спакоі.

Пра экзыстэнцыю Скарыны канадыйскага ведаю ўжо колькі гадоў. Надовячы-ж меў ад яго й ліст. Ён тут не адзін, што ўважае сябе за нашчадка доктара Франьцішка. Мне ведамыя найменш чатыры Скарыны — калі ня лічыць пяцёх іхных сыноў — што прэтэндуюць на гэтую патомнасьць "па простай лініі". Усе яны спародненыя. Аднаго зь іх, Скарыну Юрага з Мэксыкі, давялося летась у Ню Ёрку пазнаць і асабіста. Усе цяперашнія Скарыны — гэрбовая шляхта гэрбу Селява. Паводле вэрсіі Юрага Скарыны, шляхоцтва было нададзенае аднаму далёкаму іх прадзеду за адвагу пасьля нейкае ўдалае, ці не пад Вялікімі Лукамі, бітвы. Ніякае дакумэнтацыі пра паходжаньне ад "Франьцішка, Скарынінага сына із слаўнага града Полацка", ні Юры Скарына, ні Скарына канадыйскі, ні, відаць, іншыя цяперашнія Скарыны, ня маюць. Адзіны довад — радавая традыцыя. Мэксыканскі Скарына прасіў мяне моцна раздабыць яму ягонае "генэалягічнае дрэва". Давялося сказаць, што пакуль што натрапіць на гэтае "дрэва" мне, на жаль, не ўдалося.

Агульная рыса цяперашніх Скарынаў, што ўсе яны гордыя з доктара Франьцішка, як свайго слаўнага "протаплясты", хоць мовы ягонае беларускае ніводзін зь іх ня ведае ды Біблії свайго выдатнага прадзеда чытаць не патрапяць, бо кірыліцы яны ня знаюць. Усе цяперашнія "патомкі" доктара Франьцішка спалянізаваныя, гавораць папольску. Сталася гэта таму, што ад колькіх ужо пакаленьняў перад эміграцыяй у Новы Сьвет, Скарыны жылі не на землях Беларусі, а ў Польшчы.

Што да канадыйскага Скарыны-Станлея, дык ён доктар мэдыцыны й філязофіі, прафэсар унівэрсытэту ў Монтрэалі, дырэктар тамашняе "Жалудачна-кішачнае дасьледнае лябараторыі", а колькі гадоў таму быў навет і дзеканам факультэту. Бацька ягоны, Скарына Канстантын, колькі гадоў таму памёр у Братыславе. Прызнаць трэба, што ня толькі дзеля свае лекарскае прафэсіі, але й па характары Станлей-Скарына нагадвае моцна свайго слаўнага "протаплясту" — кідкі, энэргічны, прадпрыемлівы. Зь яго гэта ініцыятывы й пад ягоным кіраўніцтвам у 1964 г. адбылася вялікая навуковая экспэдыцыя на Вялікодныя Абтокі Ціхага Акіяну. Экспэдыцыя была арганізаваная пры дапамозе й пад пратэктаратам ЮНЭСКО, мела характар інтэрнацыянальны.

Ёсьць урэшце, зьявілася тыдзень таму, вестка ад праф. Л. Кочы — картка з прывітаньнямі з Капэнгагі! Ад пачатку ўжо месяца ён там і прабудзе ў Даніі тыдняў дзесяць для працы ў тамашніх архівах. На воку будзе мець і "сакратара караля Дацыі". Ведама, што ў вадным з архіваў Капэнгагі ляжаць некранутыя яшчэ рукамі дасьледнікаў акты, датычныя дачыненьняў Даніі й Рэчыпаспалітае якраз з гадоў 1506-1512. Іх, між іншым, праф. Л. Кочы будзе й пераглядаць. Калі ўдасца натрапіць хоць на дробны сьлед нашага "сакратара" — будзе гэта апошні пункт над "і", які разьвее ўсякія сумнівы пра сакратарства Скарыны ў караля якраз Даніі. Вынікі-ж

пошукаў нэгатыўныя ніяк ня будуць гэтаму яшчэ пярэчыць. Прыгадваецца Вашая фраза: "Пражские архивы не дали положительных сведений об издательской деятельности Скорины. Пражский эпизод жизни в этом смысле — пустое место, украшенное пышным снопом его изданий 1517-1519 гг." (19). Гэта добры прыклад таго, як "маўчаньне" архіваў зусім не выключае нейкае гістарычнае падзеі XVI ст. Мае далейшыя праверкі пытаньня паказваюць на тое, што й на картах Эўропы канца XV ст. Regnum Daciae — гэта Данія. Тое самае на пячацях, манэтах, у актах, дыпляматычнай перапісцы. Дык думка пра нейкую наддунайскую Дацыю паўстае тут толькі тады, калі на тэрмін гэты глядзець не праз гістарычную рэальнасьць XV-XVI ст., а праз літаратуру й гісторыю антычнага Траянавага Рыму й ягонае Дацыі. Актавая, дыпляматычная, сыгілістычная, нумізматычная й картаграфічная дакумэнтацыі паказваюць, што для Эўропы XV і пачатку XVI ст. Дацыяй была якраз Данія.

Што да актаў пра праскага "каралеўскага садаўніка", дык некаторыя ведамкі пра іх магу даць цяпер і я. Тры гады таму, у 1964 г., пра садаўніка караля Фэрдынанда I я чытаў рэфэрат. Фатастат газэтнае пра гэта зацемкі ў лісьце залучаю. Адна з тэзаў гэтага рэфэрату была тая, што калі чэскія аўтары канца XIX ст. рабілі дапушчэньні пра "власкую" нацыянальнасьць першага каралеўскага садаўніка ў Празе, дык гэта й зразумела. Ніякіх канкрэтных паказаньняў пра ягонае паходжаньне яны ня мелі, таму й думалі, што ён, як і будаўнічыя "Летоградка", таксама "влах". Як добра відаць з разважаньняў Томэка пра італьянскае быццам паходжаньне садаўніка на падставе пісанага палацінску "служэбнага ліста", — ніякіх канкрэтных довадаў на гэта чэскія аўтары ня мелі. Палацінску, а не пачэску пісаны кантракт, у найлепшым выпадку, толькі довад ня чэскага паходжаньня садаўніка, але нічога яшчэ ня кажа пра тое, якое, калі ня чэскае, гэтае паходжаньне было.

Ад 1936 г., ад часу Вашае публікацыі скарэгаванага тэксту адкрытага ліста караля Фэрдынанда I з 1552 г., уся справа мяняецца. У лісьце выразна напісана, хто гэты садаўнік: там ня толькі ягонае імя й прозьвішча, але й месца народжаньня Полацак. Супаставіўшы інфармацыю гэтага ліста з заўвагамі Томэка й Сватэка, мне стала ясна, што іхны "Містр Францыско" — асоба ідэнтычная з каралеўскім садаўніком граматы 1552 г. Фэрдынанда I.

Пазьней, гады ўжо паўтара таму, мне пашчасьціла натрапіць і на тэксты апублікаваных яшчэ ў XIX ст. тых актавых матар'ялаў, на якія апіраліся й пакліканіся й Томэк, і Сватэк. Гэта — ліставаньне з гадоў 1538-1540 чэскае праскае каралеўскае каморы з каралём Фэрдынандам I у справе "Летоградку" й саду на Градчанах. Уважны перагляд гэтых, пісаных панямецку, лістоў пацьвердзіў цалком маю тэзу. Праскі каралеўскі садаўнік у лістох ніколі не названы паітальянску "Франчэско" (як пачалі, беспадстаўна, называць яго некаторыя чэскія аўтары, але як не называлі ніколі больш

акуратныя Томэк і Сватэк), а толькі й заўсёды 'maister Francisco', значыцца таксама, як сам Скарына называе сябе ў сваей Бібліі, дзе "Франциско", або як называюць яго віленскі ды полацкі судовыя акты, дзе ён "Францышко". З апублікаваных лістоў мне таксама стала ясна, што Томэк пісанага палацінску "служэбнага ліста" сам ніколі ня бачыў. Пра яго ён даведаўся з аднаго з гэтых лістоў, у якім пра копію пісанага палацінску служэбнага кантракту згадваецца.

Тэксты лістоў перапіскі праскае каралеўскае каморы апублікаваў праскі архівар Карл Кёпль у 1889 г. у Вене. Дакладны назоў публікацыі: Urkunden, Acten, Regesten und Inventare aus dem K. K. Statthalterei Archiv in Prag. Herausgegeben von Karl Köpl, K. K. Statthalterei-Archivar [Jahrbuch der Kunsthistorischen Sammlungen des Allerhochsten Kaiserhauses. Zehnter Band. Wien, 1889].

Чатыры лісты, у якіх садаўнік 'maister Francisco' згадваецца па імі (у пару іншых ён называецца толькі "садаўнік", тут пералічаю:

| | |
|---|---|
| Nr. 6004, b. LXXVIII-LXXX | [Copialbuch Nr. 15. Fol. 156-160]. |
| Nr. 6005, b. LXXX | [Copialbuch Nr. 19. Fol. 31-33]. |
| Nr. 6030, b. XCI | [Copialbuch Nr. 15. Fol. 261-263]. |
| Nr. 6035, b. XCII | [Copialbuch Nr. 15. Fol. 279-280]. |

Дык Кёпль называе й праскі архіў, зь якога ён тэксты лістоў публікуе, і падае дакладна архіўныя нумары кнігаў ды балонкі ў іх, дзе лісты знайходзяцца. Таму знайсьці іх хіба-ж справа лёгкая. А пераліставаць іх цяпер нанава, перагледзець варта й трэба, бо Кёпль, выглядае, публікаваў ня ўсё, а толькі выбраныя, важнейшыя паводле яго, матар'ялы, і лістоў, у якіх пра садаўніка "Франціско" згадваецца, у архіве можа быць і шмат больш. Ня выключана й тое, што пры лісьце Nr. 6004 [Copialbuch, Nr. 15, Fol. 156-160]. можа быць і копія лацінскага "служэбнага ліста", бо гэта ў ім гутарка пра тое, што копія кантракту разам прыкладаецца.

Хоць хутка будуць ужо два гады, як тэксты, апублікаваныя Кёплем, мне ведамыя, і хоць на іх пару разоў ужо й паклікаюся ў працы пра "імя Скарыны" (б. 9, 37), дакладнейшы разгляд усяе справы ў друку, дзеля розных меркаваньняў, пакідаю на пазьней. Было-б, аднак-жа, добра, каб у сёлетнім юбілейным годзе нейкую вестку пра гэта даць у чэскім навуковым друку і, памойму, найзручней і найбольш аўтарытэтна было-б зрабіць гэта Вам, бо гэта ня што іншае, як апошні пункт над "і" раскрытага якраз калісьці Вамі другога, фінальнага праскага эпізоду Скарынавага жыцьця. Гэта, таксама, хоць і дробная, але добрая скарынінская юбілейная "сэнсацыя" для інтэлектуальнае Прагі й Чэхіі. Для гэтага й Вашая "стратэгічная" пазыцыя, у самой Празе, проста ідэальная.

Пара пражанам і чэхам наагул раскрыць вочы на гістарычную праўду, што першы засноўнік і садаўнік каралеўскае "заграды" на Градчанах ніякі ня "влах" і не "Франчэско", а доктар Франьцішак Скарына "із слаўнага града Полацка", беларус, і што ня ўсё ды заўсёды да Прагі й Чэхіі прыходзіла толькі з захаду й толькі ад немцаў ды "влахаў". Можа тады аўтары розных "путеводителей" па Празе ды нарысаў пра сад на Градчанах урэшце

перастануць паўтараць хвальшывыя інфармацыі пра тое, што "заграду" Градчанскую заклаў "влах Франчэско" (прыкладам: 'Od roku 1535 zaklada italsky zahradnik Francesko... novou kralovskou zahradu', J. Hilmery, H. Rokyta: Hrady a Zamky. Praha, 1963, b. 10).

У глыбокай да Вас пашане,
адданы Вам,
Вітаўт Тумаш

ПС: На канадыйскай выстаўцы ў Монтрэалі, EXPO 67, сярод выстаўленых у павілёне СССР кнігаў ёсьць і Скарынава Кніга Ёвы. Пры кнізе дадзеная дапіска, што яе прыблізная цана — 1000 рублёў.

ППС: У парадку "культурнага абмену" ці ня можна было-б атрымаць фатаграфію архіўнае копіі адкрытага ліста караля Фэрдынанда I з 1552 г.? [Archiv Čsl. Ministerstva Vnitra v Praze. Registra [t. zv. kopiare], Sv. 51, fol. 27b].

Глубокоуважаемый коллега

С величайшим интересом прочел Ваши соображения об имени Скорины. Видимо и в Минске уже отступают от "Георгия". В этом же смысле и я писал по этому вопросу в 'Scoriniana'. Увы, статья эта (в белорусским переводе) появится в печати в Юбилейном Минском сборнике со значительными сокращениями как раз в части, касающейся новейших (т. е. Ваших) работ о Скорине, как мне сообщили из Минска. Мне предстоит в этом убедиться уже там — на месте, — корректуры мне не прислали. Президиум Белорусской Академии Наук пригласил меня принять участие в праздновании юбилея в Минске — 15-20 августа, собираемся 12.VIII выехать туда. а затем и в Ленинград и Москву.

Вы меня весьма смутили указанием на книгу Köpl'a, как же это я прозевал ее, да и никто из пражских архивистов не вспомнил о ней, на нее нет ссылок и в литературе о Королевском саду — ни у Томка, ни у Сватка, Миралка (?), Тейге и т. д.! До от'езда в Минск я не успею просмотреть эту книгу, но по возвращении домой непременно изучу указанный в ней материал. Действительно, все же очень соблазнительно отожествить "итальянца" Francesco с Франтишком Скориной, но надо воздерживаться от поспешных выводов, пока нет окончательных доказательств! Очень интересно будет узнать о результатах поисков Л. Кочи в Дании.

Не пишу пока больше, — поездка на восток даст мне, наверно, немало материала для размышлений и заключений, и сообщений.

С наилучшими пожеланиями
Ваш А. Флоровский

6.VIII.1967
Прага..

Ню Ёрк, 16.9.1967

Высокадастойны Спадару Прафэсару!

Ня гэтак даўно зьявіўся Ваш ліст зь весткаю пра выезд на юбілейныя ўрачыстасьці. Ход самых урачыстасьцяў я сачыў па менскай прэсе. Там, у камунікаце БелТА, было сказана, што на сэсіі Акадэміі Навук БССР "зь вялікай увагай было праслуханае выступленьне госьця з ЧССР, вядомага вучонага, прафэсара..." і г. д., але, як часта ў савецкай прэсе бывае, ні слова пра тое, што ў прамове было сказана. На адлегласьць, з-за акіяну, уразіў факт, што хоць на сэсіі зь юбілеем віталі прадстаўнікі ледзь не дзесяцёх акадэміяў розных, і навет далёкіх азійскіх рэспублікаў СССР, дык ня было нікога ад АН СССР і наагул нікога з Масквы, што выглядала на нейкае ігнараваньне, калі ня проста байкот. І так, выдатнаму "Чэскаму вучонаму" даводзілася рэпрэзэнтаваць ня толькі Прагу, але й Маскву! У гістарычнай пэрспэктыве гэта бадай і зразумела! "Чэскі вучоны" сяньня адзіны выдатны скарыністы, што захаваўся ў жывых, і захаваўся найперш таму, што меў шчасьце жыць ня нейдзе на радзіме доктара Скарыны, п ў далёкай Празе. Уразіла таксама вестка, што адзіны скарыністы БССР М. Алексютовіч памёр, не дачакаўшыся юбілейнага дня. У менскім друку ніякае весткі, дзе, калі, чаму, у якім веку (здаецца, быў яшчэ малады) ён памёр. Толькі кароткая анатацыя пэтытам у зносцы пад ягоным артыкулам у нр. 7 "Полымя", што сярод жывых яго ўжо няма. Нейкая ўражаючая няўвага да навуковага працаўніка і чалавека наагул.

Лічу на тое, што ў "Чэскага вучонага" шчасьлівая рука й на месцы пакладзенага ў Полацку мэмар'яльнага каменя хутка й запраўды зьявіцца помнік доктару Скарыну — першы на беларускай зямлі. Надзея на Вас таму, бо ўжо раз, у 1925 годзе, палачане гэткі камень урачыста пад будучы Скарынаў помнік закладалі, але праз гадоў колькі камень гэты быў вывернуты, і зьнішчаныя, разьбітыя былі скульптурныя бюсты Скарыны мастакоў Азгура й Бразэра — магчымыя праекты для помніка. У выніку, на роднай зямлі Скарыны сяньня ніякага яму помніка й, бадай, ніякага партрэту. Калі на ўнівэрсытэце італьянскае Падуі партрэт доктара Скарыны красуецца, сумняваюся, каб падобны партрэт удалося пабачыць Вам нейдзе на Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце ў Менску.

Калі цяпер вярнуцца зь Менску да Залатое Прагі, дык, думаю, важна, каб нехта перагледзіў у праскім архіве тыя акты, якія ў 1889 г. апублікаваў К. Кёпль. Побач іх можа быць і больш матар'ялаў пра "садаўніка Франціско". Кёпль, выглядае, выбіраў для друку толькі тое, што яму выдавалася важным, найперш матар'ялы да гісторыі мастацтва, таму ён цікавіўся весткамі пра ход будовы "Летоградка". Ці й "заграду" на Градчанах ён залічыў да "мастацтва", у гэтым я ня пэўны. Асабліва ўважнага перагляду вымагаюць фонды архіву з другой палавіны 1540 й першай 1541

гадоў — пары сьмерці "садаўніка Франціско". Там павінна быць і дата гэтае сьмерці. Ня можа быць, каб пра сьмерць "каралеўскага садаўніка" ня выслаў адмысловага рапарту, ці хоць згадкі ў лісьце, да караля Фэрдынанда ў Вене сакратар чэскае каралеўскае каморы Флёрыян Ґрысбэк, або каштэлян Градчанаў Юры фон Герсдорф. З супастаўленьня цытатаў Сватэка ды згадкі Томэка пра "майстру Франціско" з апублікаванымі Кёплем лістамі відаць, што ні Сватэк, ні Томэк самі ў гэтай справе ў архіве Прагі не капаліся, а апіраліся толькі на апублікаванае Кёплем. Усе іхныя цытаты пра "майстра Франціско" ёсьць у Кёпля, і няма ніводнае, якое там-бы ня было.

Прывітаньні зь Ню Ёрку! У глыбокай пашане,
Адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега, только теперь нашел время написать Вам. Мы вернулись домой в конце сентября, — после Минска и Полоцка мы заехали в Ленинград и в Москву, где я поработал в библиотеках и архивах в связи с основным моим теперешним интересом — эпохой Петра Алексеевича. Нужно сказать, что впечатление от посещения Белоруссии и от встречи и приема у нас самые лучшие и светлые. Вы, конечно, из газет хорошо знаете, как было проведено 450-летие белорусской печати. К этому юбилею в Минске не успели издать сборник, он печатается, моя статья — после моего просмотра — пошла в печать только в конце августа. Она очень сокращена — из нея исключено все, что касается разработки Скорининских проблем после 1960 г. Как мне сказали, — кое-какие Ваши работы все же в Белоруссии попадаются и читаются, правда — единицами. Я должен был с этим примириться, хотя надеюсь, что *исключены* из 'Scorinian'ы моей страницы в ближайшее время мне все же удастся напечатать в полном варианте 'Scorinian'ы — м. б. по-русски (20).

В своим приветственном слове на научной сесии АН БССР я — не приводя имен — говорил (очень кратко) и о Secretarii regis Daciae и пр., что произвело очень полезное впечатление на аудиторию (представленную очень многолюдно), тем более, что я — не связанный никаким представительством — говорил совершенно свободно и бойко — в отличие от инных более формальных и официальных (без отношения к Скорине) приветствий дюжины окраинных академий СССР (некоторое исключение — это Молдавия). Из Москвы, Ленинграда, из Киева — не было никого!!!

Вернувшись домой, я сейчас же достал книгу Кёпля и соответственные акты (копии), увы — в архиве нет ничего, что могло бы дополнить и уточнить материал Кёпля, нет приложения латинской рекомендации Скорины! Тем не менее — я все более склоняюсь к тому, что бы отожествить Francisco с Скориной. В

актах и первый называется "садовник наш", как в акте 1552 г. Скорина. Но почему все же Скорино — или Francisco — не доктор? Ведь призванный в 1539 г. наладить дело, не удавшееся Francisco, голандец Гуго Венниус называется доктор. Но зачем Скорине, имея основание, под именем Francisco скрывать свой титул? Это невероятно. Во всяком случае — всю переписку о Francisco можно свободно использовать для характеристики деятельности Скорины в саду в Праге, ибо садовником здесь он несомненно был, и обязанности на нем лежали те же, что и на Francisco. А что после в годах 1534-1539 был именно руководителем сада — ясно из того, что он названы один вместе с устроителем Lusthausa — Летоградка de Spatio, т. е. был не просто садовник, а — управляющим садовым делом.

Большое спасибо за материалы об имени Скорины. Конечно — не Георгий, а Франциск. Это теперь и в Белоруссии признают, хотя все еще держатся и за Георгия (хотя бы на втором месте), так написано и на медали Скорины.

Только что в Праге в поиске материалов о Скорине (он спрашивал и меня) был из Минска некий Александрович, по специальности — исследователь новых времен, но ему поручено написать популярный очерк о Скорине, и он объезжает места, связанные с его деятельностью. В Кракове изучал материалы о белорусских студентах на Университете, в Праге искал следы Скорины повсюду, но ничего нового не выявил. Разве, что может только портрет Скорины напоминает орнаментику с пражских букв в изданиях Северына, — м. б. — некоторое единство типографических средств у них может даст материал для отыскания и старой типографии Скорины. Но это — лишь утверждения Александровича.

Как же у Вас отмечен был юбилей — 450-летия? Выставка в Колумбийском университете? Или отложена? Правда, теперь — что ни месяц — можно праздновать 450-летие выхода в свет той или иной книги Скорины в Праге.

С найлучшими пожеланиями
Ваш А. Флоровский

22.X.1967
Прага

Ню Ёрк, 3.XII.1967

Высокапаважаны Спадару Прафэсару!

Дзякую за весткі пра скарыніяну архіваў Прагі і — юбілейныя зь Беларусі. Як з заакіянскае пэрспэктывы выглядае, Ваш удзел у ўрачыстасьцях быў адзінай паважнай навуковай нотай у казённай атмасфэры юбілею. І гэта зразумела — "Чэскі вучоны"

сяньня адзіны ведамы выдатны скарыністы ня толькі Эўропы, але й Эўразіі ды сьвету. І дало-ж, маладому хіба яшчэ, Алексютовічу так хутка памерці. Не зважаючы на публіцыстычны ўхіл, ён меў дадзеныя вырасьці ў глыбейшага навуковага скарыністу. Дайшла да мяне ў канцы [redacted] Майхровічава кніжыца пра "Георгія". Да Алексютовіча не параўнаць — ледзь не на кажнай бачыне супярэчнасьці й проста — недарэчнасьці. А ад усяго нясе "нядобры пах вялікіх слоў" — столькі ў ёй пустога прапагандната пафасу.

Як пераканаўся, паасобныя факты маіх выданьняў трапляюць ужо і ў савецкі друк, хоць, зразумела, без паказаньня жарала. Меў з БССР і колькі пісьмовых водзываў на мае публікацыі. Дык сёе-тое ў межы БССР даходзіць ужо й цяпер. Працу-ж пра імя доктара Скарыны ведае напэўна й старшыня юбілейнага камітэту К. Крапіва, бо яму, як і ўсім важнейшым пэрыёдыкам рэспублікі, была яна сваім часам высланая. Крапіва на свой спосаб і зарэагаваў на гэта, калі ў артыкуле ("Звязда", 15.8.67) пісаў:

"Нямала спрэчак выклікае само імя Скарыны. Сам ён называў сябе Францыскам. Гэта імя побач з прозьвішчам Скарына стаіць на ўсіх яго працах. А што ў яго было яшчэ й другое імя — Георгій, наконт гэтага бясспрэчных доказаў няма. Тым ня менш, ёсьць некалькі друкаваных прац, прысьвечачых Скарыне, дзе ён называецца толькі Георгіем. Таму, відаць, мэтазгодна, побач зь імем Францыск, ставіць у дужках і імя Георгій, каб відаць было, што Францыск і Георгій Скарына гэта адна гістарычная асоба".

Сэнс заявы Крапівы: калі дапусьцілі памылку, — трэба яе ўжо паўтараць заўсёды й далей, а не папраўляць.

Няпрыемная няўдача, што нічога новага не знайшлося пры Кёплевых актах. Гэта змушае паважней думаць пра падарожжа да Аўстрыі, каб там шукаць "службовага ліста" ды іншае скарыніяны. Лёгка дагадацца, што спадзяюся там знайсьці: другі канец ліставаньня чэскае каморы з Фэрдынандам I у справах каралеўскага саду на Градчанах.

Думаю, Вашая "нерешительность" у справе ідэнтыфікацыі садаўніка Франціско з доктарам Скарынам неабаснаваная. Цяжка мне было расчытаць некаторыя словы гэтага якраз месца Вашага ліста — тут ці ня ўплыў на почырк ленінградзкіх архіўных студыяў эпохі не Скарынавае — эпохі Пятра Аляксеевіча: даўно вычуваю, што гэты экспансыўны цар у навуковай Вашай працы нашага беднага доктара ў кут заганяе! Але, здаецца, там напісана: "Но почему всё же Скорино — или Франциско — не доктор? Всё-ж... голандец Гуго Вениус называется доктор? Но зачем Скорине, имея основание, под именем Франциско скрывать свой титул? Это невероятно". З Вашага дазволу, з гэтым буду палемізаваць:

Найперш, у публікаваных Кёплем лістох **сам** Скарына, ці **сам** Франціско нідзе ня выказваецца. Ягоных словаў там няма. Піша там ня ён, а пішуць **аб ім.** Дзеля гэтага няма падставаў і для выснаву,

што ён сам нешта "скрывае", або не, што сам не падае свайго тытулу доктара. Ня згадваюць яго іншыя, аўтары лістоў. У лістох "наш садаўнік" згадваецца наагул толькі пабочна, толькі між іншым. Уся ўвага ў іх накіраваная на "влахаў", будаўнічых Летоградка, — галоўнага клопату й бяды каралеўскае праскае каморы дзеля вялікіх сумаў, якія даводзілася з пустога хранічна скарбу каморы ім выплачваць. Вось дзеля гэтага ў лістох садаўнік згадваецца толькі тым кароткім імем і тытулам, пад якім, відаць, яго шырэй зналі на Градчанах, ды знаў і кароль Фэрдынанд: "майстар Франціско", ці проста — "наш садаўнік". Гэтага хапала для ідэнтыфікацыі асобы ў перапісцы. "Майстэр" тут выяўна ў значаньні італьянскага "маестро", а чэскага "містш". Хоць гэтая тытуляцыя й не навуковага, а этыкетнага характару, ды зь некаторага гледзішча яна вышэйшая навет і за "доктар", бо гэтак вялічаюць звычайна таго, хто ведае найлепш, ведае дасканальна й лепшага над якога ўжо няма. Гэткая тытуляцыя сьветчыць пра тое, што садаўнік Франціско дазнаньнем, ведаю, вучонасьцяй патрапіў здабыць рэспэкт сярод свайго праскага асяродзьдзя. Пры ўжываньні тытуляцыі "містш" месца на тытул доктара й не застаецца, бо "Містш Доктар" нагадвала-б "масла масьлянае".

Што-ж да прыбылага на коратка да Прагі доктара Веніюса, дык, з аднаго боку ў скорым часе ён яшчэ не пасьпеў нажыць сабе папулярны тытул "містша", ці падобны, ды, як зь лістоў выяўляецца, у Празе нічога й не даканаў. З другога-ж, нязручна было-б яго так і называць, калі побач адзін "Містш" ужо быў, ды, да гэтага, таксама садаўнік — была-б блытаніна. Дзеля гэтага Веніюс на тых колькі месяцаў, якія прабыў у Празе, і застаўся толькі "доктарам" — на "Містша" так і не заавансаваў.

Варта зьвярнуць увагу й на тое, чаму выяўленая Вамі каралеўская грамата 1552 году азначае "нашага садаўніка" поўным імем, прозьвішчам, месцам паходжаньня ды дакторскім тытулам. Грамата гэтая, гэта строга юрыдычны дакумэнт, таму ў ей і дакладная ідэнтыфікацыя асобы. Ня можна-ж выстаўляць дакумэнт, юрыдычна важнага прызначэньня і, магчыма, яшчэ важнейшых кансэквэнцыяў, ды абмежавацца абазначэньнем асобы толькі словамі "наш садаўнік", як ёсьць у лістох. Кёплевыя-ж матар'ялы літаратура не юрыдычная,а эпістулярная, лісты,у якіх "наш садаўнік" пры гэтым згадваецца толькі між іншым. Таму там ён і названы тым кароткім імём, якога хапала для ідэнтыфікацыі ў карэспандэнцыі тае асобы, пра якую йдзе гутарка.

Дык мне й проста, і ясна выглядае справа адзінства "нашага садаўніка майстры Франціско" з "Доктар Франьцішак Рус Скарына з Полацку, колішні наш садаўнік" граматы 1552 г. Пэўне-ж, у дэталях магло нешта быць і іначай, ды істота пытаньня бяссумлеўная: "майстэр Франціско" — доктар Скарына. І ў кракаўскіх унівэрсытэцкіх запісах Скарына названы толькі па імі й ніразу па прозьвішчы, ды ўсё-ж ніхто ня сумняваецца ў тым, што гэта якраз Скарына. Няма асноваў, каб інакш паступаць і з

"майстрам Францiско", тым больш, што "влахам" ён напэўна ня быў, бо калi-б так, дык у Празе называлi-б яго не "Францiско", а "Франчэско".

І Вашая асьцярожнасьць у справе "садаўнiка Францiско" мне лiшнi раз прыгадвае патрэбу праверкi архiваў Аўстрыi, дзе спадзяюся знайсьцi больш зусiм канкрэтных довадаў свайго погляду, а можа й сам "службэны лiст". Можа быць там i аўтограф доктара Скарыны. Уражае, што ня бедная сяньня актамi бiяграфiя гэткага рухавага эўрапэйца пары Рэнэсансу ня знае дагэтуль нiводнае ягонай рукою пiсанае памяткi — нiводнага аўтографу. У вадным зь лiстоў Кёпля ёсьць намёк, што "наш садаўнiк" пiсаў да караля Фэрдынанда, што было-б толькi зразумела. Дык у архiвах Аўстрыi могуць быць i лiсты садаўнiка Францiско. Раней меў надзею, што нешта, пiсанае рукою самога Скарыны, можа быць у Пазнанi. Як фатаграфii пазнанскiх актаў паказваюць, там запiсы толькi магiстрацкiх пiсцоў i нiякiх самым Скарынам пiсаных матар'ялаў. Дык i ў справе аўтографаў доктара Скарыны ўся надзея — Аўстрыя.

На пытаньне, як быў адзначаны тут юбiлей, магу адказаць, што хоць i ня ў "дзяржаўных", як у Менску, маштабах, але быў адзначаны й на амэрыканскiм кантынэнце. У Ню Ёрку адбылося адмысловае паседжаньне Беларускага Iнстытуту Навукi й Мастацтва з рэфэратамi, з паказам нававыкананага мастаком Пётрам Мiрановiчам алейнага партрэту доктара Скарыны, з выстаўкай фатаадбiткаў актавага матар'ялу пра Скарыну, сканцэнтраванага ў зборах Iнстытуту (фатаграфiяў 30-х актавых запiсаў), з паказам колькiдзесяцёх рэпрадукцыяў тэкстаў Скарынавых праскiх i вiленскiх друкаў ды iх iлюстрацыяў, ды некаторае iншае скарынiяны — разам больш ста экспанатаў.

У Канадзе, у Таронта, пару месяцаў таму наладжаная была публiчная акадэмiя пры ўдзеле прадстаўнiкоў канадыйскiх уладаў (адзiн зь iх чытаў навет рэфэрат пра доктара Скарыну!) ды з адкрыцьцём вялiкае Скарынавае выстаўкi, на якой было больш 60 экспанатаў, перакiнутых для гэтага Iнстытутам зь Ню Ёрку. Мiж iншым, арганiзатары выстаўкi, як "экспанат", далi там i Ваш юбiлейны "Манiфэст" пра доктара Скарыну ("Лiтаратура i Мастацтва", 22.8.67). Ён вельмi ўсiм спадабаўся, i таму вывесiлi поўны яго тэкст у ангельскiм перакладзе побач арыгiнальнага тэксту беларускага. Меў на гэтай акадэмii чытаць даклад i я, ды паважныя перашкоды затрымалi мяне ў Ню Ёрку.

Выстаўкi й рэфэраты былi наладжаныя яшчэ ў Чыкаго, Клiўлендзе, а навет — у Аўстралii. Толькi выстаўка ў Нюёркскай бiблiятэцы перасунутая тымчасам на пазьней, але над ею ўжо працуюць. Таксама, як мяне паведамiлi з Эўропы, праз радыёстанцыю ў Мюнхэне было дадзена каля дзесяцёх беларускiх перадачаў на тэрыторыю БССР пра доктара Скарыну i ўгодкi беларускага друку. Магу яшчэ дадаць, што прыгатаваны й юбiлейны зборнiк навуковае "скарынiяны" на аркушоў 20 друку,

хоць, дзеля фінансавых перашкодаў, яшчэ сяньня цяжка сказаць, калі, колькі й што з гэтага ўдасца надрукаваць. Калі й менскі зборнік выходзіць зь вялікім спазьненьнем, хоць выдаецца на рэсурсы шматміліённае рэспублікі, — што казаць пры выданьні за межамі, дзе ўсе фінансы базуюцца на ахвярнасьці суродзічаў доктара Скарыны.

Дык, сёе-тое зроблена й за акіянам, а спадзяюся, будзе [redacted] яшчэ больш. З свайго боку хацеў-бы й я запытацца: што-ж да юбілею дакінула Прага — тая Прага, у якой 6.8.1517 году паказаўся Скарынаў пяршынец — ПСАЛТЫР? Няўжо-ж ”залатая” Прага абмежавалася абсалютнай цішынёй? Ці-ж там і мэмар'яльнай навет таблíцы ня прыбілі?

Прывітаньні зь Ню Ёрку!
Адданы Вам
Вітаўт Тумаш

Глубокоуважаемый коллега, прилагаю при сем микрофильм акта 1552 г. о Скорине, на одной стороне внизу — указано, кому писано (Симеону Русу), на другой вверху — текст акта.

Рассмотрел я наконец все акты о Francisco, указанные Кёплем, — в сборнике копий королевских указов. Не обнаружил ничего, что дополнило бы изданные у Кёпля тексты. Мало того — в обозначении **адресатов** одного из актов имеется упоминание о Francisco de Garten рядом с именем архитектора, строителя Летоградка — de Spatio. Франциск из Гартена? Откуда это? Где имеется место с таким именем? И это при том, что в тексте королевской грамоты и Francisco иной раз называется ”наш садовник” — точно так, как [redacted] акте 1552 г. Скорина. Ясно, что обозначение Francisco словом ‘meister’ не означает магистр, но лишь maestro, как называется и архитектор de Spatio. Таким образом пражский материал о Francisco не дает ничего положительного для полного отожествления его с Франциском Скориной. Молчание актов о Скорине тогда, когда он все же был несомненно ‘Zahradnik naš’, и трудно было бы об'яснить иначе, как тем, что Francisco — Скорина. Но почему то он, видно, на этой первичной стадии своей службы у Фердинанда I [redacted] Праге не выступал сразу как подлинный доктор Фр. Скорина из Полоцка. Ясно одно — все фактические данные о деятельности Francisco можно отнести и к Скорине и на их основании характеризовать его садовую деятельность. Хотя, видно, она не была слишком удачной, — м. п., правда, вследствие об'ективных причин, — недаром вызванный в 1539 г. из Голандии Др. В. Вениус признал вообще избранную для сада местность мало благоприятной для сада.

Ничего нового о Скорине не слышно. Из Минска новых вестей не получил. Сборник еще не вышел. А состоялась ли у Вас в Нью Йорке выставка Скорины? Был ли [redacted] этой связи изданный проспект? Рекламы? И проч.

Пишу только теперь, так как последнюю неделю мне нездоровится, и я не выхожу.

С найлучшими пожеланиями
Ваш А. Флоровский

7.XII. 1967
Прага

Очень рад успеху моего "манифеста"! Это — краткий отрывок из моего выступления на научной сесии Академии БССР, — имевшего большой успех, ибо сказанного от сердца!

(*Дата паштовага стэмпля*: *12.XII.1967*)

P.S. Это письмо было уже заклеено и готово к отправке, когда я получил Ваше письмо от 3.XII. Вы правы, в Минске в сущности никто ничего нового о Скорине не сказал, и к моим словам серьёзно прислушивались. Что-то готовит о Скорине В. Зайцев, но каким материалом он располагает — не знаю. Недавно в 'Literarnich Novinach' пражских появилось несколько строк о Скорине, — и тут высказана "новая" мысль, что Скорина, живя в Праге в 1517-19 гг., жил в Литовской студенческой коллегии, основанной еще королевой Ядвигой в конце XIV в. Это — звучит как будто логично — Скорина — из Литвы. Но — коллегия эта еще в XIV же веке превратилась в коллегию для студентов не литовских, а ко времени Скорины стала просто общестуденческой. К тому же — почему бы Скорина — книгоиздатель — поселился в общежитии бедных студентов? Думаю, что эта заметка написана Жидлицким, который тут же допустил несколько ошибок, — книгу о Скорине де написал Карский (вместо Владимирова), де Москва стала издавать-то книги только с 1564 г., хотя теперь мы знаем об изданиях и на 10 лет старших и др. Весьма поверхностно знает автор этой заметки историю книгопечатания!

Что касается Франціско, то я склоняюсь признать его тождественным Скорине, но — не могу молчать о некоторых препятствиях для этого отожествления! А теперь — Fr[fncisco] de Garten! Почему же не de Poloczko, или не de Skoryna? Видно сам Др. Скорина не выступал тоже со своим титулом и именем, иначе странно было обходить их, хотя бы и в документах не вполне юридического характера. Ведь это документы о службе, т. е. и правового содержания. Постараюсь в ближайшее время прислать Вам снимок этого документа о Francisco.

Пока — жму руку.
Ваш А. Ф.

*Поиск в Вене — это — идея!!*

Ню Ёрк, 15.3.1968

Высокадастойны Спадару Прафэсару!

Мая віна й грэх вялікі, што гэты мой ліст да Вас прыходзіць з гэткім спазьненьнем. Прычына ўсяму адна: з тыдня на тыдзень чакаў, пакуль выстаўка пра доктара Скарыну ў Ню Ёрку будзе канкрэтным фактам. Яе, тымчасам, адкладалі зь месяца на месяц. І лёгка зразумець чаму: доктар Скарына "ў тым каралеўстве нашым — чужаземец" і дзеля гэтага колькі разоў даводзілася яму ўступаць тэрмін і месца іншым — амэрыканскім выстаўкам.

Спадзяюся, што Ваша здароўе, на якое апошні раз наракалі, тымчасам папраўілася. Трэба яго берагчы, хоць-бы для справы нашага доктара Франьцішка — там яшчэ столькі нявыясьненага, недаконча нага!!!

Вялікае дзякуй за дасланы фататэкст граматы караля Фэрдынанда. Гэта — не абы-якая аздоба ў маей калекцыі архіўнае скарыніяны ў фатаадбітках, якіх маю ўжо 30.(21). З свайго боку шлю фатастат перадруку зь "Літаратуры і Мастацтва" Вашага каштоўнага артыкулу пра Скарыну. Каб ня было непаразуменьня, мушу выясьніць, што да друку артыкул падалі ў газэту нашыя канадыйскія землякі. Гэта адбітак іхнага шчырага ім захапленьня, бязь ніякай "віны" з майго боку.

Іншая, затое, справа з дасланым тут разам плякатам пра выстаўку беларускага друку ў Публічнай бібліятэцы Ню Ёрку. Хоць выстаўку й наладзіў славянскі адзьдзел бібліятэкі, але, каб не мая дасьледная праца апошніх тут гадоў у галіне скарыніяны, ня думаю, каб да гэтай выстаўкі дайшло-б. Дасланы тут плякат — гэта паменшанае выданьне картоннага, мэтровай вышыні, плякату, што выстаўлены перад франтонам бібліятэкі на рэпрэзэнтацыйнай цэнтральнай вуліцы Мангэтану — на 5-ай Авеню. Дзеля таго, што ўсяго колькі блёкаў далей знаходзіцца будынак Задзіночаных Нацыяў, дык сказаць можна, што Скарына тут ня толькі ў цэнтры Ню Ёрку, але і ў цэнтры сусьветных справаў і падзеяў!

Сама выстаўка даволі вялікая. Складаецца на яе больш 200 экспанатаў, што разьмешчаныя на сьценах галярэі, ці раскладзеныя на 13 сталох-вітрынах. Тут, між іншым, алейны партрэт доктара Скарыны мастака Пётры Мірановіча ды вялікі дрэварытны партрэт мастачкі Тамары Стагановіч. Шэсьць сталоў выстаўкі адведзена старому беларускаму друку. Тры сталы з гэтага — пра доктара Скарыну: рэпрадукцыі зь ягоных кнігаў, дрэварыты, ініцыялы, заставіцы; на адным стале выбар важнейшае навуковае літаратуры пра Скарыну. Тут, між іншым, і "Часапіс Чэского Музэю" з 1936 году, раскрыты на Вашым артыкуле пра грамату караля Фэрдынанда.

Ніводнае арыгінальнае кнігі доктара Скарыны бібліятэка ў сваіх зборах, на жаль, ня мае. Галоўны "шэдэўр" разьдзелу старога

беларускага друку гэта даволі добра захаваны экзэмпляр "напрэстольнага" Эвангельля, выдадзенага ў 1575 годзе ў Вільні Пётрам Мсьціслаўцам і Мамонічамі.

Публічная бібліятэка Ню Ёрку — адна з найбольшых сьвету й другая па вялічыні — пасьля Кангрэсавай у Вашынгтоне — у Амэрыцы. Яе фонды шацуюцца цяпер на больш 30 міліёнаў пазцыяў, 14 міліёнаў з чаго кнігі й брашуры, рэшта — рукапісы, гравюры, абразы ды іншае. Калі мець на ўвазе яшчэ тое, што выстаўка мае трываць чатыры месяцы, — наракаць, што юбілей Скарыны ў Амэрыцы адзначаны заскромна, хіба-ж не даводзіцца, хоць яна на добрага паўгоду й пэратэрмінаваная. Што "Амэрыка адкрытая" — доктар Скарына пэўна-ж добра ўжо знаў, хоць ніколі ня мог прадчуваць, што нейкае паўтысячы гадоў пазьней ягоны якраз партрэт будзе красавацца на рэпрэзэнтацыйнай вуліцы найбольшага места "Новага Сьвету". Гэта й парадокс, і капрыс гісторыі, што ўгодкі праскага Скарынавага друку гэтак публічна, перад усім сьветам, адзначаюцца на амэрыканскім кантынэньце, а ціха пра гэта ў Празе! За колькі тыдняў, думаю, буду мець фатаграфіі выстаўкі й дашлю Вам для лепшага ўяўленьня, як яна выглядае.

А цяпер — да тых справаў нашай "скарыніяны", што былі кранутыя Вамі ў лісьце:

"Францiско дэ Гартэн" сярод адрысатаў ліста — хоць і цікавая дэталь, ды ня думаю, што павінна нас канфузіць у справе ідэнтыфікацыі "садаўніка Францiско". Яна можа быць упрашчэньнем, абрэвіятурай канцылярысты, заміж "Францiско, што працуе ў садзе", ці, па значаньні тое самае, што й "Францiско садаўнік". Тэксту ліста ня бачыў, але самыя простыя разьвязкі "загадак" часта бываюць і самымі правільнымі.

Ня думаю, таксама, што павінна нас канфузіць і справа нязгадваньня ў карэспандэнцыі "Францiско садаўніка", ці "майстры Францiско" па прозьвішчы. Калісьці ўважна пераглядаў тэксты запісаў колькісот студэнтаў на Кракаўскі ўнівэрсытэт у Скарынавыя гады. Прозьвішчы там здараюцца вельмі, вельмі рэдка. Заўсёды толькі імя ці разам зь імем бацькі, ці зь месцам паходжаньня. У ведамым-жа запісе Кракаўскага ўнівэрсытэту пра Скарынаў бакаляўрэат, хоць там і пералічана 16 бакаляўраў, няма ніводнага прозьвішча! У Скарынаву пару прозьвішча яшчэ ня мела гэткага шырокага бытавога й юрыдычнага ўжытку й значаньня, як цяпер. Калі мы сяньня на гвалт дашукваемся прозьвішчаў у розных запісах і мататар'ялах XVI стагодзьдзя, дык гэта таму, што глядзім на справу з жыцьцёвых рэаліяў стагодзьдзя XX-га, калі прозьвішча абавязвае ўва ўсіх, навет і нейкіх банальных запісах. Ды й цяпер бывае гэтак не заўсёды. У расейскай, прыкладам, мове ёсьць традыцыя называць бліжэй сабе ведамых асоб па імі й "отчеству". І можна гадамі весьці перапіску ды часта згадваць нейкага добрага знаёмага "Івана Іванавіча" без падаваньня ягонага прозьвішча. Вось дзеля гэтага непадаваньне прозьвішча ў колькіх надрукаваных

Кёплем лістох не павінна нас "смущать", тымбольш, што другая альтэрнатыва — "два садаўнікі Франціско" адным і тымсамым часам — вельмі-ж непраўдападобная, даводзіць яе няма як.

Прывітаньні зь Ню Ёрку! Беражэце здароўе!
У глыбокай пашане,
адданы Вам
Вітаўт Тумаш

ПС: У апошнім лісьце згадалі пра нейкую зацемку, ці не Жыдліцкага, у "Літэрарных Новінах". Пераглядаў гэтыя "Новіны" за колькі месяцаў 1967 году — ня мог яе знайсьці. Хоць гэта й дробная рэч, але, калі-б мелі пад рукой нататку, у якім нумары "Новін" яна надрукаваная, за даведку буду вельмі ўдзячны.

..........................................................................

1. Ход тут пра кн. 7-ю часапісу БІНІМ "Конадні", Ню Ёрк — Мюнхэн, 1963 г.

2. Florovskij, Ant. Vas. Nové správy o pobytu Františka Skoryny v Praze [Casopis Narodniho Musea. Oddil Duchovědny. Roc. CX. Praha 1936].

3.Да плянаванага падарожжа ў Аўстрыю, для пошукаў скарыніяны, не дайшло.

4. У юбілейным скарынінскім зборніку АН БССР 1968 году, "450 год беларускага кнігадрукаваньня", доктару Скарыну часта пасьля імя "Францыск", дададзенае (у дужках) і імя "Георгій".

5. Цяпер датычных да доктара Скарыны актаў і дакумэнтаў ведама панад 60.

6. АН БССР у 1969 г. выдала кнігу "Прадмовы і пасьляслоўі" Ф. Скарыны.

7. Згаданая тут праца А. С. Зярновай пра кнігі Ф. Скарыны ня была выдадзеная.

8. Так пісаў Этторэ лё Гатто доктару Я. Садоўскаму.

9. Як колькі гадоў пазьней было ўстаноўлена, свой віленскі друк доктар Скарына пачаў яшчэ раней, бо ў 1522 годзе.

10. У 1969 г. АН БССР выдала кніжку "Прадмовы і пасьляслоўі Ф. Скарыны" (Рэцэнзію гл. "Запісы", кн. 12, Ню Ёрк, 1974, б. 135-140).

11. Плянаванае падарожжа ня было зрэалізаванае.

12. У выдадзеным АН БССР зборніку 1968 г. артыкулаў "з Кракава, Вільні" няма. Няма там і артыкулу А. А. Сідарава.

13. У зборніку АН БССР у запраўднасьці друкаваліся артыкулы 21 аўтара.

14. Гэтая бібліяграфія скарыніяны (каля 1200 пазыцыяў) была надрукаваная ў кнізе 5-й "Запісаў" БІНіМ (Мюнхэн). Яна ахоплівае скарыніяну 1492-1967 гадоў (з дапаўненьнямі — да 1970 г.).

15. Maria Wojciechowska. Рэцэнзія на: L. Abramowicz, Cztery wieki drukarstwa w Wilnie, 1925 [Kwartalnik historyczny, XL, z. 3. Lwów, 1926, str. 473-475].

16. А. В. Флароўскі мае тут на думцы артыкул: И. Шляпкин. К биографии Франциска Скорины. (ЖМНП, нр. 4, СПБ, 1892 г., б. 382-385).

17. Дагадка спраўдзілася: у артыкуле А. В. Флароўскага, пры друкаваньні яго ў менскім зборніку АН БССР, было выпушчана ўсё, што датычыла скарынаведную працу й публікацыі Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва.

18. Ход тут пра публікацыю: František Dvorský. Přispěvky k dějinam slovanskim [Slovanský Sbornik, r. IV, č. 4. Praha, 1885, б. 212).

19. Флоровский А. Чешская библия в истории русской культуры. Франциск Скорина и продолжатели его дела. [Sbornik filologicky, III. Třida Česke Akademie Věd a Uměni, sv. XII. Praha, 1940-1946, б. 153-258).

20. Частку выпушчанага ў менскім зборніку матар'ялу А. В. Флароўскі пасьля апублікаваў у ленінградзкім выданьні: Литература и общественная мысль древней Руси. Академия Наук СССР. Труды Отдела древнерусской литературы, т. XXIV. Ленинград, 1969 г. А. В. Флоровский. Франциск Скорина в Москве, б. 155-158.

21. Рэпрадукцыя гэтай граматы была апублікаваная ў кн. 5-й "Запісаў" БІНіМ, Мюнхэн, 1970, б. 31.

# МАРФАЛЯГІЧНЫЯ АСАБЛІВАСЬЦІ КНІГІ ЦАРСТВАЎ Ф. СКАРЫНЫ

**Янка Садоўскі**

Мэта гэтага артыкулу — выявіць марфалягічныя асабліва - сьці мовы Кнігі Царстваў у перакладзе Франьцішка Скарыны.

З прычыны нястачы ў друкарні стараславянскага шрыфту, выносных ды іншых надрадковых знакоў (як лігатуры, націскі, скароты й т. п.), давялося замяніць паасобныя стараславянскія літары сучаснымі, расшыфраваць лігатуры й скароты ды апусьціць некаторыя іншыя знакі. У бібліяграфіі правапіс, ужываны ў расейскіх перадрэвалюцыйных выданьнях, заменены новым.

## АСАБЛІВАСЬЦІ Ў СКЛАНЕНЬНІ НАЗОЎНІКАЎ

У скланеньні назоўнікаў былі знойдзеныя наступныя асаблівасьці:

1. Асновы на -а-, -ja-

### Адзіночны лік

**Родны склон.** У мяккіх асновах пераважна ўжываецца канчатак **-и,** што зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам **-ы** ў цьвёрдых асновах, прыкл.: земли ж. (б. 8а, ІЦ, раз. 2), чаши ж. (б. 139а, IIIЦ, раз. 7), души ж. (б. 101а, ІЦ, раз. 18), вдовици ж. (б. 168а, IIIЦ, раз. 17), девици ж. (б. 120б, IIIЦ, раз. 1), пустыни ж. (б. 26б, ІЦ, раз. 13), дяди **м.** (б. 30б, ІЦ, раз. 14).

Тое самае наглядаецца ў старабеларускіх помніках.(1)

Пасьля **г, к, х** канчатак **-и** ўжываецца часьцей, як канчатак **-ы,** прыкл.: ваги ж. (б. 926б, IIЦ, раз. 14), отподлоги ж. (б.134б, IIIЦ, раз. 6), муки ж. (б. 198а IIIIЦ, раз. 7), отреки ж. (б. 130б. IIIЦ, раз. 4), руки ж. (б. 101а, IIЦ, раз. 18), гречихи ж. (б. 100а, IIЦ, раз. 17).(2) У небеларускіх помніках групы **ги, ки, хи** зьяўляюцца ў 14-м стагодзьдзі.

### Множны лік

**Назоўны склон.** У мяккіх асновах канчатак **-и,** што зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам **-ы** ў цьвярдых асновах, пераважае. прыкл.: девици ж. (б. 19а ІЦ, раз. 9), вдовици ж. (б.106б, IIЦ, раз. 20).

Прыклады зь беларускіх крыніцаў 15-га ст. падае ак. Я. Карскі.

Пасьля **г, к. х,** падобна як у родным склоне адзіночнага ліку, найчасьцей сустракаецца канчатак **и,**прыкл.: книги ж. (б. 119б, IIIЦ, Прадмова), слуги **м.**(б. 93а IIЦ, раз. 14), бальки ж. (б. 134а IIIЦ, раз. 6), книжки ж. (б. 2а, ІЦ, Прадмова), дочки ж. (б. 67б, IIЦ, раз. 1), фикги ж. (б. 96б, IIЦ, раз. 15).

**Родны склон.** Канчатак **-овъ,** які прыйшоў з асновай на **-й-** праз асновы на -о-, -jo-, ужыва- ецца ў наступных словах: фикговъ ж. (б. 54а, IЦ, раз. 25), связковъ ж. (б. 54а, IЦ, раз. 25), подставковъ ж. (б. 139б, IIIЦ, раз. 7).

У старабеларускіх помніках канчатак **-овъ** сустракаецца спарадычна.

Канчатак **-еи,** характэрны асновам на **-і-,** рэдка ўжываецца, прыкл.: банеи ж. (б. 140б. IIIЦ, раз. 7), грушеи ж. (б. 75б, IIЦ, раз.5), отноздреи ж. (б. 111а, IIЦ, раз. 22). Ак. Я. Карскі падае прыклады зь беларускіх помнікаў 16-га й 17-га стст. (3)

**Вінавальны склон.** У мяккіх асновах, як і ў назоўным склоне множнага ліку, звычайны канчатак **-и,** прыкл.: овци ж. (б. 89б, IIЦ, раз. 13), спици ж. (б. 140а, IIIЦ, раз. 7), светилници ж. (б. 141а, IIIЦ, раз. 7), удици ж. (б.141а, IIIЦ, раз. 7).

Ак. Я. Карскі падае прыклады зь беларускіх крыніцаў 16-га ст. і пазьнейшых. (4)

Як і ў вінавальным склоне адзіночнага ліку, найчасьцей сустракаецца канчатак **-и** пасьля **г, к, х,** прыкл.: слуги м. (б. 93а, IIЦ, раз. 14), книги ж. (б. 119б, IIIЦ, Прадмова), ступки ж. (б. 141а, IIIЦ, раз. 7), чашки ж. (б. 141а, IIIЦ, раз. 7), продухи ж. (б. 198б; IIIIЦ, раз. 7), фикги ж. (б. 94б, IIЦ, раз. 15).

**2. Асновы на** -о-, -jo-

### Адзіночны лік

**Назоўны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-о** ўжываецца толькі ў наступных собскіх імёнах: Марко (б. 2а, IЦ, Прадмова), Франциско, (б. 3б, IЦ, Прадмова), якія ўжываюцца толькі па адным разе.

Паходжаньне гэтае формы няпэўнае. Ак. Я. Карскі думае, што канчатак **—о** ў назоўным склоне мужчынскага роду паўстаў пад уплывам канчатку **-о** ў назоўным склоне ніякага роду. (5) Ак. А. Шахматаў, Н. Грунскі й Л. Якубінскі ўважаюць канчатак **-о** ў назоўным склоне мужчынскага роду за канчатак клічнага склону. (6)

**Родны склон мужчынскага роду.** Канчатак -у, які прыйшоў з асноваў на **-й-,** вельмі распаўсюджаны, прыкл.: крику (б. 11а, IЦ, раз. 4), мору (б. 13а, IЦ, раз. 4), часу (б. 70б, IIЦ, раз. 3), лесу (б. 100б, IIЦ, раз. 18), рогу (б. 123, IIIЦ, раз. 1), безъ страху (б. 131а, IIIЦ, раз. 4), храму (б. 142б, IIIЦ, раз. 8), звозу (б. 195а IIIIЦ, раз. 5), догробу (б. 213а, IIIЦ, раз. 13), отгневу (б. 236а, IIIIЦ, раз. 23).

Канчатак гэты ўжываецца ў старабеларускіх помніках часьцей як у расейскіх ці ўкраінскіх. (7) (8)

**Вінавальны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-а,** фактычна - канчатак роднага склону, быў знойдзены ў наступных назоўніках: Едали кому отвасъ взях **вола** или **осла...** (9), (б. 23б, IЦ, раз. 12). (Калі я ўзяў ад каго-небудзь з вас вала ці асла...) ИРече кнему господь, возми изстада **юнца...** (б. 33б, IЦ, раз. 16). (І сказаў яму Госпад: "Вазьмі бычка із стада...") (10). Азъ теже раздроблю **телца** втораго... (б. 170а, IIIЦ, раз. 18). (Я разрэжу таксама другое

цялё...) (11). Иужа медяного егоже был уделал Моисеи сотре... (б. 223а, IIIЦ, раз. 18). (I ён зьнішчыў медзянога вужа, якога зрабіў Майсей...)

Ак. Карскі падае адзін прыклад канчатку **-я** зь беларускіх помнікаў 17-га ст. і адзін канчатку **-я** з 16-га ст. (12) У "Повести о Трысчане" назоўнік конь ужываецца два разы часьцей у форме "коня", як у форме "конь"; абедзьве формы сустракаюцца каля пяцьдзесяці разоў. (13) У "Повести о Бове", наадварот, форма "конь" ужываецца два разы часьцей, як форма "коня"; абедзьве формы сустракаюцца больш за сорак разоў. (14) У "Повести о Трысчане" слова "елень"ужываецца толькі адзін раз і мае форму "еленя". (15)

**Месны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-у,** характэрны для асноваў на **-й,** быў знойдзены толькі ў наступных словах: въ ряду (б. 2б, IЦ, Прадмова), набрегу (б. 25б, IЦ, раз. 13), (16), одуху (б. 33а, IЦ, Зьмест 16-га раз.), напочатку (б. 98б, IIЦ, раз. 17), на боку (б. 134а IIЦ, раз. 6), (17), опоезду (б. 148, IIЦ, Зьмест 10-га раз.).

Прыкладаў канчатку -е ў старабеларускіх помніках вельмі шмат. (18)

### Множны лік

**Назоўны склон мужчынскага роду.** У цьвярдых асновах звычайна ўжываецца канчатак **-ы,** фактычна канчатак вінавальнага склону, напр.: еувагелисты (б. 2а, IЦ, Прадмова), дары (б. 11а, IЦ, раз. 6), браты (б. 35б, IЦ, раз. 17), хлебы (б. 96а, IIЦ, раз. 6), воины (б. 114б, IIЦ, раз. 23), покармы (б 13об, IIIЦ, раз. 4), сосуды (б. 150б, IIIЦ, раз. 10).

Тое самае наглядаецца ў старабеларускіх помніках. (19)

Канчатак **овѣ [ове],** характэрны для асновы на **-й-,** часамі ўжываецца ў цьвярдых асновах. У мяккіх асновах канчатак **-еве** зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам **-овѣ,** напр.: пословѣ (б. 23а, IЦ, раз. 11), филистинове (б.190б IIЦ, раз. 21), херувимовѣ (б. 139б, IIIЦ, раз. 7), народовѣ (б. 151а IIIЦ, раз. 10), богове (б. 225а IIIIЦ, раз. 18), хрущеве (б. 144а, IIЦ, раз. 8, стражеве (б. 198, IIIЦ, раз. 7), отцеве (б.213б, IIIЦ, раз. 14).

Гэтыя канчаткі знаходзяцца і ў старабеларускіх помніках. (20)

**Родны склон.** У цьвярдых асновах звычайна ўжываецца канчатак **-овъ,** які прыйшоў з асновы на **—й-,**прыкл.: враговъ м. (б. 11б, IЦ, раз. 4), отбоговъ м. (б. 14а, IЦ, раз. 6), хлебовъ м. (б. 36а, IЦ, раз. 17), плодовъ м. (б. 67б, IIЦ, раз. 1), возовъ м. (б. 93б, IIЦ, раз. 15), столповъ м. (б. 137а, IIIЦ, раз. 7), пророковъ м. (б. 179б, IIIЦ, раз. 22), садовъ м. (б. 195а, IIIЦ, раз. 5), рабовъ м. (б. 202б, IIIЦ, раз. 9).

У мяккіх асновах часта сустракаецца канчатак **—евъ,** які зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам **-овъ,** напр.: жерцевъ м. (б. 47а, IЦ, Зьмест 22-га раз.), мужевъ м. (б. 94а, IIЦ, раз. 15), неприятелевъ м. (б. 110б, IIЦ, Зьмест 22-га раз.), отцевъ м. (б. 147а IIIЦ, раз. 9), месецевъ м. (б. 152б, IIIЦ, раз. 11), олтаревъ м. (б. 217б,

IIIIЦ, раз. 15).

У мяккіх асновах канчатак **-еи [-ѣи],** характэрны для асновы на **-ĭ-**, ужываецца куды часьцей, як канчатак **-евъ,** прыкл.: повареи м. (б. 17б, IЦ, раз. 8), месецеи м. (б. 68б, IIЦ, раз. 2), цареи м. (б. 119б, IIIЦ, Прадмова), конѣи м. (б. 129б, IIIЦ, Зьмест 4-га раз.), конеи м. (б. 224б, IIIIЦ, раз. 18), мужеи м. (б. 199а IIIIЦ, раз. 7), поколенеи н. (б. 153б, IIIЦ, раз. 11), безакониеи н. (б. 237б, IIIIЦ, раз. 24).

Тое самае наглядаецца ў старабеларускіх помніках. (21)

**Вінавальны склон мужчынскага роду.** У мяккіх асновах часамі ўжываецца канчатак **-и,** які зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам **-ы** у цьвярдых асновах, прыкл.: мужи (б. 148б, IIIЦ, раз. 9), ездци (б. 151а, IIIЦ, раз. 10), вкоши (б. 205б IIIIЦ, раз. 10), кони (б. 234б,. IIIIЦ, раз. 23).

Гэтая форма знаходзіцца таксама ў старабеларускіх помніках. (22)

Пасьля **г, к, х** нармальны канчатак **-и,** прыкл.: враги (б. 7а, IЦ, раз. 2), вългрехи (б. 8б, IЦ, раз. 2), грешники (б. 32а, IЦ, раз. 15), сотники (б. 100а, IIЦ, раз. 18), отроки (б. 106б, IIЦ, раз. 20), котлики (б. 141а, IIIЦ, раз. 7), пророки (б. 169б, IIIЦ, раз. 18), вполки (б. 189б, IIIIЦ, раз. 3).

Назоўнікі, што абазначаюць асобы, часамі маюць канчаткі **-овъ, -еи,** прыкл.: ереовъ (б. 95б і 96а, IIЦ, раз. 15), мужеи (б. 13б, IЦ, раз. 5).

Ак. Карскі падае прыклады зь беларускіх крыніцаў паловы 16-га ст. і пазьнейшых. (23)

**Творны склон.** Часамі сустракаецца канчатак **-ами,** які прыйшоў з асноваў на **-а-,** прыкл.: надъ разбоиниками м. (б. 73а IIЦ, раз. 4), надъ стрельцами м. (б. 108а, IIЦ, раз. 20), межи кружками м. (б. 139б, IIIЦ, раз. 7), рогами м. (б. 179б, IIIЦ, раз. 22), вратами н. (б. 130а, IIIЦ, раз. 4), безакониами н. (б. 166б, IIIЦ, раз. 16).

Гэты канчатак ужываецца і ў старабеларускіх помніках. (24)

**Месны склон.** Канчаткі **-ахъ, -яхъ,** якія прыйшлі з асноў на -а-, -ja-, часамі сустракаюцца, напр.: въпредисловиахъ н. (б. 3а, IЦ, Прадмова), вполяхъ н. (б. 95б, IIЦ, раз. 15), въ царствахъ н. (б. 150б, IIIЦ, раз. 10) омучительствахъ н. (б. 166а, IIIЦ, раз. 16), наконях м. (б. 199а, IIIIЦ, раз. 7).

Канчатак **-охъ,** які належыць да асноваў на **-й-,** быў знойдзены толькі ў наступным слове: оврадникохъ (б. 106а, IIЦ, Зьмест 20-га раз.).

Усе тры канчаткі ўжываюцца і ў старабеларускіх помніках.

**Асновы на -ĭ-**

**Адзіночны лік**

**Родны склон мужчынскага роду.** Наступныя назоўнікі маюць канчатак **-я,** характэрны для асноваў на -jo-: путя (б. 25а, IЦ, раз. 12), (26), локтя (б. 140а, IIIЦ, раз. 7), медведя (б. 37а, IЦ, раз. 17).

У вапошнім слове родны й вінавальны склоны маюць аднолькавы канчатак. Форма роднага склону знаходзіцца ў сказе: Господь богъ иже избавил мене отустъ льва и отпщекъ медьведя,

тои теже избавить мене от руку филистымлянина погана сего... (б. 37а, IЦ, раз. 17).

Канчатак **-я** звычайна ўжываецца ў старабеларускіх помніках. (27)

**Давальны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-ю,** які належыць да асновы на -jo-, быў знойдзены толькі ў наступным слове: гостью (б. 86а, IIЦ, раз 12). (27а). Ён сустракаецца ў старабеларускіх помніках. (28)

**Вінавальны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-я,** ідэнтычны з канчаткам роднага склону, ужываецца ў наступным назоўніку: медьведя (б. 37а, IЦ, раз. 17), які знаходзіцца ў сказе: Яко Азъ рабъ твои...имедьведя забихъ. (Таму што ■ твой слуга і мядзьведзя забіў).

**Множны лік**

**Родны склон.** Канчатак **-евъ,** які прыйшоў з асноваў на -о-, вельмі рэдкі, прыкл.: локтевъ (б. 133б, IIIЦ, раз. 6). (29).

Ак. Карскі падае колькі прыкладаў з старабеларускіх помнікаў. (30)

**Давальны склон жаноцкага роду.** Канчатак **-амъ,** які належыць да асноваў на **-а-**, ужываецца вельмі рэдка, прыкл.: къ речамъ (б. 149б, IIЦ, раз. 10).

**Творны склон жаноцкага роду.** Наступнае слова мае канчатак **-ями,** характэрны для асноваў на -ja-: костями (б. 235, IIIЦ, раз. 23).

Ён ужываецца таксама ў старабеларускіх помніках. (31)

**Месны склон жаноцкага роду.** Часамі ўжываюцца канчаткі **-ахъ, -яхъ,** якія прыйшлі з асноваў на **-а-**,прыкл.: придверяхъ (б. 5б, IЦ, раз. 1), въ приповестяхъ (б. 107б, IIЦ, раз. 20), о речахъ (б. 146б, IIIЦ, раз. 8).

Гэтыя канчаткі сустракаюцца ў беларускіх помніках у 16-м ст. (32)

**Асновы на -n-**

**Адзіночны лік**

**Родны склон.** Звычайным канчаткам зьяўляецца **-я,** які належыць да асноў на -jo-, напр.: дня м. (б. 13а, IЦ, раз, 5), ячменя м. (б. 198а, IIIЦ, раз. 7), отраменя н. (б. 22а, IЦ, раз. 10), отплеменя н. (б. 108б, IIЦ, раз. 21).

Паводля ак. Карскага, канчатак **-я** знаходзіцца ў беларускіх помніках 16-га ст. (33)

**Множны лік**

**Назоўны склон.** Канчатак **-еве,[34],** які прыйшоў зь мяккой групы асноваў на **-о-**, быў знойдзены ў наступным слове: дневѣ (б. 124а, IIIЦ, раз. 2). (35)

Ак. Карскі падае адзін прыклад з гэтага канчатку зь Бібліі Скарыны. (36)

**Родны склон мужчынскага роду.** У назоўніку "дзень" колькі разоў сустракаецца канчатак **-евъ,** уласьцівы мяккой групе асноваў на **-о-**, прыкл.: отдневъ (б. 235б, IIIЦ, раз. 23).

Гэты канчатак ужываецца ў старабеларускіх помніках. (37)

Канчатак **-еи,** характэрны для асноваў на **-і-,** вельмі рэдкі, прыкл.: каманеи (б. 170б, IIIЦ, раз. 18).

Я. Ф. Карскі падае адзін прыклад гэтага канчатку з старабеларускіх помнікаў. (38)

**Месны склон ніякага роду.** У наступных выпадках ужываецца канчатак ахъ, які прыйшоў з асноваў на **-а-:** оименахъ (б. 112б, IIЦ, раз. 23), по племенахъ (б. 107б, IIЦ, раз. 20), въ племенахъ (б. 153б, IIIЦ, раз. 11).

Ак. Карскі падае адзін прыклад канчатку **—ахъ** з Кнігі Лікаў Скарыны. (39)

**Асновы на -а-**

Назоўнікі "небо" і "слово" часамі маюць канчаткі з асноваў на **-о-** у месным склоне адзіночнага ліку, прыкл.: нанебе (б. 144б, IIIЦ, раз. 8), і ў родным склоне множнага ліку, прыкл.: словъ (б. 3б, IЦ, Прадмова). (40)

Назоўнік "слово" часамі мае канчатак **-ахъ,** характэрны для асноваў на **-а-,** у месным склоне множнага ліку, прыкл.:ословахъ (б. 232б IIIIЦ, раз. 22).

Паводля ак. Карскага, гэтыя формы даволі часта ўжываюцца ў старабеларускіх помніках. (41)

## ПРЫМЕТНІК

У скланеньні прыметніка былі знойдзеныя наступныя асаблівасьці:

### Адзіночны лік

**Родны склон мужчынскага ды ніякага роду.** Канчатак **-ого,** які прыйшоў з скланеньня займеньнікаў, ужываецца радзей, як царкоўнаславянскі **-аго,** прыкл.: великого м. (б. 13а, IЦ, раз. 5), сухого м. (б. 96а, IIЦ, раз. 16), попѣльного м. (б. 172а, IIIЦ, раз. 19), до пустого м. (б. 215а, IIIIЦ, раз. 14), пияного н. (б. 6а, IЦ, раз. 1), горкого н. (б. 105б, IIIЦ, раз. 19), великого н. (б. 141а, IIЦ, раз. 7).

Гэты канчатак часта сустракаецца ў старабеларускіх помніках. (42)

**Родны склон жаноцкага роду.** Канчатак **-ое,** які прыйшоў з скланеньня займеньнікаў, ужываецца часьцей, як царкоўнаславянскі **-ыя,** прыкл.: изпречистое (б. 1б, IЦ, Прадмова, полуденное (б. 61б, IЦ, раз. 29), великое (б. 101б, IIЦ, раз. 18), младое (б. 120б, IIIЦ, раз. 1), доброе (б. 161а, IIIЦ, раз. 14), плодовитое (б. 225а, IIIIЦ, раз. 18), от далекое (б. 229б, IIIIЦ, раз. 20).

Канчатак -ое шырака распаўсюджаны ў беларускіх помніках 15-га і 16-га стст. (43)

**Вінавальны склон мужчынскага роду.** Прыметнікі, што абазначаюць прыметы жывых асобаў, маюць аднолькавы канчатак у вінавальным і родным склонах. Канчатак **-ого-** ўжываецца куды радзей, як царкоўнаславянскі **-аго,** прыкл.: лютого (б. 114а, IIЦ, раз. 23), виноватого (б. 143б, IIIЦ, раз. 8), медяного (б. 223а, IIIIЦ, Зьмест 18-га раз. ).

Канчатак -го сустракаецца і ў старабеларускіх помніках. (44)

**Месны склон жаноцкага роду.** Найчасьцей ужываецца канчатак **-ои,** які зьявіўся па аналёгіі з канчаткам давальнага склону, прыкл.: на темнои (б. 49б, ІЦ, раз, 23), наголои (б. 84б, ІІЦ, раз. 11), налевои (б. 141а. ІІІЦ, раз. 7), въ пустои (б. 147б, ІІІЦ, раз. 9), навысокои (б. 227б, ІІІЦ, раз. 19).

Звычайны канчатак у старабеларускіх помніках **—ои.** (45).

**Множны лік**

**Назоўны склон мужчынскага роду.** Канчатак **-ыи,** які зьявіўся па аналёгіі з канчаткам назоўнага склону адзіночнага ліку ў цьвярдых асновах, ужываецца бадай што гэтак часта, як і царкоўнаславянскі **-ии,** прыкл.: мудрыи (б. 1б, ІЦ, Прадмова), златыи (б. 15а, ІЦ, раз. 6), святыи (б. 119, ІІІЦ, Прадмова), ровныи (б. 150а, ІІІЦ, раз. 10).

Канчаткі **-ие, -ые,** — канчаткі вінавальнага склону множнага ліку, сустракающца радзей, як канчаткі **-ии, -ыи,** прыкл.: алчущие (б. 119б, ІІІЦ, Прадмова), драгые (б. 150а, ІІІЦ, раз. 10).

Тое самае наглядаецца ў старабеларускіх помніках. (46)

**Вінавальны склон мужчынскага роду.** Пераважаюць канчаткі **-ие, -ые,** прыкл.: чуждые (б. 16а, ІЦ, раз. 7), великие (б. 221б, ІІІЦ, раз. 17), кожаные (б. 13б, ІЦ, раз. 5), празные (б. 190а, ІІІЦ, Зьмест 4-га раз.), медяные (б. 239б, ІІІЦ, раз. 25).

Канчатак **-ыи,** які прыйшоў з назоўнага склону множнага ліку, рэдка сустракаецца, прыкл.: златыи (б. 14б, ІЦ, раз. 6)

Згаданыя канчаткі ўжываюцца таксама ў старабеларускіх помніках. (47)

**Назоўны й вінавальны склоны жаноцкага й ніякага роду.** Канчаткі **-ие, -ые,** пераважаюць, прыкл.: высокие наз. ж. (б. 27б, ІЦ, раз. 14), людские наз. ж. (б. 116б, ІІЦ, раз. 24), градовые наз. ж. (б. 189б, ІІЦ, раз. 3), иные наз. н. (б. 1б, ІЦ, Прадмова), жреческие він ж. (б. 48б ІЦ, раз. 22), великие він ж. (б. 79а, ІІЦ, раз. 7), льняные він ж. (б. 77, ІІЦ, раз. 6), серебреные він ж. (б. 211а, ІІІЦ, раз. 12), иные він н. (б. 2а, ІЦ, Прадмова), злые він н. (б. 166а, ІІІЦ, раз. 16)

Часамі ўжываецца канчатак **-ыи,** прыкл. златыи наз. ж. (б. 15а, ІЦ, раз. 6), таковыи наз. н. (б. 140а, ІІІЦ, раз. 7), небесныи він ж. (б. 198а, ІІІЦ, раз. 7), добрыи він н. (б. 41а, ІЦ, раз. 19).

Гэтыя канчаткі сустракаюцца ў старажытных беларускіх помніках. (48)

## ЗАЙМЕНЬНІК-ПРЫМЕТНІК »ТОЙ»

У наступных склонах займеньнік-прыметнік "той" мае прыметнікавыя канчаткі.

**Адзіночны лік**

**Назоўны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** тои м. (б. 8а, ІЦ, раз. 2), тои м. (б. 144б, ІІІЦ, раз. 8), тая ж. (б. 100б, ІІЦ, раз. 18), тая ж. (б. 190б, ІІІЦ, раз. 4), тое н. (б. 17б, ІЦ, раз. 8), тое н. (б. 197б, ІІІЦ, раз. 6).

**Родны склон жаноцкага роду:** тое (б. 13а, ІЦ, раз. 5), тое (б.

1976, IIIIЦ, раз. 7), тои (б. 141а, IIIЦ, раз. 7).

**Вінавальны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** тои м. (б. 46б, IЦ, раз. 21), тои м. (б. 84б, IIЦ, раз. 11), тую ж. (б. 74а, IIЦ, раз. 4), тую ж. (б. 239б, IIIIЦ, раз. 25), тое н. (б. 9б, IЦ, раз. 2), тое н. (б. 136а, IIIЦ, раз. 6).

**Творны склон мужчынскага й ніякага роду:** стымъ м. (б. 97б, IIЦ, раз. 16), тымъ м. (б. 140б IIIЦ, раз. 7), тымъ н. (б. 2б IЦ, Прадмова).

**Множны лік**

**Назоўны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** тии (б. 70а, IIЦ, раз. 2), тии м. (б. 198б IIIIЦ, раз. 7), тые м. (б. 13б, IЦ, раз. 5), тые м. (б. 222а, IIIIЦ, раз. 17), тыи ж. (б. 230б, IIIIЦ, раз. 9), тыи н. (б. 2а, IЦ, Прадмова), тыи н. (б. 3б, IЦ, Прадмова).

**Родны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** тыхъ м. (б. 23а, IЦ, раз. 11), тыхъ м. (б. 160б, IIIЦ, раз. 14), тых ж. (б. 91а, IIЦ, раз. 14), тыхъ ж. (б. 135б, IIIЦ, раз. 6), тыхъ н. (б. 70б, IIЦ, раз. 3), тыхъ н. (б. 226а, IIIIЦ, раз. 19).

**Давальны склон мужчынскага роду:** тым (б. 53б, IЦ, раз. 25), тымъ (б. 161б, IIIЦ, раз. 14), тымъ (б. 232а, IIIIЦ, раз. 22).

**Вінавальны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** тые м. (б. 234б, IIIIЦ, раз. 23), тыи м. (б. 161б, IIIЦ, раз. 14), тые ж. (б. 22б, IЦ, раз. 11), тыи ж (б, 141б, IIIЦ, раз. 7), тыи н. (б. 3б, IЦ, Прадмова).

**Творны склон мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду:** въ тыхъ м. (б. 11а, IЦ, раз. 4), натыхъ м. (б. 137а, IIIЦ, раз. /), въ тыхъ ж. (б. 92а, IIЦ, раз. 14), на тыхъ ж. (б. 163а, IIIЦ, раз. 15), на тых н. (б. 199а, IIIЦ, раз. 7). (49)

Тое самае наглядаецца ў старабеларускіх помніках. (50)

## ЛІЧЭБНІК

Скарына захаваў царкоўнаславянскія формы лічэбнікаў з наступнымі выняткамі:

1. У родным і месным склонах лічэбнік "два" часта мае канчатак **-у**, які прыйшоў з скланеньня назоўнікаў і да якога дадаецца часамі канчатак **-хъ,** характэрны роднаму й меснаму склонам множнага ліку паказальных займеньнікаў, прыкл.: дву род. м. (б. 65б, IIЦ, Прадм.), дву род. ж. б. 128б, IIIЦ, раз. 3), двухъ род. м, (б. 124а, IIIЦ, раз. 2), одву мес. м. (б. 4б, IЦ, Прадмова), водву мес. н. (б. 201а, IIIIЦ, раз. 8).

Лічэбнік "два" мае канчаткі **-у, -ухъ,** у родным і месным склонах таксама ў старабеларускіх помніках. (51)

2. У родным склоне лічэбнікі "трие" і "четыре" часамі маюць канчатак **-ехъ,** які зьявіўся паводля аналёгіі з канчаткам меснага склону. прыкл.: трехъ (б. 139б, IIIЦ, раз. 7), трехъ (б. 239б, IIIIЦ, раз. 25), оттрех (б. 114а, IIЦ, раз. 23), оттрехъ (б. 116б, IIЦ, раз. 24), четырех (б. 139б, IIIЦ, раз. 7), четырехъ (б. 179б, IIIЦ, раз. 22).

Гэты канчатак сустракаецца таксама ў старабеларускіх помніках. (52)

3. Лічэбнікі 11, 20 і 30 маюць таксама ўсходнеславянскія формы: одиннадцеть, двадцеть і трыдцеть.

Форма "одиннадцеть" сустракаецца толькі адзін раз, у вінавальным склоне, на б. 237а (IIIIЦ, раз. 23).

Форма "двадцеть" ужываецца куды часьцей, як царкоўнаславянская "двадесеть". Яна была знойдзеная ў наступных склонах: **назоўным** — двадцеть, (б. 130б, IIIЦ, раз. 4), **родным** — двадцети (б. 70а, IIЦ, раз. 2), **вінавальным** — двадцеть (б. 217а, IIIIЦ, раз. 15), **творным** — съ двадцетми (б. 115б, IIЦ, раз. 24).

Форма "тридцеть" сустракаецца часьцей, як царкоўнаславянская "тридесеть". Яна была знойдзеная ў наступных склонах: **назоўным** — тридцеть (б. 130б, IIIЦ, раз. 4), **родным** — тридцети (б. 133б, IIIЦ, раз. 6), **вінавальным** — тридцеть (б. 124б, IIIЦ, раз. 2), **творным** — межи тридцетми (б. 114б, IIЦ, раз. 23), **месным** — вътридцети (б. 74б, IIЦ, раз, 5).

Згаданыя формы лічэбнікаў знаходзяцца таксама і ў старабеларускіх помніках. (53)

## ДЗЕЯСЛОЎ

У Кнізе Царстваў былі знойдзеныя наступныя асаблівасьці ў формах дзеяслова.

### Цяперашні час

У другой асобе адзіночнага ліку часамі ўжываецца канчатак **-шъ**, напр.: даешъ (б. 56б, IЦ, раз. 26), идешъ (б. 62а, IЦ, раз. 30), ведаешъ (б. 124а, IIIЦ, раз. 2), стоишъ (б. 100б, IIЦ, раз. 18), чинишъ (б. 120б, IIIЦ, раз. 1).

Гэты канчатак сустракаецца таксама ў старабеларускіх помніках. (54)

У трэцяй асобе адзіночнага ліку Скарына пасьлядоўна ўжывае канчатак **-ть,** (55), прыкл.: богатить (б. 7б, IЦ, раз. 2), судить (б. 17а, IЦ, раз. 8), спить (б.170б, IIIЦ, раз. 18), седить (б. 103б, IIЦ, раз. 19), знаеть (б. 50а, IЦ, раз. 22), идеть (б. 99а, IIЦ, раз. 17), несеть (б. 102а, IIЦ, раз. 18), растеть (б. 227б, IIIIЦ, раз. 19).

Канчатак **-ть** пераважае і ў старабеларускіх помніках. (56)

У першай асобе множнага ліку канчатак **-мо** сустракаецца так часта, як канчаткі **-мъ** і **-мы,** узятыя разам, прыкл.: ходимо (б. 18б, IЦ, раз. 9), баимося (б. 49а, IЦ, раз. 23), молчимо (б. 103б, IIЦ, раз. 19), поразимо (б. 175а, IIIЦ, раз. 20), седимо (б. 198а, IIIIЦ, раз. 7), медлимо (б. 103ь, IIЦ, раз. 19), оучинимо (б. 196б, IIIIЦ. раз. 6).

Паводле Н. Дурново, канчатак -мо часта ўжываецца ў беларускіх (заходнярускіх у тэрміналёгіі Дурново) помніках, пачынаючы ад 14-га ст. (57) Ак. Карскі быў таксама падобнага погляду. (58)

У "Повести о Трысчане" канчатак **-мо** сустракаецца чатыры разы часьцей, як **-мъ;** а ў "Повести о Бове" **-мъ** ужываецца часьцей, як **-мо.**

У трэцяй асобе множнага ліку Скарына пасьлядоўна ўжывае канчатак **-ть,** (59), прыкл.: лежать (б. 84б, IIЦ, раз. 11), ходять (б.

17а, IЦ, раз. 18), чинять (б. 17б, IЦ, раз. 8), стоять (б. 149б, IIIЦ, раз. 10), пишуть (б. 2а, IЦ, Прадмова), живуть (б, 84б, IIЦ, раз. 11), знають (б. 221б, IIIIЦ, раз. 17).

Гэты канчатак пераважае ў старабеларускіх помніках. (60)

**Загадны лад**

У першай асобе множнага ліку найчасьцей сустракаецца канчатак **-мо,** напр.: принесмо (б. 11б, IЦ. раз. 4), оудармо (б. 29б, IЦ, раз. 143), биимося (б. 83а, IIЦ, раз. 10), бежимо (б. 94б, IIЦ, раз, 15), подьмо (б. 175б, IIIЦ, раз. 20), уделаимо (б. 190б, IIIIЦ, раз. 4), поставмо (б. 190б, IIIIЦ, раз. 4).

Гэты канчатак знаходзіцца таксама ў старабеларускіх помніках. (60)

У "Повести о Трысчане" і ў "Повести о Бове" канчатак **-мо** пасьлядоўна ўжываецца з двума выняткамі: на 76-й б. першай аповесьці знаходзіцца канчатак **-м,** а на 159-й другой **-мы.** (62)

**Будучы складаны час**

Форма буду + інфінітыў ужываецца найчасьцей. Царкоўнаславянская форма имамъ + інфінітыў часамі сустракаецца. Хоць я й знайшоў ня менш, як 130 прыкладаў першай формы, падам толькі наступныя: буду глаголати (б. 41, IЦ, раз. 19), буду играти (б. 77б, IIЦ, раз. 6), пророковати будешъ (б. 21а, IЦ, раз. 10), будеши пити (б. 167а, IIIЦ, раз. 17), брати будеть (б. 17б, IЦ, раз. 8), кланятися будеть (б. 194б, IIIIЦ, раз. 5), будемыся бити (б. 35б, IЦ, раз. 17),служити будем (б. 155а, IIIЦ, раз. 12), будете бояти (б. 24б, IЦ, раз. 12), будете стрещи (б. 208б, IIIIЦ, раз. 11), служити будуть (б. 112а, IIЦ, раз. 22), приносити будуть (б. 157б, IIIЦ, раз. 13).

А. П. Груцо цьвердзіць, што форма буду + інфінітыў прыйшла з паўночнаўсходніх беларускіх дыялектаў і ў расейскую літаратурную мову. (63) Ён падае прыклады зь беларускіх помнікаў першай паловы 14-га ст. (64)

**Запрошлы час [Плюсквампэрфэкт]**

Плюсквампэрфэкт часта ўжываецца й бадай заўсёды дапаможным дзеясловам выступае дзеяпрыметнік незалежнага стану прошлага часу — былъ,які прыймае адпаведны канчатак у залежнасьці ад ліку й роду, напрыкл.:

Иприиде кХлевомъ овчим еже **былъ узрелъ** идущи путемъ. (65) (б. 51а, IЦ, раз. 24).

(І прыйшоў да авечых хлявоў, якія быў пабачыўшы па дарозе).

Авенеръпакъ вже небылъ естъ Съдавыдомъ Вхеронѣ, яко **отпустилъ былъ** его отсебе смиром... (б. 71б, IIЦ, раз. 3).

(І Авэнэр ня быў ужо з Давідам, бо быў адпусьціўшы яго зь мірам.)

Иприиде отрокъ наместо гдеже **была упала** стрѣла...(б. 45а, IЦ, раз. 20).

(І хлопец прыйшоў на месца, дзе была ўпаўшы страла...)

Тогда прииде Ровоамъ сынъ Соломоновъ Въсихемъ, там убо **собралися были** вси людие Ізраилевы... (б. 154б, IIIЦ, раз. 12).

(Тады Раваам, сын Саламона, прыйшоў у Сыхам, бо там былі сабраўшыся ўсе людзі Ізраэлю...)

Гэты плюсквампэрфэкт шырака распаўсюджаны ў старабеларускіх помніках. (67)

## ДЗЕЯПРЫСЛОЎЕ

Дзеяпрыметнік незалежнага стану цяперашняга часу ў шмат якіх выпадках не скланяецца, стаўшыся дзеяпрыслоўем незакончанага трываньня, прыкл.:
Исталося ест единаго дня **идучи** туда Елисеи изашол книмъ иотпочинул ту... (67) (б. 190б, ІІІЦ, раз. 4).
(І сталася, аднаго дня Елісей, ідучы туды, зайшоўся да іх і адпачыў там.
Ивнегда вниде Къдавиду, паде налице свое **кланяючися** ему. (б. 66б, ІІЦ, раз. 1).
(І калі прыйшоў да Давіда, упаў на свой твар, кланяючыся яму.)
Адония пакъ **боячися** Соломона вниде въхрамъ господа бога... (б. 123б, ІІІЦ, раз. 1).
(Аданія-ж, баючыся Саламона, увайшоў у сьвятыню Госпада Бога...)

Дзеяпрыслоўе зьяўляецца ў беларускіх помніках у 14-ым ст., а ў 16-ым ст. яно ўжо шырака распаўсюджанае. (68)

## ПРЫСЛОЎЕ

Вышэйшыя й найвышэйшыя ступені ў якасных прыслоўях маюць, у бальшыні выпадкаў, канчатак **-еи**, прыкл.: вышеи, (б. 3б, ІЦ, Прадмова), ширеи (б. 3а, ІЦ, Прадмова), далеи (б. 99а, ІІЦ, раз. 17), болеи (б. 101а, ІІЦ, раз. 18), нижеи (б. 130а, ІІІЦ, раз. 4), наиперoccurrence наиперве (б. 1б, ІЦ, Прадмова), наисильнеи (б. 85а, ІІЦ, раз. 11), наиболеи (б. 85а, ІІЦ, раз. 11).

Канчатак **-еи** сустракаецца ў старабеларускіх помніках. (69) Ён пасьлядоўна ўжываецца ў "Повести о Трысчане" і ў "Повести о Бове". (70)

.....................................................................................................

1. Е. Ф. Карский. Белорусы, т. I, вып. 2-3, Москва, 1956, б. 161.
2. Тамсама, б. 167.
3. Тамсама, б. 168-169, 365.
4. Тамсама, б. 169.
5. Тамсама, б. 120-121, 169.
6. С. П. Самійленко. Нариси з історичної морфології української мови, т. I, Київ, 1964, б. 110.
7. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 123-124; А. И. Соболевский. Лекции по истории русского языка, Москва, 1907, б. 170-171.
8. С. П. Самійленко, op. cit., б. 114-115.
9. У гэтым сказе, а таксама ў наступных, назоўнікі ў вінавальным склоне падчыркненыя. Форма "осла" знаходзіцца таксама на б. 34б.
10. Гэтая форма знаходзіцца таксама на б. 170а, 170б і 171а.
11. Гэтая форма ўжываецца два разы на аднэй бачыне.
12. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 126.

13. Повесть о Трысчане. Выдавец А. Н. Веселовский. Сб. Отд. Русск. Яз. і Слов. Имп. Ак. Н. XLIV, 3, 1888. Приложения, б. 1-127.
14. Повесть о Бове. Выдавец А. Н. Веселовский, (гл. нр. 13) б. 129-172.
15. Тамсама, б. 98.
16. Гэтая форма ўжываецца колькі разоў.
17. Гэтая форма ўжываецца таксама на б. 14б.
18. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 133-134.
19. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 134-135, 136.
20. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 139.
21. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 143-145.
22. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 149.
23. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 150.
24. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 152.
25. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 155-157. Таксама ў Нарысы па гісторыі бел. мовы, АН БССР, Мінск, 1957. б. 111-112.
26. Гэтае слова ўжываецца колькі разоў.
27. Е. Ф. Карский, op cit., б. 172.
27а. Гэтая форма сустракаецца два разы на аднэй бачыне.
28, Е. Ф. Карский, op. cit., б. 172-173.
29. Гэтая форма, што абазначае адзінку меры, ўжываецца колькі разоў.
30. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 173.
31. Е. Ф. Карский. тамсама, б. 178.
32. Акадэмія Навук БССР, Нарысы, op. cit. б. 115.
33. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 172 і 181.
34. Напісаньне гэтага канчатку ў назоўным склоне множнага ліку ад слова "день" — "евѣ".
35. Гэты назоўнік сустракаецца колькі разоў.
36. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 173.
37. Тамсама, б. 173 і 182.
38. Тамсама, б. 182.
39. Тамсама, б. 184.
40. Гэтая форма сустракаецца куды часьцей, як царкоўна-славянская форма "словесѣ".
41. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 187.
42. М. Г. Булахаў. Прыметнік у беларускай мове. Мінск, 1964. б. 57 і наступныя.
43. М. Г. Булахаў, тамсама, б. 69-72.
44. Акадэмія Навукаў БССР, Нарысы..., б. 177
45. М. Г. Булахаў, op. cit., б. 104-105.
46. М. Г. Булахаў, тамсама, б. 108-109.

47. М. Г. Булахаў, тамсама, б. 111-112.

48. М. Г. Булахаў, тамсама, б. 114-115.

49. Я не знайшоў прыкладаў канчаткаў давальнага склону множнага ліку жаноцкага й ніякага роду ды творнага склону множнага ліку ніякага роду. Канчаткі-ж роднага склону адзіночнага ліку мужчынскага й ніякага роду, давальнага склону адзіночнага ліку мужчынскага , жаноцкага й ніякага роду, творнага склону адзіночнага ліку жаноцкага роду ды меснага склону адзіночнага ліку мужчынскага, жаноцкага й ніякага роду — царкоўнаславянскія.

50. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 193-199.

51. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 242-243.

52. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 245-246.

53. Акадэмія Навук БССР, Нарысы..., б. 193.

54. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 253.

55. Пасьлядоўнае ўжываньне канчатку **-ть** у трэцяй асобе адзіночнага й множнага ліку А. І. Жураўскі называе "найбольш паказальнай рысай у сыстэме дзеяслова, якая набліжае мову Скарыны да жывой беларускай мовы". (Глядзі А. І. Жураўскі. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы, т. І, Мінск, 1967, б. 125).

56. Е. Ф. Карский, op. cit., б. 255.

57. Н. Дурново. Очерк истории русского языка. Москва — Ленинград, 1924, б. 317.

58. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 261.

59. Гл. зноску 55.

60. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 264.

61. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 269-270.

62. Бібліяграфічныя даведкі ў зносках 13 і 14 вышэй.

63. А. П. Груцо. Гісторыя будучага складанага ў беларускай мове (Весці АН БССР, сэр. грам. нав., Мінск, 4, 1957, б. 90)

64. Тамсама, б. 89.

65. У гэтым сказе, а таксама ў наступных, плюсквампэрфэкт падчыркнены.

66. Акадэмія Нав. БССР, Нарысы..., б. 236-237. Таксама ў Анічэнка, У. В. Формы плюсквампэрфэкта ў беларускай пісьменнасьці 15-16 ст.ст. (Ученые записки Мозырского Гос. Пед. Инст., I, Минск, 1957, б. 170-171.

67. У гэтым сказе, а таксама ў наступных, дзеяпрыслоўе падчыркнена.

68. Д. А. Ляончанка. З гісторыі форм дзеяпрыметнікаў... Матэрыялы к курсу гістарычнай граматыкі беларускай мовы. Гомель, 1957, б. 4 і 9.

69. Е. Ф. Карский, тамсама, б. 71-72.

70. Бібліяграфічныя даведкі ў зносках 13 і 14.

# СКАРЫНАЎ КАЛЯНДАР

## і каляндарная сыстэма Беларусі яго пары

Вітаўт Тумаш

Зь віленскіх выданьняў доктара Франьцішка Скарыны асабліва мала дасьледаваны ягоны каляндар. Надрукаваны ён быў як адна з складовых частак "Падарожнае кніжкі" — як ейная частка пятая й апошняя — "Последование". Але пашыраўся каляндар напэўна й асобным выданьнем, што відаць з таго, што ён меў сваю загаловачную бачыну, сваю пагінацыю балонак, а ўнізе апошняе бачыны каляфон-прыпіску зь імём і прозьвішчам рэдактара-выдаўца, доктара Франьцішка Скарыны, ды з паказаньнем месца друку — "во славном месте Виленском". Дык з друкарскага гледзішча каляндар быў афармлены й на выданьне самастойнага ўжытковага карыстаньня.

Калі ў навуковай літаратуры Скарынаў каляндар дакладней дагэтуль ня вывучаўся, дык дзеля гэтага, што ён вялікая рэдкасьць. Доўгі час было ведама толькі пара некамплетных экзэмпляраў гэтага календара. Важнай падзеяй у галіне гісторыі старога беларускага кнігадруку было выяўленьне ў паваенных гадох у Даніі, у Каралеўскай бібліятэцы Капэнгагену, экзэмпляра Падарожнае Кніжкі з дасканальна захаваным камплетным Скарынавым календаром.

Толькі на падставе знойдзенага камплетнага календара можна было ўстанавіць гэткі важны для гісторыі беларускага друку факт, як год і час выхаду Скарынавае "Падарожнае кніжкі": не пазьней восені 1522 году, а не каля 1525 году, як дапушчалася раней. Гэта-ж значыць, што Падарожная Кніжка, а не Апостал 1525 году, была першым віленскім Скарынавым выданьнем, ды што год 1522 быў годам пачатку друку ў Вільні, на землях Беларусі ды й на ўсім усходзе Эўропы.

Скарынаў каляндар, першы друкаваны беларускі каляндар, навукова цікавы з колькіх гледзішчаў. Перш-наперш гэта ўнікальны помнік з самых пачаткаў беларускага кнігадруку, цікавы гісторыкам друку ўжо самым сваім друкарска-графічным

афармленьнем. Мова календара зь беларускімі назвамі месяцаў, знакоў задыяка ды іншымі сваімі асаблівасьцямі, хоць ужо й зьвяртала ўвагу мовазнаўцаў, але дакладней яшчэ нікім ня была разгледжаная. Цікавыя й Скарынавыя каляндарна-астранамічныя даведкі: "неамыльна напісаныя" інфармацыі пра будучыя зацьменьні сонца й месяца ды вызначаная "на нашу зямлю" ў гадзінах і мінутах даўжыня дня й ночы ў паасобныя дні году.

Цікавы й навукова важны й пададзены Скарынам падзённы пералік сьвятых і сьвятаў для ўсяго году. І цікавы ён ня толькі для гісторыкаў царквы ці для гагіёграфаў. Датаваньне дакумэнтаў, актавых ды летапісных запісаў у тыя часы часта падавалася ня лічбаю дня месяца дадзенага году, як цяпер, а імём таго сьвятога, памяць якога паводле календара на гэты дзень прыпадала.

Гісторыкам дзеля гэтага вельмі важна мець пад рукамі старыя календары дадзенае тэрыторыі, у якіх яны могуць знайсьці каляндарныя дні шанаваных там тады сьвятых ды адзначаных сьвятаў. Цераз толькі пры дапамозе іх можна азначыць дату тае ці іншае гістарычнае падзеі. А ад устанаўленьня дакладнае храналёгіі падзеяў залежыць і правільнае гістарычнае асэнсаваньне іхнае прычыновае сузалежнасьці.

Вось дзеля гэтага для навуковых патрэбаў перадрукаваныя ўжо даўно календары, што ўжываліся ў пару доктара Скарыны — ды й раней — на землях сумежных беларускім: календары Польшчы ды Маскоўшчыны. Не апублікаваны тымчасам аніводзін з календароў таго часу з тэрыторыі Беларусі, календароў, што былі тады ў царкоўным, юрыдычным, адміністрацыйна-дзяржаўным і прыватным ужытку на вялізных прасторах усяго Вялікага Княства Літоўскага.

Дык перадрук першага друкаванага календара на ўсходзе Эўропы , календара выдадзенага ў 1522 годзе ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, справа й практычнае навуковае важнасьці. Каляндар такі цераз можа быць дапаможным для ўстанаўленьня дакладнага часу згаданых у беларускіх летапісах падзеяў або датаваньня актавых запісаў ці дакумэнтаў, якіх з тых часоў захавалася сотні тысячаў.

У нарысе дадзеныя спачатку агульныя інфармацыі пра асаблівасьці каляндарнае сыстэмы якая тарнавалася на землях Беларусі, ды і ўва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім у часе доктара Скарыны. Пасьля йдзе вопіс ды разгляд Скарынавага календара а па гэтым — перадрук тэксту "Пасхаліі" ды фотарэпрадукцыя ўсяго календара з альфабэтным паказьнікам пададзеных у календары сьвятаў і сьвятых. Рэпрадукцыя тэксту календара зробленая зь мікрафільмовае копіі экзэмпляра "Падарожнае кніжкі" Каралеўскае Бібліятэкі ў Капэнгагене ды з ласкавага дазволу кіраўніцтва бібліятэкі.

Публікацыя ўнікальнага экзэмпляру Скарынавага камплетнага календара дае змогу пазнаёміцца зь ягоным тэкстам усім зацікаўленым дасьледнікам — гісторыкам друку, мовазнаўцам,

гісторыкам царквы ды гісторыкам наагул. Фотарэпрадукцыя тэксту, трэба спадзявацца, дапаможа справе вывучэньня гэтага цікавага выданьня доктара Франьцішка Скарыны ў ягоных усіх культурна- гістарычных ды навуковых аспэктах.

## Каляндарная сыстэма Беларусі Скарынавае пары

Якую каляндарную сыстэму ў часох паганскіх мелі прашчуры беларусаў, ды славянаў наагул, вестак ня маем. З прыймом-жа хрысьціянства на славянскія землі пашырыўся дванаццацьмесячны рымскі каляндар. У Рыме гэты каляндар быў заведзены ў 45 годзе да нашае эры на месца вельмі недасканалага рымскага старога календара. Астранамічныя асновы новага календара распрацаваў тады на загад Юлія Цэзара александрыйскі астраном Сосіген. У 325 годзе Першы Ўсяленскі Сабор Хрысьціянскае Царквы ў Нікеі прыняў рымскі "Юліянскі" каляндар за абавязваючы й для хрысьціянскае царквы. У пару доктара Скарыны гэты каляндар быў у ўжытку ўва ўсіх хрысьціянскіх народаў веры і каталіцкай, і праваслаўнай.

Як з часам выявілася, і каляндар Юліянскі ня быў дасканалы — даты ягоных дзён, у прыраўнаньні да датаў календара астранамічнага, зь цягам стагодзьдзяў пазьніліся й паўстала патрэба паправы. Каляндар быў зрэфармаваны зь ініцыятывы папы Рыгора XIII. Новы каляндар у краёх каталіцкіх быў заведзены ў 1582 годзе адмысловай папскай буляй. Ад гэтага году й на землях Беларусі зьявіўся каляндарны "новы стыль" — каляндар "Рыгар'янскі". Каляндар-жа Юліянскі пачалі тады называць "старым стылем".

Тады-ж была выпраўленая й дзесяцідзённая розьніца датаў календара Юліянскага ад календара астранамічнага, якая нарасла ад часу Нікейскага сабору. Каляндарныя даты папскай буляй былі перасунутыя на 10 дзён наперад — дзень 5 кастрычніка 1582 году быў прыняты за дзень 15 кастрычніка. Да XX ст. розьніца між датамі календароў Юліянскага ды Рыгар'янскага ўзрасла яшчэ на тры дні й цяпер яна выносіць 13 дзён.

У дзяржаўна-ўрадавым ужытку Вялікага Княства Літоўскага каляндар Рыгар'янскі быў заведзены ў 1582 годзе, годзе ягонага апавешчаньня. Тады-ж на землях Беларусі прыняла яго ў свой ужытак і Каталіцкая Царква. Праваслаўная Царква, а пазьней і Царква Вуніяцкая, у царкоўна-рэлігійным жыцьці трымаліся й далей "старога стылю" — календара Юліянскага. Трымаюцца яны яго й цяпер. Ня прынялі з пачатку Рыгар'янскага календара й жыхары пратэстанцкага веравызнаньня. Дык 1582 год быў пачаткам таго, што агульна прынятыя хрысьціянскія сьвяты, прыкладам Каляды, праваслаўныя й каталікі на беларускіх землях сьвяткавалі ў розныя дні: праваслаўныя паводле календара Юліянскага, каталікі паводле Рыгар'янскага. За часоў доктара Скарыны гэтае розьніцы ня было — сьвяты гэтыя тады сьвяткаваліся ў тыя самыя каляндарныя дні.

Хоць каляндарная сыстэма, якая тарнавалася на землях Беларусі ў часы Скарыны, у сваіх асновах была тая самая, як і ў іншых хрысьціянскіх народаў, ды былі у ёй і важныя розьніцы ад календара, што ўжываўся ў краёх заходняе Эўропы ды календара, якога тады трымаліся ў Вялікім Княстве Маскоўскім. Розьнілася яна і ад каляндарнае сыстэмы тарнаванае ў Польшчы, зь якой ад канца XIV ст. Вялікае Княства Літоўскае было ў дынастычнай вуніі. Вывучаючы гісторыю Беларусі тае пары гэтыя розьніцы трэба заўсёды мець на ўвазе.

Адна з важных розьніцаў календара земляў беларускіх і ўсяго Вялікага Княства Літоўскага з календаром земляў Польшчы й захаду Эўропы была ў прынятай "эры" для пачатку гадаліку. У часы Рымскае імпэрыі за пачатак гадаліку быў прыняты час заснаваньня Рыму, які, уважалася, прыпадаў у 753 годзе перад нараджэньнем Хрыста. У VI ст. рымскі манах, вучоны-храналёг, Дыянізі Малы, у апрацаваных ім табліцах вялікодных сьвятаў ад 525 году пачаў тарнаваць гадалік "ад нараджэньня Хрыста". Так была запачаткаваная "хрысьціянская эра" гадаліку, якая паступова прыймалася і з канцом X ст. ўжывалася ўжо ўва ўсіх краёх Захаду Эўропы.

У Польшчы лічэньне гадоў ад нараджэньня Хрыста — 'anni a nativitate', 'anni Domini nostri', шырэй прынялося толькі каля палавіны XV ст. На землях беларускіх тымчасам ад пачатку на іх хрысьціянства, а пасьля ў афіцыйным урадавым ужытку Вялікага Княства Літоўскага, была прынятая "эра візантыйская" — лічэньне гадоў вялося "ад стварэньня сьвету" — 'anni ab origine mundi'.

Візантыйскі — "ад стварэньня сьвету" — гадалік розьніцца ад гадаліку "ад нараджэньня Хрыста" на 5508 гадоў. Лічбу 5508 трэба таму адняць ад году датаваньня візантыйскага, каб атрымаць год паводле гадаліку хрысьціянскага. Гэтую самую лічбу трэба дадаць да ліку гадоў эры хрысьціянскай, "ад нараджэньня Хрыста", каб атрымаць лік гадоў паводле візантыйскай эры — "ад стварэньня сьвету".

Хоць на землях беларускіх ад пачатку гісторыі ў ужытку быў гадалік "ад стварэньня сьвету", ды дзеля культурна-эканамічных сувязяў з краямі Захаду, асабліва праз гандлёвыя дачыненьні зь местамі нямецкае Ганзы, у пісьмовых памятках Полацку й Смаленску ўжо ад XIII ст. здараюцца й выпадкі ўжываньня гадаліку ад нараджэньня Хрыста. Прыкладам, грамата ўмовы Смаленска з Рыгаю 1229 году датуецца "от рожения Господня до сего лета".

І ў граматах ды дакумэнтах канцылярыі Вялікага Княства Літоўскага спачатку ўжываўся гадалік візантыйскі. Толькі з пачаткам XV ст., за князя Вітаўта, зь вялікакняжае канцылярыі ў Вільні пачынаюць зьяўляцца й дакумэнты датаваныя "ад нараджэньня Хрыста". Паступова гадалік хрысьціянскае эры ў дзяржаўным ужытку зусім выціскае гадалік візантыйскі. Гадалікам-жа ад нараджэньня Хрыста на землях Беларусі карысталася тады ўжо й Каталіцкая Царква. Цірherаз, побач гадаліку

”ад стварэньня сьвету”, ужывала яго й Царква Праваслаўная.

Усе кнігі свайго выданьня — і праскія, і віленскія, — доктар Скарына датаваў гадамі ”ад нараджэньня Хрыста”. Толькі ў тэксьце ”Паскаліі” свайго календара Скарына ўжывае датаваньне падвойнае: спачатку ад стварэньня сьвету, а пасьля той самы год падае заўсёды й паводле ліку ”па нараджэньні Хрыста”, прыкладам: ”В лето 7 тысещ 31... лет по нарожении Христове полторы тысещи 23”.

У Вялікім Княстве Маскоўскім гадалік візантыйскі тарнаваўся ў царкоўным і дзяржаўным жыцьці да 1700-га году. Зь першым студзенем гэтага году (паводле Юліянскага календара) у адміністрацыйна-сьвецкім ужытку загадам цара Пётры быў заведзены гадалік ад нараджэньня Хрыста ды новы год пачынаўся ўжо не ад 1 верасьня, але ад 1 студзеня. Расейская-ж Праваслаўная Царква ў жыцьці царкоўна-рэлігійным засталася й далей пры гадаліку ”ад стварэньня сьвету”.

## Пачынаньне новага году

Традыцыя пачынаць новы каляндарны год 1 студзеня заведзеная была яшчэ ў Рыме ў часе праведзенае Юліем Цэзарам рэформы календара. У сярэднявеччы, калі ўжо прыняўся гадалік ад нараджэньня Хрыста, Каталіцкая Царква намагалася й пачатак новага году перасунуць на сем дзён назад ды пачынаць яго 25 сьнежаня, прызнанага Царквой за дзень Хрыстовага нараджэньня. У выніку нейкі час побач існавалі два спосабы пачынаньня каляндарнага году: стары рымскі ад 1 студзеня, які называўся ‘Stilus communis’, і новы царкоўны, сем дзён ранейшы, ад першага дня Калядаў — ‘a nativitate’.

Ды старая каляндарная традыцыя ў народзе так замацавалася, што спробы пачынаць год ад Калядаў пры канцы сярэднявечча Царква закінула ды вярнулася да старога рымскага, да студзенскага навагодзьдзя, але яна яго ”хрысьціянізавала”, устанаўляючы на 1 студзеня сьвята ”Хрыстовага абразаньня” — ‘stilus a circumcisione’. За часоў доктара Скарыны студзенскі пачатак новага году быў пашыраны ўжо блізу ўва ўсіх краёх захаду Эўропы, уключна з Польшчай. Ня ўжываўся ён аднак-жа тады яшчэ на землях Беларусі, у Вялікім Княстве Літоўскім.

На беларускіх землях, ды і ўва ўсей усходняй Эўропе, на пачатку там гісторыі існаваў стары, ці не ў паганскія яшчэ часы заведзены звычай, пачынаць новы год вясной, 1 сакавіка. Сакавіковае навагодзьдзе сустракаецца ў старых помніках пісьменства што паўсталі на землях Беларусі. Ад XII стагодзьдзя побач зьяўляецца аднак, а каля палавіны XV стагодзьдзя й канчаткова замацоўваецца ў Беларусі візантыйскае асеньняе навагодзьдзе ад 1 верасьня.

У часе Скарыны ў Вялікім Княстве Літоўскім у дзяржаўна-адміністрацыйным і царкоўным ужытку тарнаваўся скрозь ужо

верасьнёвы пачатак каляндарнага году. Ад 1550-га прыблізна году канцылярыя Вялікага Княства Літоўскага верасьнёвае навагодзьдзе аднак закідае ды пераходзіць на навагодзьдзе ад 1 студзеня. У царкоўным-жа праваслаўным ужытку, а пасьля і ў ужытку вуніяцкае царквы, заставалася й далей навагодзьдзе асеньняе, верасьнёвае.

Што ў першай палавіне XVI стагодзьдзя пачатак каляндарнага году на землях Беларусі лічыўся яшчэ ад 1 верасьня, відаць гэта й па "Сьвятцах" Скарынавага календара — пачынаюцца яны 1 верасьнем, а канчаюцца 31 жнівеня словамі: "Конець вократце святцем".

## Індыктныя лічбы гадоў

На землях Беларусі ў часе Скарыны, як і ўва ўсей Эўропе, пры датаваньні дакумэнтаў ці актавых запісаў, пасьля лічбы каляндарнага году падавалася часта й лічба чароднага месца гэтага году ў так званым **індыктным цыклі** гадоў. "Індыктны цыкль" абыймаў 15-гадовы адрэзак часу. Кажны год гэтага адрэзку меў сваю чародную індыктную лічбу, пачынаючы ад 1-й і да 15-й. Пасьля году зь лічбай індыкту 15 пачынаўся новы індыктны цыкль зь індыктнай лічбай гадоў ізноў ад 1 да 15.

Звычай адзначаньня каляндарнага году й ягонай лічбай індыктнага цыклю быў заведзены яшчэ ў Рымскай імпэрыі. Зьвязаны ён быў з адміністрацыйнай пераацэнкай маёмасьці, што праводзілася кажныя 15 гадоў, і ў залежнасьці ад якое рабілася пераацэнка й падаткаў. У сярэднявеччы ды Скарынавыя часы індыктная лічба году ставілася ўжо толькі па традыцыі й для кантролі даты каляндарнага году. Індыктныя лічбы старых запісаў для сучаснага дасьледніка цираз бываюць важнымі калі даводзіцца ўдакладняць няпэўную дату нейкага старога акту ці дакумэнту.

Каб знайсьці, якая лічба індыкту дадзенага каляндарнага году, лічбу году паводле візантыйскага гадаліку — ад стварэньня сьвету — трэ падзяліць на 15. Астача паказвае індыктную лічбу дадзенага году. Калі-ж астачы няма — лічба індыкту 15. Пры гадаліку паводле хрысьціянскае эры — ад нараджэньня Хрыста — лічба індыкту вызначаецца так, што перад падзелам лічбы каляндарнага году на 15 трэба дадаць да яе лічбу 3.

У Вялікім Княстве Літоўскім у Скарынавыя часы новая індыктная лічба году пачыналася — як і новы каляндарны год — ад 1 верасьня. У Польшчы-ж і на Захадзе Эўропы новы індыкт, як і новы каляндарны год, лічыўся ад 1 студзеня. Верасьнёвы пачатак новага індыкту пададзены і ў Скарынавым календары. На самым пачатку Сьвятцаў, пад 1 верасьнем, у ім напісана: **»память святого Симеона Столпника, начало индикта«.**

І ў Скарынавай "Паскаліі" пасьля кажнае чароднае лічбы году ад нараджэньня Хрыста, дадзеная кажны раз, але ў карацейшым заўсёды напісаньні — без канцавое літары "т" — і індыктная лічба гэтага году: **индик 11, индик 12, индик 13** і г. д.

Што падаваць лічбу індыкту ў часы Скарыны ў Беларусі было абавязкам ня толькі ў царкоўным, але і ў юрыдычным ужытку, можна бачыць на прыкладзе полацкіх актавых запісаў 1535 году ў судовай справе між зяцямі Івана Скарыны, брата доктара Франьцішка Скарыны. Першы запіс гэтае справы датаваны гэтак: июнь, 18 день, **индыкт 8»**. Запіс другі, чатыры месяцы пазьнейшы, мае гэткае датаваньне: **»октябрь, 4 день, индыкт 9»**. (1)

З таго, што запіс 18 чырвеня мае індыктную лічбу 8, а чатыры месяцы пазьнейшы, з 4 кастрычніка, ужо лічбу індыкту 9, можна бачыць, што новы індыктны год — як і новы каляндарны — у Полацку пачыналі тады ў часе між чырвенем і кастрычнікам, і, як Скарынаў каляндар паказвае, пачынаўся ён ад 1 верасьня.

## Скарынава »Падарожная кніжка»

Хоць Скарынаў каляндар мае ўсе прыкметы самастойнага кніжнага выданьня — загаловачную бачыну, сваю нумарацыю балонак, а пры канцы й свой, з выходнымі дадзенымі, каляфон, ды хоць ён і пашыраўся як выданьне асобнае, але ягоным прызначэньнем было таксама быць і складоваю часткай большае кнігі-зборніка — "Падарожнае кніжкі". Для цэласьці гэтае кнігі Скарынаў каляндар быў вельмі важны сваімі практычнымі каляндарна-астранамічнымі інфармацыямі. Зь імі Падарожная Кніжка, бясспрэчна, магла шмат лепш служыць вызначанаму ёй рэдактарам-выдаўцом заданьню: быць ня толькі падручным малітоўнікам, але й штодзённым рэлігійна-каляндарным даведнікам і практычным дараднікам далёкаму ад свайго дому й свае царквы праваслаўнаму падарожнаму. Асабліва карысным ды часта патрэбным падручны кішанёвы каляндар быў падарожным прафэсіі Скарынавага роду — купцом.

Падарожная Кніжка ня мае даты выхаду з друку. Год выданьня кнігі можна было ўстанавіць толькі нядаўна з знаходам ейнае камплетнае "Паскаліі". Апісваючы кірылічныя старадрукі Каралеўскае бібліятэкі ў Капэнгагене, Г. Кронэ ў 1957 годзе паведаміла й пра існаваньне ў бібліятэцы Скарынавае Падарожнае Кніжкі ды падала, якія складовыя часткі кнігі экзэмпляр бібліятэкі мае. У ліку іх яна назвала й Сьвятцы ды Паскалію (2).

Пазнаёміўшыся зь мікрафільмавай копіяй кнігі, А. Надсон пераканаўся, а ў 1971 годзе падаў гэта і ў друку, што Падарожная Кніжка бібліятэкі ў Капэнгагене ўнікальная тым, што толькі ў ёй захавалася камплетная Скарынава "Паскалія" (3). Дзякуючы-ж Паскаліі можна было вызначыць час надрукаваньня календара ды год выхаду з друку Падарожнае Кніжкі, як выявілася — першае кнігі надрукаванае ў Скарынавай віленскай друкарні.

Дзеля прынятага тады ў Беларусі — ды і ўва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім — верасьнёвага пачатку новага году, і ў Скарынавым календары год не пачынаецца ад 1 студзеня, як пачынаем новы год цяпер, але чатыры месяцы раней — ад 1 верасьня. Вось дзеля гэтага свае інфармацыі пра сьвяты кожнага

году Скарына ў сваёй Паскаліі пачынае заўсёды з сьвята "Рожство Христове", з Калядаў, як першага важнага сьвята пачатага новага году. Свае інфармацыі ў "Паскаліі" на 1523 год Скарына, прыкладам, пачынае гэтак: »**В лето 7 тысещ 31... Рожство Христове в четвер. Лет по нарожении Христове полторы тысещи 23».**

"Рожство Христове" 1523 году, лічачы гады паводле верасьнёвага навагодзьдзя, гэта Каляды 1522 году пры ліку гадоў з студзенскім навагодзьдзем. З гэтага-ж вынікае, што свой каляндар і Паскалію Скарына друкаваў перад Калядмі 1522 году. Калі-б каляндар друкаваўся пазьней, ня было-б патрэбы даваць даведку ў ім у які дзень тыдня прыпадае мінулае ўжо "Рожство Христове". Што Каляды 1523 году Скарынавае Паскаліі, гэта Каляды 1522 году, пацьвярджае й тое, што ў 1522 годзе гэтае сьвята прыпадала якраз у чацьвер. У годзе-ж 1523 яно было не ў чацьвер, але ў пятніцу.

Паколькі Скарынаў каляндар, ягонае "Последование", гэта апошняя частка Падарожнае Кніжкі, з гэтага вынікае, што друкаваньне ўсяе кнігі было закончанае перад Калядмі 1522 году й гэты год, гэта год выхаду з друку першае кнігі Скарынавае віленскае друкарні.

Апісваючы "Падарожную" 'de visu', бібліяграфы XIX ст. ейны невялікі фармат азначалі часта як "дванаццатка". Малы фармат кнігі быў абумоўлены, зразумела, ейным прызначэньнем: быць падручнай кніжкай для падарожнага. На бачыне поўнага набору кнігі ёсьць 20 радкоў, а ў радку па 20 літараў. Памеры набору бачыны — 65мм х 102 мм (4). Аздобленая "Падарожная" вялікім лікам вузкіх і шырэйшых заставіцаў ды рознае вялічыні ініцыялаў. Мае яна й пяць дрэварытных ілюстрацыяў.

У "Падарожнай", як і ў іншых сваіх выданьнях, Скарына нумараваў не бачыны, але балонкі, дык у кнізе маем не пагінацыю але фоліяцыю. Сваю фоліяцыю маюць Псалтыр і "Последование", каляндар. Іншыя-ж часткі кнігі складаюцца з колькіх частак меншых, кажная з сваёй фоліяцыяй. У "Акафістах і канонах", прыкладам, 16 асобнае фоліяцыі друкаў. Уся-ж "Падарожная" складаецца з 24-х асобнае фоліяцыі — ці й бязь яе — частак, з дадаткам пры канцы выданьня 4 ненумараваных балонак з паказаньнем зьместу ўсяе кнігі.

Лік балонак пяцёх большых частак Падарожнае Кніжкі гэткі: Псалтыр — 140, Часословец — 60, Акафісты і каноны — 168, Шасьціднёвік — 44, "Последование" — 20, "Писаные речи" — 4. Дык усіх у кнізе 436 балонак — 872 бачыны. Выдаючы ў Празе, а пасьля ў Вільні кнігі, доктар Скарына заўсёды даваў у іх загаловачныя бачыны. Маюць іх і большыя часткі Скарынавых двух віленскіх выданьняў. Дык хіба мела сваю загаловачную бачыну і ўся Падарожная Кніжка, але яна, відавочна, не захавалася.

Часткі Падарожнае Кніжкі — Псалтыр, Часословец, Акафісты й каноны, Шасьціднёвік, "Последование" (Сьвятцы з Паскаліяй) — не чакаючы, калі надрукуецца ўся кніга, пашыраліся выяўна і як

самастойныя кніжкі-адбіткі. Для гэтага для кажнае зь іх і дадзеныя загаловачныя бачыны, свая фоліяцыя, канцавыя прыпіскі-каляфоны. Дзеля гэтага па кнігазборах Эўропы пераважна й захаваліся паасобныя часткі Падарожнае Кніжкі. Яе, як цэласьць, і то ня зусім камплетную, маюць сяньня толькі бібліятэкі Каралеўская ў Капэнгагене, Унівэрсытэцкая ў Любляне ды Публічная ў Ленінградзе.

Сама назва "Падарожная" паказвае на вызначанае рэдактарам-выдаўцом практычна-ўжытковае прызначэньне кнігі. Што-ж да зьместу, дык у ёй, апрача Псалтыра, дадзены падбор найбольш неабходных праваслаўнаму ў штодзённым карыстаньні малітваў і рэлігійных сьпеваў, з дадаткам царкоўна-рэлігійных ды каляндарна-астранамічных інфармацыяў.

І сваім прызначэньнем, і зьместам, і малым фарматам Скарынава "Падарожная кніжка" аналягічная да падобных "падарожных" кнігаў Захаду Эўропы тае пары, падарожных "брэвіяроў", якія палацінску папулярна называліся liber viaticus — "падарожная кніжка". Выяўна за прыкладам гэтых малітоўнікаў падарожным і доктар Скарына даў сваёй кнізе й малы кішанёвы фармат, і самую назву "Подорожная книжка". Кніжак з падобнаю назваю ня знала тады ні бацькаўшчына доктара Скарыны, ні іншыя славянскія праваслаўныя краі. Зьместам, хоць не фарматам, Скарынава "Падарожная" была блізкая й папулярным тады праваслаўным Псалтыром "с последованием", ці бо з рэлігійнага зьместу практычнае патрэбы дадаткамі.

У гэтым нарысе для Скарынавага першага віленскага выданьня тарнуецца кансэквэнтна назва "Падарожная кніжка". У скарынаведнай літаратуры ад гадоў ужо ста пашырылася тымчасам назва гэтае кнігі як "Малая падарожная кніжыца". Пытаньне, чаму тут ужываецца назва "Падарожная кніжка", і скуль, як ды калі ўзялася для тае самае кнігі назва "Малая падарожная кніжыца" вымагае выясьненьня.

Загаловачная бачына "Падарожнае", на якой была пададзеная назва кнігі, ня ведамая. Але пра тое, як доктар Скарына сваю кнігу назваў, маем пасярэдняе паказаньне ў апошняй частцы кнігі, у "Писаные речи", дзе пералік зьместу кніжкі.

Свой сьпіс зьместу кнігі доктар Скарына пачынае словамі: "Писаные речи в сей малой подорожной книжце". З гэтага сказу можна бачыць, што сваю кніжку Скарына называў "Падарожнай кніжкай". Калі-б доктар Скарына ўжываў агульна цяпер прыняты спосаб падаваньня назвы нейкае кнігі ў тэксьце, выдзяляючы яе чужасловам ці адрозным шрыфтом ды пішучы зь вялікае літары, вышэй прыведзены сказ хіба быў-бы надрукаваны гэтак: "Писаные речи в сей малой "Подорожной книжце".

Так гэтыя словы чытаў і разумеў першы выдатны скарыніст, ведамы чэскі філёляг-славіст Е. Добраўскі. У апублікаванай у 1795 годзе панямецку кнізе Добраўскі пісаў, што пачынаючы свой пералік зьместу кнігі ў "Пісаные речи" Скарына сваю кнігу называе

Knižka podorožnaja, d. i. Wegbuch, liber viaticus (5).

Як і Ё. Добраўскі, кнігу Скарыны "Подорожнай" у артыкуле 1874 году называў і аўтар расейскі П. А. Гільтэбрандт, але слова "кніжка" ён падмяніў словам "книжица" — "Подорожная книжица" (6). Назву гэткую ўжывае для Скарынавае "Падарожнае" й мітрапраліт Макары ў сваёй "История Русской Церкви" 1879 году (7). Назву "книжица", заміж "книжка", пераняў у сваё "Описание славянорусских книг" 1883 году ведамы расейскі бібліяграф Іван Каратаеў, але Каратаеў у назву ўвёў яшчэ й слова "малая". Гэтак у апошняй чверці XIX ст. і атрымалася "Малая подорожная книжица" (8). Праз бібліяграфію Каратаева гэткая форма назвы "Падарожнай" пашырылася й цяпер пераважна ўжываецца. Для пашырэньня гэткае назвы мела сваё значэньне [redacted] тое, што пераняў яе ў сваю навукова аўтарытэтную манаграфію 1888 году "Доктор Франциск Скорина" й П. В. Валадзіміраў.

Тымчасам з Скарынавага выражэньня "в сей малой подорожной книжце" зусім ня вынікае, што слова "малой" належыць да назвы кнігі, а гэта не азначэньне Скарынам толькі фармату свае кнігі, як гэта й разумелі Добраўскі, Гільтэбрандт, мітрапаліт Макары. Лікам сваіх балонак — 436 (872 бачыны) гэта й зусім не малая кніга.

Ня мае абгрунтаваньня й зьмена Гільтэбрандта слова "книжка" ў назове словам "книжица". У Скарыны напісана: "В сей... подорожной книжце". Тут "книжце" — месны склон беларускае мовы слова "кніжка", а ня слова "кніжыца". Дык кнігу Скарына напэўна называў "кніжкай", а ня "кніжыцай". Пацьвярджае гэта дадаткова й тое, што на адвароце кажнае з трох балонак зьместу, "Писаные речи", угары бачыны дадзеныя Скарынам як калёнцыфры словы: В СЕЙ КНИЖЦЕ. Вось дзеля вышэй прыведзенага назва "Падарожнае" без "малая" ды "кніжка", а ня "кніжыца", як назва паказаная ў кнізе самым Скарынам і тарнуецца ў гэтым тут нарысе.

Як спапулярызаваная, хоць і памылковая форма слова, можа ўплываць і на тэкст арыгінальны пры ягоным перадруку, прыклад дае выданьне 1969 году Акадэміі навук БССР Скарынавых прадмоваў і паслоўяў.У тэксьце "Писаные речи" пры гэтым перадруку словы Скарыны **»в сей... книжце»** замененыя на **»в сей... книжице»** (б. 160), хоць у рэдакцыйнай прадмове да выданьня дадзеная гарантыя, што перадрук Скарынавых тэкстаў робіцца "з захаваньнем усіх асаблівасьцяў арыгіналу" (б. 5) (9).

## Скарынаў каляндар

Пятая й апошняя частка Падарожнай Кніжкі, "Последование", зьмяшчае Скарынаў каляндар. "Последование" мае 20 балонак (40 бачынаў) свае асобнае фоліяцыі. На першай бачыне, у рамцы складзенай з дрэварытных заставіцаў, чырвоным колерам надрукаваны загаловак. Пачынаецца ён дрэварытным ініцыялам

”П” ды набраны ў сем радкоў вялікімі літарамі, між якімі ўціснута й колькі літараў малых. Тэкст загалоўку гэткі:

ПОСЛЕДОВАНИЕ ЦЕРКОВНАГО СОБЪРАНИЯ ВЪСЕЛЕТЪНАГО ОТ МЕСЕЦА СЕПЪТЕВРИЯ ДО МЕСЕЦА АВГУСТА ПОВЪСТАВУ ЕРУСАЛИМЪСКОЕ ЦЕРКВИ:-

Складаецца ”Последование” зь дзвюх частак: Сьвятцаў і ”Паскаліі”. Сьвятцы пачынаюцца на адвароце загаловачнай балонкі й займаюць дванаццаць развароттаў — па адным развароце для кажнага месяца году, пачынаючы месяцам верасьнем ды канчаючы жнівенем. На развароце, пад назвай месяца, пададзенай пацаркоўнаславянску й пабеларуску, спачатку дадзеныя важнейшыя каляндарныя інфармацыі пра гэты месяц, а пад імі йдзе падзённы паказьнік сьвятаў і сьвятых дадзенага месяца. Унізе другое бачыны дванаццатага развароту, пад апошнім днём месяца жніvеня, надрукаваныя словы: »**Конець вократце свѢтцем**»: -

На адвароце 13-е балонкі, пад вузкой заставіцай угары, вялікімі літарамі набраны загаловак Паскаліі: **»О ПАСКАЛІ ИЛИ О ПАСЦЕ:-»**. Пад загалоўкам пачынаецца тэкст Паскаліі, які займае 15 бачынаў ды канчаецца на адвароце апошняе 20-е балонкі календара. Унізе гэтай бачыны дадзены ў тры радкі гэткі тэкст каляфону ”Последования”: **»Доконаны суть сие вократце светци и поскалия, докторомъ франциском скориною, вославномъ месте виленскомъ:-»**.

Нумарацыя балонак дадзеная кірылічнымі літарнымі лічбамі на першай бачыне кажнае балонкі, угары над наборам, з правага боку. Над тэкстам кажнага развароту Сьвятцаў пададзеныя, вялікімі літарамі, назвы месяцаў: над тэкстам бачыны левай развароту назва царкоўнаславянская, над тэкстам бачыны правай — беларуская. Прыкладам: на левай бачыне развароту — МЕСЕЦЬ СЕПТЕВРИІ, над правай — ЗОВЕМЫ ВРЕСЕНЬ. Угары кажнай бачыны Паскаліі дадзеная, як калёнцыфра, слова ”ПАСКАЛІЯ”.

Графічнае аздабленьне календара складаецца з дрэварытных ініцыялаў і заставіцаў зь белым рысункам на чорным фоне. Ініцыялаў у календары чатыры, рознае вялічыні й рознага рысунку. Адзін, літара ”П”, пачынае загаловак ”Последование”. Літарай ”І” пачатыя Сьвятцы, літарай ”П” агульная інфармацыя пра Паскалію, літарай ”В” — даведкі Паскаліі на паасобныя гады.

У календары 17 водціскаў дрэварытных заставіцаў з расьлінна-кветачным арнамэнтам адзінаццаці розных рысункаў. На іх васількі, макі, разэты, лісты. На некаторых ёсьць рыбы, а на аднэй — людзкая галоўка. Усе заставіцы скарыстаныя функцыйна. Чатыры твораць прастакутную рамку для загаловачнай бачыны календара, зь іх верхняя й ніжняя шырэйшых памераў. Дванаццаць вузкіх заставіцаў разьмяжоўваюць каляндарна-астранамічныя інфармацыі кажнага месяца ад надрукаваных пад імі падзённых паказаньняў сьвятаў і сьвятых. У Паскаліі толькі адна заставіца

ўгары першай бачыны над загалоўкам "О ПАСКАЛІ ИЛИ О ПАСЦЕ".

Скарынавае "Последование" не каляндар для аднаго году, як звычайна выдаюцца календары цяпер, а на гадоў шмат. Дзеля гэтага ў ягоных памесячных сьвятцах не паказаны дзень Вялікадня ды іншых рухомых сьвятаў — іх трэба шукаць у Паскаліі. Таму няма ў календары й падзелу дзён месяца на тыдні ды не падаецца, на які дзень тыдня прыпадае той ці іншы дзень месяца, бо ўсё гэта кажны год мяняецца. Як відаць з Паскаліі, у якой інфармацыі пра час зьвязаных зь Вялікаднем рухомых сьвятаў ды інфармацыі каляндарна-астранамічныя, каляндар быў складзены для карыстаньня ім 21 год, на гады 1523-1543.

Апрача асноўнага зьместу Сьвятцаў — паказаньня сьвятаў і сьвятых на кажны дзень году — ёсьць у іх і інфармацыі астранамічнага характару. Угары левае бачыны развароту, пад назваю месяца, дадзеная, звычайна ў трох радкох, даведка пра лік дзён у гэтым месяцы, пра знакі задыяка, пра даўжыню дня й ночы на пачатку месяца. Прыкладам, для месяца верасьня: »**Імать дни 30, день в начале его имать годин 12, а дроб[ных] 54, нощ 11 дроб[ных] 6, знаменаж бегу солнцева дева и вага**».

Толькі ў месяцы лютым, лік дзён якога не заўсёды аднолькавы, паясьняецца гэта даўжэйшай даведкай: »**Імать дни 28, аще прилучится на четверты год висекст, тогда сей месяц има 29 дни. Деньже в начале его имаеть годин 9 а дробных 6. В нощиж 14 дроб[ных] 54. Знамена бегу солнцева водолей и рыбы**». Па апошнім-жа дні гэтага месяца, па 28-м, дадзеная заўвага: »**Будет ли лето висекстил, тогда придай:- Преподобнаго отца Касіана римлянина**».

У тэксьце Сьвятцаў кажнага месяца, пасьля адпаведнага дня, дадзеная інфармацыя пра пераход сонца ў іншае сузор'е задыяка. Прыкладам, пасьля 9 лютага ўстаўлены радок: "Того дни солнце входить в рибы". Раз або й два разы ў месяц, між радкамі сьвятцаў пададзеная інфармацыя пра даўжыню дня й ночы ды заўсёды ў той дзень месяца, калі гэтая даўжыня вымяраецца роўным лікам гадзінаў, бязь мінутаў. Прыкладам 25 сакавіка: "День имать годин 13 а нощ 11."

Дні месяца ў Сьвятцах нумараваныя кірылічнымі літарнымі цыфрамі. Пастаўленыя яны на бочных палёх бачыны: на бачыне левай развароту зь левага боку радка,на бачыне правай — з правага.

## Сьвятцы Скарынавага календара

У Скарынавыя часы асабліва важнымі ў календары былі інфармацыі пра сьвяты й сьвятых на кажны дзень году. Скарынавы сьвятцы — сьвятцы праваслаўныя.Як на загаловачнай бачыне календара напісана, сьвяты й сьвятыя ў календары пададзеныя »**ПО ВЪСТАВУ ЕРУСАЛИМСЪКОЕ ЦЕРКВИ**».

"Устаў", ці пагрэцку "Тіпікон", гэта правілы ды парадак

праваслаўных царкоўных службаў і малітваў на ўсе дні году. "Новы Ерузалімскі Царкоўны Ўстаў" пачаў пашырацца на беларускіх землях ад палавіны XIV ст. У XV ст. ён канчаткова выцісну́ў з ужытку ўстаў папярэдні, "Студыйскі".

У надрукаваным у 1491 годзе ў Кракаве Швайпольтам Фэолем "Часаслоўцы" ды "Октоіху" царкоўныя службы пададзеныя таксама паводле Ерузалімскага Ўставу. Часасловец Фэоля мае гэткую назву:»**Часословець имѣя и нощиую и дневную службы по оуставу иже в Иерусалиме великыа лавры»** (10). Ерузалімскі Ўстаў у загалоўку Часаслоўца свае Падарожнае Кніжкі згадвае й Скарына, але ўжо як адну толькі з крыніцаў прыведзенае ў кнізе службы: **»ЧАСОСЛОВЕЦ ИМЕЯ НОЩНУЮ И ДНЕВНУЮ СЛУЖБЫ ПО УСТАВУ ЕРУСАЛИМСКОЕ ЦЕРКВИ И ПРОЧИХ ВОСТОЧНЫХ ОБИТЕЛЕЙ».**

У сьпісе зьместу Падарожнае Кніжкі, пра Сьвятцы свайго календара Скарына піша, як пра "светцы краткие", што значыць, што ў ягоных Сьвятцах названыя ня ўсе сьвяты й сьвятыя, а толькі важнейшыя. Абумоўлена гэта было тым, што трэба было ашчаджаць у кнізе месца. Хадзіла-ж пра тое, каб укласьціся ў малы кішанёвы фармат выданьня, прызначэньнем якога было быць падручнаю кніжкаю падарожнага. Дзеля гэтага для імяў сьвятых аднаго месяца ў календары адведзена толькі па дзьве бачыны, а для імяў сьвятых аднаго дня дадзена толькі па адным радку, рэдчас займаюць яны два ці й больш радкоў. Але, хоць Скарынавы Сьвятцы й "кароткія", у іх названа ўсё-ж паўтысячы сьвятых і сьвятаў.

У Скарынавым падборы сьвятаў і сьвятых для свайго календара ёсьць напэўна адбітак культу тых сьвятых, якіх асабліва шанавалі ў родным Скарыну Полацку ды ў Вільні, дзе была зрэдагаваная ды выдадзеная Падарожная Кніжка. Сьвятцы календара чакаюць яшчэ на сваё вывучэньне з гледзішча царкоўна-гагіяграфічнага, а спосаб напісаньня імяў сьвятых — моваведнага.

Пераглядаючы імёны названых у календары сьвятых, кідаецца ў вочы, што няма сярод іх сьвятых маскоўскіх, прыкладам кананізаванага ў 1339 годзе маскоўскага мітрапаліты Пётры, імя якога пададзенае ў месяцаслове Фэолявага кракаўскага 1491 году Часаслоўца. Зь кіеўскіх-жа сьвятых названыя ў Сьвятцах Барыс і Глеб ды Фядосі Пячэрскі, але няма Валадзімера, імя якога Фэолявы Часасловец падае.

Пры канцы гэтага нарысу, пасьля рэпрадукцыі Скарынавага календара зь Сьвятцамі, дадзены альфабэтны паказьнік названых у Сьвятцах сьвятаў ды імяў сьвятых. Пры дапамозе паказьніка лёгка знайсьці ці той або іншы сьвяты ў Скарынавых Сьвятцах названы ды пад якой датай. Напісаньне імяў сьвятых захаванае Скарынавае, наколькі гэта дазваляюць шрыфты друкарні.

Календары зь сьвятымі й сьвятамі нейкае тэрыторыі ды з часу блізу паўтысячы гадоў таму, важныя дапаможнікі гісторыкам пры ўстанаўленьні даты тых гістарычных падзеяў, што ў дакумэнтах ці

летапісах датаваныя ня лічбамі дзён месяца, але толькі імём сьвятога ці назваю сьвята, якія ў той дзень прыпадаюць. Дык сьвяты й сьвятыя Скарынавага календара могуць быць дапамогаю для гісторыкаў, што вывучаюць гісторыю Беларусі XV-XVI ст.

## Скарынавы назвы месяцаў

Індаэўрапэйскія мовы — славянскія, гэрманскія, раманскія, — не захавалі сьлядоў існаваньня старавечных, у дагістарычную пару яшчэ паўсталых, супольных назваў месяцаў. З гэтага вынікае, што ў пару індаэўрапэйскае супольнасьці памесячнага падзелу году прашчуры індаэўрапэйцаў ня зналі. Назвы гэтыя зьявіліся ў часы пазьнейшыя ды ў кажнай зь індаэўрапэйскіх моўных групаў незалежна. Старыя народныя назвы месяцаў **славянскіх** народаў зраджаюць ужо рысы супольнасьці іхнага паходжаньня.

Нічога няведама ці ды як дзялілі год на месяцы ў дагістарычную пару прашчуры беларусаў ды й іншых славянаў. Ведама аднак-жа, што побач назваў для чатырох пораў году — вясны, лета, восені, зімы, — мелі яны ўжо й назвы для азначэньня меншых сэзонных адрэзкаў часу ў залежнасьці ад кліматычных зьменаў у годзе ды зьвязаных зь імі зьменаў у прыродзе ці залежнае ад гэтага людзкое дзейнасьці. Гэта можна бачыць у назвах месяцаў лістапад, сьнежань, студзень, сакавік ды іншых. Гэткімі назвамі спачатку, відавочна,азначаліся ня лікам дзён строга азначаныя адрэзкі часу, як цяперашнія каляндарныя месяцы, але толькі прыблізны час дадзенае зьявы, падобна як і цяпер побач назваў каляндарных месяцаў ужываюцца й назвы для часу рознае дзейнасьці: касавіца, жніво, сяўба ды падобныя.

Калі быў заведзены падзел году на месяцы з строга азначаным для іх часам ды лікам дзён для кажнага, некаторыя з ранейшых назваў сэзоннага толькі характару замацаваліся за паасобнымі месяцамі. У мове беларускай, а таксама ў мовах украінскай, польскай, чэскай народныя славянскія назвы месяцаў былі перанятыя ў мову літаратурную. У літаратурнай мове расейскай, баўгарскай, сэрбскай, славацкай, славенскай былі перанятыя ня назвы месяцаў народныя, але лацінскага паходжаньня царкоўна-кніжныя.

Народныя назвы месяцаў славянскія сьветчаць пра тое, што паўсталі яны яшчэ перад тым, як земляробства стала галоўным людзкім занятакам. З назваў месяцаў беларускіх толькі жнівень ды кастрычнік адбіваюць час земляробскае працы. Красавік-жа, ліпень ды верасень азначаюць важны для пчаляроў час красаваньня. Бальшыня-ж назваў перадаюць кліматычныя асаблівасьці дадзенае пары году: сьнежань, студзень, люты, або зьвязаныя зь імі зьмены ў прыродзе — сакавік, травень, лістапад.

У 325 годзе, на Першым Усяленскім Саборы ў Нікеі, Хрысьціянская Царква прыняла за абавязваючы ў царкоўна-рэлігійным ужытку рымскі юліянскі каляндар зь ягоным падзелам

году на дванаццаць месяцаў ды разам і лацінскія назвы гэтых месяцаў. З прыймом хрысьціянства ў X ст. прашчурамі сучасных беларусаў, праз царкву пачалі пашырацца сярод іх і лацінскія назвы месяцаў у іхнай царкоўнаславянскай вэрсіі.

Ведама, што беларускія землі яшчэ й да прыйма хрысьціянскае веры мелі ўжо высока разьвітыя гарадзкія цэнтры, якія паўсталі на рачных камунікацыйна-гандлёвых шляхох і найперш на шляху "з Варагаў у Грэкі" па рэках Дняпры ды Дзьвіне. З дагістарычных яшчэ часоў Смаленск, Віцебск, Полацак былі ўвязаныя ў шырокія гандлёвыя сувязі з галоўным цэнтрам усходняга хрысьціянства, зь Візантыяй. Праз гэтыя культурна-гандлёвыя сувязі зь Візантыяй дванаццацімесячны каляндар быў ведамы на беларускіх землях напэўна яшчэ перад афіцыйным прыймом хрысьціянства ды ўжо тады месяцы гэтага календара мелі свае славянскія назвы. На гэта паказвае тое, што ў найстарэйшым захаваным помніку ўсходнеславянскага пісьменства, у ноўгарадзкім Астраміравым Евангельлі палавіны XI ст., побач назваў месяцаў царкоўнаславянскіх, згадваюцца й назвы славянскія народныя.

Дык славянскія народныя назвы месяцаў, у гэтым ліку й беларускія, выяўна паўсталі ў дагістарычную яшчэ пару. Гэта-ж сьветчыць пра тое, што й падзел году на месяцы на беларускіх землях быў тады ўжо ведамы. Ды й само хрысьціянства пашыралася напэўна, асабліва сярод купецка-меставога жыхарства, яшчэ перад тым, як яно было прынятае афіцыйна пануючымі сацыяльна вярхамі. Адцемленая ў летапісах афіцыйная хрысьціянізацыя ўсходнеславянскіх прастораў пры канцы X ст. азначала ў запраўднасьці не пару раптоўнага зьяўленьня хрысьціянскае веры ды замены ёю веры паганскае на загад князя, а толькі час перавагі ды пачатку афіцыйнае дамінацыі хрысьціянства над паганствам.

Скарына ў Сьвятцах свайго календара падае назвы дванаццацёх месяцаў году падвойныя: лацінскага паходжаньня царкоўнаславянскія ды побач тагачасныя народна-гутарковыя, што былі тады відавочна ў ужытку ў Полацку, Вільні ды й на ўсім прасторы беларускіх земляў. Назвы месяцаў у сваім календары Скарына падае гэтак:

| | | | |
|---|---|---|---|
| Месець септевриі | зовемы | вресень | — верасень |
| месець октовриі | рекомы | листопадъ | — кастрычнік |
| месець новемвриі | иже есть | груденъ | — лістапад |
| месець декавриі | еже есть | прасинець | — сьнежань |
| месець генуарь | зовемы | стычень | — студзень |
| месець февраль | рекомы | лютый | — люты |
| месець мартъ | рекомы | марець | — сакавік |
| месець апріль | зовемы | кветень | — красавік |
| месець маї | потомуже маї | | — травень |

| | | |
|---|---|---|
| месецъ їюнь | рекомы чирвецъ | — чырвень |
| месецъ їюль | рекомы липецъ | — ліпень |
| месецъ августъ | рекомы серпень | — жнівень |

У полацкім рукапісным евангельлі XIV ст. пададзеныя гэткія народныя назвы для першых васьмёх месяцаў году, пачынаючы ад студзеня (чатыры іншыя ў кнізе не захаваліся): просинец, снежин, сухый, березозол, травень, изок, червень, зарев. Дык сярод гадоў дзьвесьце пазьнейшых назваў месяцаў палачаніна Скарыны з васьмёх полацкіх назваў XIV ст. знаходзім толькі дзьве: прасінец і чырвец.

Супаставіўшы сучасныя беларускія назвы месяцаў з Скарынавымі можна бачыць,што шэсьць зь іх у істоце тыя самыя што і ў Скарыны: лістапад, люты, май (які цяпер называецца й травенем), чырвень, ліпень. Месяц лістапад зьмяніў аднак сваё месца: у Скарыны так называецца месяц дзясяты, цяперашні кастрычнік. Скарынаў лістапад бясспрэчна больш падыходзіць "лістападнай" пары году на землях Беларусі, як лістапад сучасны, месяц адзінаццаты.

З назваў месяцаў "марец" і "май" у Скарыны можна бачыць, што ўжо ў ягоныя часы гэтыя назвы лацінскага паходжаньня пранікл і ў мову гутарковую. Як відаць з прыведзеных вышэй народных назваў месяцаў полацкага XIV ст. евангельля, Скарынавы "марэц" там тады яшчэ называўся "сухый", і "май" быў яшчэ "травенем". Пра іхную адаптацыю ў народную мову, ды найменш ад часоў Скарыны, сьветчаць і паўсталыя з гэтымі назвамі народныя прыказкі, прыкладам, пададзеная І. Насовічам у ягоным слоўніку 1870 году: "Цешыўся старац, што пераждыў марац, ажно і ў маю нясуць яго да гаю" (11). Таксама і ў М. Фэдэроўскага: "Марац — укусіць за палец; май — валом (сена) дай, а сам на печ уцякай" (12).

## Назвы дзён тыдня

Спосаб лічэньня дзён сямідзённымі адрэзкамі часу, тыднямі, вельмі стары. Агульна ўважаецца, што ён зарадзіўся колькі тысяч гадоў таму ў Бабілёніі. Стуль перанялі яго жыды, ад іх-жа з часам, праз Біблію, разам з хрысьціянствам, грэкі, рымляне ды іншыя народы сьвету ўлучна з народамі Ісьляму, магамэтанцамі. У васнове ліку дзён сямідзённымі адрэзкамі часу ляжыць час абароту месяца навокала зямлі ды зьвязаныя з гэтым чатыры месяцавы фазы — маладзік, поўня, сход ды ветах. Старадаўныя эгіпціяне ды грэкі сямідзённага тыдня ня зналі. Дні месяца яны дзялілі на адрэзкі часу па дзесяць дзён, на "дэкады".

Славянскія назвы для сямёх дзён тыдня паўсталі не пазьней VIII ст. ды нейдзе на славянска-грэцкім памежжы. У IX ст. пераняліх у перакладзеныя тады на славянскую мову хрысьціянскія літургічныя кнігі ведамыя апосталы хрысьціянства славянаў браты Кірыл ды

Мятод. Падчас свае місійнае працы яны пашырылі іх сярод славянаў мараўскіх ды альпійскіх. У славянскія назвы дзён тыдня там тады быў пераняты зь нямецкае мовы й спосаб называньня сярэдняга дня тыдня "серадой" за прыкладам нямецкае назвы гэтага дня 'Mittwoch'.

Толькі для аднаго дня тыдня прынялася ў славянаў назва з мовы гэбрайскай — "субота" ад гэбрайскага "шабат", што значыць "адпачынак" (ад яго-ж у беларускай мове й "шабаш"). У мову-ж гэбрайскую гэтая назва трапіла, разам з самым спосабам лічэньня дзён тыднёвымі адрэзкамі, з Бабілёніі, з мовы асырыйскай.

З хрысьціянскай верай ды царкоўнаславянскімі кнігамі Кірылы й Мятода славянскія назвы дзён тыдня з часам пашырыліся сярод усіх славянаў — паўдзённых, заходніх і ўсходніх. Стуль сяньняшняя аднолькавасьць гэтых назваў ува ўсіх славянскіх народаў, зь невялікімі адно водхінамі. Нядзеля, прыкладам, у мове расейскай была названая "воскресением".

Падзелу дзён году на тыдні ў Скарынавым календары няма, паколькі ягоны каляндар быў прызначаны не на нейкі адзін год, як звычайна выдаюцца календары цяпер, але меў служыць на 21 год. У памесячным пераліку дзён году такога календара падзелу на тыдні ня можа быць, бо ён кажны год мяняецца. Таму ў памесячным календары Скарынавых Сьвятцаў няма й назваў дзён тыдня.

Але гэтыя назвы знаходзім у Паскаліі ды Шасьціднёвіку Скарынавае Падарожнае Кніжкі ды ў Саборніку ягонага Апостала. Там дні тыдня называюцца гэтак: **неделя, понеделок, второк, середа, четвер**, або **четверток, пятэк, субота.** Зь іх можна бачыць, што назвы дзён тыдня, якія ў часы Скарыны ўжываліся ў Вільні, Полацку ды й па ўсёй Беларусі, няшмат розьняцца ад сучасных назваў іх у беларускай мове й народнай, і літаратурнай.

Скарынаў "второк" стаў цяпер "аўторкам", "пяток" — "пятніцай" ды "четвер", ці бо сучасны "чацьвер", у літаратурнай мове не называецца "четвертком". Але ў мове народнай і гэткія назвы мясцамі захаваліся да нашага часу. У. Дабравольскі, прыкладам, у сваім слоўніку Смаленшчыны 1914 году падае запісанае ў Бельскім павеце "велики четверток" (13). А ў "Краёвым слоўніку Лагойшчыны" А. Варлыгі, у якім запісы з канца XIX ст., знаходзім: "Мама, чаму дзед на чэцьвір кажа "чацьвярток"?; "У пяток мы зрабілі скоскі" (14).

## Назвы сузор'яў задыяка

У інфармацыях Скарыны, якія зьмешчаныя перад пачаткам сьвятцаў кажнага месяца, радок апошні дае заўсёды даведку пра знакі задыяка. Прыкладам у верасьні: **»Знамена-ж бегу солнцева дева и вага»**; у жнівені: **»Знамена бегу солнцева лев и дева».** Калі месца ў радку мала, пачатак даведкі даецца ў варыянтах карацейшых: **»Знамя бегу солнцева»**, або — **»Знамя солнцево».**

Між радкамі тэксту сьвятцаў кажнага месяца, пад адпаведным днём, устаўлены радок пра пераход сонца ў іншы знак задыяка. Прыкладам, у верасьні: »**Того дни солнце входит во знамя небесное вага»**; у кастрычніку — »**того дни солнце входит до скорпии»**, у жнівені — »**Того дни солнце входит в деву»**. Час зьмены знакоў задыяка ў верасьні, кастрычніку й жнівені пададзены на 14-ы дзень месяца, у лістападзе й сьнежані на дзень 13-ы, у травені й чырвені на 12-м, у студзені й красавіку на 11-ы, у сакавіку на 10-ы і ў лютым на 9-ы. Трэба мець у памяці, што гэта даты паводле Юліянскага календара, які ў XVI ст. пазьніўся на 10 дзён ад датаў цяперашняга календара Рыгар'янскага.

У найдаўжэйшыя й найкарацейшыя дні году ды ў дні зраўнаньня дня з ночай, Скарына, пасьля заўвагі пра зьмену сонцам знака задыяка, дае, прыкладам 14 верасьня, гэткую інфармацыю: »**Того дни солнце входит во знамя небесное вага и быва равен день с нощю»**. Пад 10 сакавіком: **Того дни солнце входит во знамя небесное овен, и быва равен день с нощю»**. Даведка 13 сьнежаня: »**Того дня солнце входит в козирог и день начне прибывать, а нощ вбывать. Найдолжейшая нощ годин 17 дроб 10»**. Даведка 12 чырвеня: »**Того дни солнце входит во знамя небесное рак и быва день надолши. Отселе начнет нощи прибывать»**.

Дванаццаць сузор'яў задыяка — Дзева, Вага, Скарпіён, Стралец, Казларог, Вадалей, Рыбы, Баран, Бык, Блізьняты, Рак, Леў, — Скарына ў Сьвятцах дае ў гэткім напісаньні: **Дева, Вага, Скорпие, Стрелец, Козирог, Водолей, Рыбы, Овен, Телец, Близнец, Рак, Лев.**

Сяньня ведама, што доктар Скарына езьдзіў зь Вільні да Масквы з мэтай пашыраць там кнігі свайго выданьня. На загад маскоўскага князя Васіля Іванавіча, ягоныя кнігі ў Маскве былі аднак сканфіскаваныя ды публічна спаленыя, як "гарэтычныя" (15). Аднэй з прычынаў іхнае "гарэтычнасьці" было хіба й тое, што ў Сьвятцах Падарожнае Кніжкі пададзены "бег" сонца праз сузор'і задыяка, а ў Паскаліі Скарына піша пра зацьменьні сонца й месяца ды пра »**звезды блудные»**. Што так магло быць, паказвае аналягічны ў Маскве выпадак у часе гадоў сто пазьнейшым.

Улетку 1626 году да Масквы прыехаў Лаўрэньці Зызані, выдатны царкоўны дзеяч, аўтар колькіх надрукаваных у Вільні кнігаў, у гэтым ліку граматыкі, буквара ды першага беларускага слоўніка — "Лексіс" 1596 году. Зызані прывёз з сабой свой, напісаны пабеларуску "Катихисис", які ён перадаў маскоўскаму патрыярху Філярэту. Патрыярх загадаў кнігу перакласьці з мовы "літоўскай", гэта значыць беларускай, на мову царкоўнаславянскую ды надрукаваць. Назва кнігі пасьля яе перакладу была такая: »**Книга глаголемая по гречески Катихисис. Политовски Оглашеніе. Русским же языком нарицаема Беседованіе»** (16).

Калі друк "Катихисиса" падыходзіў ужо да канца, маскоўскія царкоўнікі агледзіліся, што ў кнізе ёсьць »**погрешительные словеса»**. Было дзеля гэтага скліканае адмысловае паседжаньне, на якім

пачалі выпытваць у Зызанія, чаму ў кнігу царкоўную ён паўводзіў зусім нярэлігійныя рэчы:

> **о крузех небесных, и о планитах, и о зодіях, и о затменіи солнце, о громе, и о молніи, и о тресновеніи, и о шибеніи, и о перуне, о кометах и о прочих звездах... Те статіи ис книг острологіи, а та книга острологія взята от волхвох ельлинских и от идолослужителей, ино туто в книге и нашему правоверію несходна.**

Выслухаўшы закіды, Лаўрэнці Зызані пытаўся, чаму гэта ягоная кніга "правоверію несходна": **»Аз вед не писал... по звездном правленіи житію нашему, только аз писал ведомости ради, чтобы человек ведал яко есть тварь Божія».**

На гэта Зызанію адказалі, што калі **»ведомости ради»** толькі, дык "почему же не прямо об'являл и ложные речи и имена звездам выбирал?" Бо ці-ж гэта праўда, што

> **облака надувшися сходятся и ударяются и оттого бывает, яко от камени и железа,гром и огонь, и звезды называет животными зьверми, яже на тверди небесной... Мы пишем и веруем, як Мойсей написал... а животными и зверями не рек Мойсей... По веленію Божію ангелы служат твар водяще... ангелы рече громом, ангелы молніи, ангелы дождем, ангелы снегом, ангелы мрозом и прочая [17].**

Вынікам гэтае дыскусіі было, што патрыярх Філярэт загадаў друкаваньне "Катехисису" спыніць, і ўжо надрукаванае спаліць. Зызані-ж пасьля гэтага Маскву пакінуў.

Лёс кнігі Зызанія ў 1626 годзе паказвае, што сто гадоў ранейшае публічнае спаленьне ў Маскве кнігаў доктара Скарыны праўдападобна мела тыя самыя прычыны. У календары Скарынавае Падарожнае Кніжкі, як і ў "Катехисисе" Зызанія, былі тыя самыя "погрешительные словеса": у Сьвятцах "зьвярмі" называліся сузор'і задыяка, а ў Паскаліі згадваліся "звезды блудные", плянэты, ды падаваўся час зацьменьня сонца й месяца.

## Даўжыня дня й ночы »на нашу землю»

Мець пад рукамі ў патрэбе інфармацыю пра даўжыню дня й ночы ў паасобныя поры году можа быць важным кажнаму, але асабліва падарожнаму. Дзеля гэтага ў Сьвятцах Падарожнае Кніжкі й дадзеныя пра гэта даведкі. Даў іх доктар Скарына не на кажны дзень году, але толькі два-тры разы ў месяц. Пры канцы Падарожнае Кніжкі, падаючы ейны зьмест, пра гэтыя даведкі Скарына кажа:

> **Светцы краткие, имеющи в собе разделены времена на нашу землю, колико которые дни в году, или нощи держать часов и дробных, и яко година прибудет которому дню или нощи, все написано ест.**

”Часов и дробных”, гэта ”гадзінаў і мінутаў”. У тэксьце календара Скарына заўсёды ўжывае словы ”година”, а не ”час”, мінуты-ж заўсёды называе ”дробнымі”. ”Дробныя”, гэта выяўна спроба Скарыны перакласьці лацінскую ”мінуту”. ‘Minutus’ палацінску значыць маленькі, дробны, невялічкі. Гэткі пераклад для мінуты ў беларускай мове аднак ня прыняўся, и замацавалася лацінская ”мінута”, якую цяпер часам побач называюць і часінай, або хвілінай.

У прыведзеным вышэй сказе з зьместу Падарожнае Кніжкі зьвяртаюць увагу й словы **»разделены на нашу землю»**. Зь іх вынікае, што пададзеныя ў календары гадзіны й мінуты даўжыні дня й ночы былі азначаныя самым Скарынам ды найхутчэй для Вільні, дзе каляндар і Падарожная Кніжка выдаваліся.

Даведку пра даўжыню дня й ночы Скарына дае на пачатку кажнага месяца ды раз ці два ў сярэдзіне. На першы дзень месяца гэтая даўжыня пададзеная заўсёды дакладна ў гадзінах і ”дробных”, ці бо мінутах. Прыкладам, Скарынава даведка на пачатку жніўеня:**»день же в начале его имать годин 15, дробных 6, а нощ 8, дорб[ных] 54»**. Даведкі ў сярэдзіне месяца даюцца заўсёды толькі ў тыя дні, калі даўжыня дня й ночы вымяраецца цэлымі гадзінамі, бязь мінутаў, ды пачынаюцца яны ў месяцах ад верасьня да лютага, калі ноч даўжэйшая за дзень, словам **»нощ»**, у месяцах-жа з днём даўжэйшым за ноч, ад сакавіка да жніўеня, словам **»день»**.

Прыкладам, калі 26 верасьня сказана, што **»Нощ имать годин 13, а день 11»**, дык 16 жніўеня: **»День имать годин 14, а нощ 10»**. У дні году з найдаўжэйшай ночай і найдаўжэйшым днём, іхная даўжыня пададзеная з даведкай пра зьмену знаку задыяка.

Усіх інфармацыяў пра даўжыню дня й ночы ў календары трыццаць. Было-б цікава, каб нехта з адмыслоўцаў гэтае справы пераглядзіў пададзеныя Скарынам лічбы ды выясьніў ці яны вызначаныя для Вільні, ці для нейкага іншага месца Скарынавае ”нашае зямлі”, ды й наколькі яны дакладныя. Для гэтага тут падаецца табліца з выпіскай усіх Скарынавых даведак пра даўжыню дня й ночы ў ягоных Сьвятцах.

## Зьмены даўжыні дня й ночы паводле Скарынавага календара

| Дзень месяца | Даўжыня дня | Даўжыня ночы | Дзень месяца | Даўжыня дня | Даўжыня ночы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1.IX | 12.54 | 11.06 | 1.III | 11.20 | 12.40 |
| 14.IX — быва равен день сноцию | | | 10.III | - быва равен день сноцию | |
| 26.IX — | 11.00 | 13.00 | 29.III | 13.00 | 11.00 |
| 1.X | 10.40+ | 13.20 | 1.IV | 13.30 | 10.30 |
| 11.X | 10.00 | 14.00 | 6.IV | 14.00 | 10.00 |
| 24.X | 9.00 | 15.00 | 20.IV | 15.00 | 9.00 |
| 1.XI | 8.30 | 15.30 | 1.V | 15.30 | 8.30 |
| 9.XI | 8.00 | 16.00 | 8.V | 16.00 | 8.00 |
| 1.XII | 7.00 | 17.00 | 1.VI | 17.00 | 7.00 |
| 13.XII | Надолжейшая нощ- | 17.10 | 12.VI | 17.10 | -быва день надолши |
| 1.I | 7.00 | 17.00 | 1.VII | 16.50 | 7.10 |
| 15.I | 8.00 | 16.00 | 16.VII | 16.00 | 8.00 |
| 30.I | 9.00 | 15.00 | | | |
| 1.II | 9.06 | 14.54 | 1.VIII | 15.06 | 8.54 |
| 11.II | 10.00 | 14.00 | 16.VIII | 14.00 | 10.00 |
| 24.II | 11.00 | 13.00 | | | |

+ У арыгінале надрукавана памылкова 11.40

## Скарынава »Паскалія»

Тэкст "Паскаліі" Скарынавага календара пачынаецца адразу па Сьвятцах, на адвароце 13-е балонкі "Последования". Пад заставіцай угары бачыны, агульную інфармацыю пра рухомыя й нярухомыя сьвяты году Скарына дае пачынаючы загалоўнымі словамі "О ПАСКАЛІ ИЛИ О ПАСЦЕ". На сямёх далейшых балонках надрукаваныя каляндарныя інфармацыі на гады 1523 — 1543, дык на 21 год часу. Унізе апошняе бачыны "Последования" надрукаваны ў тры радкі каляфон календара, у якім пададзена, што Сьвятцы й Паскалія "доконаны суть" доктарам Франьцішкам Скарынам "во славном месте Виленском".

Каляндарныя інфармацыі на кажны з гадоў 1523 — 1543 падаюцца паводле аднае строга вытрыманае схэмы. Тэкст "Паскаліі" набраны вельмі кампактна. Для ашчаднасьці месца шмат якіх словаў набрана адно колькі першых літараў. Здараюцца й тытлы, літары часам ставяцца над радкамі. Блізу ўсе "еры", "цьвёрдыя знакі," ды часта й знакі "мяккія" апушчаныя, іхнае месца паказанае адно надрадковымі знакамі.

На першай бачыне "Паскаліі" Скарына паясьняе, што сьвяты году бываюць "двоякия": "одны што не имають своего отделеного дня в святцех, но рушаются водле бегу полноты марта месеца небеснаго, яко великдень или пасха". Пра сьвяты-ж нярухомыя, як "Георгие" (Юр'е), 40 Мучанікаў, Скарына піша, што яны маюць "свои особливые дни непременны во святцах месецей книжных и для тых не ест сложена паскалка".

Інфармацыі "Паскаліі" на гады 1523-1543 у Скарыны характару дваякага: каляндарна-астранамічныя й царкоўна-рэлігійныя. З каляндарна-астранамічных для кажнага году дадзеная спачатку чародная лічба году паводле гадаліку візантыйскае эры "ад стварэньня сьвету", пасьля-ж паводле гадаліку эры хрысьціянскае "ад нараджэньня Хрыста". Даюцца заўсёды лічбы сонечнага й месячнага цыкляў году ды лічба індыкту. Пры канцы гадавое даведкі Скарына падае час зацьменьняў сонца й месяца гэтага году — дзень і гадзіну з дакладнасьцяй да 30 мінут.

Хоць пачынаючы сваю Паскалію доктар Скарына й кажа, што для сьвятаў нярухомых "паскалка" непатрэбная, ды інфармацыі пра пяць важнейшых нярухомых сьвятаў году — у які дзень тыдня ў гэтым годзе яны прыпадаюць — ён кажны год падае. Першае сьвята, якое названае ў даведцы кажнага году, гэта "Рожство Христове", Каляды — першае важнае сьвята году пры сыстэме верасьнёвага навагодзьдзя. Апрача Калядаў, даюцца яшчэ даведкі пра гэткія чатыры "нярухомыя" сьвяты: 40 Мучанікаў (9.III), Благавешчаньне (25.III), "Георгия" (23. IV) і Пётры (29. VI).

З сьвятаў рухомых падаюцца кажны год даты чатырох сьвятаў: "Мясопуст", "Великдень или Пасха", "Воступление на небеса Господне", "Сошестие святога Духа". Паказаныя кажны год і час пачатку ды даўжыня пастоў — вялікоднага й "Пятровага", — а

таксама колькі тыдняў і дзён можна "мяса ясти" перад вялікодным постам. Кажны год ёсьць і інфармацыя ў які дзень трэба пачынаць малітвы "Трыодзі".

Зьвяртаюць на сябе ўвагу ў Паскаліі інфармацыі пра зацьменьні сонца й месяца. Сам доктар Скарына ў "Писаные речи", пераказваючы зьмест Падарожнае Кніжкі, пра зацьменьні ў "Паскаліі" піша:

> На конци положена ест поскалия на многа лета, замыкаючы справу празников. К тому естьли бы которого году была гибель месецева или затемнение солнцево, то при поскали знайдеш того ж году месец, день и годину неомыльно написану тое гибели месецевы или затмения солнцева.

У сувязі зь інфармацыямі ў Паскаліі пра зацьменьні паўстае пытаньне. скуль яны Скарынам зачэрпнутыя? Хіба асноўныя патрэбныя для гэтага лікі былі ўзятыя зь нейкага тагачаснага астранамічнага альманаха й ужо на падставе іх час зацьменьняў "на нашу землю" вызначыў сам рэдактар-выдавец календара. Дадзеная доктарам Скарынам зарука, што дзень і гадзіны зацьменьняў "знайдеш неомыльно написаны", паказвала-б на тое, што час зацьменьняў быў вызначаны для месца друку календара й Падарожнае Кніжкі, для Вільні.

Было-б важна, каб нехта з адмыслоўцаў справы праверыў пададзены Скарынам час зацьменьняў сонца й месяца ды выясьніў, наколькі яны дакладныя. Для гэтага тут напісаныя ўсе інфармацыі Скарынавае Паскаліі пра зацьменьні. Дадзеныя яны ў Паскаліі толькі для гадоў 1523-1530. Пра зацьменьні гадоў 1531-1543 інфармацыяў няма. Іх доктар Скарына, калі друкаваў свой каляндар, відавочна яшчэ ня меў.

## Час зацьменьняў пададзены ў Скарынавай »Паскаліі»

**1523:** Гибель месеца всего будеть 1 дня марта пол 9 годины пополудни. Другая гибель всея луны августа 25, пополнощи 3 годины.

**1524:** Сего году не будеть гибели солнца ани месяца,но будеть соштие всех седми звезд блудящих во знамени небесном в рибах месеца февраля. Они же на потом, естьли Господь Бог допустить, великое пременение царств, законов, людей и всех на земли и во водах родящихся быти знаменують, яковое ж пред тым небывало.

**1525:** Гибель месеца шестое части будет 4 дня іюля, предполунощию 2 годины.

**1525 [1526]:** Гибель всея луны будеть 29 дня декаврия 2 годины пред полунощию.

**1526 [1527]:** Гибель всего месеца будеть 18 дня декаврия, полутрети годины пред полунощию.

**1528:** Сего году не будеть гибели на небесех.

**1529 [1530]:** Гибель всего месеца будеть октоврия 16 дня, шестое години по полунощи.

**1530:** Гибель солнца, большая половина, 28 марта пол 6 години пред полуднем.

Гады ў дужках — 1526, 1527, 1529, — гады пададзеныя ў "Паскаліі" паводле верасьнёвага навагодзьдзя.

## Першы беларускі каляндар

Скарынаў каляндар быў выданьнем шматбаковае практычнае ўжытковасьці. Гэта ня толькі паказьнік на 21 год часу, на гады 1523-1543, рухомых і нярухомых праваслаўных сьвятаў ды пастоў, але й даведнік практычна важных каляндарна-астранамічных інфармацыяў. Ня толькі падарожнаму, але й кажнаму важна ў патрэбе ведаць час даўжыні дня ці ночы ў дадзенай пары году. І гэтыя інфармацыі дадзеныя ў календары "на нашу землю", а гэта значыць, што яны былі вызначаныя самым доктарам Скарынам. Дзякуючы толькі сваёй унівэрсытэцкай адукацыі Скарына мог даць у календары і "непамыльна напісаны" час будучых зацьменьняў сонца ды месяца.

Астраномію Скарына студыяваў на Кракаўскім унівэрсытэце, калі ў гадох 1504-1508 праходзіў там курс "сямёх навукаў вызваленых", у ліку якіх была заўсёды й астраномія. Кракаўскі-ж унівэрсытэт у галіне астраноміі быў тады на ўзвышшах свайго навуковага аўтарытэту й славы. Гадоў дзесяць перад Скарынам асновы астраноміі на ўнівэрсытэце ў Кракаве пазнаваў Мікалай Капэрнік.

Гартман Шэдэль, аўтар выдадзенае палацінску й панямецку ў 1493 годзе ў Нюрнбэргу "Хронікі сьвету", апісваючы ў кнізе Кракаў, адзначае, што там ёсьць "слаўны вялікім лікам знакамітых і выдатных мужоў унівэрсытэт, на якім разьвіваюцца розныя навукі... Найбольш аднак красуе там астраномія, і ў гэтай галіне няма слаўнейшае школы ўва ўсёй Нямеччыне" (18).

Дачыненьне з астраноміяй доктару Скарыну даводзілася мець і ў гады мэдыцынскае навукі ды таксама пасьля яе заканчэньня, у часе лекарскай практычнай дзейнасьці. На астраномію на мэдыцынскім факультэце тады зьвярталі ўвагу, бо й прагноз хваробы, і тэрапія ў тыя часы ціраз былі ўзалежненыя ад паказаньняў астралёгіі. Дзеля гэтага лекару трэ было заўсёды ведаць разьмяшчэньне на нябесным скляпеньні плянэтаў і зораў.

Як можна бачыць на дрэварытным партрэце доктара Скарыны праскае Бібліі, у ягоным габінэце, над паліцамі з фаліянтамі кнігаў, вісела 'sphaera mundi' — дакапэрнікавая схэма геацэнтрычнага руху нябесных целаў. Дык сачыць "зьвёзды блудзячыя", як у сваёй Паскаліі называе плянэты Скарына, было ягоным прафэсійна абумоўленым заняткам.

вострупление г҃дьне нанебеса ї маіа, соше
ствие свтаго к҃ маіа, перов масо к҃з маіа
перо посту г҃ неде и д҃ дни, перя впято :~

Лѣто е҃ попереступномъ :~

В лѣто з҃ тысеш м҃ѕ, круг солнъ н҃і, луне
ѕ҃і, Рожство хр҃тво вовторок. лети пона
рожения і҃сове полторытысечи л҃и, инди г҃і
маса исти н҃ недель и ѕ҃ днеи, треодь нач
ї феврія, масопустъ к҃д февря, м҃ мучени
всуботу н҃ недели поста. Благовещ вноне
д҃ недели поста. пасха хр҃тва к҃и априла
георгия вовторок сотыа недели, возне
сение г҃дьне л҃ маіа, сошествие с҃тго духа
д҃ іюна. перов масопустъ ѕ҃і іюна, перо
посту недела и е҃ дни, перя всуботу :~

Лѣто г҃ попреступном :~

В лѣто седмое тысечи м҃з, круг солне
ді, луне з҃і, Рожество хр҃тво всреду, лѣти
порожестве хр҃тове полторы тысечи л҃д
37 индикъ в҃і, маса исти з҃ недель и е҃ днеи

# Пасхалїя :~

треодь начни к҃ѕ генвя, масопуст д҃ феврa м҃ мучe во д҃ неде посту, благовещение во вътор шестое неде посту, хрестияномъ пасха шесты апри, георгеа в средy неде г҃ попяс, вознесение еі мaїа, сошестие ке маїа, перoвъ масопустъ я҃ ïюна, перoвa посту г҃ неде и шесть дни, перя в неделю :~

Лѣто перестyпное :~

Влѣто седмоетысещи м҃и, круг солнцу к҃, луне н҃і · Рожство хрстово в четвертокъ лѣтъ по божиемъ нарожении полторы тысещи м҃, индик г҃і, масяпусти е҃ недель и д҃ дни, треодь нач н҃і генвя, масопу я҃ фев, м҃ муч во второ е҃ неде поста, благове в четвер страстныa неде, пасха к҃и марта Георгиа в пятокъ д҃ неде попяс · Вознесение г҃дне ѕ҃ маїа, сошествие стго духа ѕ҃і маїа · Перов масопустъ к҃г маїа, перо поста е҃ недель и день, перя во второкъ :~

Лѣто я҃ поперестyпном :~ 38

Влѣто седмое тысешн м҃д, круг солнцу
к҃а, луне д҃і, рожтво хртво всуботу, лета
побожнѣмь нарожени полторытысешн м҃а
индик д҃і, маса ѡти н҃ недель идеа дни,
триѡдь почни ѕ҃ феврa, масопут в к҃ феб
м҃ мученик восреду в҃ недели потa, Благо
вешение впато д҃ недели потa • Хртиaно
пасха з҃і априла, геѡргеа всуботу светое
неде, возтупление нанебо гдьне к҃ѕ маіа
сошетие стгодуха е҃ іюна, петров масо еі
іюна, потu в҃ неде и в҃ дни, пер восреду :~

Лѣто в҃ поперестuпном :~

Влѣто седмое тысешн н҃, круг солнцу
к҃е, луне а҃, рожтво хртво внеде, индик
еі • лѣта побожнѣмь нарожении тысешa
патсоть м҃е, триѡдь почни к҃д генварa
маса ѡсти з҃ недель и день, масопуе еі
феврала, м҃ мучени вчетверь г҃ неде потa
Благовеш всуботу е҃ потa • наша пасха

39 д҃ априла, геѡр второе неде попас, возне



## О пяскалі или о пясце



Отреба тому найперъвей ведати,
кто хощеть пяскалью водить,
и о празницехъ разуметь. Празни
ки суть двойкие, одны што неймають
своего отделеного дня восеми цехъ, но ру
шаются водле бегу полноты марта меся
ца небесняго, яко великдень или пясха
[illegible] ступление на небеса гдьне. Сошествие
[illegible] о духа, и подлуг того менятся масо
[illegible], и петров пост, и зачинание двух тре
[illegible] ядла ты празников сложения е пяс
[illegible] ябы есмо ведали вькоторые дни
[illegible] месецей и празковати имамы
[illegible] нежели и георгие, и м мученик
[illegible] имають свои особливые дни
[illegible] чехъ месецей книжны
[illegible] пяскалию

Заўвага: Гэтыя апошнія бачыны ёсьць рэпрадукцыяй зь бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына ў Ленінградзе.

# ПИСАНЫИ РЕЧИ :~



## ВСЕИ МАЛОИ ПОДОРОЖНОИ

книжце порадку кратце положены суть :~
Н а напервеи Псалтырь з уполн[illegible] . нисти
хи статиями разделения, внеиже знаиде
ши стиховъ, или припелов . две тысещи
і шесть сотъ . З акаждою каѳисмою за
стявиця болшая . а по каждои славе, за
стявиця меншая . для лепшего разделе
ния чтущимъ положены суть :~
З а Псалтырею песнеи десеть, с ветхаго
і с новаго закону божиа избраные :~
П отомъ часословець, и мела нощную, и
днесную службу Н а преды полунощниця
глемая повса дни, кроме соботы, и недель
Д ругая полунощниця певаемя в суботы
Т ретая полунощниця, повса воскресе
ния . с каноном троичнымъ гласа я, тво
рения преподобнаго отця Іоанна дамаскина

# ВСЕИ КНИЖЦЕ :~

Акаѳістъ светмꙋ великомꙋ чꙋдотворцꙋ
николе, архиепископꙋ мирликийскꙋ :~
Канонъ светмꙋ николе глас е҃. творение
Ѳеоктиста инока студийскоѕ ѡбители
Молитва чудная светомꙋ ѡцꙋ николе :~
Акаѳістъ честномꙋ и животворащемꙋ
крестꙋ гдьню, глаголемыи въпатокъ :~
Канонъ крстꙋ гдьню глас г҃. творение
киръ Іѡсифово. певаемъ въпатокъ :~
Молитва ѡ мучении гда нашего Іса хрста
Страсти или мучение гда Іса, еже по
писал сꙗ воевидець светыи Іѡаннъ еуан
гелистъ, и наперсник хртовъ. Зачало ѿ
ѿ шимо имаши евангелиа стыи страстеи
хртовыхъ. и честномꙋ крестꙋ гдьню :~
Акаѳістъ пресладкомꙋ имени, гда на
шего Іса глемы всꙋботꙋ, и повса дни :~
Стихиры гдꙋ Ісꙋ, певаемы на заутрени
на всак день глас ѕ҃. творение Ѳеоктиста
Канонъ гдꙋ Ісꙋ, певаемыи на заоутрени

# ПИСАНЯ СУТЬ :~

повса дни, гла҃ .е҃. творение феоктиста
молитва къ гд҃у нашему і҃су хр҃ту :~
Шес поденеть крятъкий наасу неделю по
чейши ѿ вечеря суботы . наипервей сти
херы воскресные гласъ .н҃., и настиховни :
Потом заутрена неделная . гласи перва
го седална, степенна, янтифон, еуанъ
гелче воскресное, канон воскресный, и
богородици . творение ст҃го ѿца іоанна
дамаскина . Таж светилна, нахвалите
стихеры . На обедни блаженна воскре
сна . ап҃лъ неделный, другый богороди
цн . Еуангелие воскресное, другое пре
ч҃тои . В неделю вечеръ стихеры ангелом
В понеделокъ потомуже служба зупол
на светымъ ангеломъ господнимъ :~
В второкъ потомуже служба преславно
му во пророцех іоанну предтечи гдню :~
В осреду потомуж служба пренисеате
и шеи бци, и живоворащему кр҃ту гдню :~

# КНІГАПІС

**Слоўнік мовы Скарыны.** Складальнік **У.В.Анічэнка.** Выдавецтва "Вышэйшая школа". Мінск, 1977, том I, 476 б.; том II, 364 б.

На мову выданьняў доктара Франьцішка Скарыны, мову пачатку XVIст., славісты-мовазнаўцы зьвярнулі ўвагу даўно. Ужо ў мінулым стагодзьдзі была спроба выдаць слоўнік гэтай мовы. Склаў такі слоўнік тады П.В.Уладзіміраў, аўтар манаграфіі "Доктор Франциск Скорина" (1888 г.). Хоць гэты слоўнік ня быў апублікаваны, але ведама зь яго каля 200 словаў, якія Уладзіміраў падаў у вышэй названай манаграфіі. Уражае, што Ул. Анічэнка ў прадмове да слоўніка зусім ня згадвае свайго выдатнага папярэдніка ў гэтай галіне працы.

П.В.Уладзіміраў да кажнага рэгістраванага з выданьняў Скарыны слова стараўся даць і яго лацінскі адпаведнік з Вульгаты, чэскі — з чэскіх перакладаў Біблії — галоўна Біблії вэнэцыянскай 1506 г., царкоўнаславянскі — з рукапіснай Біблії 1499 г., ды польскі — з польскага перакладу 1561 г. Прыводзіў ён і адпаведныя словы беларускай народнай мовы зачэрпнутыя з слоўніка І.Насовіча (або й іншых) ды словы старой актавай беларускай мовы з слоўніка М.Гарбачэўскага. Падобных дадатковых лексычных матар'ялаў слоўнік Ул. Анічэнкі не дае. Затое мае ён багаты "ілюстрацыйны матар'ял" — цытаты-прыклады з выданьняў Ф.Скарыны. Слоўнік рэгіструе каля 9500 словаў.

Паводле "Энцыклапедыі літаратуры і мастацтва Беларусі", Уладзімір Анічэнка (народжаны ў 1924 г.) у годзе 1952 скончыў Менскі Унівэрсытэт. У 1970 г. ён доктар філялягічных навук, а ў 1971 — прафэсар. Працаваў у 1955-70 гг. у Інстытуце мовазнаўства АН БССР; ад 1970 — ён загадчык катэдры Гомельскага Унівэрсытэту. Ул. Анічэнка дасьледуе гісторыю беларускай мовы ў яе сувязі зь іншымі славянскімі мовамі, ды ён і аўтар колькіх у гэтай галіне працаў; ён таксама суаўтар "Гісторыі лексікалогіі беларускай мовы".

Як Ул. Анічэнка яшчэ ў 1972 г. падаваў, калі пісаў пра прынцыпы паводле якіх слоўнік складаў, ужо тады працаваў ён над ім "на працягу доўгага часу". Вось за гэты "доўгі час" — і пасьля — мяняліся спосабы граматычнага апісваньня словаў (пра што Складальнік піша ў прадмове да 2-га тому), мяняліся й пляны публікацыі слоўніка. У 1972 г. У.Анічэнка пісаў, што слоўнік будзе складацца "з трох тамоў". У томе першым 1977 году падаваў, што будзе яшчэ й "дадатак да слоўніка", у томе-ж другім 1984 г. знаходзім, што гэта ўжо яго "заканчэньне", — пра "дадатак" нічога не гаворыцца.

У першым томе дадзены пералік "крыніцаў" слоўніка — выданьняў Скарыны, якія былі скарыстаныя пры складаньні слоўніка. Зь пераліку відаць, што зусім ня была ўзятая на ўвагу віленская, 1522 году, "Падарожная кніжка". Ні словаў, ні ілюстрацыйных матар'ялаў з гэтага выданьня Скарыны ў слоўніку няма. Няма й паясьненьня, дзеля якіх мяркаваньняў гэтая "крыніца" зігнараваная. А мова некаторых частак "Падарожнай", асабліва яе каляндара з "Паскаліяй", цікавая вельмі хоць-бы той каляндарнай і астранамічнай лексыкай, якую Скарына ўжываў: беларускімі назвамі месяцаў году, назвамі 12 сузор'яў задыяка ды іншымі. Усяго гэтага слоўнік не дае.

З другога боку Ул. Анічэнка, разам з лексыкай Скарыны, зарэгістраваў у слоўніку й лексыку ягоных царкоўнаславянскіх выданьняў (Псалтыра, Апостала) і гэтак "мове Скарыны" прыпісаў царкоўнаславянскую іх лексыку.

Слоўнік напэўна перадаваў-бы дакладней лексыку мовы Скарыны, калі-б рэгістраваў толькі словы тэкстаў напісаных самым Скарынам і кнігаў, ім перакладзеных, не мяшаючы з гэтым лексыку ягоных царкоўнаславянскіх выданьняў. Царкоўна-славянскі Псалтыр на землях Беларусі быў у шырокім карыстаньні даўно перад Скарынам і ў надрукаваным Скарынам Псалтыры напэўна яму належаць толькі пададзеныя "на боцех" глёсы.

У 1971 г. Ул. Анічэнка інфармаваў, што ягоны слоўнік будзе спаўняць дзьве функцыі: як крыніца да вывучэньня мовы Скарыны й як "навуковы даведнік па розных пытаньнях мовазнаўства". Вось як да такога "даведніка" можна й зьвярнуцца да слоўніка па "кансультацыю".

Слова "дойлід" — старавечны балтызм беларускай мовы. У XIX-XX стст., яно зарэгістраванае на прасторы блізу ўсіх беларускіх народных гаворак. Даволі часта слова "дойлід" сустракаецца і ў мове старых беларускіх актаў ды ў мове старой пісьменнасьці. Ёсьць яно і ў сучаснай беларускай мове.

Ужо П.В.Уладзіміраў зацеміў, што ўжываў гэтае слова й Скарына. Пацьвярджае гэта й слоўнік Анічэнкі. Ды матар'ялы слоўніка адначасна паказваюць, што словаў балцкага паходжаньня Скарына ўжываў ня больш, чым іх мела беларуская мова ягонага часу ці мае іх мова сучасная. Дык слоўнік не пацьвярджае дапушчэньняў тых сучасных аўтараў, якія пішуць, што быццам Скарына "знаў" нейкую балцкую мову.

"Пытаньне" другое: яшчэ ў мінулым стагодзьдзі ў публікацыях пра Ф.Скарыну для аднэй ягонай кнігі, для "Падарожнай", расейскія аўтары завялі назву "Подорожная **книжица**», хоць сам Скарына называў яе толькі "Подорожная **книжка**». Слоўнік Ул. Анічэнкі паказвае, што і ў сваіх іншых выданьнях слова "книжица" Скарына ня ўжываў. Дык у яго й магло быць толькі **»книжка»**, а ня "книжица", з чаго даходзім да практычнай высновы, што толькі гэтак "Падарожную" й трэба называць.

**Р. Максімовіч**

**В. Ф. Шматаў.** Беларуская кніжная гравюра XVI — XVIII стагоддзяў. Акадэмія Навук Беларускай ССР. Інстытут мовазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Мінск, „Навука і тэхніка", 1984 г., 184 б. + ілюстрацыі.

Працаў, у якіх разглядалася-б графічнае аздабленьне кнігаў усей старой пары беларускага друку, дагэтуль ня было. Ужо дзеля гэтага кніга В. Шматава зьвяртае на сябе ўвагу самой сваей назвай. У ей дадзены разгляд гравюраў ня толькі кнігаў беларускіх, але й царкоўнаславянскіх, лацінскіх, польскіх — калі яны друкаваліся на беларускіх землях.

Першы разьдзел кнігі (б. 9 — 28) адведзены разгляду "прадумоў" паўстаньня гравюры ў Беларусі. Як аўтар кажа, "на мастацкія асаблівасьці дрэварытаў кніг Скарыны ўзьдзейнічалі і традыцыі беларускай нацыянальнай культуры", цібо тыя яе галіны, у якіх доўга перад зьяўленьнем друку тарнаваліся "тэхнічныя прыёмы" ўжываныя пасьля і ў гравіраваньні. Да іх аўтар залічыў беларускую сфрагістыку (помнікі якой ведамыя ад X ст.), шырока тарнаваныя чаканка й набіванка, ды — шрыфты, ініцыялы, заставіцы, мініятуры-ілюстрацыі старых рукапісных кнігаў Беларусі. Паклікаецца тут аўтар найперш на "пышныя ілюмінацыі" некаторых старых Евангельляў — Тураўскага XI ст., Аршанскага XIII ст., Лаўрышаўскага, Мсьціскага XIV ст., другога Тураўскага XV ст., Шарашоўскага, Жыровіцкага, Мелішэўскага, Жухавіцкага XVIст., смаленскага Псалтыра XVI ст. Зь летапісаў названы Радзівілаўскі XV ст., у якім 618 мініятураў. Мініятуры гэтага летапісу, кажа аўтар, "як-бы падводзяць нас... да дрэварытаў Ф.Скарыны, з якіх пачынаецца гісторыя беларускай гравюры" (б. 22).

Зьвернутая ўвага на тэхнічныя ды мастацкія "прадумовы" паўстаньня й разьвіцьця гравюры ў Беларусі — падыход прынцыпова правільны. Але ўсе вышэй названыя старыя рукапісныя помнікі Беларусі аўтар у кнізе толькі называе, толькі пералічае ды на іх "ілюмінацыі" пасьля цірас паклікаецца. У кнізе няма, аднак, ніводнай зь іх рэпрадукцыі, ніводнай ілюстрацыі, і чытачом даводзіцца верыць аўтару (або й не), паколькі й нейкіх апублікаваных альбомаў зь мініятурамі беларускіх рукапісаў няма. Дзеля гэтага й усе выказаныя пры гэтым дапушчэньні застаюцца толькі гіпатэтычнымі меркаваньнямі. Гэта паважны недастатак першага разьдзелу кнігі.

У разьдзеле другім (б. 29-96) разглядаецца зараджэньне беларускай кніжнай гравюры, пачынаючы ад выданьняў Ф. Скарыны й яе разьвіцьцё ў XVI ст. Дрэварытам Ф. Скарыны, іх мастацкім асаблівасьцям,прысьвечана найбольш увагі. В. Шматаў даўжэй затрымліваецца над дрэварытным партрэтам доктара Скарыны ў кнігах праскай Бібліі. Пра партрэт ён піша, што "гэта бясспрэчна найлепшы дрэварыт у кнігах Скарыны" (б. 33). Яшчэ ў мінулым стагодзьдзі на партрэт зьвярталі ўвагу мастацтвазнаўца В.

Стасаў, П. Уладзіміраў, а ў стагодзьдзі нашым — гісторык беларускага мастацтва М. Шчакаціхін. Ужо ад пачатку XIX ст. партрэт ціраз перарысоўвалі, капіявалі, рэпрадукавалі.

У паваенных гадох разглядаўся гэты партрэт і ў розных выданьнях на Захадзе, між іншым і ў выданьнях БІНіМ (Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва). Пры гэтай нагодзе былі раскрытыя й некаторыя цікавыя яго дэталі, як напісаньне пад партрэтам вязьзю імя Скарыны "Франциско» (дагэтуль яго адчытвалі "Франциск"), як адчытваньне манаграмы мастака партрэту — **МТЗ** (якую перад гэтым чыталі як МЗ). Вось гэтыя выясьненьні аўтар даволі акуратна "падабраў" і "прыняў", хоць і ня згадвае ніколі скуль гэта ў яго ўзята, ствараючы так ураджаньне, што гэта ягоныя ўласныя выснавы.

Уражае, што ў кнізе, вялікая частка якой прысьвечаная Ф. Скарыну, ды славіцца ягоны партрэт як "бясспрэчна найлепшы" дрэварыт, няма рэпрадукцыі **арыгіналу** гэтага партрэту, а толькі адбітка старой, зь першай паловы XIX ст., перарысоўкі (б. 12). I чытачы кнігі пакідаюцца ў няведзе, як пачынальнік беларускага друку іі кніжнай гравюры выглядаў на тым партрэце, які ён сам у сваіх выданьнях зьмясьціў ды якім пасьля гэтак захопліваліся мастацтвазнаўцы XIX-XX стст.

Разглядаючы дрэварыты Скарынавых выданьняў, аўтар сустрэўся й з старымі ў скарынаведнай літаратуры пытаньнямі: ці выданьні Скарыны ілюстраваў адзін мастак, ці было іх колькі, і ці быў у гэтым нейкі ўдзел самога Скарыны? В. Шматаў уважае, што "задума, выбар сюжэта належалі Скарыне, які ў асобных выпадках мог падказаць гравёру і кампазыцыю. Затым гравёр рэалізаваў задуму дрэварыта ў матарыяле. Усе подпісы да гравюр, іх размяшчэньне ў кнізе зноў жа належалі Скарыне..."

Ужо пры канцы XVIII ст. чэскі славіст Ё. Добраўскі выказаў думку, што дрэварыты Скарынавых выданьняў магчыма выконвалі нюрнбэрскія гравёры. Тое-ж у 1851 г. паўтарыў і гісторык польскай літаратуры М. Вішнеўскі, які пісаў, што дрэварыты Скарынавых акафістаў "нейдзе ў Нямеччыне, магчыма ў Нюрнбэрґу робленыя". Некаторыя аўтары пазьней згадвалі й розныя нюрнбэрскія выданьні, зь якіх дрэварыты Скарыны маглі быць перанятыя, называлі пры гэтым і "Хроніку сьвету" Гартмана Шэдэля (Нюрнбэрґ 1493 г.). В. Шматаў яшчэ ў 1972 г. гэткую "нямецкую тэорыю" паходжаньня дрэварытаў Скарынавых выданьняў станоўка запярэчваў ды пісаў, што "з гравюрамі "Сусьветнай хронікі" Шэдэля Скарынінскія гравюры ня маюць нічога агульнага".

Тымчасам у 1978 г. у Нью Ёрку, у "Запісах" БІНіМ быў апублікаваны артыкул пра дзьве ілюстрацыі віленскай "Падарожнай кніжкі" Скарыны, адціснутыя напэўна з дрэварытных дошчачак, выкананых для "Хронікі" Шэдэля ды ў ей і скарыстаных. У "Запісах" былі й рэпрадукцыі гэтых дрэварытаў. Цяпер, у сваей кнізе, В. Шматаў ужо таксама дае рэпрадукцыю аднэй,

рэпрадукаванай у "Запісах", ілюстрацыі кнігі Шэдэля, хоць пры гэтым і не паясьняе як да "нямецкай тэорыі" ён сам дайшоў. Пры гэтай нагодзе ў аўтара ёсьць і інфармацыя (б. 94, зноска 95), што "Хроніку" Шэдэля маюць дзьве менскія бібліятэкі — АН БССР і цэнтральная дзяржаўная.

Добра, што аўтар падаў да ведама чытачоў нядаўна за акіянам раскрыты канкрэтны факт сувязі дрэварытаў Ф. Скарыны зь нюрнбэрскімі выданьнямі, хай сабе й скрываючы, хто ды дзе гэта выявіў і падаў да ведама, ды ўсё-ж шкада, што ў сваей кнізе рэпрадукцыю дрэварыту Шэдэля ён не пастараўся зрабіць зь менскага экзэмпляра "Хронікі" сам, а лёгкім плягіятным ладам перадрукаваў яе зь ньюёркскіх "Запісаў" БІНіМ (кн. 16, б.8). Дасьледнікам Скарынавай мастацкай спадчыны было-б цікава ведаць у якім стане была дрэварытная дошчачка ілюстраыці калі рабіўся зь яе водціск у менскім экзэмпляры "Хронікі".

Справа з дрэварытамі з кнігі Шэдэля дае яскравае сьветчаньне пра стан вывучаньня мастацкай спадчыны Ф. Скарыны ў БССР. Выяўляецца, што хоць бібліятэкі Менску маюць "Хроніку" Шэдэля, пра якую ўжо ад паловы XIX ст. пісалі, што яе дрэварыты маглі мець узьдзеяньне на ілюстраваньне Скарынавых выданьняў, у БССР ніхто аднак не парупіўся ў менскія экзэмпляры гэтай кнігі заглянуць, іх пералістаць, пакуль не зьявілася публікацыя пра гэта за акіянам.

Пасьля дрэварытаў Скарынавых выданьняў, першых беларускіх дрэварытаў, разглядаюцца ў кнізе дрэварытныя аздобы "Катихисіса" С. Буднага (Нясьвіж, 1562 г.), Евангельляў В. Цяпінскага й П. Мсьціслаўца, і дрэварыты кнігаў друкаваных у друкарнях Мамонічаў у Вільні ды віленска-еўінскай брацкай.

Уражае, што аўтар кнігі блытае фаліяцыю з пагінацыяй. Ён піша, што Скарына "ўпяршыню" ў друкаваных кнігах "даў дакладную пагінацыю старонак" (б. 30), а пра "Катихисіс" Буднага, што ў гэтай кнізе "262 старонкі" (б. 56). Тымчасам ні Скарына, ні Будны, ні іншыя беларускія выдаўцы XVI ст. "старонак" не нумаравалі, а толькі балонкі ("лісты"), дык і гаварыць можна толькі пра дадзеную імі "фаліяцыю" іхных выданьняў (а не пагінацыю). Кніга Буднага таксама нумаравалася "лістамі", а не бачынамі ("старонкамі"), і таму мела не "262 старонкі", як піша аўтар, а два разы гэтулькі (Карскі налічыў у ей 272 "лісты").

З В. Цяпінскім у кнізе дайшло й да дзівоснай недарэчнасьці. Як вядома, пад паўдзённаславянскім уплывам у старой беларускай пісьменнасьці гук "у", асабліва калі ён быў на пачатку слова, пры пісаньні часта перадавалі дыграфам **»оу»**. Пісаў гэтак і В. Цяпінскі. Ягонае слова **»оубогае»** у кнізе Шматава прыведзенае ў цытаце (б. 59), але ў вельмі-ж арыгінальна "усучасьненым" напісаньні: літара "о" дыграфа паддадзеная "аканьню", заміж яе стаіць "а". На месцы-ж літары другой — "у" — пастаўленае нескладовае "ў". Гэтак дыграф і слова Цяпінскага ў Шматава атрымалі напісаньне ня толькі "акаючае", але й "аўкаючае" — **»аўбогае»**.

У трэцім разьдзеле (б. 97-152) разглядаецца беларуская кніжная гравюра XVII ст., ці бо пары, калі ў архітэктуры Беларусі запанаваў стыль барока. Знайшло гэта свой яскравы адбітак і ў кніжнай гравюры, асабліва пры кампазыцыі тытульнай бачыны кнігі: "на тытулы кніг як бы перайшлі франтоны барочнай архітэктуры", хоць і без таго, характэрнага для Захаду, перасаднага патэтызму.

У XVII ст. у лацінскіх і польскіх выданьнях Беларусі побач дрэварытаў сустракаем і гравюру на мэталі — медзярыты. Аднак у кірылічных выданьнях да канца стагодзьдзя пануе яшчэ дрэварыт, які ў другой чверці дасягнуў і ўзвышшаў свайго разьвіцьця.

Найвыдатнейшыя тагачасныя цэнтры мастацкага аздабленьня кірылічнай кнігі, гэта віленска-еўінская друкарня й друкарня ў Куцейне. Мастацтву друкаванай у Еўі кнігі расейскі дасьледнік кніжнай аздобы А. Сідараў у 1946 г. даў вельмі высокую ацэну: "ні Масква, ні Кіеў ня могуць прывесьці прыкладу багата ўпрыгожанага...ўбору тытульнай рамкі, як у Евангельлі, выдадзеным у малым мястэчку Еўе ў 1617 г.". В. Шматаў у дрэварытах кірылічных кнігаў знаходзіць і некаторы наварот да аздобаў старых рукапісаў ды ўплывы мастацтва народнага.

У тую пару разьвіваецца й геральдычная гравюра Беларусі — выконваюцца гэрбы беларускіх магнатаў, мэцэнатаў кірылічнага кнігадруку, гэрбы Агінскіх, Хадкевічаў, Валовічаў, Льва Сапегі, Трызнаў ды іншых. У кірылічных выданьнях XVII ст. знойдзена 16 магнацкіх гэрбаў.

Медзярытная гравюра зьяўляецца найперш у картаграфіі. Зь вядомых выдатнейшых майстроў гэтай галіны ў кнізе названыя нясьвіскі Т. Макоўскі ды Аляксандар і Лявонці Тарасэвічы з Глуска. А. Тарасэвіч працаваў з удачай і ў галіне кніжнай партрэтнай гравюры, як сьветчыць выкананы ім партрэт ашмянскага прыстольніка Г. Зямлі.

Часовая акупацыя земляў Беларусі войскамі цара Аляксея Міхайлавіча з пачаткам другой паловы XVII ст. руйнуе друкарства Беларусі. Куцейская друкарня была тады вывезеная ў Маскоўшчыну. Разам з снасьцяй друкарні, былі вывезеныя "на вечнае жыцьцё" і ўсе друкары.

У XVIII ст. (б. 156-178) шмат увагі кніжнай гравюры аддаюць друкарня ў Супрасьлі на захадзе Беларусі й Магілёўская на ўсходзе. Супрасьльская друкарня была дзейнай блізу сто гадоў — праіснавала да пачатку XIX ст. У ей было надрукавана 420 рознага, рэлігійнага й сьвецкага, зьместу кнігаў у мовах беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай. Працавала пры канцы стагодзьдзя яшчэ й магілеўская друкарня.

Найлепшыя, створаныя ў Магілеве, гравюры былі выкананыя граверамі Максімам і Васілём Вашчанкамі, Ф. Ангілейкам, А. Пігарэвічам. Іхныя гравюры адзначаліся яскравым мясцовым калярытам. Пра "лякальны магілеўскі" калярыт твораў М. Вашчанкі, які яшчэ ў XVII ст. выканаў ілюстрацыі для папулярнай

тады ў Эўропе кнігі "Манархія Турэцкая", якую ў польскім перакладзе надрукавала Слуцкая друкарня, адзін мастацтвазнаўца зацеміў, што ў сваіх ілюстрацыях ён "высокіх, стройных турэцкіх наложніц ператварыў у прысадзістых магілёўскіх маладзіц".

Адцеміць трэба, што хоць у кнізе В. Шматава ёсьць колькідзесяць ілюстрацыяў, ды пры вялікім ліку згаданых у ей друкарняў, друкароў, выдаўцоў, мастацкай гравюры ды й розных кнігаў, яе ілюстрацыйны матар'ял, бясспрэчна, засьціплы. Навукова-пазнавальная вартасьць кнігі шмат узрасла-б, калі-б аўтар яшчэ склаў ды выдаў дадатковы том — альбом беларускай кніжнай гравюры XVI-XVIII стст., у якім гравюры былі-б паказаныя ў большым, паўнейшым ліку ды ў добрай рэпрадукцыі й найлепш у арыгінальнай іх вялічыні ды выкананыя з арыгіналаў, а ня копіяў-перарысовак, як гэта зроблена з дрэварытным партрэтам доктара Ф. Скарыны. Шмат якія з аўтаравых гіпатэзаў і розных меркаваньняў, бяз дадзенага ім нагляднага абгрунтаваньня адпаведнымі канкрэтнымі прыкладамі-ілюстрацыямі, ня "вісела-б" тады бездапаможна.

Паважная загана кнігі, у якой закранаецца багаты, зьвязаны з гравюрай матар'ял, нястача ў кнізе й такога важнага й навукова патрэбнага апарату, як паказьнікі: ні асабовага, ні прадметнага, ні геаграфічнага паказьнікаў кніга ня мае. І дадзены кнізе большы фармат дазволіў-бы паказаць шмат гравюраў у натуральнай вялічыні, без патрэбы даваць іх у вялікім часта памяншэньні.

Ды,не зважаючы на хібы й недастаткі, кніга В. Шматава, бясспрэчна, карыснае выданьне для лепшага, глыбейшага пазнаньня й вывучэньня мала дагэтуль дасьледаванай галіны беларускага мастацтва.

**Р. Максімовіч**

# ЗЬ БЕЛАРУСКАЕ НАВУКОВА-КУЛЬТУРНАЕ ХРОНІКІ ЗА ГАДЫ 1980-1982

## 1980 год

**16 студзеня** ў Унівэрсытэце штату Ню Джэрзі ў горадзе Ню Ўарку, д-р Вітаўт Кіпель прачытаў рэфэрат аб культурна- навуковым жыцьці беларускае калёніі штату Ню Джэрзі.

**20 лютага** на Калюмбійскім Унівэрсытэце ў Ню Ёрку дасьледнік беларускага руху 1900-1917 гадоў сп. Ніколас Вэрт рабіў рэфэрат на тэму "Сацыял-дэмакраты, нацыяналізм і рэвалюцыя на Беларусі, 1900-1917.

**24 лютага** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва супольна зь Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем ладзілі вечар прысьвечаны памяці братоў Івана й Антона Луцкевічаў. Рэфэрат пра братоў Луцкевічаў чытаў д-р Вітаўт Тумаш, а ўспамінамі аб Антону Луцкевічу падзяліліся старшыня БАЗА спадар Антон Шукелойць ды спадарыня Натальля Орса.

**2 сакавіка** Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ды іншыя беларускія арганізацыі гораду Ню Ёрку адзначылі 20-я ўгодкі ад дня сьмерці д-ра Аляксандра Орсы: колькі дакладчыкаў ад БІНіМ'у адзначылі вялікі ўклад д-ра А. Орсы ў разьвіцьцё беларускае школьнае сыстэмы на Бацькаўшчыне, ды ягоную надзвычайную ацэну важнасьці ўзгадаваньня маладых беларускіх кадраў.

**Ад 16-га да 26-га сакавіка** ў горадзе Саўт Рывэры ў штаце Ню Джэрзі адбывалася чародная гадавая выстаўка беларускага народнага мастацтва, якую ладзіць Беларускае Літаратурна-Мастацкае Таварыства. У выстаўцы ўзялі ўдзел панад 20-х беларускіх мастакоў і народных умельцаў. Выстаўка была адзначаная ў мясцовым англамоўным друку.

**4-га красавіка** д-р Вітаўт Кіпель, на запросіны Ню Джэрзійскага Настаўніцкага Саюзу ў горадзе Трэнтане, рабіў рэфэрат на тэму "Англамоўная літаратура пра Беларусь".

**16 красавіка** ў ведамым інстытуце сацыяльных дасьледваньняў Ігэлтана пры ўнівэрсытэце штату Ню Джэрзі ў горадзе Ню Брансвіку д-р Багдан Вытвіцкі меў даклад на тэму "Славянскі Галякост у другую сусьветную вайну". Д-р Вытвіцкі падаў шмат новага й цікавага матар'ялу пра народагубства на Беларусі ў часох 2-е сусьветнае вайны.

**16-18 травеня** ў галерэі ”Аркэйд” у горадзе Кліўлендзе адбылася выстаўка вырабаў беларускіх народных умельцаў мясцовае беларускае калёніі.

**24 травеня** пры Ўнівэрсытэце штату Ню Джэрзі ў горадзе Ню Брансвіку адбылася канфэрэнцыя прысьвечаная этнічным праблемам ЗША. Канфэрэнцыя была вельмі людная ды ў працах яе ўзялі ўдзел дасьледнікі з панад дзесяцёх унівэрсытэтаў Амэрыкі, прадстаўнікі Фэдэральнага Ўраду ды друку. Ад беларусаў у канфэрэнцыі бралі ўдзел спадарыні Зора Кіпель, Галіна Русак ды др Вітаўт Кіпель.

**Травень.** Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва ладзіў сустрэчу ды абмены думак ізь сябрамі БІНіМ'у, якія завіталі ў Ню Ёрк: з Аргэнтыны — д-р Эміль Цяўлоўскі ды з Аўстраліі — спадар Мікола Нікан.

**Травень.** У Лёндане, на заканчэньне 14-гадовага цыклю дакладаў на тэмы беларускай гісторыі, культуры й літаратуры, сп-ня Шырын Акінэр мела даклад на тэму: ”Сучасныя беларускія пісьменьнікі ў Польшчы”.

**Ад 9-га да 13-га ліпеня** ў аўстралийскім дзяржаўным Унівэрсытэце ў горадзе Канбэра адбыўся кангрэс дасьледнікаў лінгвістыкі з Аўстраліі, Новай Зэляндыі, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Польшчы, Ангельшчыны й Югаславіі. Рэфэрат на тэму ”Беларускае літаратурнае й нацыянальнае адраджэньне 19-га стагодзьдзя” прачытала дацэнт факультэту псыхалёгіі Сыднэйскага Ў нівэрсытэту сп-ня Ольга Качан.

**20-21 ліпеня** ў Вашынгтоне адбывалася выстаўка народнага мастацтва нацыянальнасьцяў Амэрыкі. Беларускія стэнды былі ладжаныя прадстаўнікамі Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў Вашынгтоне — спадарыняй Нінай Кіт і спадарышняй Алесяй Кіпель.

**6 ліпеня** ў горадзе Ню Уарку ў штаце Ню Джэрзі, з нагоды адзначэньня Дня Незалежнасьці Амэрыкі, выступаў ансамбль ”Віхор” з абшырным беларускім музычным рэпэртуарам.

**22-24 жніўня** ў г. Балтыморы адбылася Агульнаславянская Амэрыканская Канфэрэнцыя. Ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Канфэрэнцыі ўзялі ўдзел д-р Вітаўт Кіпель і інж. Васіль Меляновіч. Прынагодна адбыўся вялікі агульна-славянскі канцэрт. Зь беларускай праграмай выступалі танцавальны гурток беларускае моладзі ”Васількі” пад кіраўніцтвам д-ра Алы Рамана-Орса ды таксама ансамбль ”Віхор”.

**31 жніўня** ў Кліўлендзкім Штатным Унівэрсытэце ў горадзе Кліўлендзе адбылася навуковая канфэрэнцыя прысьвечаная 450-годзьдзю першага Статуту Вялікага Княства Літоўскага. У дакладах былі адзначаны характарыстыкі ўсіх трох выданьняў Статуту (1529, 1566, 1588 гадоў). Дакладчыкамі на канфэрэнцыі былі: мгр. Васіль Пляскач, д-р Тэрэза Альт, д-р Карль фон Ляўэ, д-р Вітаўт Тумаш, д-р Вітаўт Кіпель, праф. Карл Бануты, сп-ня Зора Кіпель, спадарышня Алеся Кіпель, праф. Томас Бэрд, д-р Ян Запруднік, сп-ня Галіна Русак, сп-р Барыс Данілюк і сп-р Міхась Белямук. Канфэрэнцыя адбылася ў часе 14-е Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Скарочаныя зьместы дакладаў канфэрэнцыі былі надрукаваныя ў газэце "Беларус", нр. 280-281, 1980.

**13-14 верасьня** адбылася беларуская мастацка-этнаграфічная выстаўка ў парку Свабоды ў штаце Ню Джэрзі. На агульна-этнічным фэстывалі, які адбываўся гэтай самай парой у тым-жа парку, выступала беларуская танцавальная група "Васілёк".

**5-га кастрычніка** ў Ню Ёрку ў праграме "Тыдня Славянскае Спадчыны" адбыўся "Беларускі Дзень".

**12 кастрычніка** ў горадзе Манчэстары (Ангельшчына) ў мясцовым Беларускім Доме адбыўся літаратурны аўтарскі вечар беларускага грамадзкага дзеяча й пісьменьніка зь Беласточчыны сп. Віктара Швэда.

**19 кастрычніка** ў Беларускай Бібліятэцы імя Ф. Скарыны ў Лёндане адбыўся літаратурны вечар сп. Віктара Швэда.

**9-16 лістапада** ў Ню Ёрку адбыўся Трэйці Гадавы Фэстываль Славянскіх Культураў. У фэстывалі бралі ўдзел беларускія арганізацыі ды была зладжаная выстаўка беларускіх мастакоў. Зь беларускіх мастакоў у выстаўцы ўзялі ўдзел: Я. Казьлякоўскі, П. Міркановіч, І. Рагалевіч, Г. Русак, І. Шыманец-Сурвіла, Ст. Тамара. Адказнымі за беларускі ўдзел у фэстывалі былі д-р Вітаўт Тумаш, сп. Антон Шукелойц, сп-ня Раіса Станкевіч. У праграме фэстывалю выступаў таксама танцавальны гурток "Васілёк" пад кіраўніцтвам д-ра Алы Орса-Рамана.

**10-18 лістапада** беларуская мастачка Ст. Тамара (Тамара Кольба-Стагановіч) брала ўдзел у мастацкай выстаўцы, якую ладзіла асацыяцыя мастакоў штату Ню Джэрзі ў г. Трэнтане.

**22-24 лістапада** ў г. Чыкага адбылася чародная гадавая выстаўка народных умельцаў г. Чыкага й штату Іліной. У выстаўцы ўдзельнічалі й беларусы, а выставачнай праграмай як і ўдзелам беларусаў кіраваў Беларускі Каардынацыйны Камітэт гораду Чыкага.

**Верасень-лістапад:** у горадзе Кліўлендзе ў Этнаграфічным Музэі адбывалася выстаўка народнага беларускага мастацтва. Гэта была адна з большых выставак беларускага мастацтва й этнаграфіі апошніх гадоў.

**7-га сьнежаня** ў Беларускай Бібліятэцы ймя Франьцішка Скарыны ў Лёндане адбылося спатканьне беларуска-ангельскага грамадзтва й аўтарскі вечар беларускага пісьменьніка зь Беласточчыны сп. Сакрата Яновіча.

**27-29 сьнежаня** адбылася 4-я Сустрэча Беларусаў Аўстраліі, у часе якое была дзейная выстаўка беларускага ўмельства ды адбыўся канцэрт з выступам беларускіх музычна-харавых і танцавальных ансамбляў. Гасьцямі на гэтай сустрэчы былі таксама беларускі пісьменьнік Кастусь Акула з Канады ды д-р Язэп Сажыч із Злучаных Штатаў Амэрыкі.

## 1981 год

**14 студзеня** на штатным унівэрсытэце ў горадзе Гласборо, штат Ню Джэрзі, адбылася канфэрэнцыя прысьвечаная вывучэньню нацыянальных групаў штату Ню Джэрзі. У канфэрэнцыі браў удзел ад Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва д-р Вітаўт Кіпель з дакладам "Беларусы ў Амэрыцы перад Першай Сусьветнай Вайной: пасяленцы ў штаце Ню Джэрзі".

**1-га лютага** ў горадзе Бінгамптоне (штат Ню Ёрк), у цэнтры мастацтваў імя Робэрсана адчынілася выстаўка тэкстыльных вырабаў нацыянальнасьцяў штату Ню Ёрку. У выстаўцы ўдзельнічаюць таксама й беларусы (адказная спадарыня Зора Кіпель). На выстаўцы сярод экспанатаў, як прыкладам ручнікі зь Неглюбкі, былі выстаўленыя таксама Слуцкія паясы вырабу 18-га стагодзьдзя.

**Ад 22-га сакавіка да 12 красавіка** ў горадзе Саўт Рывэры ў Беларускім Грамадзкім Цэнтры адбывалася 8-я выстаўка беларускіх мастакоў і народных умельцаў.

**Ад 23-га сакавіка да 8-га травеня** ў бібліятэцы Ратгэрскага Штатнага Ўнівэрсытэту (штат Ню Джэрзі) у г. Ню Брансвіку адбывалася выстаўка "Вехі беларускае літаратуры", якая была арганізаваная спадарыняй Галінай Русак. Выстаўка, якая складалася з 12-х вітрынаў, ахапляла беларускую літаратуру (друкаваную й рукапісную) ад часоў Полацкага Княства да навейшае беларускае літаратуры.

**25-27 сакавіка** ў сталіцы штату Ню Джэрзі горадзе Трэнтане адбылася выстаўка цяперашняга пэрыядычнага друку Злучаных Штатаў Амэрыкі. Было выстаўлена 14 беларускіх пэрыядычных выданьняў.

**Ад 9-га да 11-га красавіка** ў горадзе Квібэку адбывалася канфэрэнцыя славістаў Усходняе Канады й Паўночна Ўсходняга узьбярэжжа ЗША. На канфэрэнцыі прафэсар Ян Садоўскі з Квінсаўскага Ўнівэрсытэту (горад Кінгстан, Канада) чытаў даклад аб лірычных матывах творчасьці беларускага пісьменьніка Янкі Брыля.

**10-11 красавіка** ў Пэнсыльванскім Штатным Унівэрсытэце адбылася выстаўка беларускага народнага мастацтва, якую арганізавала Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

**11 красавіка** у Нью Ёрку адбыўся вечар, прысьвечаны памяці прафэсара Льва Акіншэвіча. Вечар быў арганізаваны супольна Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ды Навуковым Таварыствам імя Тараса Шаўчэнкі (праф. Акіншэвіч быў членам абедзвюх арганізацыяў). Даклады аб жыцьці й дзейнасьці прафэсара Акіншэвіча прачыталі д-р В. Тумаш, д-р В. Кіпель, д-р Я. Падох ды ўрывак з аповесьці праф. Акіншэвіча "Пракляты стэп" прачытала сп-ня Зора Кіпель.

**19 красавіка** ў Аддзеле Асьветы Штату Нью Джэрзі д-р Вітаўт Кіпель чытаў рэфэрат для настаўнікаў сярэдніх школаў штату Нью Джэрзі аб праблемах вывучэньня славянскіх моваў (у тым ліку й мовы беларускае) у сярэдніх школах штату.

**5-7 чэрвеня** ў Вашынгтоне адбылася выстаўка пад назовам "Друк пра Беларусь у ангельскай мове". Арганізаваў выстаўку д-р -в. Кіпель у сувязі з канфэрэнцыяй амэрыканскіх рэспубліканскіх нацыянальных клюбаў.

**10 чэрвеня** ў Нью Ёрку ў Гарадзкім Унівэрсытэце адбыўся літаратурны вечар і лекцыя прафэсара Аляксандра Баршчэўскага, загадчыка Беларускае Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту. Тэма лекцыі была "25-годзьдзе Катэдры Беларускае Лінгвістыкі й Літаратуры пры Варшаўскім Унівэрсытэце".

**28 чэрвеня** адбыўся аўтарскі вечар пісьменьніка Алеся Барскага (Баршчэўскага) на беларускім грамадзкім селішчы "Полацак" каля гораду Кліўленду.

**14 ліпеня** ў горадзе Нью Брансвіку пры Ратгэрскім Штатным Унівэрсытэце адбыўся літаратурны вечар і спатканьне суродзічаў з прафэсарам Беларускае Філялёгіі Варшаўскага Ўнівэрсытэту, беларускім паэтам Алесем Баршчэўскім (Барскім).

**20-21 ліпеня** у Вашынгтоне ў Музэі Тэхналёгіі адбылася выстаўка беларускага народнага мастацтва. Выстаўка была арганізаваная супольна Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва й Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем. Адказнымі за выстаўку былі спадарычня Алеся Кіпель, сп-ня Ніна Кіт і сп-ня Зора Кіпель.

**3-га жніўня** ў горадзе Мюнхэне адбыўся ўкраінска- беларускі вечар прысьвечаны памяці прафэсара Льва Акіншэвіча. Вечар быў арганізаваны Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва і Украінскім Навуковым Таварыствам імя Шаўчэнкі. Даклад на тэму "Уклад прафэсара Льва Акіншэвіча ў беларускую гісторыяграфію", дарыхтаваны сп-ром Паўлам Урбаном, быў зачытаны сп-няй Ларысай Урбан.

**12-13 верасьня** ў горадзе Джэрзі Сіты ў штаце Ню Джэрзі адбыўся міжнародны фэстываль народнага мастацтва й эстрады. У фэстывалі бралі ўдзел і беларусы ды была арганізаваная выстаўка беларускага народнага мастацтва й беларускага амэрыканскага друку.

**14-15 лістапада** ў горадзе Чыкага адбылася чародная гадавая выстаўка народнага ўмельства. У выстаўцы бралі ўдзел і беларусы, а арганізацыйнай працай беларускае групы кіраваў Каардынацыйны Камітэт Беларусаў гораду Чыкага.

**28-га лістапада** ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Ню Ёрку д-р Вітаўт Кіпель прачытаў рэфэрат "'Наша Ніва' й беларуская эміграцыя ў Амэрыку ў тую пару"

**В. Кіпель.**

# ЗЬМЕСТ